# Маладосць

**Штомесячны**
**літаратурна-мастацкі**
**і грамадска-палітычны**
**ілюстраваны часопіс**

**(707) КАСТРЫЧНІК, 2012**

**Выдаецца з 1953 года**

**10**

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва»**
**г. Мінск**

## У НУМАРЫ:

**WWW.MALADOST.LIM.BY**

# ЦЯПЕР З ЦЫТАТНІКАМ

***Вось што цікава. Калі парушаюцца драбязовыя правы, то чалавек гатоў грызціся за гэта і кусацца зубамі; там жа, дзе разбіваецца сама аснова, прынцып, ён пакорна згінае сваю галаву і моўчкі падстаўляе яе пад абух.***

Якуб Колас

***Жыць трэба не толькі на зямлі, але і для неба.***

Казімір Свёнтак

***Дай, Божа, каб у нас было ведаў і сэрца болей, чым гэта неабходна для ўласнай патрэбы.***

Уладзіслаў Сыракомля

***Мы ўсё пішам пра тое, як "Ганна завіхалася ля печы", — а трэба — пра надзвычай яркае, таямнічае. Каб нельга было адарвацца ўсю ноч.***

Уладзімір Караткевіч

**Чытайце нас на сайце!**

*Ганна ДУСЬ*

# МАНАЛОГ ДЛЯ ФЛЕЙТЫ



***Ганна Дусь нарадзілася 13 верасня 1993 года ў Мінску. Вучыцца ў Інстытуце журналістыкі БДУ. Захапляецца музыкай і тэатрам. Вершы друкаваліся ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» і часопісе «Кем быть?».***

* * *

Станься хаця б ветрам,
Ад якога зносіць дахі
Двухпавярховак.
Які немагчыма ўтрымаць
У далонях.
Няўлоўным
Вясновым ліўнем,
Прадчуваннем адлігі.
Станься хаця б
Чымсьці
Ці кімсьці,
Такім немагчыма родным.
Тым, ад каго не хаваюцца словы,
Тым, хто помніць яшчэ
пра Плошчу Перамогі,
таннае віно і ровары.
Тым, хто не гуляецца
У адмысловыя гульні
Тых, хто просіць
у яго больш як ноч.

**ПРАБАЧ**

Састалелі мары.
Вясна прыносіць
новыя.
Надта імпэтныя
каляровыя гмахі.
На суседнім даху
чую, як гамоняць
нейкія бадзягі.
Замаўляю гарбату,
спавядаюся ветру,
Чакаю павагі?!
НЕ!
Усё вымерана,
Вылічана
і зразумела.

З мяне будзе
толькі так
і не інакш.
У такое паскуднае эры
адна прага,
адно жаданне —
легчы спаць

…і не прачнуцца.

## ЯГО КВАТЭРА

Пах гарбаты,
Невядомых зёлак
І спакой.
Я тут не твая,
Ты не мой.
Ложка няма,
Няма коткі,
Ёсць толькі
Столь,
Гмах,
Хвілінны боль,
Калі ўдыхаеш дым,
А выдыхаеш соль.

## МАНАЛОГ ДЛЯ ФЛЕЙТЫ

Першая вольта два такты —
Басанож па мокрым асфальце.
Па Фарынгейце,
Па Цэльсію
Усе вакол закаханыя.
А ён чакае дысперсію,
А ён блукае да раніцы,
А ён не верыць,
Што спраўдзіцца.
Рысамі кплівымі ласціцца,
А ён кажа: «Сонейка лашчыцца».
А ён выпраўляецца на ровары.
А ён мілагучна маркоціцца.
Ды лаецца, гэтак жа правільна.
Не веру.
Калі ж гэта скончыцца?

## МАНІФЕСТ

Мы ўсе тут загадзя памерлыя.
Не плач, дзетачка!
Я налью табе яшчэ чарку.
Надта далікатныя,
амаль эфемерныя
гвалтаўнікі, забойцы, каты!
І гэта нармальна!
Вашая будзённасць
для мяне ж — адвечным святам.
Ён п’е каву без цукру,
такі стомлена-млосны,
Па-панску заўзяты.
І гэта нармальна!
Так пілі яе дэпутаты
забітых мандатаў!
Ванітаванні хворага розуму
ці змогуць стацца цвярозымі?
Вашыя адвечныя фракцыі,
рэзалюцыі, эмансіпацыі =
Адбіткі на мокрым шкле.
У мяне ёсць котка (нават дзве!),
і гэта нармальна!
У адвечнае слоце
Ісці па калена ў вадзе
Толькі вось праўда
Толькі вось вера
Вашая Дзе?

## САМБА

Халадэча зімовага ранку
Не вабіць, не цешыць, не хвалюе.
Ты абіраеш сабе каардынаты,
Разглядаеш мапы шэнгенскае зоны.
Электрычнае святло ад ляпмы
Вымярае ціск прасторы.
Я адлічваю рытміку,
пішу партытуры ветру.
І яшчэ не ведаю, што
Наша зімовая
Самба навобмацак
Хутка скончыцца.

*Сяргей МАЦІН*

# АПОШНІ ДЗЕНЬ ДРЭВА

***(Казка з элементамі рэчаіснасці)***



***Сяргей Мацін нарадзіўся 26 лютага 1994 года ў Мінску. У 2009 годзе скончыў сярэднюю школу № 151, а ў 2011 — ліцэй БДУ. Цяпер вучыцца на хімічным факультэце БДУ. Вершы друкаваліся ў малатыражных выданнях.***

Дрэва стаяла на ўскрайку поля. Дакладней, тое, што ад яго засталося пасля ўдару маланкі, — корч у паўтара метра. Дождж, які то сціхаў, то змяняўся на сонца, а то спрабаваў зрабіцца снегам і пераўтварыць лістапад у снежань, знішчаў надзею дрэва на хуткае кананне.

— Няўжо мне давядзецца трухлець не адзін год? — роспачна думала дрэва.

З калгаса выехаў аўтамабіль, які вёз малако ў галоўны горад гэтага раёна — Дзяржынск, альбо Койданава, каму як падабаецца. Праехаў паштальён на ровары. Прабег нейкі сабака. Дрэва самотна назірала за гэтым, усё менш і менш спадзеючыся на цуд.

Як вядома, час ад часу цуды ўсё ж здараюцца, нават у наш вельмі не падыходзячы для гэтага час. Так адбылося і цяпер.

З-за павароту з'явіўся юнак, які прыгінаўся пад цяжарам вялікага заплечніка. Па ўсяму бачылася: ён кіруецца на лецішча (халера яго ведае, навошта). Юнак падышоў да дрэва і спыніўся побач, думаючы пра штосьці сваё.

— Спалі мяне!.. — прашаптала дрэва.

Хлопец аж скалануўся ад нечаканасці.

— Хто тут?! — усклікнуў ён.

— Я гэта, вішня знявечаная маланкай. Спалі мяне!

— Ты размаўляеш?! Ніколі б не падумаў...

— Мне цяжка гэта рабіць... Спалі мяне! — у трэці раз выгукнула дрэва і змоўкла.

Хлопец яшчэ раз паглядзеў на рэшткі дрэва.

— Да хаты не так і блізка... Цяжкавата будзе, але я здолею, данясу. Трэба дапамагаць тым, каму рэальна можаш дапамагчы. Нават калі тое, што адбылося хвілінай раней, — галюцынацыя, выкліканая нейкімі хімічнымі рэчывамі ў знявечаным дрэве.

Хістаючы корч сюды-туды, юнак выцягнуў яго з зямлі. Крыху павагаўшыся, узяўся за камельчык левай рукой і пакрочыў па дарозе. Прайшоў крыху. Спыніўся. Перахапіў корч правай рукой. Пакрочыў далей. Такое чаргаванне адбывалася шмат разоў. На чарговай спробе хлопец адчуў, якімі цяжкімі зрабіліся рукі і як кожны рух адклікаецца болем ва ўсіх пальцах.

— Спыніся, адпачні, потым падкажу, што рабіць далей... — прашаптаў той жа таямнічы голас.

— Дык ты існуеш на самай справе?! — здзівіўся юнак.

— Так... А цяпер глядзі: знізу я маю выступ накшталт нагі. Перакульваючы з яго канца на пачатак, ты й дацягнеш мяне да патрэбнага месца.

Хлопец паслухмяна выканаў загад былой вішні. Сапраўды, так зрабілася і лягчэй, і зручней справіцца з карчом.

— Можаш пакінуць мяне гадзіны на паўтары тут і заняцца сваімі справамі... — у гэты раз шэпт меў больш цёплую і спакойную інтанацыю.

Юнак паслухаўся. Адчыніўшы схованку для інструментаў, ён узяў рыдлёўку. Нацягнуў на ногі боты замест кедаў, а на рукі — гумовыя пальчаткі замест скураных. Крыху падумаўшы, выцягнуў з кута нейкую ёмістасць.

Праз некаторы час хлопец вярнуўся да дрэва-карча. Павагаўшыся, зайшоў у лазню і ўзяў там сякеру.

— Не хацеў я на ноч заставацца, але калі ўжо такая справа...

Сякера лёгка рассякала драўніну на кавалкі, якія ўжо можна было скарыстаць у якасці паліва. Неба патроху цямнела, але ніводнага агеньчыка не бачылася ў наваколлі — які дурань паедзе сюды перад самым пачаткам зімы?

— Дзякуй... — ледзь чутна прашаптала дрэва. — Большы кавалак спаліш у каміне, а найцвярдзейшы — у печцы. Першы — маё сэрца, другі — камень, які ляжаў на ім усё жыццё.

— Так і зраблю, — адказаў юнак.

Хлопец занёс дровы ў хату і выйшаў на двор, каб схаваць сякеру і зачыніць лазню.

Калі юнак упэўніўся, што ўсё ў парадку, ён развярнуўся спінай да лазні і паглядзеў на наваколле. Цёмная прастора і лёгкія сняжынкі, што пачыналі ўжо няспынна хаваць пад сабою ўсё жывое і мёртвае.

— Надыходзіць зіма... — прамовіў юнак, звяртаючыся немаведама да каго. — Чарговы год падыходзіць да лагічнага завяршэння. Заўтра раніцай з’еду адсюль, і вецер замяце мае сляды. Потым — вясна, калі сонца пачне каціцца ўгару, да росквіту, лета — трохмесячны прыпынак, новая восень... Што б ні адбывалася ў людскім асяродку: у эканоміцы, палітыцы, культуры, — нязменнае кола прыроды працягне свой бясконцы шлях. Нават вайна не спыніць гэтае кола. І так будзе заўсёды — прынамсі, калі вымяраць навакольныя падзеі чалавечымі, а не касмічнымі маштабамі.

Скончыўшы імправізаваную прамову, юнак зайшоў у хату і пачаў распальваць агонь. Дзесьці праз пару гадзін ад дрэва засталіся толькі дзве ўзгаданыя вышэй часткі. Тэмпература ў пакоі з пяці градусаў паднялася да сямнаццаці — цалкам прыстойная тэмпература. На пліце закіпеў імбрык, які хлопец тут жа паставіў на стол.

— А цяпер — спалі маю астатнюю частку!.. — прагучаў ледзь улоўны шэпт.

— Хто ж ты ўрэшце? — у чарговы раз запытаўся хлопец.

— Хутка даведаешся. Палі!

Юнак рашуча адчыніў дзверцы грубкі і закінуў туды драўляны камель. Зачыніўшы дзверцы, асцярожна ўзяў у рукі найбольшы кавалак вішні — сэрца невядомай істоты — і паклаў яго ў камін, дзе яшчэ заставаліся маленькія вугельчыкі.

Некалькі імгненняў нічога не адбывалася. Нечакана ўспыхнула полымя, не чырвонае, як зазвычай, а памаранчава-сіняе. У паветры запахла вішняй.

Раптам нешта выбухнула ў каміне, і юнак міжволі падумаў, што не трэба было калісьці хаваць там берталетаву соль. Але аднекуль прыйшло разуменне: толькі што адбыўся не хімічны, а магічны працэс.

З іскарак памаранчава-сіняга агню ўзнікла дзяўчына гадоў дваццаці, быццам сатканая са святла. Валасы ў яе былі чарнавата-рудымі, а вочы — цёмна-карычневымі з залатымі водблескамі. Вытанчаны твар нагадваў штосьці ўсходняе.

— Я — Сакура. Дзякуй табе за тое, што даў мне магчымасць увасобіцца.

— Адкуль ты з'явілася тут, у гэтым далёкім кутку Дзяржыншчыны?! — толькі і здолеў вымавіць юнак.

— У мінулым жыцці я была даволі папулярнай спявачкай. Гледачы пачыналі авацыі, ледзь пабачыўшы мяне. Маладыя людзі, студэнты трызнілі мною ў салодкіх снах, ды і больш сталыя мужчыны марылі пра мае вішнёвыя вусны ўпотайкі ад жонак. Уласная прыгажосць і давяла мяне да бяды...

— І што ж здарылася, Сакура?

— Мяне скраў кіраўнік мясцовай групоўкі якудза — стары вычварэнец, нашмат старэйшы за мяне. Не буду пералічваць загадаў, якія я прымусова выконвала, але адзін з іх настолькі абразіў мяне, што я засілілася шнуром ад тэлевізара. Толькі б больш ніколі не бачыць пыхлівага твару гвалтаўніка з разуменнем уласнай усемагутнасці. Я памерла...

— Калі табе не цяжка, Сакура, калі ласка, распавядзі пра той свет!

— Не магу. Калі я раскрыю нейкую таямніцу, то я не ўвасоблюся больш ніколі. Такі ўжо закон Сусвету.

— Хоць крышачку распавядзі, Сакура! — пачаў прасіць хлопец. — Інакш я ўсё жыццё буду пакутаваць ад думкі, што не здолеў дазнацца пра тагасвецце ад сведкі...

— Той, хто размяркоўвае душы, сказаў мне: «Ты памерла ў дваццаць год, хаця лёсам табе было наканавана радаваць людзей уласным талентам шчэ столькі ж часу. Тваё пакаранне — жыццё, якое ты не захочаш доўжыць, але прыйдзецца. Жыццё вішні — еўрапейскай сакуры. Як бачыш, я маю пачуццё гумару...»

Сакура горка ўздыхнула.

— На тым месцы, дзе ты знайшоў мяне, я прарасла роўна дваццаць год таму. Навакольныя дрэвы за некалькі гадоў навучылі мяне разумець жывую гаворку, таму я жыла больш-менш асэнсавана. А потым — маланка, маё пакаранне... Хлопец, што з табой?

Ён бязгучна плакаў.

— Дарэчы, як цябе зваць?

— Павел... — ціха адказаў той. — Я звычайны студэнт.

— Помні, Павел, — усклікнула Сакура, — табе наканавана сустрэцца са мною яшчэ раз!

— І... мы пакахаем адно аднаго? — з надзеяй у голасе прашаптаў Павел.

— Дурань! — раздражнёна выгукнула Сакура. — Як ты не разумееш, што каханне — гэта зусім не тое, калі ты прыдумляеш сабе прынцэсу і чакаеш ад яе ўзаемнасці. Каханне — гэта звычайная дзяўчына, з якой ты шчаслівы без усялякіх слоў. Нават адзін ейны пяшчотны і шчыры дотык варты для цябе цэлай паэмы!

— Праўда?

— Навошта ж мне хлусіць цяпер, Павел, перад пераўвасабленнем? А што тычыцца нашай сустрэчы — то ўсё яшчэ наперадзе.

Ізноў штосьці выбухнула. Павел інстынктыўна засланіўся рукою. Святло знікла, і толькі вішнёвы пах нагадваў пра тое, што адбылося раней. Набліжалася світанне.

— Трэба прайсці свой шлях... — паўтарыў Павел словы Сакуры. — Я не ведаю, што яшчэ мяне на ім чакае, але адно ўсвядоміў дакладна: хаця б дзеля гэтай таямнічай дзяўчыны трэба жыць як належыць, як патрабуе сумленне…

Павел паглядзеў у акно. Пачынаўся новы дзень. Першы для пераўвасобленай Сакуры і пераасэнсаваны — для ўзрушанага Паўла. А ўрэшце — светлы для абаіх.

*Віктар ЛУПАСІН*

# ГАЛАСЫ ПРОДКАЎ



***Віктар Лупасін нарадзіўся 4 мая 1982 года ў Мінску. Скончыў філфак БДУ. Паэт-эксперыментатар. Пісаць па-беларуску пачаў у 1998 годзе, першы твор — паэма «Ninja 2». Выдаў кнігу «Асарці» (2009), і «Жэсць і свінінка» (2010) — самвыдатам. Напісаў паэму «Купала, Колас і Лупасін».***

## ПРЫСВЯЧЭННЕ

«Вершаваная вікіпедыя, вершаваная вікіпедыя, —
вы прымружыцеся пагардліва ў тэатральны ларнет. —
Не паэзія, а камедыя, не паэзія, а камедыя:
Між мянтузамі і мяншынямі у яго менуэт».

Не для вас, паны выкшталцоныя,
я пішу тэнцоны з канцонамі
І санеты свае з верлібрамі я пішу не для вас,
А для нігераў з насарогамі,
што трушчобамі ды бярлогамі
Загароджаны ад паэзіяў вашых кволенькіх рас.

## НАДПІС

Я сам сабе нерукатворны помнік,
Я цар прыроды, я другое сонца,
Я сам сабе і мармур, і граніт,

Я дзіва свету у зіхоткіх промнях,
Я уладар усёй зямлі бясконцай,
Я цар цароў — магутны Трылабіт!

## МАХАЙРОД

Махайрод махае ротам,
Мяса рэжа пасярод.
Рухі лапаў быццам ротар,
Сам нібы барвовы рот,
Крыважэрны махайрод.

Сёння ўгору, сёння ўдолу
Папабегаў ён, як хорт.
То закон усіх жывёлаў:
Калі быў слабы і кволы,
Будзеш смачны, быццам торт.

Вус абліжа, памарудзіць,
Замуркоча пад ракой.
Рэшту кіне ваўкам, людзям,
Каб не смелі запаскудзіць
Адпачынак і спакой.

**СЯБРЫ**

Па плошчы ідзе чалавек.
Насустрач — аўстралапітэк.

— Як маешся, брат чалавек?
— Звычайна, аўстралапітэк.
— Чым зоймемся, брат чалавек?
— Як хочаш, аўстралапітэк.
— Дайграешся, брат чалавек!
— Як зробіш, аўстралапітэк.

— Не моцна я, брат чалавек?
— Як знаеш, аўстралапітэк.

**ПЕРАД ПАЧАТКАМ**

Зямля была пад чорным небам.
Ніхто на ёй не жыў.
Сонца было маленькае.
Месяц ледзь не ўпаў на зямлю.
А потым зямля правалілася ў магму,
Магма застыла,
І пачалася гісторыя.

**800 000 000 ГОД ДА Н. Э.**

Зямля пад лёдам. Па-над лёдам неба.
Ад полюсу да полюсу зіма.
На ўсёй прасторы ні вады, ні хлеба
Няма — мільён гадоў вады няма.
Вялікі Месяц і малое Сонца
Не грэюць снегу белага. Зіма.
Зіма, якая цягнецца бясконца,
І іншага нічога тут няма.

Усё ў мінулым: і гэтэратрофы,
Што склалі маладой Зямлі планктон,
І вулканічных жахаў катастрофы
У тысячы магутных гігатон;
Усё у будучыні: трылабіты,
Якіх дагэтуль не было нідзе,
І дыназаўры, і метэарыты,
І ўсё, што ё цяпер сярод людзей.

**МАРШ**
**МІЯЦЭНАВЫХ СЛАНОЎ**

Трубі
    Труба!
Трубі
    Труба!
Трубі
    Труба
        Даўгая!

Скачы
    Скакуй
Скачы
    Скакуй
Адсюль
    Да небакраю!

Лясы
    Пяюць,
Лугі
    Пяюць
І песнямі
    Палаюць:

Сланы
    Цяпер
Усе
    Цяпер
На носе
    Трубы
        Маюць!

І вось
    І я
І вось
    І я
Сваю
    Трубу
Уздзену

І пра-
Трублю,
І пра-
Трублю
Эпоху
Міяцэну!

## СТАРАЯ ПЕСНЯ

Як на Лысай гары
Трое мамантаў,
А на Белай гары
Двое мамантаў,
А на Мохаўскай гары —
Пяцёра мамантаў!
Пяцёра мамантаў
Ды з маманціхамі,
А маманціхі ўсе
З маманцяняткамі,
Маманцяняткі з блошкамі.

А на Лысай гары
Забілі мамантаў,
А на Белай гары
Забілі мамантаў,
А на Мохаўскай гары
Забілі мамантаў.
Забілі мамантаў
Ды з маманціхамі,
А маманціхі ўсе
З маманцяняткамі,
Маманцяняткі з блошкамі.

## НАСТАЛЬГІЯ

Нашае пакаленне
Іншае ўсё ж было.
Мора снягоў па калена
Годна яно прайшло.

Як нам было ўсё проста,
Простага нават прасцей!
Моцным было сяброўства,
Вербы раслі гусцей.

Ну а якія красуні
Шпацыравалі паўсюль!
Вам у цяперашнім суме
Гэткіх не ўзяць ніадкуль.

Гэх! не паўторыцца заўтра
Снег прамінулай зімы.
Хутка, нібы дыназаўры,
Знікнем з планеты і мы.

## ТРЫЯЛЕТ

Ён мамант, яна — мастадонтка,
Страйнюткая, быццам таполя.
Кувае зязюленька тонка.
Ён мамант, яна — мастадонтка.
Ён толькі сябровец, не болей.
Сяброўка яна, а не жонка.
Ён мамант, яна — мастадонтка,
Страйнюткая, быццам таполя.

## ДВУХРАДКОЎЕ

Я — краманьёнец.
А ты — неандэрталец.

## ЛЯ ВОГНІШЧА

Даўней было цяплей,
Сланы хадзілі лысыя,
І веяў ветравей,
І песенькі ліліся.

Тады яшчэ зямля
Не знала пітэкантрапаў —
І люд лясны гуляў,
І вецер лесу кант трапаў.

Тады ляцелі дні
Ды доўгімі нядзелямі,
Тады паміж радні
Ля печы не нудзелі мы.

І сто вякоў так жыў
Наш люд паміж арэлямі,
Ды вецер закружыў
Зімовымі завеямі.

Ды вецер так абняў,
Што запалілі полымя,
І сівер распачаў
Эпоху ледніковую.

А нас не задушыць,
Хоць вымерзлі атраманты,
А мы працягнем жыць,
Хоць не сланы, а маманты!

А мы будзем — пісаць
Рандэлі выкшталцоныя!
А мы будзем — спяваць!
Сланіхам! Барытонамі!

Пакуль наша зямля
Углыб не правалілася,
Пакуль сланы страляць
Сланоў не навучыліся,

Пакуль вярбы паўсюль
Аб'ёмы дастатковыя —
Мы вытрываем ўсю
Эпоху ледніковую!

**АБ ЧЫМ ПЯЕ МЕРЫТЭРЫЙ**

Дайце мне хоць хто-небудзь
Хобат!
Каб патрапляў у неба
Хобат!
Каб вытыркаў між біўняў
Хобат!
Каб увесь час трубіў мне
Хобат!
Дапамагаў абедаць
Хобат!
І ратаваў ад бедаў
Хобат!
Дайце мне хоць хто-небудзь
Хобат!
Ці хоць маім нашчадкам
Хобат!

*Уладзімір МАЖЫЛОЎСКІ*

# ПРАКЛЁН МІТРАПАЛІТА ФЕАФІЛА

***Аповесць***

***Прадасць жа брат брата на смерць,
і бацька дзяцей, і паўстануць дзеці на бацькоў,
і ўсмерцяць іх.***



**Уладзімір Мажылоўскі нарадзіўся 7 лютага 1958 года ў вёсцы Станіслава Дубровенскага раёна. Скончыў фізіка-матэматычны факультэт Віцебскага педагагічнага ўніверсітэта. Працаваў дырэктарам Барунскай васьмігадовай школы. Цяпер — у Браслаўскім тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. Друкаваўся ў раённай газеце «Браслаўская Звязда».**

## Частка I

## СОН ДАЎЖЫНЁЙ У ЖЫЦЦЁ

### 1

Юны ваяр гнаў каня без жалю і літасці. Тугі татарскі бізун са свістам рассякаў марознае паветра і пакідаў чарговую цёмную стужку на пакрытым інеем баку жывёліны. Конь хрыпеў, пырскаў густой пенай на прыдарожны снег і з апошніх сіл імчаў лёгкі вазок у бок Вільні. А юнак лютаваў. Гледзячы ў яго малады, яшчэ бязвусы твар цяжка было паверыць, што ён мае сэрца, а калі і мае, то яно ў хлопца ледзяное ці каменнае. Вочы яго ззялі халоднай напружанасцю і нагадвалі невялічкія кавалкі лёду. Збялелыя вусны былі рашуча сціснуты. Пакрытыя інеем доўгія светлыя валасы выбіліся з-пад невялікай футравай шапкі і срэбранымі пасмамі свабодна матляліся ў сцюдзёным паветры. І толькі гарачае дыханне ды адчай, які зрэдку вырываўся стогнам, паказвалі, што ратнік — жывы чалавек, а не бесцялесная здань, што не лютасць гоніць яго па ранішняй, прамерзлай дарозе, а гора. Гора, якое густым туманам ахутала ягоны розум, выстудзіла да пустаты вочы і скавала сэрца. Яму б выплакацца ў адзіноце, ад болю і адчаю сцерці да карэння зубы, аднак справа і абавязак воіна выправілі яго ў далёкі шлях, і цяпер, не шкадуючы ні сябе, ні каня, ён ляцеў у надыходзячы дзень.

Сонца хутка падымалася з-за небасхілу. У яго промнях снег зіхацеў і пераліваўся дыяментамі.

Вузкая, добра накатаная дарога то віхляла сярод пакрытых снегавой коўдрай палёў, то вырывалася на рачную роўнядзь, то хавалася пад густымі шатамі векавых сосен. Многа дзіўнага і незразумелага пабачыла яна за сцюдзёную зіму 1513 года, але такую шалёную скачку бачыла ўпершыню. За вазком імчала некалькі коннікаў,

якія на доўгіх вяроўках трымалі за сабой запрэжаных свабодных коней. Гэты невялікі атрад на поўным скаку пралятаў праз паселішчы і калі зрэдку спыняўся ў якім з іх, то толькі дзеля таго, каб гарачай стравай падсілкавацца людзям. Коней не шкадавалі і ўжо не адна жывёліна засталася канаць на ледзяной дарозе.

Глыбокай ноччу дваццаць чацвёртага студзеня, калі месяц ужо ўзабраўся на небасхіл, у крапасныя вароты віленскага замка гучна забарабанілі. Пасля непрацяглай лаянкі злосна рыпнулі вузкія дзверы, і стомлены юнак, няцвёрда ступаючы на слізкія, чыста вымеценыя пліты пляцу, у суправаджэнні трох ратнікаў накіраваўся да палаца віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла.

Навокал панавала цішыня і крокі людзей па выстудзеных плітах гучалі ў ёй сухімі пішчальнымі стрэламі.

Палац віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла, як і ўсё наваколле, быў пагружаны ў сон. Толькі ля ўвахода пырскалі іскрамі паходні, кідалі няроўныя, мітуслівыя цені на сцены мураванай будыніны. Побач з паходнямі тапталіся змерзлыя ў костку вартавыя. Зноў здзіўленыя ратнікі сустрэлі ганца, зноў словы незадаволенасці і лаянкі загучалі ў марозным паветры. І ўсё ж настойлівасць маладзёна перамагла непаразуменне варты, і яго ўрэшце ўпусцілі ў палац. Там, збялелы і абмарожаны, ледзь варочаючы языком, ён сказаў усяго толькі тры словы. Тры словы, якія балючай стрэмкай захраслі ў яго галаве, якія ўжо чатыры дні і тры ночы разрывалі яе на часткі, і, выказаўшы якія, ён, поўнасцю спустошаны ды выпалены стомай, кулём абрынуўся на падлогу. Вартавыя падхапілі юнака, асцярожна паклалі на лаву, нейкі час нерашуча патапталіся побач і, убачыўшы, што да іх нікому няма справы, павярнуліся і накіраваліся да дзвярэй.

Сонны палац раптоўна ажыў. Паўсюдна пачалася беганіна, успыхнулі паходні, замільгацелі свечкі, зазвінелі шпоры, загучалі каманды. Не зважаючы на ноч, з яго чэрава пачалі выбягаць ратнікі. Адны з іх запрагалі коней і галопам імчалі ў калючы мароз, другія, блытаючыся ў доўгіх крысах кажухоў, паспешліва беглі ў горад.

А ганец, які прыбыў з далёкага памежнага Браслава, неспакойна круціўся на лаўцы, стагнаў і, праз трывожныя абрыўкі прывідаў і жахаў, усё шаптаў: «Памерла княжна Алена!»

Ужо над далёкай Масковіяй пачало чырванець неба, ужо віленскі ваявода князь Радзівіл адпісаў каралю і заканчваў ліст ад імя паноў-рады* Кіеўскаму мітрапаліту Іосіфу, ужо вестка пра раптоўную смерць княжны абляцела палову Літвы, а юнак усё трызніў.

Тры такія простыя і звычайныя словы, якія падвялі рысу пад жыццём чалавека, якія многім памножылі гора, прымусілі задумацца пра вечнае і з непакоем азірнуцца назад. Гэтыя словы, што ў сонным трызненні шаптаў юнак, спачатку ўзрушылі Браслаўшчыну, а праз чатыры дні — Вільню, праз тыдзень — усю Літву. Адны, пачуўшы іх, мацней сціскалі скіўіцы і выцiралі слёзы, іншыя — абыякава пацiскалі плячыма: «Усе там будзем!» Але былі і такія, што нават не хавалі свайго задавальнення, радасна ўсміхаліся — разлічвалі пажывіцца за кошт памерлай.

Адзін каралеўскі канцлер, віленскі ваявода Мікалай Радзівіл яшчэ не вызначыўся, што для яго асабіста азначае смерць былой каралевы. Уласная кар'ера ўжо даўно перастала хваляваць сэрца гэтага саракапяцігадовага вяльможы. Яго больш турбаваў лёс дзяржавы, і таму, выправіўшы з пакоя слуг і сакратара, ён уласнаручна адпісаў ліст каралю і засяроджана думаў над пасланнем Кіеўскаму мітрапаліту Іосіфу II Солтану. Ён выдатна разумеў, што хутка кожнае слова з яго лістоў будзе разбірацца па завітках, што кожны пачне шукаць у іх нейкі схаваны сэнс, а таму не

спяшаўся, стараўся пісаць проста, без усялякіх красамоўных вывіхаў, адхіленняў ды іншасказанняў.

«Вялебнаму ў Бозе айцу Іосіфу мітрапаліту Кіеўскаму і ўсяе Русі, ад Мікалая Мікалаевіча, ваяводы Віленскага, канцлера гаспадара караля яго міласці Жыгімонта і ад Станіслава Пятровіча, маршалка земскага, старосты гарадзенскага, паклон і прыязнь. Аб здароўі тваёй міласці мы вельмі рады заўсёды чуць. Паведаем тваёй міласці, што па волі мілага Бога, ранейшай гаспадарыні нашай, каралеўскай яе міласці ў жывот не стала. Бог душу яе з гэтага свету ўзяў, засмуціўшы ўсіх нас, падданых гаспадарскіх, але ж тое сталася па волі мілага Бога: на што яго святое міласці воля будзе, тое ніхто адняць не можа. І ўжо цела яе міласці гэтым часам праводзяць з Браслава да Вільні; павінна быць прывезена да Вільні гэтым жа тыднем у сераду або ў чацвер. А таму б ты, твая міласць, не марудзячы, паспяшаўся б да Вільні, да сустрэчы і пахавання цела яе міласці, а мы скажам і яшчэ дзень затрымацца дзе на дарозе з целам яе міласці для таго, каб твая міласць паспеў да сустрэчы цела яе міласці: бо то ёсць справа вашай міласці духоўная. А як дасць Бог, твая міласць тут будзе, і мы з вашай міласцю абмяркуем, дзе і якім звычаем тое цела яе міласці павінна быць пакладзена.

Пісаны ў Вільні. Студзеня ў 25 дзень».

«Здаецца, усё!» — князь адклаў пяро і выцер узмакрэлы лоб.

Страсянуўшы з ліста пясок і паставіўшы сваю пячатку, ён упершыню за доўгую, бяссонную ноч задумаўся пра тое, што закончылася яшчэ адно непрацяглае і няшчаснае жыццё. «Гэта ж колькі табе гадоў, княжна? — Радзівіл зморшчыўся ва ўспамінах. — Усяго толькі трыццаць сем! Магла б яшчэ жыць ды жыць!... Але не мы выбіраем свой лёс, не мы выбіраем свой крыж і шлях, па якому будзем яго несці, і гэта справядліва!» Князь цяжка ўздыхнуў, паклікаў свайго канцлера і распарадзіўся, каб той асабіста адправіў лепшых ганцоў у Кракаў да караля і ў Кіеў да мітрапаліта. «А брату майму, кіеўскаму ваяводзе пану Юрыю, я адпішу пазней», — адказаў ён на запытальны позірк канцлера і кіўком сівой галавы дазволіў таму пакінуць пакой. Сам жа, занепакоены, са смуткам у вачах, стомлена апусціўся ў крэсла і ўтаропіўся на полымя каміна. Ён глядзеў на вясёлы вогненны танец і раз-поразам вяртаўся да ўспамінаў пра Алену...

Яму тады было дваццаць пяць гадоў — самы росквіт, самая шчаслівая пара для маладога мужчыны. Яшчэ не абцяжараны сям'ёй, дзяржаўнымі справамі і турботамі, ён з ліхасцю, часта незразумелай для яго бацькі, ваяводы віленскага Радзівіла Старога, разам з сябрамі Канстанцінам Астрожскім, Мікалаем Пацавічам, Сямёнам Чартарыйскім, Аляксандрам Хадкевічам пад камандай удалага каронnага гетмана пана Камянецкага насіўся на сваім плямістым дрыкганце* па бяскрайніх прасторах Літвы. Секся з татарамі і маскавітамі. Пазней не шкадаваў і сваіх, калі пакрыўджаны Міхайла Глінскі разам з братамі Васілём Сляпым і Івашкам Мамаем узняў рокаш* супраць Жыгімонта. Хапала ўсяго. Былі слаўныя імгненні, пра якія так хораша расказваць дзецям і ўнукам, якія і цяпер прымушалі трымцець у асалодзе немаладое сэрца. Але было і такое, пра што не хацелася ўспамінаць, пра што ён імкнуўся забыць і за што яму было сорамна нават па сканчэнні стольніх гадоў жыцця.

Князь зручней уладкаваўся ў шырокім крэсле, прыплюшчыў вочы. Трывогі мінулай ночы і мяккая цяплыня каміна ахуталі ваяводу сонным туманам, і ён, схіліўшы галаву на грудзі, салодка засоп.

З самага дна памяці ўсплыў хваравіты твар былога вялікага князя-нябожчыка Аляксандра. «Не дагледзеў ты за Аленай, пан Мікалай! Не дагледзеў! — прашаптаў той з дакорам. — Забыўся пра маю просьбу. Забыўся, як я прасіў цябе з князем

Міхайлам прыглядаць за жонкай, дапамагаць, берагчы яе!» «Ды нічога я не забыўся, твая міласць! — выгукнуў у роспачы сваё апраўданне Радзівіл. — Тры тыдні таму, праездам у Полацк, я наведваў яе ў Браславе, і ўсё там было спакойна». «А ты ўспомні апошнія гады яе жыцця, прыгледзься да яе акружэння, падумай, дзе не дагледзеў і каму выгадна яе смерць, правядзі дазнанне... Толькі не марудзь, князь. Заклінаю цябе — не марудзь!» «Добра, гаспадар! — Радзівіл паспрабаваў падняцца, аднак бяссонная ноч цяжкай свінцовай коўдрай уціснула яго нямоглае цела ў крэсла. — Вось крыху адпачну і асабіста правяду дазнанне».

А засмучаны твар Аляксандра ўжо знікаў, расплываўся ў прасторы пакоя, і ваявода, так і не ўбачыўшы яго апошняга выразу, поўнасцю аддаўся на волю сну.

## 2

Вільня, як і ўся дзяржава, віравала ў чаканні новай вялікай княжны. Дзіўным і незвычайным было ўсё: і шлюб каталіка з праваслаўнай, і тое, што нявеста была дачкой ворага ліцвінаў — маскоўскага князя Івана, і тое, што літоўскі князь Аляксандр урэшце вырашыў ажаніцца.

Сталіца Літвы была горадам пераважна традыцыйнай русінскай культуры, і калі цёплай, але шматснежнай зімой 1495 года да яе сцен наблізіўся велізарны абоз нявесты, на яго абрынуўся гул званоў чатырнаццаці праваслаўных храмаў. Такога меладычнага перазвону маскоўская князёўна не чула нават у Маскве. Не меншае яе ўзрушэнне выклікалі і тысячы святочна апранутых людзей, бо амаль усе гараджане высыпалі за ўмацаваныя сцены, расквеціўшы белае наваколле сваімі рознакаляровымі кунтушамі, футрамі, сярмягамі і кажухамі. Праваслаўныя радасна віталі сваю будучую княгіню. З ёй яны звязвалі заканчэнне бясконцых войнаў на ўсходніх межах дзяржавы, чакалі спакойнага жыцця, аднаўлення добрасуседскіх сувязей і гандлю. А многія проста цешылі сваё самалюбства: «Урэшце ў нас будзе свая праваслаўная гаспадарыня!»

Усе з напружаннем назіралі, як па чырвонаму палатну, пасцеленаму пасярод дарогі, ішлі насустрач Аляксандр і Алена. Чакалі нечага незвычайнага, цудоўнага, казачнага. Але атрымалася ўсё звыкла і проста: князь і князёўна сустрэліся, крыху пра штосьці пагутарылі і разышліся, Аляксандр — да свайго каня, Алена — да свайго вазка.

Мікалай Радзівіл быў у свіце Аляксандра, аднак змог зблізку ўбачыць Алену толькі ў княжацкім палацы. Убачыў і адразу ж закахаўся. За свае дваццаць пяць гадоў ён пабачыў не адну высакародную панну, з большасцю з іх і пазнаёміўся. Але тут было зусім іншае. Непадалёк на мяккім дыване стаяла захутаная ў футры дзяўчына і з непрыхаваным захапленнем азірала нябачаную раней раскошу: мармуровыя лесвіцы, пазалоту на столі і сценах, велізарныя карціны, кандэлябры з каляровымі, пахучымі свечкамі — усё здавалася ёй незвычайным, зусім не такім, як дома ў бацькі. І не адзін Радзівіл любаваўся нявестай вялікага князя. Князь Астрожкі, які стаяў ля Мікалая, таксама спагадліва ўсміхаўся куткамі вуснаў. Гэткія ж усмешкі былі і на тварах з акружэння Аляксандра. Ды і сам вялікі князь нейкі час з замілаваннем сачыў за разгубленасцю сваёй будучай жонкі, але хутка спахапіўся, пажадаў ёй добрага адпачынку і першым накіраваўся да выхада.

Другі раз малады Радзівіл убачыў Алену ў царкве Прачыстай Багародзіцы, куды яго разам з Канстанцінам Астрожскім і дзясяткам іншых праваслаўных шляхціцаў накіраваў Аляксандр. «Паўсюдна выстаўце варту, — не загадваў, а пра-

сіў жаніх, — і глядзіце, каб дарогу маёй нявесце не перабег ні чалавек, ні звер. Нават птушкі няхай сягоння аблятаюць шлях, па якім Алена пойдзе ў царкву, а з яе — у касцёл».

Службы Мікалай не памятаў. Ён назіраў за князёўнай, шаптаў нейкія малітвы, жагнаўся, разам з усімі паблажліва смяяўся са старэнькага архімандрыта Макарыя, які, ці то ад хвалявання, ці то ад старасці, забыў словы царкоўнага павучання маладым. А магчыма, проста разгубіўся, бо за сваё доўгае жыццё ўпершыню праводзіў абрад вянчання без жаніха!

Па заканчэнні абраду Радзівіл азірнуўся на пана Канстанціна — вочы таго ззялі шчаслівым бляскам. Паглядзеў ён на братоў Глінскіх, на Алексу Хадкевіча ды Марціна Храптовіча, на іншых — на ўсіх тварах свяціліся захапленне і зачараванне. І Мікалай зразумеў, што Алена, яшчэ не стаўшы вялікай княжнай, ужо цалкам авалодала сэрцамі большасці сваіх падданых, што не адзін ён закахаўся ў гэтую невялічкую, крохкую дзяўчыну, што і іншыя гатовы ахвяраваць сваімі жыццямі дзеля яе шчасця.

Пасля царквы служба ў кафедральным касцёле святога Станіслава падалася звычайным прадстаўленнем. Прыгожа і велічна спяваў дзіцячы хор, віленскі біскуп Войцэх Табар з кволай усмешкай радасці на сухім твары вёў абрад вянчання на лаціне. Духоўнік Алены Фама шаптаў дзяўчыне гэткія ж настаўленні на старабалгарскай мове. Вялікі князь з любоўю глядзеў на сваю нявесту, а шляхта, не слухаючы біскупа, сачыла за маладымі. Такая непавага да яго асобы вельмі злавала Табара і ён некалькі разоў павышаў голас, імкнучыся прыцягнуць увагу Аляксандра і яго світы.

— ...Так павінны мужы любіць сваіх жонак, як сваё цела: хто любіць сваю жонку, той любіць самога сябе. Бо ніхто ніколі не меў нянавісці да сваёй плоці, — на лаціне працытаваў словы апостала Паўла біскуп, і пакрыўджана засоп, бо нават на такое ўзнёслае павучанне вялікі князь ніякім чынам не адрэагаваў.

Адзін Васіль Глінскі згодна ківаў у такт словам Табара, але і ў яго вачах пералівалася і ззяла шалёная весялосць.

«Што ты, схізмат, ківаеш галавой? Думаеш абхітрыць мяне? Думаеш — я не бачу тваёй няшчырасці, не разумею, што ты з нецярпеннем чакаеш заканчэння абраду, каб хутчэй засалодзіць сваю плоць віном ды бессаромнымі скокамі з паненкамі?» — сярдзітыя думкі роем насіліся ў галаве біскупа, і ён яшчэ больш блытаўся ў словах. Але і тут святар памыляўся, бо не адзін Глінскі, а ўсе прысутныя з нецярпеннем чакалі заканчэння службы. Гэтае жаданне было настолькі моцным, што Табар неяк міжволі апусціў частку пропаведзі і проста, бы бацька ў свайго сына, запытаўся:

— Вялікі князь Аляксандр, ці жадаеш ты ўзяць у жонкі князёўну Алену?

— Вельмі жадаю.

Вочы Табара ўспыхнулі святлом чалавечай спагады і ўжо, пытаючыся пра тое ж у Алены і слухаючы яе адказ, ён не спрабаваў паказаць прысутным, хто сёння галоўны ў гэтым храме. Біскуп зразумеў, што дзень пятнаццатага лютага — гэта дзень закаханых, што ён належыць толькі Аляксандру і Алене, а біскуп можа быць толькі госцем на іх свяце, а ніяк не галоўным героем. А таму яго словы: «Пацалуйцеся, дзеці мае», — прагучалі па-чалавечы шчыра і замілавана.

Вясельныя ўрачыстасці працягваліся больш як два тыдні, аж да Вялікага посту.

Прыгожая і абаяльная, разважлівая і разумная, простая і непыхлівая Алена прыйшлася даспадобы не толькі вялікаму князю. Яе палюбілі ўсе прыдворныя. За яе здароўе маліліся паспалітыя і ў віленскіх храмах, і ў сельскіх цэрквах. Аляксандр часам нават баяўся такой усеагульнай любові да сваёй жонкі і неаднойчы папярэджваў яе пра асцярожнасць.

— Ну што ты, любы! — са смехам цалавала Алена мужа. — Ці ж знойдзецца сярод нашых падданых такі злодзей, што падыме руку на слабую, безабаронную жанчыну?

— Дурняў хапае ўсюды, — не здаваўся князь і, ап'янелы ад яе пацалункаў, дадаваў: — Будзь, Гэля, асцярожней.

З першых жа дзён Алена пачала вучыць ліцвінскую мову, браць урокі музыкі і спеваў. Гэта нікога не здзіўляла, бо ўсе ведалі, што яе маці Соф'я Палеолаг, апошняя прадстаўніца знакамітага роду візантыйскіх імператараў, выхоўвалася пры папскім двары ў Ватыкане і прывіла асновы еўрапейскага выхавання сваёй дачцэ. Таму, каб дапамагаць жонцы ў яе памкненнях, Аляксандр прапанаваў уключыць у яе світу і некаторых ліцвінаў.

— Ян Сапега будзе для цябе не толькі добрым сакратаром і канцлерам, але і памочнікам, дарадцам. Ён шмат ведае, многае пабачыў на гэтым свеце, ён разумны і асцярожны пан. Тым больш што ён русін і праваслаўны.

Княжна не адмаўлялася і толькі прасіла, каб яе слугі мелі грэчаскую веру.

Саракапяцігадовы Сапега быў і сапраўды добрым памочнікам Алене. Ён выдатна ведаў законы і звычаі двара, бо яшчэ ў караля Казіміра* служыў пісарам гаспадарскім. Ён шмат пабачыў, бо неаднойчы ездзіў з каралеўскімі даручэннямі ў Бахчысарай, Маскву, Вену. Не зважаючы на свой узрост, канцлер быў даволі жвавым і рухавым чалавекам, разумеў добры жарт і сам любіў пажартаваць, асабліва ў добрай кампаніі сяброў. А з Радзівіламі ён сябраваў даўно. Таму пра жыццё Алены Мікалай даведваўся ад яе канцлера.

— Разумная яна жанчына, разважлівая, — які раз даводзіў Сапега Радзівілу, — аднак ніяк не хоча разлучыцца са сваёй аховай, ніяк не хоча вярнуць яе назад, у Маскву. Плача і ўсё адкладвае «на потым». А хутка ж вясна, разліюцца рэкі, дарогі стануць непраходнымі.

— Ды тым больш князь Сямён Рапалоўскі бунтуе. Яму не хочацца пакідаць Літву, бо, кажуць, зусім спіўся небарака за апошнія тыдні.

— Калі б толькі ён адзін! — Сапега з сумам зірнуў на срэбны кубак. — Усё іх двухтысячнае войска спілося. А ты ж сам добра ведаеш, якім бывае маскавіт, калі вып'е... А колькі правіянту на іх ідзе — жах! Ядуць, бы не ў сябе!

— За якія ж грошы яны п'юць?

— Прадаюць тое, што мы ім выдзяляем, і сваё прадаюць: коней, вупраж, адзенне. Князь Канстанцін, да чаго вытрыманы чалавек, але і той паскардзіўся вялікаму князю на неўтаймаванасць п'яных ахоўнікаў пані Алены.

— Ну і што?

— Аляксандр паабяцаў пагутарыць з жонкай.

## 3

Праз некалькі дзён Алена і сапраўды адправіла сваю двухтысячную ахову пад камандай князя Сямёна Рапалоўскага ў Маскву. Перад ад'ездам яна асабіста праверыла вазкі, запасы прадуктаў на доўгі шлях, вопратку ратнікаў. Не хацелася княжёўне, каб яе бацька, валадар маскоўскі, дрэнна думаў пра Аляксандра, называў яго скнапным чалавекам, які не выконвае прынятых дамоў.

— Ды тут прыпасаў на цэлую армію хопіць, — заспакойваў княгіню Рапалоўскі. — Мае ратнікі і паловы з'есці не паспеюць, як мы будзем дома.

— Ну, тады з Богам, князь Сямён!

Алена яшчэ раз пацалавалася з княжной Ефрасінняй, з баярынам Міхаілам Русалкам і яго жонкай Марфай. З імі яна адпускала на далёкую радзіму сваё мінулае і, да свайго сораму, зусім не шкадавала пра гэта.

Вялікі князь падзякаваў маскавітам за верную службу. Пасля яшчэ падышоў да князя Сямёна і каторы раз запытаўся ў яго пра дастатковасць прадуктаў для ратнікаў і фуражу для коней. І толькі калі ўпэўніўся, што ўсё ў парадку, махнуў рукой, дазваляючы ехаць.

Доўгі абоз павольна, бы сытая гадзюка, выпаўз з Віленскай крэпасці, перапоўз праз Вілію і, паважна перавальваючыся праз пагоркі, накіраваўся ў бок Масквы.

І які ж жах выклікалі ў княжны весткі, што хутка пачалі паступаць ў сталіцу. Вестуны расказвалі, быццам бы маскоўская дружына па дарозе пачала рабаваць насельніцтва, забіваць тых, хто аказваў супраціў, гвалціць жанчын, паліць гаспадарскія двары. Аляксандр быў раз’юшаны, Алена — растаптана. Яна спачатку не верыла гэтым чуткам, лічыла іх бруднымі плёткамі, сама падоўгу распытвала вестуноў. І толькі калі ў Вільню даставілі некалькі палонных маскавітаў, якія, размазваючы па нямытых тварах слёзы, перабіваючы і дапаўняючы адно аднаго, распавялі ўсю праўду, то княжня здалася і некалькі дзён не паказвалася са сваіх пакояў — плакала і малілася. Прасіла Збавіцеля і Прачыстую Багародзіцу дараваць неразумным суайчыннікам іх грахі, бо не ведалі яны, што рабілі. Прасіла прабачэння ў бязвінна палеглых, у закатаваных і абняслаўленых. Малілася да поўнай стомы, пакуль, знясіленая і апустошаная, не апускалася на падлогу і не забывалася на ёй цяжкім сном...

А ў самым канцы вясны ў Вільню вялікі князь маскоўскі прыслаў князя Васіля Рамаданоўскага з новымі слугамі для сваёй дачкі. Разам з князем Васілём ён перадаў лісты для Аляксандра і Алены, дзе ні словам не згадаў ні пра Рапалоўскага, ні пра здзекі ў Літве.

З прыездам у Вільню Рамаданоўскага жыццё Алены ніякім чынам не змянілася: днём — вясёлыя гульні, конныя прагулкі па наваколлі, паездкі на паляванне, вечарамі — балі. Боль ад здрады Рапалоўскага крыху суцішыўся, пакінуўшы на сэрцы цвёрды шнар, які часам ныў, аднак ужо не прыводзіў у роспач.

Баярын Васіль, сталы і набожны чалавек, жыў сваім жыццём і, як падавалася Алене, зусім не звяртаў увагі на тое, чым займаецца яго падапечная. Ён пазбягаў вясёлых і шумных кампаній, любіў адзіноту, цішыню і кнігі. Чытаў ён з раніцы да вечара, чытаў без разбору ўсё, што траплялася ў яго рукі. Ён хутка перазнаёміўся з захавальнікамі бібліятэк усіх цэркваў і нават касцёлаў, часта прасіў у вялікай княжны дазволу наведаць замкавую бібліятэку. Такая цяга да кнігі напачатку здзіўляла і крыху пацяшала Алену. Яна і сама не была абыякавай да пісанага слова, любіла ў вольны час пачытаць ці проста палюбавацца на прыгожа афармленыя застаўкі, аднак так апантана любіць кнігу Алена не магла, а таму нейкі час шчыра зайздросціла суайчынніку. Яшчэ баярын Васіль любіў прагуляцца па крапасных сценах, агледзець пушкі і зброю варты, любіў праехацца па ваколіцах Вільні, пагутарыць з месцічамі і сялянамі. «Як бачыш, ёсць і ў Масковіі адукаваныя і цікаўныя людзі», — ганарылася Алена земляком перад мужам. Аляксандр ніякавата ўсміхаўся на словы любай і імкнуўся хутчэй перавесці гутарку на іншую тэму. І ўсё ж аднойчы, калі вялікая княжна зноў добрым словам успомніла Рамаданоўскага, ён не стрымаўся:

— Князь Радзівіл даўно патрабуе выслаць з Літвы твайго адукаванага баярына. Бо ж не толькі веды вабяць яго ў нашых кнігах, не толькі разумныя думкі шукае ён

у старажытных фаліянтах. Патаемныя хады ў крэпасць цікавяць яго куды больш, а падрабязны план Вільні ён ужо склаў і сабраўся пераправіць твайму бацьку.

— Быць таго не можа! — разгублена і зусім па-сялянску пляснула ў далоні Алена і пачырванела. — Няўжо яго прыслаў бацька... — княжна спалохалася працягу сваёй думкі і прыкрыла далонькамі пунсовыя вусны.

— ...шпіёніць, — за жонку прадоўжыў Аляксандр і спакойна накіраваўся да стала, каб наліць кубак віна. — Знайшлі ў яго і план крэпасці, і запісы пра наша ўзбраенне, і пра парахавы прыпас, і пра подступы да Вільні. Нават размовы з сялянамі занатаваў твой ціхоня. Вось толькі праз каго ён збіраўся перадаць гэтыя весткі ў Маскву? Маўчыць баярын. Сапе носам ад злосці, скрыгоча зубамі, а маўчыць — ведае, што за яго спінай ты.

— Я нічога не ведала пра яго дзейнасць, — вочы Алены напоўніліся слязьмі і заблішчэлі сполахам. Яна зразумела, што прыкрываючыся яе добрымі адносінамі, яе ўладай і аўтарытэтам, баярын збіраў звесткі пра абароназдольнасць яе новай радзімы. Што ён ніякі не пасол, а звычайны шпіён, што заслугоўвае смяротнай кары, і што толькі любоў Аляксандра да яе ратуе таго ад пакутлівай, але справядлівай кары. Яна перажагналася і з надзеяй запыталася:

— Ты ж яго не заб'еш, праўда?

— Не, не заб'ю, хаця ён сам прагне смерці, — Аляксандр дапіў віно, асцярожна паставіў пусты кубак на стол, павярнуўся да жонкі. — Маўчыць, спадзяецца, што мы адсячом яму галаву і дадзім падставу твайму бацьку пачаць супраць нас вайну.

— Што ты кажаш? — буйныя слёзы пакаціліся з прыгожых вачэй Алены. — Ці ж можа родны бацька жадаць смерці сваім дзецям? Гэта ўсё інтрыгі біскупа, гэта ён так настройвае цябе супраць мяне, супраць маіх родных, супраць праваслаўных.

Аляксандр зноў ніякавата пахітаў галавой, сумна ўсміхнуўся, абняў жонку і пацалаваў яе ў мокрыя вочы.

— Супакойся, Алена. Біскуп не мае да гэтага ніякага дачынення, ды і не выношу я адносіны са сваімі родзічамі на абмеркаванне староннiх.

— Чаму ж ты тады кажаш, што мой бацька, маскоўскі князь, толькі і шукае зачэпкі, каб распачаць з Літвой вайну? Ты ж гэтым абражаеш мяне, маё да цябе каханне! Скажы, князь, не маўчы.

Вялікі князь выпусціў княгіню з абдымкаў і зноў накіраваўся да століка з віном. Напоўніў кубак, але піць не стаў. Задумаўся. Потым рашуча выцягнуў з кішэні невялікі скрутак і працягнуў яго жонцы.

— Чытай. Спадзяюся, што гэты почырк табе знаёмы.

Алена спалохана ўзяла ў рукі світак і разгарнула яго. Яна адразу пазнала пячаткі вялікага князя маскоўскага, зразумела — у гэтым лісце няма нічога добрага ні для яе, ні для яе мужа. Літары расплываліся перад вачыма, позірк скакаў па словах, па сказах, выхопліваючы асобныя, найбольш крыўдныя і неверагодныя. «...мірыся, калі хочаш, а я заўсёды буду супраць літоўскага князя…» Чаму супраць літоўскага князя? Чаму бацька ні разу не называе мужа князем Аляксандрам? Чаму ён заўсёды будзе супраць яго? А гэта ж значыць, што і супраць яе, сваёй дачкі! Няўжо татарын Менглі — Гірэй больш родны і блізкі, чым хрысціянін Аляксандр?

— Чаму так? — бы ў трызненні запыталася яна ўслых сама ў сябе. — Чым мы правініліся перад ім? Што не так робім?

— Як бачыш, Табар тут зусім ні пры чым, — адказаў Аляксандр на яе ранейшы папрок і працягнуў Алене кубак. — А князь маскоўскі, мой цесць і твой бацька,

даўно шукае сабе саюзнікаў і ў Свяшчэннай імперыі, і ў Крыме. Чым мы яму так не дагадзілі? — Аляксандр пацiснуў плячыма. — Не ведаю. Меркаванні ёсць, але іх сказаў пан Войцэх. Таму я іх паўтараць не буду — яны нейкія... дзікія, непраўдападобныя, ды і не веру я ім.

— Што ж на гэты раз выдумаў біскуп? Чым ён тлумачыць нашу правіну перад князем маскоўскім?

Вялікі князь некалькі імгненняў глядзеў у вочы жонкі, быццам збіраючыся сказаць ёй нешта вельмі балючае. Урэшце рашыўся:

— Ён лічыць, што маскавіты — параджэнне Люцыпара. Таму яны і не хочуць будаваць Сафійскі сабор, што ў іх нейкая свая вера, адрозная як ад грэчаскай, так і ад нашай веры. Таму...

— Гэта ён кажа, каб прынізіць мяне, а праз мяне — і цябе.

— ...твой бацька хоча зрабіць сваім спадкаемцам сына ад Алены малдаўскай* Дзмітрыя і ўсялякім чынам убівае ў галаву твайму малодшаму брату Васілю, што не татары з асманамі з'яўляюцца галоўнымі ворагамі Масковіі, а Літва. Верацярпімая Літва — галоўны вораг праваслаўнай Масковіі! Ці ж гэта не дзікунства?

Алена маўчала. Яна выдатна ведала, што яе бацька па-свойму разумее хрысціянства. Не было для яе сакрэтам і тое, што ён дрэнна абыходзіцца са сваёй жонкай, яе маці, Соф'яй, часта абражае яе грэчаскую веру, прыніжае яе жаночую годнасць, б'е. Разумела, што вытанчаныя манеры маці, уменне спяваць і танцаваць, веданне некалькіх моў раздражнялі грубага і дрэнна адукаванага бацьку, а таму ён пры ўсялякім зручным выпадку імкнуўся нагадаць той, што яна галадранка, якая не прынесла яму ні палітычных выгод, ні эканамічнай карысці. Гэтыя ўспаміны яшчэ больш ранілі сэрца княжны, рабілі дзікае меркаванне Войцэха Табара не такім ужо і фантастычным.

Маладая княжна апусцілася ў крэсла, закрыла твар рукамі, заплакала. Яна плакала не таму, што муж нядобра падумаў пра яе бацьку. Не таму, што тут, у Літве, усе ведалі пра гаротнае жыццё яе маці і маўчалі, пэўна, шкадуючы Алену. Не таму, што худы біскуп са шклянымі вачыма шмат у чым меў рацыю. Яна плакала таму, што развальваліся яе дзіцячыя ўяўленні пра дабро і справядлівасць, а тыя, каго яна зусім нядаўна лічыла сваімі самымі блізкімі і роднымі, нечакана адвярнуліся ад яе і нават здрадзілі. Колькі балючых драпін зарубцавалася на яе трапяткім сэрцы за апошнія месяцы! А колькі яшчэ зарубцуецца! Рапалоўскі, Русалка, Рамаданоўскі, бацька! Хто будзе наступны? Як пасля ўсяго пачутага жыць з адкрытай душой, як давяраць людзям? Пэўна, недарэмна сцвярджаюць у Маскве, што ў гэтым жыцці найбольш строга караецца дабро! Не здрада, не забойства, а дабро. Як яна радавалася, што вырвалася з бацькавай клеткі і што ёй пашанцавала з замужжам! Як спадзявалася кіраваць сваімі падданымі па боскіх законах і запаветах. «Не пажадай дома блізкага твайго, не пажадай жонкі блізкага твайго, ні раба яго, ні рабыні яго, ні вала яго, ні асла яго, нічога, што ў блізкага твайго». Бацька ж добра ведае гэты запавет Маісея. А што робіць, як паступае! Няўжо мае рацыю біскуп? Няўжо і сапраўды маскавіты жывуць пад ласкай д'ябла?

Алена перастала плакаць. У галаве гуло, перад вачыма плылі рознакаляровыя плямы. Муж стаяў перад ёй на каленях і, бы вернае шчанё, спалохана, але пяшчотна глядзеў ёй у твар. З яго вачэй таксама цяклі слёзы. Князёўна ўсміхнулася.

— Падай мне віна, — папрасіла яна Аляксандра і цяжка выдыхнула з сябе ўсё дрэннае.

## 4

Прайшла вясна, за ёй непрыкметна праляцела лета, залацістай плямай мільганула восень, адшумела завеямі зіма. Дні нанізваліся на рознакаляровыя стужкі і ператвараліся ў месяцы, месяцы ў гады. Жыццё каціла па наезджанай каляіне, і так хацелася, каб на гэтай каляіне было як мага менш калдобін.

Аляксандр Ягелончык кахаў і шанаваў сваю жонку, засыпаў яе шчасцем і падарункамі. Алена таксама без астачы аддавала цеплыню свайго сэрца мужу, проста купалася ў прамянях любові і, напэўна, была б самай шчаслівай жанчынай на свеце, калі б не адно «але» — яна ніяк не магла зацяжараць. Яна ўжо даўно перачытала ўсе вядомыя ёй малітвы, цярпліва, бы просталюдзінка, вытрымлівала самыя доўгія пасты, рабіла багатыя ўклады цэрквам, аднак нішто не дапамагала ажыццявіць мару мужа пра нараджэнне пераемніка. Гэта была першая калдобіна...

Лекарка Леаніла, якую аднекуль даставіла ў палац яе малочная сястра і сяброўка Ксенія, спачатку ўважліва аглядала Алену, потым доўга яе шчупала, балюча ціскала пальцам у жывот, бакі, незадаволена матляла галавой. «Пракляцце на табе, княжна, — зрабіла яна нечаканае заключэнне. — Страшэнны праклён на табе і тваіх родных».

— Якое пракляцце, які праклён? — акругліла вочы маладзіца і разгублена агледзелася вакол. — Пра што ты кажаш, жанчына? — Потым, калі сэнс пачутага канчаткова дайшоў да яе розуму, спалохана запытала:

— А калі так, то як зняць яго, цётачка?

Леаніла адказала не адразу. Яна зноў уважліва агледзела дзяўчыну, цвёрдымі пальцамі ўзяла за падбародак, наблізіла свой твар да яе твару і калючым да болю позіркам утаропілася ў самыя яе зрэнкі. Алена фізічна адчула, як позірк лекаркі блукае па яе вантробах, халодзіць і сціскае сэрца, пераварочвае душу, залазіць у самыя патаемныя яе куточкі, прыўносіць боль.

— Праклён не на табе, — урэшце, стомленая аглядам, прасіпела Леаніла, — а на тваім родзе. Моцны праклён, страшэнны. Нехта з тваіх блізкіх ды родных — маці, бацька ці брат, вельмі саграшылі. Скажу дакладней — пайшлі супраць Бога, супраць дзедаўскай веры. Таму, любая, я тут бяссільная...

Аднак Алена ўжо не чула апошніх слоў лекаркі. У яе галаве раптоўна ўспыхнула вогнішча, стала нясцерпна горача. Спякотная і ліпкая пара зацягнула розум. Дзяўчына абхапіла рукамі галаву, захісталася і, магчыма, упала б на падлогу, калі б Ксенія не падхапіла яе раптоўна абмяклае цела, уладкавала ў крэсле, кінулася за вадой.

— Як зняць прак... — паспрабавала яна па дарозе запытацца ў лекаркі, але пытанне так і павісла ў паветры. Побач з ёй стаяў не чалавек, не жанчына. Побач стаяла пазазямная здань: твар Леанілы нагадваў карнавальную маску. Ён быў каменны, нежывы, а замест вачэй чорным, бяздонным правалам ззяла пустата, якая пульсавала і пералівалася. Гэта працягвалася нейкае імгненне, і хутка позірк лекаркі зноў стаў асэнсаваным. Але Ксенія, якая не на жарт перапалохалася і сама ледзь не страціла прытомнасць побач з крэслам, ужо больш не спрабавала загаварыць з жанчынай.

Леаніла моўчкі назірала за Ксеніяй, чакала, пакуль тая супакоіцца, змочыць Алене вадой скроні і вусны, пап'е сама.

— Няхай зробіць паломніцтва па святых месцах, памоліцца ля цудадзейных абразоў, дасць шчодры фундуш цэрквам, пабудуе манастыр ці царкву — можа, Бог і злітуецца, дасць ёй радасць мацярынства, — параіла лекарка і, не пытаючыся дазволу, цвёрдымі, упэўненымі крокамі накіравалася да дзвярэй.

Некалькі дзён адыходзіла княжна ад слоў лекаркі. «Чаму мы павінны цярпець за нечыя грахі?» — адзінае пытанне, якое чуў ад жонкі Аляксандр гэтымі днямі.

Што мог адказаць ёй вялікі князь, чым дапамагчы? Урэшце ён не вытрымаў і даў распараджэнне князю Міхайлу Глінскаму падрыхтаваць абоз для паездкі па памежных гарадах дзяржавы.

Аднак крэпасці мала цікавілі вялікага князя, пра іх вартасці і недахопы яму мог дакласці ў любы момант віленскі ваявода Мікалай Радзівіл. Аляксандру патрэбны быў сын, пераемнік, і, каб заспакоіць жонку, ён задумаў шматмесячную вандроўку па Літве.

Першай наведалі Гародню, якой Аляксандр зусім нядаўна надаў магдэбургскае права. Па ўсяму бачылася, што гарадзенскі князь Гальшанскі трымаў горад у парадку і даўно чакаў візіту вялікага князя: месцічы ў святочных строях з радасцю віталі вялікага князя і з непрыхаванай цікаўнасцю разглядалі Алену. Ямы на шматлікіх вулачках былі выраўнены, пустазелле вырвана, гнілыя дошкі ў агароджах заменены. Нават салома і конскія яблыкі — неад'емныя атрыбуты любой гарадской вуліцы, былі прыбраны і вывезены. Здзіўлены такой чысцінёй, князь Міхайла падміргнуў Гальшанскаму:

— У цябе, пан, на вуліцах чысцей, чым у некаторых нашых вяльможаў у палацах.

Але княжы намеснік прамаўчаў, бо разумеў — прамоўленае адрасавана не яму, за руплівасць і гаспадарлівасць, а некаму з княжай світы як абраза. Таму Гальшанскі толькі кіўнуў галавой, што можна было растлумачыць як падзяку.

Замак размяшчаўся ў сутоках рэк Гараднічанка і Нёман, на правым, больш высокім беразе апошняга. Яго сцены, складзеныя з дзікага камення і буйнапамернай брусковай цэглы, чорнай вужакай звіліся амаль у кальцо і ў таўшчыні былі больш як сажань*. Праз сухі, але глыбокі крапасны роў быў перакінуты пад'ёмны мост, тоўстыя ланцугі якога ззялі ў прамянях сонца свежай змазкай.

Тупат капытоў па акаваных жалезам бярвёнах заглушылі жаласлівыя стогны і просьбы няшчасных, што былі заключаны ў турму, якая размяшчалася пад брамнай вежай. Адна Алена пачула жаласлівы енк і вызірнула ў акно карэты. Убачыўшы зблізку прыгожы тварык княжны, салдаты паднялі такі вэрхал, што заглушылі крыкі вязняў.

Вялікі князь з жонкай і найбольш знатныя вяльможы размясціліся ў палацы Вітаўта.

— Як тут сыра і холадна, — Алена пяшчотна прытулілася да мужа. — Загадай, каб распалілі камін.

— Тут заўсёды так, — Аляксандр мацней прыціснуў да сябе любую і пацалаваў яе ў светлыя валасы, — бо тоўстыя сцены не прапускаюць цяпло, а вузкія вокны-байніцы — сонечнае святло.

Аднак, калі слугі запалілі каміны, калі на стале з'явілася віно і заморская садавіна, у пакоях зрабілася значна ўтульней. Пацяплела, знікла сырасць, з'явіліся пахі жытла.

Алена паклікала свайго духоўніка Фаму і разам з ім накіравалася ў невялічкую Верхнюю царкву, якая размяшчалася ў замку непадалёк ад княжага палаца. Падмурак божага храма, як і сцены замка, цямнеў заімшэлым каменнем. Сама царква была мураваная з тонкай і тоўстай брусковай цэглы. Не зважаючы на цёплы, сонечны дзень, у царкве было пуста, змрочна і холадна.

Але княжна не звярнула ўвагі ні на холад, ні на змрок, ні на запытальны позірк мясцовага святара, які выйшаў аднекуль з цёмнага кута. Яна апусцілася на цвёрдую

цагляную падлогу і зашаптала пранікнёныя словы: «О, уладар, цар і Божа наш, высокі і слаўны чалавекалюбец! Хаця добрых спраў не маем, але спадзяёмся на шчодрую міласэрнасць Тваю: выратуй нас, бо мы — людзі Твае і авечкі паствы Тваёй, мы — статак, які Ты нядаўна пачаў пасці, вызваліўшы з пашчы ідаласлужэння. Добры пастар, які паклаў душу сваю за авечак сваіх. Не пакінь нас, хаця мы яшчэ і памыляемся, не адхіляй нас, хаця яшчэ і грашым перад Табой... Змяні гнеў на міласць, хаця і заслужылі яго справамі нашымі, адвядзі спакусу, таму што пыл мы і прах. Мы — людзі Твае, Цябе шукаем, да Цябе прыпадаем, Цябе молім... Выратуй, праяві шчодрасць, паглядзі, дапамажы, злітуйся, бо хто я, Тваё стварэнне, Тваіх рук справа! Таму што ад Цябе ачышчэнне, ад Цябе міласць і шчодрае пазбаўленне. І душа мая ў Тваіх руках, і дыханне маё ва ўладзе Тваёй. Таму распаўсюдзь міласць Сваю і на мяне, Тваю рабу пакорлівую і ўціхамірaную, дазволь пазнаць мне ласку Тваю, дай мне спазнаць радасць дзетанараджэння. Маленнем і малітвамі Прачыстай Тваёй Маці святых нябесных сіл і Прадцечы Твайго і хрысціцеля Іаана, апосталаў, пракокаў, прападобных і ўсіх святых малітвамі праяві літасць і памілуй мяне... Каб міласцю Тваёй у адзінай веры пасцімыя, усе разам весела і радасна славілі Цябе, Госпада нашага Ісуса Хрыста, з айцом і прасвятым Духам — Тройцу неразлучную, адзінабожную, што ўладарыць на нябёсах і на зямлі, над анёламі і над людзьмі, над бачным і нябачным стварэннем цяпер і заўсёды, на векі вякоў! Амінь!»

Слёзы каціліся па яе шчоках, вочы з надзеяй глядзелі на строгія лікі Ісуса, Багародзіцы, святых апосталаў. І Алене здавалася, што з кожным словам яе малітвы строгія вочы дабрэлі, напаўняліся спагадай і разуменнем.

Заспакоеная, поўная надзей, яна паднялася з каленяў, папpавіла свечкі і, не азіраючыся на святароў, роўнай хадой накіравалася да дзённага цяпла.

Вячэрню княжна разам з мужам слухала ў Барысаглебскай царкве, пры якой існаваў невялікі мужчынскі манастыр. Ігумен Калікста вёў службу настолькі пранікліва, што многія прыхаджане не маглі стрымаць слёз і плакалі. Аляксандр, як і Алена, таксама не стрымліваў сваіх пачуццяў, а па заканчэнні службы падараваў манастыру сад на правым беразе Нёмана. Не ўтрымаўся ад добрага ўчынку і каралеўскі пісар Багавіцінавіч: ён адпісаў манастыру свой фальварак Чашчаўляны.

Праз дзень княжы картэж пакінуў Гародню. Аляксандр сядзеў у карэце побач з жонкай, гладзіў яе маленькую далонь і шаптаў ласкавыя словы. Пры гэтым князь стараўся не глядзець у акно, каб выпадкова не ўбачыць рыштаванні кляштара бернардзінцаў, які ён загадаў будаваць яшчэ ў год шлюбу з Аленай, але муры якога за гэтыя гады ледзь-ледзь прыўзняліся над зямлёй.

У Менску, як і паўсюдна, княжы прыезд сустракалі натоўпы людзей і праваслаўнага духавенства. З замка, які знаходзіўся на правым беразе Свіслачы, палілі белым дымам гарматы, сухім трэскам пыхкалі пішчалі. Аднак іх стрэлаў у горадзе зусім не было чуваць, бо яны поўнасцю танулі ў тым гуле і радасным перазвоне, што стварылі званы шматлікіх цэркваў.

Два дні Алена наведвала іх, а ў саборнай царкве ў гонар Нараджэння Прасвятой Багародзіцы, якая знаходзілася ва ўсходняй частцы замка, княжна кожны дзень адстойвала ранішнюю і вячэрнюю службы.

Потым праз пыльную Оршу вялікакняжы картэж пасунуўся на памежны Смаленск. Тут ва Успенскім саборы службу вёў сам смаленскі епіскап Варсанофій, і тут княжна ўпершыню дакранулася да цудатворнага абраза Маці Божай Смаленскай Адзігітрыі, адной з галоўных праваслаўных святыняў Княства.

Далей была полацкая Сафія, у якой полацкі архіепіскап Лука разам з сотнямі прыхаджан вітаў Аляксандра і Алену. Тры дні правялі яны ў старажытнай сталіцы русінаў. За гэтыя дні княжна паспела наведаць Спаса-Ефрасіннеўскі жаночы манастыр, Запалоцкі Праабражэнскі мужчынскі манастыр, некалькі невялікіх цэркваў. І ўсюды яе сустракалі ўрачыстыя воклічы простых людзей, якія шчыра і ад усяго сэрца зычылі ёй кахання і шчасця.

**5**

На трэці дзень пасля Полацка спыніліся на адпачынак у невялічкім паселішчы Браслаў, якое некалькімі дзясяткамі двароў раскінулася ля падножжа высокага пагорка. З'яўленне мястэчка пасярод лесу, ды яшчэ ў такім шчыльным акружэнні азёр, было нечаканым і выклікала здзіўленне ў княжай свіце. Навокал чуліся воклічы захаплення. Некаторыя, найбольш нецярплівыя маладыя шляхціцы, накіравалі сваіх коней да возера — адны, каб іх папаіць, другія, каб падурэць, трэція, каб пакрасавацца перад паненкамі. Шум, смех, плясканне вады напоўнілі наваколле, быццам не картэж яснавяльможных паноў і паненак спыніўся на беразе шырокага возера, а пераапрануты натоўп басаногай і бесклапотнай дзятвы.

«Пераначуем тут», — вырашыў Аляксандр і паклікаў да сябе браслаўскага намесніка Юрыя Зяновіча, які некалькі гадоў таму адкупіў тут у мешчаніна Вайцяка двор са значным надзелам зямлі і пабудаваў для сябе шыкоўную сялібу.

Думалі пераначаваць, суцешыць душы неспадзяванай, дзікай экзотыкай, пачаставаць страўнікі мясцовай дзічынай, рыбай і духмяным мёдам, настоеным на лугавых красках, а раніцай, па прыемнай восеньскай прахалодзе, прадоўжыць перарваны шлях. Аднак прыйшлося затрымацца.

Пакуль ставілі шатры і ўладкоўваліся, няўрымслівая Ксенія паспела заскочыць у царквушку, наведала касцёл, завяла знаёмствы з мясцовымі жыхарамі і яшчэ далёка да заходу сонца з'явілася ў пакоі Алены з нейкай жанчынай. Хударлявая і невысокая незнаёмка здалёк нагадвала дзяўчынку-падлетка, аднак дробная сетка зморшчын, апушчаныя куткі вуснаў і агрубелая скура ўказвалі на яе сталы ўзрост. Але галоўнымі былі вочы! Яны больш за ўсё ўразілі княжну: да болю калючыя, бяздонныя і бліскучыя яны жылі сваім жыццём, незалежным ні ад слоў, ні ад думак сваёй гаспадыні. Алене на нейкае імгненне нават падалося, што не яны з'ўляліся часткай твару, а твар дапаўняў іх. «Што за вар'ятку прывяла сюды Ксюшка?» — міжволі падумала княжна і запытальна паглядзела на сваю малочную сястру.

— Вось пазнаёмся, — бесклапотна прашчабятала тая, — знакамітая на ўсю акругу шаптуха. Ледзь упрасіла яе пагутарыць з табой...

— Як завуць цябе, донечка? — не зважаючы на шчабятанне Ксеніі, нечакана прыемным нізкім голасам запыталася незнаёмка.

У пакоі на нейкае імгненне наступіла цішыня. Лёгкі ветрык заляцеў у адкрытае акно пакоя, дыхнуў свежасцю ў твар Алены, прыўнёс з сабой крык чаек, гул акаляючага лесу, смех варты. Першай схамянулася Ксенія, незадаволеная, што яе перабілі, нагадала:

— Я ж табе казала, што ідзём да вялікай княжны. Хіба ты ўжо забылася?

Аднак жанчына зноў не звярнула ўвагі на Ксенію, і тую аж затрэсла ад абурэння:

— Я з табой размаўляю ці вось з гэтым куфрам? Ты што — не ведаеш, як трэба паводзіць сябе з высакароднымі паннамі? Ты...

Незнаёмка павярнулася да распаленай дзяўчыны, і тая адразу сцішылася, знiякавела, апусціла вочы.

— Выйдзі з пакоя, — папрасіла яе шаптуха і ў знак ветлівасці перад высакароддзем схіліла галаву ў лёгкім паклоне.

Разгубленая Ксенія зірнула на Алену. «Ну і нахабства! — чыталася ў яе вачах. — Навошта я прывяла яе сюды?» Княжна няўпэўнена пацiснула плячыма ў адказ на нямое пытанне сяброўкі і лёгкім кіўком галавы таксама папрасіла яе выйсці.

— Як завуць цябе? — зноў паўтарыла жанчына і зрабіла некалькі крокаў наперад.

— Алена.

— Прыгожае імя, светлае, — прыязна ўсміхнулася незнаёмка. — Мяне ж можаш зваць цётка Лушка, — яна ўважліва паглядзела ў вочы княжны. У той ад гэткага позірку дзясяткі мурашоў забегалі па скуры, стала холадна спіне, раптоўна здранцвелі ногі, сціснула сэрца. Жанчына зноў усміхнулася, але на гэты раз са спачуваннем і жалем. — Што за гора ляжыць чорнай плямай на тваёй светлай душы, Алена? Чым я, звычайная баба, магу табе дапамагчы?

Алена па-дзіцячы шморгнула носам і нечакана для сябе расказала незнаёмай цётцы пра свае бяссонныя ночы, пра ўсе сполахі і балячкі, падзялілася горам, успомніла словы Леанілы аб пракляцці яе роду. Лушка ўважліва слухала княжну і непрыкметна гладзіла яе маленькую далонь. Калі Алена закончыла свой сумны расповед, жанчына запыталася:

— Хто з родных суправаджае цябе?

— Муж, — адказала дзяўчына і, убачыўшы адмоўны ківок галавы, дадала: — Ксенія, мая малочная сястра.

— А твой духоўнік?

— Фама? — здзіўлена выгукнула Алена і ледзь не засмяялася. — Які ж ён родны?

— Вось яго і пакліч сюды, — ціхія словы жанчыны гучалі настолькі цвёрда і рашуча, што княжна нават не пакрыўдзілася на іх тон.

Фама з'явіўся перад жанчынамі ўскудлачаны і заспаны. Чалавек па старой маскоўскай звычцы адпачываў пасля сытнага полудня. Ён спакойна зайшоў у пакой, некалькі разоў перажагнаўся на абраз Багародзіцы Адзігітрыі і запытальна паглядзеў на сваю гаспадарыню. Аднак першай загаварыла не Алена, а незнаёмая жанчына, і пытанне яе было наколькі нечаканым, настолькі і страшным.

— Што ты ведаеш, святар, пра праклён, які накладзены на род маскоўскага князя?

Унутры Фамы ўсё разам абледзянела, пакрылася калючым інеем. Яго нават затрэсла ліхаманка ад гэткага пытання. Ён ведаў няшмат, ды і тое, што ведаў, чуў з вуснаў маскоўскага мітрапаліта Геранція дваццаць год таму. Яшчэ Фама ведаў, што за разгалошванне гэтай тайны ў Маскве людзей жыўцом апускалі пад рачны лёд ці разрывалі на часткі коньмі. Таму ён ніякавата ўсміхнуўся і паспрабаваў перавесці гутарку на іншае. Аднак незнаёмка ніяк не адрэагавала на памкненне Фамы. Скура на твары жанчыны ад напружання нацягнулася і стала гладкай і цвёрдай, бы абмытая дажджамі костка на могільніку, а ад яе позірку нават духоўніка кінула ў халодны пот. Фама ледзь адвёў позірк ад жанчыны і стаў апантана жагнацца.

— Раскажы, Фама! — жаласліва, са слязамі, папрасіла Алена, і стары святар скарыўся.

Ён яшчэ нейкі час маўчаў, задумліва гладзіў рэдкую сівую бараду, нешта ўспамінаў. Думкі ледзь прыкметнымі ценямі пераліваліся ў яго вачах, хваляваліся, рас-

цягвалі ў нямым воклічы жаху яго старэчыя вусны, сціскалі ноздры. Урэшце ён пракашляўся і пераржагнаўся, бы перад смяротнай бойкай з мінулым.

— Гэта здарылася даўно, — расцягваючы словы, пачаў ён свой аповед, — яшчэ ў семдзесят восьмым годзе. Твой бацька і цяпер не можа жыць без вайны, а тады, трыццацівасьмігадовым, ён усюды шукаў сабе ворага. Дык вось, той зімой, у лютыя маразы, ён захапіў Вялікі Ноўгарад. Захапіў падманам і здрадай баяр. І пакуль людзі не апаматаліся, ён пачаў высякаць усіх незадаволеных. Кроў лілася ракой, сотні, тысячы вольных наўгародцаў знайшлі смерць або на пласе ката, або пад ільдом Волхава. Гэта быў страшны час — высеклі ўсё баярства, а пасадніцу Марфу Бярэцкую* разам з сотнямі вазоў нарабаванага адправілі ў Маскву. Аднак не гэта галоўнае. Тваймy бацьку падалося, што сваёй лютасцю ён усё роўна не скарыў простых людзей, што не змог рэкамі крыві заліць іскрынкі гневу, што рана ці позна Ноўгарад выбухне смутай, хвалі якой разнясуць дашчэнту ўсю маскоўскую дзяржаву. І тады, пятнаццатага студзеня, ён вырашыў скінуць са званіцы вечавы звон і даставіць яго ў Маскву.

— Навошта? — недавер Алены вырваўся пытаннем.

— Князь Іван баяўся пакінуць звон у скароным горадзе, бо ён, сімвал вольнасці, стаў бы дакорам жывым і прымусіў бы іх узяцца за меч і сякеру... Вось за здзек над людзьмі, а яшчэ больш — над вечавіком наўгародскі мітрапаліт Феафіл і пракляў твайго бацьку.

«На дзецях тваіх род твой паганы закончыцца: сыны твае будуць мець семя няспелае, а чэравы дачок тваіх будуць пустыя, бы прагніўшыя борці!..»

— А дзе цяпер вечавік? Што з ім сталася? — паспрабавала спыніць расказчыка Лушка.

— Пакаралі яго смерцю, — крыва, з незразумелым выклікам, злосна зыркнуў у бок Алены Фама. Аднак хутка супакоіўся і працягваў: — Адарвалі язык, высеклі бізуном, потым разбілі на кавалкі і перавезлі на Пушкарны двор. А да гэтага шматпудовы звон амаль тры месяцы цягнулі ў Маскву пяцьдзясят коней і некалькі тысяч халопаў. Людзі seклі лес, рабілі гаці, паміралі ад знясільваючай працы, але ўпарта на валакушы цягнулі наўгародскую святыню да месца пакарання смерцю. Вечавік, бы жывая істота, разумеў сваё хуткае скананне, а таму супраціўляўся, як мог — не адзін халоп застаўся ў наўгародскіх балотах, не аднаму звон раструшчыў рукі ці ногі. А колькі іх паўмірала — нікому не вядома! Пад канец шляху ўжо крывавая раса выступала раніцай на яго баках, ужо коні не хацелі ўпрагацца ў звязку, брыкаліся, кусалі і калечылі людзей. Ды і людзі з жахам назіралі за крывавымі слязьмі, якімі зыходзіў вечавік, і, як і коні, адмаўляліся ад ганебнай працы. Аднак бізун ды шабля перамагалі іх страх, і валакуша з асуджаным няўмольна рухалася наперад... А звон спадзяваўся, плакаў... — Фама выцер вільготныя вочы.

— А чаму яго не разбілі ў Ноўгарадзе, калі так баяліся?

Святар стомлена ўздыхнуў. Было бачна, што ён і раней не разумеў дзеянні свайго вялікага князя, а цяпер, калі балючыя ўспаміны зноў ахінулі яго душу, прымусілі па-новаму крываточыць сэрца, ён з агідай думаў пра зробленае.

— У Маскву цягнулі не звон, дзеванька, у Маскву цягнулі сімвал! Сімвал вольніцы і свабоды, да якога імкнуўся б любы, незадаволены князем. Як начныя матылі ляцяць на святло свечкі, так і тыя, у каго засталіся сумленне і сорам, сцякаліся б пад вечавы звон Ноўгарада. А пакараўшы вечавік, князь паказаў сваім падданым, што ў свеце ёсць толькі адна праўда, і яна ў Маскве, што ў свеце толькі адна сапраўдная хрысціянская вера, і яна ў Маскве, што адзіны Бог жыве ў Маскве і што на яго ні людская мараль, ні чалавечыя законы не распаўсюджваюцца. А тое, што наўгародскі

мітрапаліт пракляў княжы род — гэта дробязі. Князь за кубкам віна смяяўся з мітрапаліта, параўноўваў яго з маладым пеўнем, які пракукарэкае раніцай, а потым цэлы дзень ганарліва ходзіць на падворку, быццам без яго крыку не наступіла б раніца і не ўзышло б сонца... Агідна і балюча гэта ўспамінаць, але так было, і мы ўжо нічога змяніць не можам.

Фама закончыў аповед, зноў перажагнаўся — на гэты раз з палёгкай, бы скінуў няведамы цяжар. Алена, прыкрыўшы далонню рот, параненай птушкай сядзела на лаве і вачыма вар'яткі глядзела на расказчыка, чакаючы ад яго галоўных слоў, што ён усё гэта выдумаў, што гэта няпраўда, прыдуманая ворагамі яе бацькі і праваслаўнай веры. Аднак святар маўчаў і разгублена ўсміхаўся, пэўна, сам не да канца верачы ў свае ўспаміны.

— Можаш ісці, Фама, — дазволіла Лушка і павярнулася да княжны. — А табе, донечка, трэба супакоіцца. Не палохайся пачутага. Яно страшэннае, але ты забудзь яго, растапчы, як агіднага слізняка. А ў астатнім я табе дапамагу — народзіш ты дзіця, і не адно. Душа ў цябе добрая, і ты яе вычысціш малітвай шчыраю, а плоць тваю нямоглую — зямля-матухна ачысціць.

— Як зямля? — схамянулася Алена. — Мне яшчэ ў зямлю рана!

— Не пра тое ты падумала, родная! — дробным смехам засмяялася жанчына. — Зямля наша браслаўская асаблівую сілу мае. Тут вада і паветра, кожная травінка ды карэньчык, кожны лісточак гаючыя, трэба толькі ведаць іх сілу і мець веру. А словы запаветныя я ведаю. Ведаю, якія трэба шаптаць у зорную ноч, а якія — у пахмурную, якія — ранкам, а якія — вечарам... Хаця і страшэнны праклён на тваім родзе, але Бог літасцівы, і ён не пакіне ў бядзе безабаронную, знявечаную некім душу. Душу, якая імкнецца да светлага, якая шчыра жадае людзям дабра і шчасця, якая кахае і якую таксама моцна кахаюць.

— Што мне рабіць, цётачка? — надзеяй заззялі вочы Алены. Яна падхапілася з лаўкі, гатовая да дзеянняў.

— Са мной паедзеш, — шаптуха напружылася, паглядзела на дзверы, прыслухалася і ўжо цішэй дадала. — Табе трэба пабыць сам-насам з прыродай, з сабой, з Богам. Трэба, каб душа твая супакоілася, каб ты адчула сябе патрэбнай не толькі князю ды сабе, але і новаму жыццю, якое хутка ўвойдзе ў тваё ўлонне.

— Муж не адпусціць.

— Адпусціць, тут недалёка, — лекарка ўпэўнена падышла да дзвярэй і рэзка іх адчыніла. За дзвярыма нехта спалохана войкнуў. — А каб не сумаваць, возьмеш з сабой сваю цікаўную сяброўку.

Аляксандр спачатку здзівіўся просьбе жонкі пагасціць некалькі дзён у незнаёмай сялянкі, прыняў усё за жарт. Аднак упэўніўшыся, што Алена не жартуе, ён выклікаў свайго намесніка Юрыя Зяновіча, начальніка варты княжны пана Прыгодзіча, доўга гутарыў з імі і ўрэшце пагадзіўся.

— Толькі тры дні, любая, — даводзіў ён жонцы, — больш я не вытрываю без цябе, маё золатка.

Пакуль вялікі князь бавіў час на паляванні, Алена гасціла ў новай знаёмай, двор якой размяшчаўся на беразе вялікага возера Снуды і з усіх бакоў быў шчыльна акружаны высачэзнымі гонкімі соснамі.

Мужа Лушкі звалі Лукша, і Ксенія спачатку жартавала, што Лукша — гэта Лушка, толькі на мужчынскі лад. Быў у іх і сын Геранім, аднак ён жыў недзе на востраве і дадому не з'яўляўся.

Двор Лукшы размяшчаўся ў дзвюх мілях* ад Браслава пасярод глухога лесу, які дыхаў смалой і цешыўся пяшчотнай радасцю сонечных дзён. Гэтая радасць гучала

ў тужлівых спевах векавых ялін, у сарамлівым шапаценні маладзенькіх бярозак, у пажоўклай траве, што рудымі пасмамі хавалася сярод кустоўя. Гэтая радасць была адчувальнай і жывой. Яе можна было паспытаць на пах, як пах сасновай жывіцы. Яе можна было паспрабаваць на смак, як сок журавін, яе можна было і ўбачыць, як пырханне бесклапотнага матылька. Яна была паўсюдна, і Алена першыя імгненні ніяк не магла паверыць, што на зямлі ёсць такія месцы, патрапіўшы ў якія, хочацца плакаць ад шчасця, радасці і асалоды.

Жылі Лукшы проста. Гаспадар даглядаў свае борці, паляваў, лавіў рыбу. Лушка збірала і сушыла травы і карэньчыкі, грыбы ды ягады, вяла няхітрую гаспадарку. Хлеб, малако, яйкі і сыр выменьвалі на мёд ці мяса ў суседняй вёсцы са смешнай назвай Крывое Сяльцо. Так яны і жылі ў поўнай згодзе з прыродай, з суседзямі і з сабою. Такое жыццё ім было даспадобы і яны не прамянялі б яго ні на якое іншае.

Тры дні праляцелі непрыкметна.

Раніцай на чацвёрты дзень у вароты пагрукаліся і гучны бас баярына Прыгодзіча нагадаў Алене, што пара збірацца ў дарогу і вяртацца да мужа.

Развітанне было нядоўгім. Алена паабяцала, што яшчэ вернецца сюды і што з часам пабудуе дзе-небудзь тут гарадзішча. Лушка ў знак згоды ківала галавой і адно шкадавала, што княжна нядоўга пагасціла ў яе.

— Табе б яшчэ на тыдзень затрымацца, любая, — абдымала яна на развітанне Алену. — Тады б я была ўпэўнена, што ты поўнасцю паправілася і скінула з сябе каросту незаслужанага пракляцця. — І калі княжна ў акружэнні аховы выязджала за вароты, напомніла: — Ты ж вады крынічнай у Акменіцы набяры, не забудзься!

А ноччу, калі стомлены і ўлагоджаны муж салодка засоп, Алена адчула ледзьве ўлоўную і зусім непрыкметную ў сабе змену. Нейкай асаблівай радасцю затрымцела сэрца, пяшчотная хваля цеплыні агарнула грудзі, заказытала смочкі, паднялася да горла і вырвалася нягучным стогнам. На душы зрабілася лёгка-лёгка, настолькі лёгка, што дзяўчына спалохалася гэтага пачуцця і мацней учапілася за руку мужа. «Няўжо здарылася! — паднялася з глыбіні здагадка і расцягнула ў шчаслівай усмешцы вусны. — Дзякуй, Госпадзі! Дзякуй, мілы!»

З гэтай шчаслівай усмешкай Алена і заснула.

## 6

Па вяртанні ў Вільню прыдворнае жыццё наладзілася, закіпела, завіравала з патроенай сілай. Пазбаўленыя на цэлае лета мужчынскай увагі, паненкі ажылі, павясноваму расквітнелі, дасталі з куфраў набытыя модныя абноўкі, пачалі рыхтавацца да непазбежных баляў. Высакародныя дамы ў незлічоны раз настаўлялі сваіх дачок, якія ўпершыню павінны былі паказацца пры двары, правілам прыдворнага этыкету. Паўсюдна гучала музыка, чуліся бесклапотны жаночы смех і гамонка. Цэлае лета зацішша, а тут адразу столькі падзей! Балі і маскарады, нарады з Парыжа, Вены, Рыма, шчаслівы вялікі князь і цяжарная княжна! Гэта ж так цікава і так важна!

За апошнія месяцы Алена прыкметна пасправўнела, стан яе папаўнеў, формы акругліліся. Рухацца яна стала больш асцярожна і паважна. Гэткаю ж была і яе сяброўка Ксенія, якая таксама панесла ў Браславе.

— Напэўна, і сапраўды вада з Акменіцы добра ачышчае жаночае ўлонне і рыхтуе яго да зараджэння новага жыцця, — любіла пажартаваць Ксенія, успамінаючы Лушку. — А памятаеш, як яна мяне з пакоя выставіла? Памятаеш, як гарэлі яе вочы? Бы ў ваўчыцы!

— А ты бачыла ваўчыцу?

— Ды не, але мне пра іх часта Міхал расказвае.

Шчаслівыя сяброўкі любілі прагуляцца па парку, пагутарыць, пажартаваць, пасмяяцца ды ўспомніць мінулае.

Аляксандр таксама любіў прайсціся з жанчынамі і, назіраючы за жонкай, слухаючы яе вясёлае шчабятанне, сам быў на сёмым небе ад шчасця. Ён і раней вельмі кахаў і шанаваў Алену, а цяпер, жывучы ў чаканні нараджэння сына, ён проста атуляў яе пяшчотай і засыпаў рознымі падарункамі. Кожны дзень княжна атрымлівала нейкае новае ўпрыгожванне, у парыве ласкі князь дарыў сваёй любай каштоўнасці і зямельныя ўладанні.

Нішто не прадвяшчала бяды. Здавалася, што мір будзе вечны, што сваяцтва манархаў Літвы і Масковіі спыніць дарэмныя кровапраліцці, палепшыць узаемадачыненні дзяржаў. Аднак вялікі князь маскоўскі Іван так не думаў і патаемна рыхтаваўся да новай вайны. Ён пісаў ласкавыя пасланні Алене, спрабаваў праз яе ўплываць на свайго зяця Аляксандра і ў той жа час скіроўваў на Вялікае Княства крымскіх татар.

Як на грэх, у гэты год віленскі епіскап Макарый вырашыў, пакуль не сышоў снег, наведаць сваіх сяброў у Кіева-Пячорскім манастыры. У нялёгкі, далёкі і небяспечны шлях ён выправіўся ў суправаджэнні двух манахаў. А праз тыдзень у Вільню прыляцела горкая вестка: «Старога святара перанялі за Мазыром татары, адсеклі яму галаву і падвесілі за бараду да палі». «Князь Іван кажа, што няма ў Літве сапраўдных праваслаўных, а значыць, і сапраўдных папоў тут быць не можа!» — дабіваючы няшчасных манахаў, смяяўся малады круглатвары татарын.

Крыўда і злосць на бацьку закіпелі ў душы Алены. Яна праплакала некалькі дзён па нябожчыку, не разумеючы, каму спатрэбілася жыццё старога і ўжо нямоглага служкі царквы Прачыстай Багародзіцы, каму ён пагражаў і што змянілася з яго смерцю для Масковіі ці Крыма!

Другую бяду Алене прынёс канцлер Ян Сапега ў выглядзе патаемнага ліста ад маці, у якім тая скардзілася, што ў парыве нянавісці да Літвы вялікі князь маскоўскі назваў сваім пераемнікам не свайго старэйшага сына, а ўнука* Дзмітрыя.

Яшчэ маці пісала, што ніколі не прызнае праведзенага абраду і ўсімі сродкамі будзе дабівацца, каб спадкаемцамі прызначылі яе сына, брата Алены, Васіля. «Начная зязюля заўсёды перакуе дзённую», — запэўнівала яна дачку ў сур'ёзнасці сваіх намераў і дадавала, што многія баяры падтрымліваюць яе, а не Алену Валашанку.

У канцы пісьма Соф'я Палеолаг паведаміла пра лютасць мужа да тых, хто асмеліўся адкрыта выказаць незадаволенасць скажэннем дзедаўскіх традыцый. Паляцелі галовы князя Палецкага і баярына Захаркі, пазбаўлены жыцця дзяк Стрэмілаў. Рапалоўскі павінен быў легчы на плаху, але адсеклі яму галаву ці не — яна дакладна не ведае. Дзясяткі іншых пастрыжаны ў манахі ці кінуты ў вязніцы, дзе падвяргаюцца нечалавечым катаванням.

Два ўдары запар — гэта шмат і для здаровай жанчыны, а для цяжарнай — замнога. Алена злягла.

Спачатку ёй здавалася, што хвароба хутка адпусціць, што праз два-тры дні яна паправіцца і зноў будзе гуляць са сваёй сяброўкай па заснежаным садзе, дыхаць чыстым, марозным паветрам, весела смяяцца з жартаў мужа і Ксеніі. Пра гэта неаднаразова казаў і прыдворны лекар немец Кетлер, з дзелавым выглядам змешваючы нейкія парашкі і падрабязна расказваючы Аляксандру аб прычынах гэтай неспадзяванай хваробы.

— Шмат спакою трэба яснавяльможнай панне, — злосна зыркаў лекар на Ксенію. — Не трэба яе турбаваць дурнымі плёткамі і рознымі дробязямі. Асабліва шкодны ёй смех, бо ад яго адбываецца сатрасенне вантробаў, і пані Алена потым моцна пакутуе.

— Ад цябе яна пакутуе, рожа нямецкая! Ад выгляду твайго поснага і зелля смярдзючага, — агрызалася дзяўчына.

Вялікі князь смяяўся, а немец крыўдзіўся на жанчыну, лаяўся па-свойму, пагражаў ёй рознымі зямнымі і нябеснымі карамі. У адсутнасць князя Кетлер не прапускаў Ксенію да сяброўкі, крычаў пра нейкую цяперу, штурхаў яе ад дзвярэй, пакуль аднойчы муж Ксеніі Міхал Струга, ледзь стрымліваючы шаленства, не трасянуў яго за вузкія грудзі:

— Ты, пан, рабі добра сваю справу — княгіню лячы. Лямантуеш тут, як баба на базары, а пані Алена ўжо другі тыдзень хварэе, і ніякага паляпшэння не бачна.

Палёгкі ў хваробе вялікай княжны і сапраўды не было. Бяскрыўдная прастуда і лёгкі кашаль непрыкметна перараслі ў ліхаманку. Алена ўся гарэла, яе трэсла, выкручвала з плячэй рукі, разрывала на часткі галаву. Часам яна не пазнавала нават Аляксандра, а прыступы болю палохалі ўвесь двор.

— Божа літасцівы! Збавіцель наш праведны! Ты ж некалі даў мне ў жонкі гэты цуд і сам жа благаславіў наш саюз! Я славіў і буду славіць Цябе, Тваю ласку да мяне і дар Твой бясцэнны! Ты ж ведаеш, як я кахаю яе! Ты ж ведаеш, што я жыць не змагу без яе, што *яна* маё жыццё і маё шчасце! Вярні ёй здароўе, і слава Твая памножыцца. Пачуй маю малітву, і я буду самым верным рабом Тваім!...

Аднак і малітвы мужа не прыносілі хворай палёгкі.

Урэшце Ксенія не вытрымала і, скарыстаўшы адсутнасць Кетлера, падышла да Аляксандра. Пра што яна гутарыла з ім, якія прыводзіла довады — невядома, аднак пад вечар яна з'явілася ў пакоі хворай з лекаркай Леанілай.

— Ты што сабе дазваляеш? — спачатку здзівіўся немец і загарадзіў ім шлях. — Ты думаеш, што гэта дурная баба пераможа навуку? Яна ж заб'е паненку! О, святы Божа!

А калі муж Ксеніі пан Міхал груба адштурхнуў яго ўбок, лекар наогул заверашчаў па-нямецкі:

— О, мой Бог! Святыя ўгоднікі! Вы толькі паглядзіце, які гвалт творыцца тут над разумным чалавекам! Вы толькі падумайце — дурная, дзікая баба збіраецца лячыць вялікую княгіню!

Магчыма, немец верашчаў бы і далей, але пан Струга не на жарт раззлаваўся і ўхапіў яго за шкірку:

— Будзеш шумець — прыб'ю! — злосна прашыпеў ён у твар лекару і выштурхнуў таго ў калідор, дзе ў шчымлівым напружанні віраваў натоўп слуг і вяльможных паноў.

Леаніла спынілася ля хворай, паставіла побач з ложкам свой невялікі кошык, у якім шчыльна туліліся гаршчэчкі з мазямі і бальзамамі, збанкі з настоямі і адварамі, і, не звяртаючы ўвагі на прысутнасць вялікага князя, рашуча ўзяла Алену за руку, адкрыла ёй вока і доўга ўзіралася ў расшыраную зрэнку, быццам бачыла там нешта жудаснае.

— Позна, — бы выбух, прагучалі яе слова ў цішы пакоя. — Яна ўжо на шляху ў царства памерлых.

— Леаніла, — Ксенія павалілася на каленкі перад лекаркай, абхапіла яе ногі, загаласіла, — ратуй! Толькі ты зможаш выратаваць Алену! Толькі ты здольна зрабіць гэта! — забілася ў істэрыцы дзяўчына.

— Позна, вельмі позна, — запярэчыла жанчына, вызваляючы свае ногі ад абдымкаў. Але, убачыўшы спалатнелы твар Аляксандра, зноў павярнулася да паміраючай і зноў падняла вейкі яе вачэй. На гэты раз лекарка закончыла свой агляд хутчэй і прысела на лаву. — Прынясіце сюды чыстыя анучы, тазы і многа цёплай вады. Толькі хутка!

Алена трызніла. Перад вачыма няшчаснай які ўжо раз паўставала адно і тое ж бачанне, быццам яна з нейкім хлопчыкам, вельмі падобным на сына Ксеніі Янкі, перапраўляецца праз шырокую раку. Белабрысы хлапчук ціха сядзеў да і носе лодкі і пакорліва глядзеў наперад. Стары маўклівы перавозчык абыякава адштурхоўваўся ад пясчанага дна ракі доўгай жэрдкай і нават не звяртаў увагі на сваіх пасажыраў.

— Куды мы плывём, дзядуля? — пыталася Алена. — Чаму на вадзе няма хваль, а ў небе аблокаў? Хто гэты хлопчык? — ужо не пыталася, а ў адчаі крычала яна старому, аднак той маўчаў, глядзеў некуды ўдалячынь сваімі пустымі, белымі вачыма і раўнамернымі штуршкамі гнаў човен наперад. — Я не хачу на той бераг! Я хачу да мужа!

Магчыма, стары і пачуў яе, паслухаўся, бо хутка павярнуў назад, пакінуўшы на беразе толькі незнаёмага хлопчыка, постаць якога неяк адразу растварылася ў малочным тумане.

Яе ж перавозчык высадзіў на цвёрды, пясчаны бераг, так падобны да берага возера Снуды, што на Браслаўшчыне, і адразу, таксама, як і хлопчык, знік, растварыўся.

«Зноў Браслаўшчына! Як я па табе змаркоцілася! Край, дзе я спазнала сапраўднае шчасце, глыбокае і моцнае. Край, дзе жывуць добрыя і шчырыя людзі! Дзе чыстае паветра, насычанае пахам мёду і жывіцы, ачышчае любую каросту з душы, а празрыстыя і цёплыя азёрныя хвалі абмываюць бруд з цела. Ці ж можна ў асяродку такога хараства заставацца грэшнікам?! Ці ж можна там думаць пра нешта дрэннае і бруднае! Не, не і яшчэ раз не! Гэта рай, і там чалавек павінен ачышчацца, а не грашыць! Для грахоў ёсць шмат іншых месцаў на зямлі, напрыклад, у Масковіі!»

Успамін пра былую радзіму, пра крыважэрнага бацьку азваўся моцным болем ва ўсім целе, які паступова аціх. Лёгкія, цёплыя хвалі ахінулі ногі Алены, і яна засмяялася ад радасці. Аднак хвалі хутка ператварыліся ў полымя, якое балюча апаліла жывот, грудзі. Дзяўчына ўжо не смяялася. Яна нема крычала. Яна адбівалася ад мноства крыклівых чаек, што раптоўна аднекуль з вышыні абрынуліся на яе і пачалі сваімі доўгімі дзюбамі ірваць на кавалкі цела. «Князь! — крычала Алена і імкнулася ўхіліцца ад ашалелых птушак, якія з белых ператвараліся то ў крывава-чырвоных, то ў смяротна-чорных. — Аляксандр, ратуй!» Ад дзікага болю яна крычала, узлятала ў вышыню, правальвалася ў балюча-бясконцае бяспамяцтва...

Калі нечым спалоханыя птушкі ўсё ж такі разляцеліся і знікла полымя, Алена расплюшчыла вочы. І першае, што яна ўбачыла — гэта расшыраныя ад жаху, чырвоныя ад бяссоння і слёз вочы мужа. «Княжа», — аблегчана выдыхнула яна, праз сілу ўсміхнулася і зноў правалілася ў пякучую бездань...

— Ну вось і ўсё! — выцерла рукавом мокры твар Леаніла і павярнулася да вялікага князя. — Жыць твая жонка будзе, але мець дзяцей — не. Калі б адразу яе лячылі, калі б твой вучоны лекар не запусціў хваробу, то меў бы ты сына, а так... Выбачай, князь!

Аднак Аляксандр ужо не чуў слоў жанчыны. Алена будзе жыць — гэтых слоў ён чакаў, пра гэта ён маліў Усявышняга. Жонка паправіцца, і яны наведаюць Карону, зноў праедуцца па Літве. А сын! У ваколіцы Браслава жыве шаптуха, якая дапамагла адзін раз, дапаможа і другі. Там жа, як жартуе Ксенія, само паветра гоіць усе раны: і душэўныя, і цялесныя, а яшчэ ж ёсць лес, ёсць чыстыя азёры, урэшце — ёсць яго каханне!

## 7

Алена выздараўлівала пакутліва і павольна. Малады арганізм, ачышчаны адварамі і травянымі настоямі Леанілы, перамагаў хваробу паступова, але незваротна. У траўні вялікая княжна ўжо самастойна падымалася з ложка, выходзіла на падворак, дыхала цёплым паветрам.

Вясновыя дні, трапяткія і празрыстыя да самага донца, былі напоўнены гукамі жыцця і кахання. Ля сакавітых і яшчэ ліпкіх лісточкаў маладых клёнаў кружлялі тлустыя хрушчы, выбіраючы сабе самыя смачныя з іх на вячэру. Жоўтыя мятлікі залатымі кавалачкамі сонца пырхалі над першымі кветкамі, частуючыся іх нектарам, радуючыся мяккаму цяплу і ўласнай блізкасці.

У нябесным блакіце дурэла пара маладых галубкоў. Яны то імкліва ўзвіваліся ўверх, ператвараючыся там у дзве ледзьве прыкметныя кропкі, то каменем падалі ўніз. Адскочыўшы ад цёплага паветра, што хвалістымі струменямі зыходзіла ад прагрэтай раллі, яны зноў перакульваліся і, шалеючы ад кахання, стрэламі ўзнімаліся ўгору, каб схавацца там пад рэдкімі хмаркамі.

А ў далёкім вясновым спакоі павольна і плаўна кружыла пара буслоў. Зусім нядаўна гэтыя смелыя і незалежныя птушкі вярнуліся ў Літву з далёкага падарожжа і цяпер з недасяжнай вышыні любаваліся харастввом і велічнасцю сваёй радзімы. Да слыху Алены даносілася іх радаснае клекатанне, і яна выдатна разумела гэту радасць, бо сама неаднойчы зведвала такое ж шчымлівае пачуццё, калі разам з мужам вярталася ў Вільню з працяглай вандроўкі па краіне.

Шчаслівы Аляксандр цішком назіраў за выздараўленнем любай жонкі і, напэўна, ніколі не быў з ёй такім ласкавым, як у гэтыя вясновыя дні. Ён шчыра лічыў, што гэта яго малітвы і шчодрыя ўклады касцёлам і манастырам паставілі жонку на ногі, а таму быў асабліва вясёлым і ўзрушаным. Ён поўнасцю ўзваліў усе дзяржаўныя справы на плечы Мікалая Радзівіла, а сам цэлыя дні праводзіў з каханай.

Калі ж Алена канчаткова акрыяла, яе перавезлі ў летні палац за горадам. Там яна адпачывала, шмат гуляла на свежым паветры, чытала, вышывала покрывы і габелены. І кожны дзень, раніцай і вечарам, яна малілася. Стары яе спавядальнік Фама, адчуваючы хуткую сваю смерць, адпрасіўся ў вялікага князя і вярнуўся ў Масковію. Замест яго бацька прыслаў маладога манаха Іёну, які амаль усюды суправаджаў Алену — баяўся за годнасць сваёй уладаркі або, што верагодней, палохаўся свабоднага жыцця ў верацярпімай Літве і сам шукаў абароны ў акружэнні вялікай княжны.

Як і раней, яе канцлер Ян Сапега вёў перапіску з Масквой, часта там бываў сам. І заўсёды, вярнуўшыся адтуль, наведваў сябра Мікалая Радзівіла, дзе яго чакаў гасцінны прыём і кубак добрага заморскага віна.

У пачатку лета пяцісотага года ён чарговы раз прыехаў з далёкай Масковіі. Перадаў вялікаму князю пошту, падзяліўся назіраннямі, з асалодай папарыўся ў лазні, крыху адпачыў з дарогі, а потым накіраваўся да віленскага ваяводы, бо ведаў — той даўно і з нецярпеннем яго чакае.

Як і заўсёды, пакуль не разагрэліся, сябры гутарылі пра цяжкія дарогі, пра бандытаў, якія запаланілі падмаскоўныя лясы, пра цэны на хлеб і мяса ў Маскве. І толькі пасля трэцяга-чацвёртага кубка пераходзілі да палітыкі — цвярозаму чалавеку цяжка зразумець дзеянні сваіх уладароў.

— Трэба рыхтавацца да вайны, — шаптаў на ўвесь пакой свае сакрэты пан Сапега, — бо маскоўскі Іван адкрыта абвінавачвае нашага Аляксандра ў тым, што

ён душыць і прыгнятае ў нас праваслаўе, што не кахае і не шануе сваю жонку Алену, што забараняе ёй маліцца ў царкве і прымушае прыняць рымскую веру.

— Што за лухта? Няўжо гэты доўбня за пяць гадоў не прыдумаў нічога новага? Калі хто і рушыць праваслаўе, то гэта ён — маскоўскі князь. Бо з-за яго інтрыг і зверстваў гінуць людзі, з-за яго дурноты многія выракаюцца праваслаўя і пераходзяць у лаціну. Нават дачка яго, вялікая княжна, ужо задумалася пра гэта — ледзьве адгаварыў яе ад неабдуманага кроку наш епіскап Іосіф.

— Няўжо вялікая княжна... — вытарашчыў у недаверы вочы Сапега.

— Збіралася ці не — не ведаю, сам не чуў і не бачыў, але Іосіф казаў, што яна пыталася ў яго пра гэта. Не жадаю, кажа, быць адной веры з рабаўнікамі і забойцамі, з тымі, хто адмаўляецца ад крыжацалавання і гатовы перарэзаць горла роднаму дзіцяці.

— Гэта ж яна супраць бацькі пайшла — грэх вялікі! — Сапега таражагнаўся на абразы. — І што ёй адказаў епіскап?

— Сказаў, што вера тут ні пры чым, што гэта яе бацька паступае не па-хрысціянску, што гэта ён паставіў сябе вышэй Бога і хоча падабраць пад сябе ўвесь праваслаўны свет, што не можа хрысціянін ваяваць са сваімі дзецьмі ды жадаць ім зла і смерці.

— Хрысціянін! — пан Сапега прыгладзіў доўгія вусы і ўважліва паглядзеў у вочы субяседніку. Крывая ўхмылка скрывіла яго сухі, абпалены сонцам твар. — Ты б бачыў, пан Мікалай, якая валтузня дзеецца цяпер пры двары гэтага хрысціяніна. Яго паслы выкупляюць у татараў старажытныя граматы, якія тыя вывезлі з Кіева і іншых, некалі захопленых імі гарадоў. Перабельваюць іх, перапісваюць, імкнуцца даказаць, што род князёў маскоўскіх паходзіць ад рымскага імператара Аўгуста...

— А як жа бедны Рурык? — здзіўлены навіной, разгублена рагатнуў Радзівіл. — Вікінгі ўжо не ў пашане ў маскавітаў?

— Рурык — дзікі ваяр, звер. А вось імператар Аўгуст! Гэта ж велічны Рым, магутная імперыя, Еўропа! Цэлая армія дыяканаў пад камандаю Спірыдона-Савы фальсіфікуе старажытныя летапісы, складае свой летапісны звод, шліфуе выдуманую легенду пра тое, як візантыйскі імператар Канстанцін Манамах перадаў князю кіеўскаму Уладзіміру знакі царскай годнасці, а сярод іх — царскі вянец. Нават звычайную шапку, што раней ускладвалі на галаву новага вялікага князя і якая раней не мела аніякай назвы, вырашылі назваць «Манамахавай»...

— А якое дачыненне мае маскоўскі князь да Уладзіміра кіеўскага? Рабіць яму няма чаго. Лепш бы парадак навёў у сваіх паселішчах, разабраўся са сваімі грашыма, мерамі, мытамі. Усюды хабарніцтва, казнакрадства, развал, бязладдзе і неразбярыха, а той загадвае казкі ды легенды пра сябе выдумляць!

— Табе добра так разважаць, князь. Ты жывеш у свабоднай дзяржаве, што мае слаўную, шматвекавую гісторыю, якую не трэба перапісваць і фальсіфікаваць. А яны чатырыста гадоў былі ўскрайнім, бедным і гаротным татарскім улусам. І цяпер, калі Арда развалілася і яны набылі нейкую самастойнасць, то проста ім жыццёва важна даказаць сваю паўнавартаснасць і годнасць. А калі доказаў не хапае ці іх наогул няма — іх выдумваюць. Праз сто гадоў ніхто не адрозніць праўды ад хлусні, а праз дзвесце — выдумка пойдзе праўдзівей за праўду. Адсюль і злосць іх невытлумачальная, жорсткасць і бязлітаснасць. Адсюль і вера іх асаблівая, напалову татарская, і ўласнае тлумачэнне Божых запаветаў...

Алена адпачывала за горадам і не ведала, што яе бацька ўжо закончыў падрыхтоўку да вайны. Княжну больш займалі жахлівыя чуткі пра надыход канца свету.

Кожны вечар яна са сваімі служанкамі ўзіралася ў начное неба, чакала знака, гадала ў якім вобразе ён з'явіцца.

Аднак знак прыйшоў не з неба, а з усходу ў выглядзе бязроднага маскоўскага баярына Целяшова, які прывёз Аляксандру грамату ад свайго ўладара. Іван пісаў: «Вялікі князь Аляксандр вялікую княгіню Алену, князёў і паноў рускіх да рымскага закону нудзіць, таму вялікі князь Іван Васільевіч здымае з сябе хроснае цалаванне і за хрысціянства хоча стаць, колькі Бог яму паможа».

— З якіх гэта часоў маскавіт стаў клапаціцца пра нас, русінаў? — здзівіўся князь Астрожскі, аднак строгі позірк Аляксандра перапыніў яго разважанні.

— Перадай брату нашаму і цесцю, што мы ад хроснага цалавання не адмаўляемся, але і літасці ў вялікага князя маскоўскага прасіць не будзем, — вялікі князь падняўся з крэсла, даючы гэтым знак, што ён усё сказаў і прыём закончаны.

Так, з вайны з родным бацькам, пачаўся для вялікай княжны Алены канец свету...

## 8

Радзівіл прачнуўся.

Устрывожаныя думкі нябачнымі змоўшчыкамі-душагубамі абступілі канцлера з усіх бакоў і, адчуўшы яго бездапаможнасць, з нейкай злоснай асалодай распачалі ў ягонай галаве свой шалёны танец. І ўсё, пра што ён нядаўна думаў, пра што ўспамінаў, з незразумелай настойлівасцю рынулася да яго душы, імкнучыся прабіцца да яго сумлення, каб разварушыць яго, прыўнесці туды свой боль, пасеяць смуту.

Ён сядзеў у мулкім крэсле, пакрытым мядзвежым футрам, і баяўся расплюшчыць вочы. Баяўся ўбачыць тых, чые вобразы ўзгадаў у сваім сне і каго ўжо даўно не было на гэтым свеце. Яму падавалася, што яны даўно праніклі ў яго пакой і цяпер, варта толькі расплюшчыць вочы, ён убачыць іх вакол крэсла — жорсткіх, рашучых, з бяскроўнымі тварамі і пустымі вачніцамі. Што ён можа сказаць ім? Чым можа апраўдаць сябе перад імі, памагатымі той нечалавечай сілы, якая здольна абудзіць у памяці даўно забытыя падзеі мінуўшчыны, тое, што, як яму падавалася, знікла назаўсёды, рассыпалася прахам на жыццёвай дарозе?

«Прыгожай жанчынай была княжна! Прыгожай і разумнай! Аднак не настолькі, каб гэтак разварушыць мае пачуцці, маю памяць!» — імкнуўся суняць шалёны карагод думак князь Мікалай, бо фізічна адчуваў, што згаданыя ім падзеі — не столькі думкі, колькі яшчэ не зусім зразумелая, але шчырая размова з самім сабой, са сваёй душой, сумленнем. Быццам многае з таго, што нядаўна паўстала перад яго свядомасцю, перад яго вачыма, было зроблена ім супраць волі, супраць Божых запаветаў.

— Сумленне маё чыстае і перад князем, і перад княжной, і перад Богам! — ледзь не стогнам сарваліся з вуснаў словы. Але ж ад чаго тады закіпела кроў у яго сэрцы? Закіпела і выплюхнулася ў горла, дзе застыла калючым лёдам, пачала ціснуць, балюча ірваць плоць.

Радзівіла апанаваў жах: «За што, твая міласць?» — схапіўся ён у адчаі рукамі за сваё горла і з палёгкай адчуў пад далонямі мяккую мядзведжую лапу. Ён адкінуў яе за спінку крэсла і пачуў, як цвёрдыя і вострыя кіпцюры ўдарылі па дрэве.

Усё заціхла.

Князь Мікалай сабраўся з духам і расплюшчыў вочы. Нішто не змянілася ў пакоі за час яго сну. Толькі аплылі свечкі і шэрым налётам зацягнулася вуголле ў каміне.

Патрывожаныя думкі палахлівымі мятлікамі рассыпаліся ў прасторы, пахаваліся па шматлікіх кутках яго душы. У галаве пасвятлела. Палягчэла ва ўсім целе.

Вяльможа зябка павёў плячыма.

— Эй, Уладак, — нягучна паклікаў ён, разумеючы, што слуга даўно чакае пад дзвярыма, — падкінь у камін дроў і пакліч да мяне канцлера.

У той жа момант дзверы расчыніліся і малады, светлавалосы юнак кінуўся да амаль патухлага каміна. Следам за ім зайшоў канцлер.

— Граматы адправіў? — адразу запытаўся князь і, атрымаўшы сцвярджальны адказ, пацікавіўся: — А дзе ганец, што прывёз вестку пра смерць княжны?

— Толькі што ачуняў, яснавяльможны.

— Добра, добра! — князь Мікалай яшчэ сам канчаткова не адышоў ад сну. Ён падняўся з крэсла, паглядзеў на Уладака, які шчыраваў ля каміна, прайшоўся па пакоі. — Пакліч яго сюды і распарадзіся, каб падалі абед на дваіх.

Хутка ў пакоі з'явіўся малады ганец. На выгляд яму было не больш васямнаццаці гадоў. Аднак рост вышэй сярэдняга, шырокія грудзі, пругкая хада і доўгія, растрапаныя светлыя валасы рабілі яго сапраўдным воінам. Пакамечаны твар і асалавелыя блакітныя вочы сведчылі пра стомленасць іх уладальніка. І ўсё ж хлопец трымаўся малайцом, стараўся выглядаць бадзёрым. Гэта спадабалася князю, і ён кіўнуў на крэсла, што стаяла ля стала.

— Сядай, пан Струга...

Пачуўшы сваё прозвішча, Янка спыніўся і схіліўся ў паклоне.

— Ды сядай ты, няўрымслівец, — ўсміхнуўся Радзівіл, не звяртаючы ўвагі на ветлівасць маладога шляхціца. — Частуйся, чым Бог паслаў, і расказвай, як і ад чаго памерла княжна.

Янка пачакаў, пакуль слугі расставяць місы і збаны на стале, выйдуць з пакоя, і толькі потым загаварыў.

— Я сам пра гэта задумаўся толькі сёння, калі прачнуўся. Раней не было часу.

— Разумею, — хітнуў галавой князь і таксама сеў у крэсла насупраць юнака.

— Чатыры дні таму яна была вясёлая і здаровая. Разам з маці і маёй сястрой Катрынай да абеду каталіся на санках з горкі, потым хадзілі на возера — глядзелі, як сяляне з Крывога Сяльца лавілі рыбу... Пасля абеду, ужо адвячоркам, сказала, што стамілася за дзень і пайшла, як звычайна, спаць... А раніцай мяне пабудзіў пан Прыгодзіч і без тлумачэнняў адправіў з лістом да цябе, князь.

— Цікаўнага або незвычайнага нічога не назіралася ў ваколіцах Гарадзішча? Не заўважаў якіх чужакоў, незнаёмцаў? Ці не знікла што каштоўнае ў княжны? Ці не маглі яе атруціць?

— Цікаўнага? — Янка пашкроб патыліцу. — Сам я не бачыў, але чуў, як пані Алена казала маці, што калі яна выходзіла з царквы ў дзень майго вянчання, то ёй падалося, бы з натоўпу прыхаджан за ёй назіраў нейкі баярын Рапалоўскі — былы начальнік яе вясельнага картэжу. Яшчэ мой цесць, пан Ігнатовіч з Крывога Сяльца, расказваў, што яго сяляне знайшлі на возеры свежую падкову, але не нашу, маскоўскую... Яшчэ чуў, як ігумення скардзілася, што людзі ад караля Жыгімонта без дазволу мітрапаліта Іосіфа абшуквалі яе манастыр і цікавіліся нейкімі куфрамі княжны Алены...

Мікалай Радзівіл напружыўся, падхапіўся з крэсла, прайшоўся па пакоі, спыніўся ля каміна.

— Я не магу цяпер пакінуць Вільню, — у голасе вяльможы гучалі боль і шчырае шкадаванне, — трэба арганізаваць пахаванне вялікай княжны. А табе, хлопец, я напішу граматку, па якой ты правядзеш следства па факце смерці пані Алены. На

гэты час ты будзеш прадстаўніком вялікага князя і табе будуць падпарадкоўвацца ўсе, нават намеснік наш, Ян Сапега. Аднак усё ж паспрабуй следства правесці ціха, непрыкметна, а пра яго вынікі дакладзеш асабіста мне. — Радзівіл спыніўся ля юнака, нахіліўся і цяжка паглядзеў яму ў вочы. — Чуеш, пан Струга — асабіста мне і нікому больш. Нават каралю! Запомніў?

Янка кіўнуў галавой і, не адводзячы позірку, раптоўна асіплым ад хвалявання голасам, прашыпеў:

— Калі гэта забойства, то забойцаў княжны Алены я не пашкадую, пан. Нават калі гэта будзеш ты ці сам кароль!

Некалькі імгненняў яны глядзелі адзін аднаму ў вочы, глядзелі прама, адкрыта, напэўна, забыўшы, што адзін з іх канцлер Вялікага Княства, а другі — звычайны хударودны шляхціц. Глядзелі з тым вострым і аголеным спакоем, у якім угадвалася не толькі супрацьлегласць іх характараў і перакананняў, іх успрыняцця жыцця, але і глыбокая розніца іх чалавечай прыроды. Кожны думаў пра нешта сваё, патаемнае і кожны збіраўся яго бараніць — гэтае незразумелае іншаму «сваё». І кожны разумеў, што пойдзе да канца, не саступіць і не дасць іншаму літасці.

— Ну вось і добра! — першым загаварыў Радзівіл. Ён з непрыхаванай цікаўнасцю зноў уважліва агледзеў юнака — ці не памыліўся? — лагодна яму ўсміхнуўся і ласкава хітнуў на стол. — Сілкуйся, хлопец. Цябе чакае шмат цяжкіх спраў і, магчыма, яшчэ больш расчараванняў.

## КАМЕНТАРЫІ

**Паны-рада** — найвышэйшы орган дзяржаўнай улады Вялікага Княства Літоўскага.

**Рокаш** — збройны супраціў дзяржаўнай уладзе.

**Дрыкгант** (у старой беларускай мове «кг» вымаўлялася як «g» лацінскае) — жарабец.

**Кароль Казімір** — Казімір Андрэй Ягайлавіч (1427—1492), трэці сын Ягайлы, вялікі князь літоўскі з 1440 г. і кароль польскі з 1447-га. Бацька Аляксандра.

**Алена малдаўская** (Алена Валашанка) — жонка старэйшага сына Івана ад першага шлюбу.

**Сажань** — мера даўжыні, прыкладна роўная тром аршынам, або 2,13 м.

**Марфа Бярэцкая** — удава наўгародскага пасадніка. Разам з баярамі Арбузавымі, Няміравамі, Афанасьевымі і інш. падтрымлівала заключаную з ВКЛ дамову пра ўзаемадапамогу ў барацьбе з Маскоўскім княствам.

**Міля літоўская** — мера даўжыні, прыкладна роўна 7,5 км.

**Унук Івана** — сын Івана III ад першага шлюбу Іван Іванавіч памёр маладым, але ў яго застаўся сын Дзмітрый, маці якога, **Алена Валашанка,** была дачкой малдаўскага гаспадара Стэфана.

***Працяг будзе.***

*Наталля ПУШКАРОВА*

# ЯК ГАРЫЦЬ ШКЛО



***Наталля Пушкарова нарадзілася 9 ліпеня 1987 года ў Кіеве. У 2003 годзе пераехала ў Бабруйск. Скончыла БДПУ імя Максіма Танка і магістратуру БДУ. Настаўнік. Аўтар і выканаўца песень. Вершы друкаваліся ў літаратурных часопісах. Удзельнічала ў фестывалі «Бардаўская восень» (Польшча).***

* * *

Пчолы бароняць вуллі свае
А я не ведаю дзе мой вулей
Я падстаўлю абедзве шчакі пад
Шасцімільярднае дула
Я не адчуваю сябе часткай
Двухрукага цэлага
Я хацела б аддаць усё што мела
Толькі не магу вылезці з гэтага цела

Мэа кульпа, што я не ведаю вулляў сваіх,
За тое, што гару, спапяляюся, прарастаю, узлятаю
Мэа кульпа, што я са статку тых
Хто не бароніць тое, што мае

Рыбы ведаюць віры свае
А я ў сваіх вірах тану каменем
У руках фамы праязны білет
На цягнік ад турмы да сумы
І ХТО ВЕДАЕ, ЯК ГАРЫЦЬ ШКЛО,
І для тых, хто гандлюе кармай,
І ДЛЯ ТЫХ, КАГО ЧОРТАМ ЗАНЯСЛО,
І для тых, хто думае, што сюды прыйшоў сам

* * *

Трымайся калі апошні тралейбус
Будзе трымаць для цябе месца
І цяжка ў халодным салоне сагрэцца

І сумна што поўныя сумкі феміды
І вецер у вушах адэлаіды
І тое што парвана яшчэ не зашыта

І я жыву пульсам на тры чвэрці
Дзе каханне там і смерць
Амур расстраляе мяне ў сэрца

І пакуль гарыць адзінока лучына
Я магу працягваць свае зімы лічыць
Я спрабую сябе да жыцця прыручыць

І ты толькі трымайся не здавайся
Не страляй для рыкашэту не пераймайся
Калі зможаш сысці то Застанься

* * *

Мы навучыліся біцца праз байніцы
Так, каб потым напіцца і забіцца,
І самотныя віцэ будуць вакол нас віцца,
Ліжучы метал у нашых пятліцах.

І зараз галоўнае не пралічыцца —
зверыцца
Са спісам спыненых сэрцаў
Тых, хто прайшоў па нябеснай лесвіцы,
А пад намі зямля, бы молаты перац,
І мы яе месім сваімі ботамі,
Свяшчэннымі ходамі, байкотамі.
Тыя, хто быў з намі толькі ікотаю,
Любяць нас.

Мы навучыліся страляць
у няпрошаных
Тых, хто становіцца з часам
часам прошлым,
Тых, хто стаіць на гароху
і спіць на гарошынах,
Тых, каму нельга праз тое,
што ўсё можна.

І таму нашы стрэлы не далятаюць
да амураў,
І таму мы пяем песні
за каменным мурам,
І таму мы ў контрах з контркультурамі,
І кожны не такі, як мы,
становіцца гуру.

* * *

Бы на арэлях, гайдаюся, я выкотваюся наперад.
Кроў і мяса чытаць і есці — гэта розныя ў Бога веры,
Меры якіх — свядомасць, што пераўтвараецца ў прынцып прынцыпаў.
Мне трэба бліц і каму-небудзь сніцца.

Сушу свае думкі. Сушу свае думкі і ў сумкі складваю непатрэбныя рэчы.
Я не Бог, каб узяць і зрабіць штосьці з нічога і нечага.
Я не салдат, каб ваяваць — толькі супраць сябе, калі ўсё адно пакалечана.
Вось мне шабля, вось мне меч, вось мне жаданне сечы.

Я разрываю зубамі ніткі, перагрызаю швы.
Я раўняю дзіцячым посудам пасляваенныя рвы.
Я разбіраю зброю і выстаўляю яе пад дождж.
Я спадзяюся, што будзе час, калі нож перарэжа нож.

Я невядомы салдат пасляваеннага шторму апошняй калоны.
Я не ведаю ў твар свайго ворага, я памятаю твар мамы, што чакае дома.
Я ведаю ісціну ісцін, што нарэшце лом ёсць лепшым прыёмам
Супраць таго, хто супраць таго, хто супраць лому.

* * *

Святы Іосіф, ты ўмеў, як ніхто,
Быць генералам
над любым палкоўнікам
І разумець на нарадзе багоў,
Што жыў дзеясловам у целе назоўніка.

І так, як ты, ніхто не спяваў,
Ніколі не чула твайго голасу,
Дык раскажы, як тваё там
Жыццё на Заходнім полюсе.

Святы Іосіф, ты ўмеў, як ніхто,
Жыць, пакідаючы цень ад алоўка.
Ляцелі ўніз і лягалі пластом
Літары з графітнай боегалоўкі.

А далей — вецер, што шалік твой
Падняўшы, апусціць на твае ж плечы.
Святы Іосіф, ты, як ніхто,
Умееш быць са мной увечар…

* * *

Добры чалавек, не пашкадуй косткі
Я дварняга без шыку і лоску
Але паглядзі, на маёй поўсці
Чорна-белыя палоскі

Мне сто гадоў па чалавечым стылі
Але я не закопваю костку ў магіле
Мяне дастаткова пагладзіць рукой
Каб я цябе палюбіла

Я скуголю на сонца і скуголю на месяц
Чалавек, пакажы мне маё месца
Ля дзвярэй а мне большага не трэба
І я буду твае рукі песціць

Не пінай нагой не адводзь свой позірк
Я ведаю як стыне кроў на марозе
Пачашы за вухам, паглядзі ў вочы
Мне і гэтага досыць

Я сабака з крывёй ваўчыцы
І ў мяне адно а не сем жыццяў
Я магу быць авечкай, магу
быць ільвіцай
Я магу давяраць, мне не позна вучыцца

Для ўсіх аднолькава ўсе любімыя
Для ўсіх аднолькава халодныя зімы
Людзі больш за сабак нелюдзімыя
Чалавек, не праходзь міма

* * *

Букет касмаганічных тэорый
Расцвёў на маім акне,
Хацелася б сказаць «так»:
«Так, менавіта так збудаваны свет,
Што ўсё пачалося з жабкі,
Апалоніка і жураўля».
Ды сініца гайдае ў маіх далонях
Ненароджанае немаўля.
Хацелася б сказаць «так»,
Каб з лотаса вылез бог,
Каб маліліся на малако
Свяшчэннай гавядзіны,
Каб не было так пуста і скрадзена
Ля маіх ног.
Хацелася б сказаць «так»,
Каб мы хадзілі па вялікай пустыні
40 год, а не семдзесят —
І прыйшлі ў залаты горад,
І нам бы сказалі: «Грэйцеся
Ля вогнішча,
На якім пякуць грэшных».
А мы не прыйшлі.
Мы застылі.
Хацелася б сказаць «так»,
Каб тэорыя ўсіх тэорый
Мела б працяг у маёй галаве.
На якой трэба пісаць мове,
Каб разагнаць зграю завей
Ува мне?
Букет касмаганічных тэорый
Расцвёў на маім акне.
Хацелася б сказаць «так».
Але не.

*Генадзь АЎЛАСЕНКА*

# КАЗБЕК

***Апавяданне***

Сабака не проста брахаў, а кідаўся наперад, падаў, збіты з ног трывалым, сталёвым ланцугом, адразу ж ускокваў і зноў кідаўся да плота, толькі для таго, здавалася, каб зноў і зноў, у які ўжо раз, кулём пакаціцца па брудным, раскіслым за дзень снезе. Сабака літаральна са скуры вылузваўся, каб толькі дабрацца да людзей, якія стаялі за плотам, ды ўчапіцца камусьці з іх у глотку мёртвай хваткай. У тым, што ў сабакі менавіта такія намеры, Юрась нават і не сумняваўся.

— Ідзёмце, Альберт Сцяпанавіч! — прапанаваў ён нервова. — Раптам ланцуг не вытрымае!

Альберт Сцяпанавіч адарваў зацікаўлены позірк ад сабакі і ўважліва паглядзеў на Юрася.

— І што тады? — абыякава прагаварыў ён.

Юрась нават разгубіўся, пачуўшы такое, мякка кажучы, наіўнае пытанне.

— Ён у мінулым годзе сарваўся неяк...

— І што?

— І нічога! — Юрась прастуджана шмыгнуў носам. — Суседскага дабермана добра пакалечыў, а трох дварнякоў ледзь на шматкі не разадраў!

— І ўсё?

— А што, гэтага мала?! — крыху пакрыўджана спытаў Юрась. — Трэба было, каб і чалавека якога загрыз?!

— Ну, вы скажаце!

Альберт Сцяпанавіч ціха засмяяўся, а сабака, які да гэтага часу ўжо сцішыўся крыху, зноў ірвануўся з лютым гырканнем.

— Ідзёмце, Альберт Сцяпанавіч! — амаль умольна паўтарыў Юрась.

— Ідзёмце! — згадзіўся, нарэшце, Альберт Сцяпанавіч і абодва настаўнікі пакрочылі далей. — Прыгожы сабака! А што гэта за парода такая, Юрый Мікалаевіч?

— Каўказская аўчарка... — Юрась азірнуўся ў бок сабакі, які ўсё яшчэ гучна брахаў ім услед, але ўжо неяк ляніва, хутчэй па інерцыі. — Толькі не зусім чыстакроўны, з дамешкам нямецкай, здаецца... — ён паказаў рукой на невялікі драўляны будынак, з левага боку ад дарогі. — А вось тут я і жыву! Дакладней, цяпер ужо мы з вамі тут жыць будзем...



***Генадзь Аўласенка нарадзіўся 16 жніўня 1955 года ў вёсцы Ліпавец Ушацкага раёна. Скончыў біялагічны факультэт БДУ. Працуе настаўнікам у Вайнілаўскай базавай школе Чэрвеньскага раёна. Аўтар кніг як для дзяцей, так і для дарослых.***

Альберт Сцяпанавіч з'явіўся ў Навасельскай сярэдняй школе ў самым пачатку снежня. Да гэтага ўрокі нямецкай тут амаль не вяліся. Паездзіў крыху ў верасні настаўнік з райцэнтра, пенсіянер... але дарэмна радавалася школьная адміністрацыя — дзесьці адразу ж пасля заканчэння сельгасработ пенсіянер сур'ёзна захварэў і знік надоўга, а школа зноў засталася без замежнай мовы. Таму, як толькі Альберт Сцяпанавіч з'явіўся ў райцэнтры і зайшоў у аддзел адукацыі, за яго адразу ўхапіліся, як кажуць, аберуч і тэрмінова накіравалі ў Навасельцы. Загадчык сам, на ўласнай машыне, адвёз новага настаўніка да месца яго будучай працы, што, вядома ж, не вельмі ўзрадавала школьную адміністрацыю, бо загадчыка аддзела адукацыі ў гэты дзень, як высветлілася, у школе зусім не чакалі...

Пакінуўшы начальства разбірацца са сваімі праблемамі, як набалелымі, так і нечакана ўзніклымі, Альберт Сцяпанавіч у суправаджэнні Юрася, а дакладней, Юрыя Мікалаевіча, накіраваўся ў будучую сваю кватэру, дзе дагэтуль жыў адзін толькі Юрась. Кватэрай прэтэнцыёзна называўся самы звычайны вясковы дом на два пакоі. Ён належаў школе, але знаходзіўся ад яе даволі далекавата, так што ісці прыйшлося ледзь не праз усю вёску. Вось на гэтым першым сваім шляху па вёсцы Альберт Сцяпанавіч і сустрэўся ўпершыню з Казбекам (так звалі аўчарку), і яны адразу ж не спадабаліся адно аднаму.

Казбек людзей наогул не пераносіў (выключаючы свайго гаспадара, кульгавага пенсіянера-алкаша Давыдыча). Але і не брахаў на іх асабліва, так, зрэдку гаўкне, бывала, на Юрася, калі той, заўсёды спяшаючыся, праходзіў паўз плот Давыдыча. Ды й то, не са злосцю, а так, як кажуць, для прафілактыкі, каб не забываўся малады настаўнік, з кім мае справу. Праўда, калі той ці іншы вясковец праходзіў каля дома Давыдыча, а побач з ім бег сабака — тут ужо Казбек не вытрымліваў і даваў поўную волю сваім каўказскім эмоцыям. І добра яшчэ, што трымаўся тоўсты сталёвы ланцуг, якім гаспадар замяніў ранейшы, тонкі і даволі іржавы. Адбылося гэта пасля таго выпадку, калі стары ланцуг проста не вытрымаў шалёнага націску аўчаркі і лопнуў, што і абярнулася трагічнымі наступствамі для ўсяго сабачага жыхарства Навасельцаў. Акрамя трох разадраных шавак і аднаго скалечанага дабермана, яшчэ добры тузін навасельскіх сабак паспеў пазнаёміцца з вострымі ікламі Казбека. Юрась памятаў, як усхвалявала гэтая падзея ўсю вёску, як рашуча патрабавалі людзі ад Давыдыча пазбавіцца ад пачварнай звяругі, як пагражалі яму, абяцаючы звясці рахункі не толькі з Казбекам, але і з яго п'янтосам-гаспадаром. Але Давыдыч трымаўся стойка: ні на ўгаворы, ні на пагрозы ніяк не рэагаваў... ну, а потым усё гэта само сабой заціхла і Казбек застаўся на ранейшым месцы, праўда, ужо з новым, куды больш трывалым ланцугом...

На людзей Казбек звычайна не звяртаў асаблівай увагі (у тым ліку і на Юрася), але калі паўз плот Давыдыча ішоў Альберт Сцяпанавіч (а цяпер яны з Юрасём амаль заўсёды спяшаліся на працу і вярталіся з яе разам), Казбек проста шалеў. Ён кідаўся з такой раз'юшанасцю, што кожны раз у Юрася літаральна сэрца заходзілася ад жаху і нейкага нядобрага прадчування. Маладзён міжволі ўтульваў галаву ў плечы і стараўся паскорыць крок. А вось Альберт Сцяпанавіч, наадварот, амаль спыняўся і спрабаваў весці размову з аўчаркай, што выклікала ў той яшчэ большы прыступ шаленства. І такое здаралася амаль штодня…

— Чаму вы ўвесь час дражніце яго?! — неяк, не вытрымаўшы, папракнуў Юрась калегу. — Няўжо так цяжка — проста не звяртаць увагі на гэтага ваўкадава?!

— Каб ён лічыў, што я яго спалохаўся?! — адразу ж парыраваў папрок Альберт Сцяпанавіч. — Ну, гэтага ён ад мяне не дачакаецца!

— Затое вы дачакаецеся! — сярдзіта буркнуў Юрась. — Буйных непрыемнасцей! І я разам з вамі!

На гэтым размова і заканчвалася. Альберт Сцяпанавіч усміхаўся, паляпваў малодшага калегу па плячы і прапаноўваў згуляць чарговую партыю ў шахматы, на што Юрась адразу ж ахвотна пагаджаўся. Ён быў даволі моцным шахматыстам і любіў гэтую гульню, але да прыезду Альберта Сцяпанавіча сур'ёзных партнёраў тут, у вёсцы, яму не знаходзілася. Юрась паступова губляў кваліфікацыю, сам адчуваў гэта, і вельмі перажываў. Але прыезд Альберта Сцяпанавіча адразу ўсё змяніў.

Ён гуляў дзесьці на ўзроўні кандыдата ў майстры (а можа, і на ўзроўні майстра, хто ведае), што для першаразрадніка Юрася было сапраўднай знаходкай. З гэтага часу ў яго з'явілася мэта: хоць адзін раз перамагчы Альберта Сцяпанавіча! Гэтая мэта з такой сілай завалодала Юрасём, што ён пачаў узмоцнена чытаць розныя шахматныя выданні, часамі тырчаў за школьным камп'ютарам, дасканала і рознабакова разбіраючы з яго дапамогай шахматныя пазіцыі. Але пакуль жаданых вынікаў гэта не прынесла, акрамя некалькіх нічыіх, ды і то ў тых выпадках, калі Юрась гуляў белымі. Акрамя таго, у Юрася меліся падазрэнні, што асаблівай ягонай заслугі няма ў гэтых вымучаных нічыйных партыях. Бо ўсе яны дасягаліся ў тыя вечары, калі Альберт Сцяпанавіч кудысьці спяшаўся і таму, пэўна, жадаў як мага хутчэй завяршыць чарговы паядынак.

А ў апошні час такое здаралася з Альбертам Сцяпанавічам усё часцей і часцей. Юрась нават падазраваў, што калега завёў дзесьці побач каханку. Ды спытаць пра гэта неяк саромеўся. Магчыма, Юрася стрымлівала іх розніца ва ўзросце: як-ніяк яму, Юрасю, усяго толькі дваццаць тры гады, тады як Альберту Сцяпанавічу, здаецца, далёка ўжо за сорак...

Праўда, на свае «далёка за сорак» ён ніяк не выглядаў: высокі, заўсёды падцягнуты і з густам апрануты, ён міжволі прыцягваў увагу жанчын. Нават кранутыя сівізною валасы яго не псавалі... Да таго ж ён ніколі не крычаў на вучняў.

Па звестках, якія зрэдку даходзілі да Юрася, Альберт Сцяпанавіч не павышаў на дзяцей голасу, і тым не менш, дысцыпліна на ўроках нямецкай мовы заўсёды была «жалезная», чым Юрась на сваіх уроках фізікі і інфарматыкі пахваліцца не мог. Ды і дзеці, у большасці сваёй абыякавыя да ўсіх урокаў, акрамя, можа, фізкультуры, раптам пагалоўна зацікавіліся нямецкай мовай і пачалі (з падачы, вядома ж, самога Альберта Сцяпанавіча) ажыўленую перапіску са сваімі равеснікамі з нейкага нямецкага гарадка. Усё гэта наводзіла Юрася на думку, што Альберт Сцяпанавіч не проста педагог, а педагог таленавіты, з вялікай, як кажуць, літары. І можна было толькі здагадвацца, якая прычына прымусіла яго змяніць месца працы.

Гэтую тэму яны таксама ніколі не абмяркоўвалі, хоць доўгімі зімовымі вечарамі вялі, за кубачкам гарбаты і нязменнай шахматнай дошкай, працяглыя і вельмі насычаныя гутаркі на самыя розныя тэмы. Юрася ўражвала рознабаковая і амаль што энцыклапедычная эрудыцыя субяседніка. Ягоныя заўвагі былі слушнымі, довады — пераканаўчымі, ну, а вывады, часта — парадаксальна-нечаканымі, і, тым не менш, амаль заўсёды з'яўляліся адзіна правільнымі ў канкрэтным выпадку. І Юрась кожны раз гэта прызнаваў.

Хутчэй за ўсё пераезд на новае месца працы тлумачыўся нейкімі непрыемнасцямі, і Юрась прыняў гэтую версію, як асноўную. Таму быў нямала здзіўлены, калі настаўніца пачатковых класаў, мажная, незамужняя кабета сярэдніх гадоў, якая настойліва, але без асаблівага поспеху спрабавала прыцягнуць да сябе ўвагу новага

педагога, неяк расказала Юрасю па сакрэце, што бачыла ў аддзеле кадраў працоўную кніжку Альберта Сцяпанавіча, і што там ужо столькі запісаў, што хутка нават вольнага месца не застанецца...

— Можа, ён алкаголік? — выказала яна сваю думку на гэты конт.

Юрась толькі пацiснуў плячыма. За тыя некалькі месяцаў, што яны пражылі разам, ён не мог упэўнена сказаць, што дасканала вывучыў характар і звычкі суседа па кватэры, але ў адным Юрась быў цвёрда ўпэўнены: Альберт Сцяпанавіч не алкаголік, і адносіцца да спіртнога вельмі стрымана. Так, вып'е кілішак-другі... ды і то ў кампаніі, калі няёмка ўжо адмовіцца... Дарэчы, гэта ж даказвала, што Альберт Сцяпанавіч не кадзіраваны алкаш, пра што ўпарта ўводзіла ў вушы адхіленая паклонніца.

— Тады ён наркаман! — безапеляцыйна заявіла яна аднойчы Юрасю. — Ты нічога такога за ім не заўважаў?

На шчасце празвінеў званок на ўрок і непрыемная гутарка скончылася сама сабою. Больш на гэту тэму настаўніца пачатковых класаў з Юрасём не размаўляла, але ён падазраваў, што пра працоўную кніжку Альберта Сцяпанавіча было расказана «па сакрэце» далёка не яму аднаму.

Юрась нікуды не хадзіў па вечарах, акрамя як на суботнія агульнашкольныя мерапрыемствы. Яшчэ зрэдку наведваў вясковыя дыскатэкі ў мясцовым клубе, але доўга там не вытрымліваў, асабліва калі яго, мабыць, спецыяльна згаварыўшыся, пачыналі запрашаць на танец адна за адной ягоныя ж вучаніцы са старшых класаў. Ну, а пасля таго, як побач з ім пасяліўся Альберт Сцяпанавіч, Юрась і наогул нікуды стараўся не выходзіць па вечарах з кватэры, аддаючы перавагу цікавым гутаркам з новым калегам. Гутаркам ды яшчэ і з нязменнай свежапрыгатаванай гарбатай і, вядома ж, з бясконцымі шахматнымі партыямі. Так працягвалася ўсю зіму, але пачынаючы з канца лютага Альберт Сцяпанавіч пачаў перыядычна знікаць з кватэры па вечарах.

Спачатку гэта адбывалася даволі рэдка, дзесьці, раз на тыдзень. Потым таямнічыя знікненні па вечарах пачалі адбывацца два, а часам, і тры разы на тыдзень. Юрась у такія вечары літаральна месца сабе не знаходзіў. Ён спрабаваў чытаць... але, прачытаўшы ўсяго некалькі старонак, пачынаў адчуваць амаль што агіду да працэсу чытання і паспешліва адкідваў кнігу ўбок. Тэлевізар выклікаў у яго яшчэ большую нуду і раздражненне, а больш заняцца ў вёсцы — не лічачы п'яных дыскатэк — не было чым. Юрась са здзіўленнем спрабаваў успомніць, як жа ён праводзіў гэтыя самыя вечары раней, калі жыў тут адзін... Спрабаваў і ўсё ніяк не мог прыгадаць. Ён злаваў на сябе, яшчэ больш на Альберта Сцяпанавіча, злаваў за тую перавагу, якую калега пачаў раптам аддаваць нейкай незнаёмай жанчыне, міжволі ставячы гэтым яе куды вышэй іх інтэлектуальнай, чыста мужчынскай кампаніі. Альберт Сцяпанавіч прыходзіў дадому пад самую раніцу, калі Юрась салодка спаў. Асцярожна, стараючыся не разбудзіць маладога калегу, праходзіў у свой пакой і, здаецца, усё ж клаўся ў ложак, каб падрамаць хоць якую гадзіну-паўтары. Потым, ужо раніцай, Альберт Сцяпанавіч, заўсёды ветліва пагрукаўшы, заходзіў у пакой да Юрася, весела з ім вітаўся, гасцінна запрашаў да сябе на кубачак ранішняй кавы... Злосць і раздражненне неяк адразу ж праходзілі. Юрась ішоў у госці (у суседні пакой), альбо запрашаў суседа да сябе, яны разам снедалі, потым ішлі ў школу, а па дарозе Альберт Сцяпанавіч, як і заўсёды, расказваў Юрасю нешта вясёлае альбо вельмі цікавае...

І як заўсёды, раз'юшаны Казбек з шалёным брэхам ды рыканнем правяраў надзейнасць новага ланцуга, калі яны, размаўляючы, павольна праходзілі паўз нізкі, паўразбураны плот пенсіянера Давыдыча...

Неяк, ужо ў сярэдзіне красавіка, настаўніца пачатковых класаў, якая даўно пакінула марную надзею ахмурыць Альберта Сцяпанавіча, зноў па сакрэце паведаміла Юрасю чарговую «навіну».

— А ты ў курсе, што твой сусед амаль кожную ноч у Забалоцце швэндаецца? — шэптам спытала яна, і вочы настаўніцы за тоўстымі шкельцамі акуляраў загадкава бліснулі. — А ведаеш чаго?

— Не ведаю! — адказаў Юрась адразу ж на другое пытанне. — А вы ведаеце?

Вочы настаўніцы пачатковых класаў зноў загадкава бліснулі.

— Я здагадваюся!

Забалоцце было самай бліжняй да іх вёскай. Знаходзілася кіламетрах у чатырох ад Навасельцаў, і мяжой паміж вёскамі быў лес, які пачынаўся непадалёк ад іхняга дому. Дык вось чаму ніхто ў Навасельцах нічога не ведае пра амурныя сувязі новага настаўніка!

— Ну, і чаго ён туды ходзіць? — крыху іранічна спытаў Юрась. — Дакладней, да каго?

Замест адказу настаўніца толькі ўсміхнулася. Загадкава і, адначасова, вельмі ўжо непрыемна.

— Слухай, а ён да цябе ніколі не прыставаў? — спытала раптам яна.

— Не зразумеў!

Юрась і сапраўды не зразумеў пытання. Дакладней, зразумеў не адразу, а калі, нарэшце, дапетрыў ягоную сутнасць, адчуў, што чырванее. Гэтага яшчэ не хапала!

— Ну, чаго так глядзіш? — зашаптала па-змоўніцку настаўніца шэптам. — Ты што, не зразумеў яшчэ, што ён — гей? Ведаеш, да каго ён у Забалоцце швэндаецца?

Юрась тарганууся так, нібыта яго толькі што выцялі пад дых. Нейкае імгненне ён моўчкі глядзеў на мокрыя, ярка нафарбаваныя вусны настаўніцы, потым падняў вочы крыху вышэй і іх позіркі сустрэліся. Мабыць, настаўніца-пачаткоўка штосьці прачытала ў яго позірку, спалохана адхіснулася ад Юрася.

— Настасся Філіпаўна! — суха і афіцыйна прагаварыў Юрась (а хутчэй і не Юрась ужо, а самы сапраўдны Юрый Мікалаевіч). — Па-першае, папрашу вас звяртацца да мяне толькі на «вы», калі гэта не асабліва цяжка! Па-другое, не трэба разносіць па школе ўсіх брудных плётак, якія падказвае вам хваравітая фантазія! Майце на ўвазе: калі гэта паўторыцца яшчэ хоць раз — я вымушаны буду падаць на вас дакладную дырэктару!

І, рэзка крутануўшыся, Юрась пайшоў прэч, пакінуўшы субяседніцу ў аслупянелым стане і з шырока разяўленым ротам...

Паставіўшы такім чынам на месца Настассю Філіпаўну (і нажыўшы ў яе асобе лютага ворага), Юрась тым не менш задумаўся над пачутымі словамі. Яны, дарэчы, многае тлумачылі: і занадта ўжо ласкавыя, амаль што бацькоўскія адносіны Альберта Сцяпанавіча да малодшага калегі (хоць і намёку на нейкую там непрыстойнасць Юрась ад яго ніколі не чуў), і частыя змены месца жыхарства... ды і ягоныя таямнічыя паходы па начах. Хоць у гэтым выпадку магла існаваць і жанчына...

Ці не магла?

Юрасю міжволі ўспомніліся паводзіны Альберта Сцяпанавіча на нячастых у апошні час школьных сабантуях, ягонае заўсёды падкрэслена-ветлівае і, адначасо-

ва, нейкае надта халодна-абыякавае абыходжанне з настаўніцамі-жанчынамі, якія намякалі калегу пра свае жаданні больш блізкага з ім знаёмства. У адну з маладых настаўніц Юрась і сам быў амаль што закаханы (праўда, дама ягонага сэрца пра гэтую закаханасць нават і не падазравала). Вельмі крыўдна было глядзець, як жанчына, якая табе падабаецца, аддае перавагу іншаму, нават навязвае сябе яму. Гэтую юнацкую крыўду Юрася крыху змякчала тое, што сам Альберт Сцяпанавіч заставаўся абыякавым да ўсіх без выключэння калег процілеглага полу...

Дык што, можа, ён і сапраўды з геяў?

І як, дарэчы, можна адрозніць іх ад гетэрасексуальных мужчын?

Першая думка, якая прыйшла Юрасю ў галаву, была пра нейкія там ўпрыгожанні ў вушах, якія ў такіх людзей абавязкова павінны прысутнічаць. Нічога падобнага ў Альберта Сцяпанавіча не мелася, у яго быў толькі пярсцёнак на безымянным пальцы левай рукі, масіўны такі пярсцёнак з чыстага золата ды яшчэ і з нейкім каштоўным каменем чырвонага колеру, хутчэй за ўсё, рубінам. Яшчэ ягоны адэкалон меў нейкі нязвычны пах. Не тое, каб непрыемны... проста — нязвыклы. Але ні пярсцёнак, ні пах адэкалону нічога не даказвалі. Ды і без усялякага гэтага «яшчэ»... яны проста нічога не даказвалі. Нічога!

А ўвечары гэтага ж дня, пасля адной шахматнай партыі (у якой Юрась змог пратрымацца аж да дваццаць другога ходу!), Альберт Сцяпанавіч устаў, папрасіў у партнёра прабачэння за неабходнасць адкланяцца і пайшоў у свой пакой. Праз нейкі час ён выйшаў адтуль ужо ў куртцы, потым ягоны высокі сілуэт прамільгнуў паўз акно... і Юрась зноў застаўся на ўвесь вечар у поўнай адзіноце.

Не ведаючы, навошта ён гэта робіць, хлопец таксама таропка сарваў з вешалкі куртку і, накінуўшы яе на плечы, выбег на двор. Падышоўшы да плота, ён змог разгледзець у густым паўзмроку цёмны сілуэт Альберта Сцяпанавіча. Той і сапраўды падаўся ў бок Забалоцця і ўжо амаль падыходзіў да лесу... Як у астатнім, а ў гэтым Настасся Філіпаўна не схлусіла.

Дык можа, і ва ўсім астатнім яна таксама мела рацыю?

— Гэй, вучыцель!

Юрась азірнуўся.

Напрасткі, праз раскіслы гразкі гарод, да яго набліжаўся Давыдыч. Ён заўсёды клікаў Юрася «вучыцелем», калі прыходзіў пазычаць грошы. Гэта здаралася нячаста, пазычаў Давыдыч няшмат, так, на бутэльку-другую, пры тым абяцаючы вярнуць грошы ўжо на наступны дзень. Юрась грошы даваў, хоць ведаў, што ні ў наступны дзень, ні праз тыдзень, грошы вернуты не будуць. Давыдыч вяртаў пазыку праз паўмесяца, наступныя паўмесяца да Юрася з просьбамі не падыходзіў, але затым усё паўтаралася зноў з зайздросным пастаянствам.

Так што нечаканаму з'яўленню Давыдыча Юрась не вельмі і здзівіўся. Хоць усяго толькі на мінулым тыдні сусед узяў чарговую пазыку «да заўтра» і, зразумела, назад яшчэ не вярнуў...

— Паслухай, вучыцель!

Давыдыч ужо набліжаўся да плота. Бачылася, што ён паспеў дзесьці добра прыкласціся да бутэлькі.

«Гэта ўжо нахабства! — міжволі падумалася Юрасю. — Можа, не даваць? Сказаць, што няма...»

Але хлусіць Юрась зусім не ўмеў і сам выдатна разумеў гэта. Таму проста стаяў і чакаў.

Але, як высветлілася, Давыдыч ішоў не па грошы. Падыйшоўшы, ён спыніўся,

нейкі час маўчаў, гледзячы сабе пад ногі, потым прагаварыў нешта хутка і невыразна... Юрась змог разабраць толькі слова Казбек.

— Што, Казбек? — перапытаў ён. — Здох?

— Ды хай бы ён здох лепш! — ужо на поўны голас прагаварыў Давыдыч і смачна вылаяўся. — Сарваўся, каб яго...

— Зноў?! — Юрась міжволі трывожна азірнуўся вакол. — Ланцуг?

— Ашыйнік! — буркнуў Давыдыч і зноў вылаяўся. — Хацеў жа тады застрэліць... дык не ж, пашкадаваў на сваю галаву!

— І дзе ён цяпер? — спытаў Юрась, усё яшчэ азіраючыся па баках.

— А хто яго ведае! Гойсае недзе!

Давыдыч сплюнуў, павярнуўся і цяжка затупаў назад. Ужо падыходзячы да сваёй аблезлай хаціны, ён спыніўся, павярнуўся да Юрася.

— Я, гэта... да таго, вучыцель, што лепш бы вам пакуль, гэта... з хаты не асабліва выходзіць! Пакуль я яго, гэта... не паймаю, заразу. Ён, праўда, у мінулы раз нікога з людзей не зачапіў, але... хто яго ведае! Так што вы лепш пасядзіце пакуль там. І суседу свайму таксама скажыце...

«Дык ён жа пайшоў! — апякла Юрася трывожная думка. — Пайшоў, ні пра што не падазраючы! І што ж мне рабіць?»

А ўжо зусім сцямнела. І дзесьці ў гэтай цемры гойсаў па вёсцы страшны Казбек, і ў любы момант ён мог апынуцца тут, побач з Юрасём.

Ад адной толькі думкі Юрася імгненна кінула ў пот. Казбек важыў, здаецца, больш за самога Юрася і куды лепш за апошняга валодаў навыкамі бліжняга бою. Так што нечаканая сустрэча з ім не абяцала юнаку нічога добрага.

Апынуўшыся ў сваім пакоі Юрась крыху супакоіўся. Ён бы супакоіўся канчаткова, калі б не неадвязная думка пра Альберта Сцяпанавіча. Праўда, ён звычайна вяртаўся дадому толькі пад самую раніцу, але дзе гарантыя, што да гэтага часу Казбека зловіць гаспадар! І дзе, дарэчы, гарантыя, што гаспадар у стане хоць кагосьці лавіць!

«Патэлефанаваць яму, ці што? Не Давыдычу, вядома ж, а Альберту Сцяпанавічу…»

Юрась выцягнуў з кішэні мабільнік, але ўспомніў, што калега па працы і кватэры мабільніка не мае. Не прызнае ён чамусьці сотавай сувязі…

Не распранаючыся, Юрась прылёг на канапу. Ён так і не вырашыў, што ж рабіць далей, і прылёг з адзінай толькі мэтай: прывесці ў нейкі парадак узрушаныя думкі. І, як заўсёды ў такіх выпадках, непрыкметна для сябе самога задрамаў і прачнуўся зноў, калі гадзіннік на сцяне паказваў амаль палову чацвёртага ночы.

Ускочыўшы з канапы, Юрась першай справай кінуўся ў суседні пакой, які аказаўся пустым. Альберт Сцяпанавіч пакуль не вярнуўся са свайго чарговага спаткання. Магчыма, ён быў яшчэ ў таямнічай каханкі (ці каханка?), магчыма, ужо вяртаўся адтуль дадому... і гэтак жа магчыма, што ляжаў дзесьці ў цемры, паступова сцякаючы крывёю...

Апошняя думка надала Юрасю рашучасці, і ён, апрануўшыся і прыхапіўшы з сабою кішэнны ліхтарык, зноў выйшаў на двор. І адразу ж спыніўся, прыслухваючыся.

Але вакол было ціха. Не брахалі сабакі, што было доказам: Казбека ў вёсцы няма. Ці, можа, ён ужо на ланцугу?

— Казбек! — амаль шэптам выгукнуў Юрась, падышоўшы ўшчыльную да плота і марна ўглядваючыся ў цьмяна асветлены месяцам двор суседа. — Казбек!

Штосьці варухнулася злева, Юрась імгненна азірнуўся і ледзь не абамлеў.

Казбек стаяў зусім побач і ўважліва глядзеў на юнака.

— Казбек! — прашаптаў Юрась, адчуваючы, як імгненна перасохла ў роце, якімі ватнымі і непаслухмянымі зрабіліся ногі. — Харошы сабачка! Малайчына!

Некалькі кароткіх імгненняў, якія здаліся Юрасю вечнасцю, аўчарка працягвала моўчкі і з цікавасцю разглядваць Юрася, потым яе калматы хвост слаба варухнуўся. Яшчэ імгненне... і Казбек нібы растварыўся ў цемры ночы...

«Фу, пранесла, здаецца!»

Юрась машынальна выцер рукавом потны твар і расшпіліў куртку, хоць асаблівай цеплыні на вуліцы не назіралася. Наадварот, нягледзячы на самы канец красавіка, ночы стаялі даволі халодныя.

«А што далей?»

Казбек не кінуўся на Юрася, як гэта ні дзіўна... Але ці не зменяцца ягоныя паводзіны пры сустрэчы з Альбертам Сцяпанавічам?

Хлопец, пасля нядоўгіх ваганняў, хутка пакрочыў да лесу, які аддзяляў Навасельцы ад Забалоцця. Ліхтарык ён засунуў у кішэню курткі, бо месячнага святла хапала, каб арыентавацца на мясцовасці. Ён ішоў хутка, пільна ўглядваючыся ў далячынь.

А вось і лес!

Лес быў даволі вялікім і змрочным (мінулым летам Юрась некалькі разоў хадзіў сюды па грыбы і аднойчы ледзь выбраўся), але тут, ля дарогі, быў толькі самы ягоны ўскрайчык. Асноўны ж масіў знаходзіўся справа ад Юрася, а злева раслі толькі кусты. Мінулым летам тут саспела шмат малін. Далей, за кустамі, пачыналася балота, вялізнае і амаль непраходнае. Гэтае балота называлася Змяіным, і пра яго па вёсцы хадзілі розныя чуткі: неверагодныя, фантастычныя…

Юрась наведваўся ў суседнюю вёску даволі часта (і як класны кіраўнік, ды і па іншых школьных справах), але ўпершыню ішоў сюды ноччу. І лес, якога ён раней амаль што не заўважаў, цяпер, у падманлівым месячным асвятленні, выглядаў пагрозліва. Стараючыся як мага хутчэй з яго выбрацца, Юрась міжволі паскорыў крок.

І раптам спыніўся, нібыта аслупянелы.

Злева, з трэскам прабіваючыся праз кусты, да дарогі хтосьці набліжаўся. Нейкі масіўны звер. Прычым, рухаўся ён у напрамку да Юрася.

«Дзік! — міжволі падумалася хлопцу. — Хутчэй за ўсё, дзік!»

Дзікі ў лесе вадзіліся і ў немалой колькасці.

«Ці, можа, воўк?»

Ваўкі таксама сустракаліся ў ваколіцах вёскі, праўда, ніякай шкоды вяскоўцам пакуль не рабілі. Ды і не мог воўк ламіцца праз кусты з такім жудасным трэскам...

«Значыць, усё ж дзік?»

А невядомая жывёліна між тым выбралася на дарогу непадалёк ад аслупянелага ад жаху настаўніка, спынілася і павярнулася ў ягоны бок.

І быў гэта не дзік!

І не воўк!

Толькі ў вар’яцкім сне можна было ўявіць жывёліну, якая стаяла ўсяго ў некалькіх кроках ад Юрася. Гэта была пачвара, самая сапраўдная пачвара, крыху падобная да вялікай гіены. Але занадта выцягнутая морда істоты хутчэй нагадвала пашчу кракадзіла, а блізка пасаджаныя, круглыя вочы свяціліся чырванаватым і злавесным святлом. І адразу ж юнаку ўспомніліся ўсе байкі пра Змяінае балота, якія ён чуў ад вяскоўцаў...

Тады ён толькі смяяўся над усімі росказнямі. Цяпер жа...

«Гэтага не можа быць! — імгненна прамільгнула ў галаве Юрася выратавальная думка. — Гэта ўсё ж дзік... месячнае святло так яго скажае...»

А невядомая істота рушыла ў бок Юрася. Яна набліжалася ў поўным маўчанні. Зразумеўшы, нарэшце, што ніякі гэта не дзік, Юрась пачаў павольна адступаць, адыходзіць назад. Але, зачапіўшыся нагой за камень, грымнуўся на зямлю. І закрычаў ад жаху... Дакладней, хацеў закрычаць, але з перасохлай глоткі вырвалася толькі слабае сіпенне... Істота ў адказ вантробна і неяк жаласна застагнала, а потым адбылося самае жудаснае! Яна ўзнялася на заднія лапы і, задраўшы ў неба пачварную морду, завыла. У такім становішчы істота гэтая ўжо не нагадвала гіену, а хутчэй, мядзведзя ці велічэзную малпу. Толькі яна не была ні малпай, ні мядзведзем, а была жудасным параджэннем балота і несла Юрасю смерць...

У гэты момант штосьці вялікае і цёмнае пранеслася побач з юнаком: ён не адразу пазнаў Казбека. Яшчэ імгненне, і аўчарка кінулася на балотную пачвару, адразу ж счапіўшыся з ёй у адзіны, шалёна-рыкаючы клубок.

Не маючы сіл узняцца і ўцячы, Юрась толькі моўчкі назіраў за смяротным паядынкам, які працягваўся хвіліны дзве-тры, але яны падаліся настаўніку вечнасцю. Нарэшце, жудасная істота рынулася прэч, з трэскам ламаючы кусты і жаласна падвываючы. Казбек падаўся было следам, але спыніўся і павярнуў у бок Юрася.

— Казбек! — слабым голасам паклікаў аўчарку юнак. — Ідзі да мяне, Казбек!

Ён не ведаў, паслухае яго Казбек ці не, але сабака адразу ж падышоў да Юрася. Спыніўшыся побач, абнюхаў хлопца і лізнуў у шчаку.

— Казбек! — словы даваліся Юрасю з цяжкасцю, ён нібыта выпіхваў іх з сябе, павольна, па адным. — Малайчына, Казбек! Харошы сабака!

Ён ужо не баяўся Казбека і не разумеў цяпер, як мог баяцца на працягу амаль што двух гадоў. Працягнуўшы руку, Юрась пагладзіў аўчарку па густой, зблытанай поўсці, і Казбек, здаецца, нічога не меў супраць такога вольнага з ім абыходжання. Ён зноў лізнуў Юрася ў шчаку і лёг побач, цяжка і часта дыхаючы. А Юрась, правёўшы рукой па спіне аўчаркі, адчуў пад пальцамі штосьці вільготнае і ліпкае...

— Ты паранены, Казбек? — устрывожаны Юрась пачаў аглядаць сабаку, але, акрамя невялікай крывавай плямiны на спіне, ніякіх іншых пашкоджанняў аўчарка, здаецца, не атрымала. — Пойдзем дадому!

Ён устаў, і аўчарка таксама ўскочыла з зямлі разам з ім. Штосьці ўпала, зазвінеўшы пад нагамі... Юрась, нахіліўшыся, доўга шукаў гэтае «штосьці». А знайшоўшы — моцна сціснуў у руцэ...

— Ідзём, Казбек!

І яны пайшлі.

Ісці прыйшлося павольна, бо Казбек моцна кульгаў. Пашкоджанні ён атрымаў усё ж больш сур'ёзныя, чым думалася Юрасю. Калі яны падышлі да дому Давыдыча, вакол ужо амаль развіднела, а ў адным акне пенсіянера гарэла святло.

Юрась асцярожна пагрукаў у шыбіну, пачакаў крыху і пагрукаў ужо мацней. У хаце адразу ж штосьці ўпала, а праз якую хвіліну Давыдыч стаяў на ганку.

— Вучыцель, ты?! — насцярожана спытаў ён, потым, пэўна, разгледзеўшы каля ног Юрася Казбека, спалохана вохнуў і кінуўся да іх.

— Усё нармальна! — супакоіў яго Юрась. — Мы з ім цяпер сябры!

— Сябры?! — Давыдыч з недаверам паглядзеў на аўчарку, потым перавёў погляд на Юрася. — Сябры?! — зноў спытаў ён. — Вы з ім?

Юрась кіўнуў. А Давыдыч, прыйшоўшы ў сябе, схапіў аўчарку за калматы загрывак і, смачна вылаяўшыся, пацягнуў да будкі. Казбек не супраціўляўся.

— Ён паранены! — крыкнуў пенсіянеру Юрась. — Вы асцярожней!

— Паранены?! — Давыдыч нахіліўся, уважліва паглядзеў на Казбека. — Ага, нарваўся нарэшце! Не ўсё табе драць!

— Вы ветэрынара паклічце! — параіў Юрась, але Давыдыч толькі адмоўна крутануў галавой.

— Чорт яго не схопіць! А здохне — туды яму і дарога!

Юрась і сам разумеў, што калгасны ветэрынар і блізка не падыдзе да Казбека. Таму ён толькі ўздыхнуў і накіраваўся дадому.

— Гэй, вучыцель! — зноў пачуўся ў яго за спінай хрыпаты голас Давыдыча.

Юрась азірнуўся.

Казбек ляжаў каля будкі, а Давыдыч ужо стаяў на ганку.

— Слухай, а вазьмі яго сабе!

— Што? — не адразу зразумеў Юрась.

— Вазьмі яго сабе! — зноў паўтарыў Давыдыч. — Так аддам, без нічога!

Юрась нейкі час моўчкі глядзеў на Давыдыча, потым перавёў позірк на Казбека. Аўчарка ляжала ля будкі, паклаўшы галаву на лапы і, здаецца, драмала.

— Дык як, бярэш? — без усялякай ужо надзеі спытаў Давыдыч.

— Бяру! — адказаў Юрась. — Але не цяпер. Праз некалькі дзён. Добра?

Давыдыч пацiснуў плячамі. Бачна было, што ён не надта паверыў маладому настаўніку.

— Ну, потым дык потым!

І падаўся ў дом, гучна грукнуўшы за сабой дзвярыма. А Юрась павярнуў да свайго дому, а, увайшоўшы туды, адразу ж накіраваўся ў пакой Альберта Сцяпанавіча, тым больш, што там ужо гарэла святло.

— Можна? — ветліва спытаў ён. Хоць гэтае пытанне было залішнім, бо Юрась увайшоў ужо ў пакой і спыніўся каля самых дзвярэй.

Альберт Сцяпанавіч стаў да яго спінай і штосьці складваў у чамадан, які ляжаў на ложку. Пачуўшы голас Юрася, ён імгненна павярнуўся да юнака, і нейкі час яны моўчкі глядзелі адзін на аднаго.

Альберт Сцяпанавіч вельмі змяніўся за тыя некалькі гадзін, што яны не бачыліся. Схуднелы да непазнавальнасці твар быў нібыта абцярушаны мелам, на лобе і правай шчацэ мелася некалькі глыбокіх драпін, а левая рука няўмела абматана скрываўленым ручніком, і крыві на ручніку было шмат. Вельмі шмат...

— Гэта ваш?

У працягнутай руцэ Юрася цьмяна пабліскваў залаты пярсцёнак з рубінам. Юрась працягваў пярсцёнак Альберту Сцяпанавічу, але той, не зрушыўшы з месца і не варухнуўшыся, проста глядзеў. Доўга глядзеў...

— Чортаў сабака! — прамовіў ён ледзь чутна.

— Ён выратаваў мне жыццё! — прамовіў Юрась і, падышоўшы да стала, паклаў на яго пярсцёнак. — А вы што, кудысьці збіраецеся?

Не адказваючы, Альберт Сцяпанавіч павярнуўся да ложка і зноў пачаў складваць у чамадан раскіданыя па ўсёй коўдры кнігі ды адзенне.

— Дык вось чаму вы так часта мяняеце месца жыхарства, — павольна прагаварыў Юрась, гледзячы ў спіну Альберту Сцяпанавічу. — З-за гэтага?

Плечы Альберта Сцяпанавіча раптам уздрыгнулі быццам ад удару, а потым неяк разам апусціліся. Ён так і застыў у нахіленай позе над расчыненым чамаданам,

а Юрась, па-ранейшаму не зводзячы з суседа пільнага позірку, адчуў нечакана для сябе самога незразумелы жаль да гэтага дзіўнага, загадкавага і, здаецца, вельмі няшчаснага чалавека. Не агіду, не гнеў, не нянавісць, а менавіта жаль...

— Мне шкада, што ўсё так атрымалася! — ціха прагаварыў ён. — Праўда, шкада!

— Мне таксама!

Альберт Сцяпанавіч зноў павярнуўся да Юрася і паглядзеў на яго нейкім зацкаваным позіркам.

— Я не хацеў, каб так атрымалася! — хрыпла прагаварыў ён, апускаючыся на ложак. — Ты мне верыш?

Юрась кіўнуў.

— Я спецыяльна забіваўся ў глыбіню лесу, у самы гушчар. Я нават спрабаваў прывязваць сябе да дрэў, але гэта нічога не давала. Амаль нічога...

Ён змоўк і, абхапіўшы правай рукой пакалечаную левую, пачаў яе гушкаць нібыта немаўлятка. Напэўна, яна вельмі балела.

— Куды вы збіраецеся? — спытаў Юрась, не зводзячы з Альберта Сцяпанавіча ўважлівых вачэй. — Заставайцеся!

Альберт Сцяпанавіч нічога не адказаў.

— Заставайцеся! — паўтарыў Юрась. — Я буду маўчаць!

— Не ў гэтым справа! — уздыхнуў Альберт Сцяпанавіч, уздымаючыся з ложка. — Зусім не ў гэтым!

І ён зноў пачаў пакаваць чамадан. Потым зачыніў яго і апусціў на падлогу. Толькі цяпер Юрась заўважыў, што заплечнік Альберта Сцяпанавіча стаіць каля сцяны і ён таксама сабраны.

Перахапіўшы позірк Юрася, Альберт Сцяпанавіч зноў уздыхнуў. Потым з дапамогай адной толькі правай рукі, пачаў апранаць куртку, а затым нацягваць на плечы цяжкі рукзак. Рабіў ён гэта марудна і даволі няўклюдна... Юрась разумеў, што трэба дапамагчы, але так і не рашыўся аказаць Альберту Сцяпанавічу гэтую дапамогу.

Потым Альберт Сцяпанавіч нахіліўся і падхапіў чамадан правай рукой.

— Ну вось і ўсё! — прагаварыў ён, стараючыся не сустракацца позіркам з Юрасём. — Тут засталося сёе-тое, але яно мне не патрэбна. Вазьмі сабе, калі пажадаеш...

— А школа?! — раптам успомніў Юрась. — Што сказаць у школе?

Альберт Сцяпанавіч толькі пацiснуў плячыма.

— Там жа абавязкова запытаюцца! Што мне ім сказаць?

Альберт Сцяпанавіч паглядзеў на Юрася.

— Скажы ім... скажы лепш, што не бачыў, куды я падзеўся зранку. А ўрэшце, ім потым патэлефануюць з аддзела адукацыі. Я зазірну туды пасля, як наведаю паліклініку...

— Я вас праводжу? — прапанаваў Юрась, але Альберт Сцяпанавіч адмоўна матлянуў галавой.

— Не трэба!

І зноў яны змоўклі, і няёмкае гэтае маўчанне доўжылася некалькі хвілін.

— Ён прывязаны? — спытаў раптам Альберт Сцяпанавіч, і Юрась адразу ж здагадаўся, што размова ідзе пра Казбека.

— Прывязаны, — адказаў Юрась і, памаўчаўшы крыху, дадаў: — Ён таксама паранены. І даволі моцна.

Нічога не гаворачы, Альберт Сцяпанавіч павярнуўся і пайшоў да дзвярэй. Ён ужо выходзіў з пакоя, калі Юрась заўважыў на стале пярсцёнак.

— Пачакайце! — крыкнуў ён і, схапіўшы ўпрыгожанне, падбег да Альберта Сцяпанавіча. — Вы забыліся!

Яго ўразіў жах, які адбіўся на твары Альберта Сцяпанавіча, калі той павярнуўся і паглядзеў на пярсцёнак. Але гэта доўжылася кароткае імгненне, потым твар настаўніка зноў стаў ранейшым.

— Дзякуй! — глуха прагаварыў ён, хаваючы пярсцёнак у кішэню курткі. — Вялікі дзякуй! За ўсё!

Ён выйшаў з пакоя, і Юрась услед за ім. Ужо адчыніўшы ўваходныя дзверы, Альберт Сцяпанавіч зноў спыніўся, павярнуўся да Юрася.

— І апошняя парада, — сказаў ён ціха. — Самая апошняя. Пастарайся менш думаць пра тое, што адбылося сёння ноччу. Так будзе лепш для цябе.

— Чаму? — нечакана для сябе самога, спытаў Юрась. — Чаму так будзе лепш?

Альберт Сцяпанавіч адказаў не адразу. Нейкі час ён толькі моўчкі глядзеў на Юрася, нібыта стараўся назаўсёды захаваць ягонае аблічча ў сваёй памяці.

— Разумееш, — прагаварыў нарэшце, і голас ягоны прагучаў на здзіўленне мякка, прыкладна так размаўляў Альберт Сцяпанавіч з Юрасём падчас бясконцых вечаровых гутарак і шматлікіх шахматных паядынкаў за нязменным кубачкам гарбаты. — Магчыма, гэта здасца табе не зусім верагодным, але ў нашай рэчаіснасці існуе нябачная мяжа, якую чалавеку ніяк нельга пераходзіць. Больш таго, чалавеку блізка нават нельга набліжацца да жудаснай гэтай мяжы!

Ён змоўк.

— І што гэта за мяжа? — спытаў Юрась, хоць разумеў, што адказу не будзе.

Так і адбылося. Альберт Сцяпанавіч нічога не прамовіў, а павярнуўся і моўчкі выйшаў з хаты.

На вуліцы было ўжо зусім светла і, падбегшы да плота, Юрась доўга глядзеў услед Альберту Сцяпанавічу. Калі той праходзіў паўз хату Давыдыча, Юрась падсвядома чакаў лютага сабачага брэху, але Казбек чамусьці нават не гаўкнуў ані разу. Магчыма, спаў...

Юрасю вельмі хацелася спадзявацца на тое, што Казбек проста спаў у гэты самы момант. Проста спаў і нічога больш...

*Вера МІХНО*

# ЗАНЯТАЙ БЫЦЬ — ВОСЬ АСАЛОДА!



**_Вера Міхно нарадзілася 13 снежня 1955 года ў вёсцы Чэрцы Лепельскага раёна. Працуе ўрачом у Мінскай цэнтральнай раённай бальніцы. Друкавалася ў часопісе «Маладосць», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Аўтар паэтычнай кнігі «Крык спуджанай птушкі»._**

* * *

Як у маці ў абдымках,
з маленства душой спачываю
Сярод красак у лузе, на мяккай самлелай траве.
Лёгкі ветрык даносіць мне спевы птушыныя з гаю,
І вяночак з рамонкаў красуецца на галаве.

Жоўтым вокам рамонка здаецца паўдзённае сонца,
І пялёсткаў-аблокаў вакол яго россып ляжыць.
Быццам хто закаханы і там: у сусвеце бясконцым
Спрабаваў на пялёстках рамонкаў сабе варажыць.

* * *

Цямнее неба, гасне на зыходзе дня,
Зямля паволі бок ад сонейка адверне.
Пухнаты, жоўты месяц, быццам кураня
Сярод рассыпанага зоркавага зерня.
Інтымна між сабою шэпчуцца лісты,
Чаромхі пах салодкі, моцны, быццам кава.

Свае абдымкі раскрываеш моўчкі ты
І да грудзей мяне прытульваеш ласкава.

* * *

Лячу на спатканне,
Нібыта на крылах.
Вярнула каханне
Жыццёвыя сілы.

Другой маладосці
Чакаючы, мару.
Ва ўсякім узросце
Каханне да твару!

* * *

Будуем, ствараем натхнёна, з уздымам.
Каменныя гмахі падперлі аблокі.
І дыхае неба атручаным дымам,
І п'е акіян каламутныя сцёкі.

На месцы вясёлкі, зары, бліскавіцы
Жахлівым прывідам мне мрояцца ўночы
Азонавых дзірак пустыя вачніцы,
Нібы груганы з іх павыдзеўблі вочы.

* * *

Дождж уліў, асвяжыў,
Абыякавасць змыў,
Узбадзёрыў ды вымусіў бегчы.
Не бяру парасон —
Ён ад Неба заслон —
Хай жыццё ў твар струменямі плешча.

* * *

У вечным імкненні
жыццё павярнуць, як жадаем,
Прымаем рашэнні,
плануем і вобраз ствараем.
Мы ловім імгненні
з надзеяй, што іх утрымаем…

* * *

Хоць прыгажосць — падарунак ад неба,
Толькі залежнасць канкрэтная ёсць:
Каб заставацца прыгожай — патрэбны
Той, хто пацвердзіць тваю прыгажосць.

* * *

Неба чыстае. Зорная поўнач.
Як на сподку святочна-вясёлым,
Жаўтаватая з плямкамі поўня,
Быццам сыру дзірчастага кола.

* * *

Дзяцей пяшчотай атуліць,
З унукамі падмаладзіцца.
Жанчына старыцца, калі
Няма аб кім ёй клапаціцца.

І ў пяцьдзясят твар малады,
А вушы слухаюць прызнанне.
Жанчына старыцца тады,
Як абышло яе каханне.

Патрэбнай быць усім, заўжды,
Занятай быць — вось асалода!
Не праца старыць, не гады,
Жанчыну старыць адзінота.

*Алёна БЕЛАНОЖКА*

# ЧАМАДАН З КРАКАДЗІЛАВАЙ СКУРЫ*

## *Аповесць*

На пад'ездзе да прадзюсарскага цэнтра Аліна раптам акругліла вочы і закрычала:

— Святыя святочкі, я ж забылася пра нашага юрыста! Міхала Барысавіча!

— Ці не той гэта Міхал Барысавіч… — Ганна паглядзела на Аліну.

— Той самы, твой былы! Дзякуй табе, дарэчы, за тое, што ты мне яго тады аддала. Праўда, гэты сукін сын мяне ў ложку называў выключна Ганначкай, таму хутка перастаў атрымліваць допуск да цела. Але ж лоер ён вельмі добры, хітры, як вужака. З былымі палюбоўнікамі працаваць — адна асалода: яны нічога з сябе не строяць, бо я дакладна ведаю іх фізіялагічныя памеры і магчымасці.

— Дык што з Міхалам?

— Ён у Гомелі знік і на званкі не адказвае! Сёння такі файны дзянёк — усе знікаюць. Дзе ён можа быць? Робім вашыя стаўкі, працуе таталізатар!

— У бункеры? — спыталася Таня.

— Ведаеш, — сказала Ганна, — я б на месцы вашых загадкавых выкрадальнікаў не стала б везці юрыста з Гомеля ў Брэст. Дужа далёка, ды і навошта збіраць такі натоўп блізкіх таварышаў разам? Калектыў — ён жа моцны колькасцю людзей, не затопчуць — дык заплююць.

— Як думаеш, дзе ён?

— Ды ў Мінску трэба шукаць.

Аліна павярнулася да Тані:

— Таня, ты запомніла адрас, па якім адвозіла чамадан?

— Запомніла. Гэта тут, недалёка, пара кварталаў. Там яшчэ такія руіны побач, ці то нешта зносяць, ці то будуюць…

— Кіруемся туды!

Аліна папрасіла вадзіцеля праехаць крыху наперад і спыніла аўто:

— Усё. Далей пехам, каб не прыцягваць увагі.

— Паслухай, Алінка, там жа, напэўна, паўнютка ахоўнікаў, відэаназіранне, мы ў той будынак і не забяромся, а як забяромся, то цябе і Таню адразу ж пазнаюць — ці не так? — гаварыла Ганна, выходзячы з машыны. — І якая ж тут непралазная слацень!

— Ды пачакай ты, — Аліна зацягнула Ганну назад у салон, — куды лезеш, уся перапэцкалася. Вось я вас, дзяўчаткі, як жанчын пытаюся: што можа прымусіць сур'ёзных мужчын страціць галаву і ўпусціць у закрытую ўстанову трох абсалютна незнаёмых сумніўных асоб?

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 7, 8, 9 за 2012 г.

Хлопцы, пабачыўшы сваіх паненак, анямелі. Аліна, што насіла толькі шырокія штонікі ў клетку ці ў палоску, Ганначка, якая аддавала перавагу шырокім спадніцам да зямлі, і Таня, што не трымала ў гардэробе анічога, акрамя джынсаў, цяпер сталі выглядаць выключна аднолькава. Яны апрануліся ў міні-спаднічкі з роду «шырокі рэмень», з-пад якіх выглядалі панчохі сеткай, і ў плямістыя штучныя футэркі. На нагах у дзяўчат блішчэлі лакавыя боты на высачэзных абцасах, таму нецвярозыя мадамачкі, захоўваючы раўнавагу, трымаліся адна за адну. Давяршалі модныя камплекты парыкі: на Аліне — чорны, на Ганначцы — руды, на Тані — белы, як вата. Мэйк-ап быў адпаведны: напамаджаныя вусны, нарумяненыя шчокі, чорная падводка на вейках. Таня нават намалявала «мушку» над верхняй губой.

Мужчыны выдыхнулі. Антон працёр акуляры і спытаўся:

— І з чаго вы так папрыбіраліся, га?

— Мы ўспомнілі, — Таня паказала на Аліну, — што ў нас згубіўся лоер. І вырашылі пашукаць яго там! У тым будынку.

— Будзем браць крэпасць штурмам! — падтакнула Ганначка і пахіснулася.

— А гэта, значыць, ваенная форма?

— Так! У супермаркеце прадавалася.

Косця паглядзеў на ножкі маладых паненак і сказаў:

— А можа, ну яго, і гэтага юрыста, і гэты бункер, паедзем у сауну?

— Не-не-не! — пагразіла пальцам Аліна, абцягваючы спаднічку. — Я сваіх людзей сам-насам з праблемамі не пакідаю. У мяне проста сэрца сціскаецца, калі я ўяўляю, як Міхала катуюць! Ён жа столькі ўсяго ведае!

— Так. Толькі ў такім выглядзе і гэткім стане мы вас туды не адпусцім! — заявіў Антон.

— А ў нас вось што ёсць!

Аліна раскрыла чырвоную кайстру ў стразах і прадэманстравала мужчынам некалькі газавых балончыкаў і электрашокераў.

— Вы за нас не хвалюйцеся. Тым больш, мы пойдзем не адны. Мы будзем проста адцягваць увагу. А вы праточыцеся ў будынак патаемным шляхам!

— Гэта якім?

Аліна перасмыкнула плячамі: маўляў, вы мужчыны, вы і вырашайце.

Дзіма агледзеўся і ўзрадаваўся:

— О, дарэчы. Амігас, я памятаю гэтае месца. Мы тут заданне выконвалі ў гульні «Кропкі»! І да таго будынка вядзе сістэма падземных камунікацый. Так што я вас правяду. А юрыст дакладна ўнутры?

Аліна ізноў перасмыкнула плячамі.

Дзяўчаты прабеглі два кварталы, абмінулі будынак, які з тыльнага боку выглядаў яшчэ больш злавесна, чым з параднага ўваходу. Аліна пачала настойліва ціснуць на клыпажок званка і махаць у камеру назірання. Ганначка з Таняй прыняліся таксама ганяць рукамі вецер.

— Што вам трэба? — раздаўся голас з дамафоннай рашоткі.

— Памажыце, упусціце, за намі гоняцца хуліганы! — заенчыла Аліна.

— Хто гэта? — спытаўся другі голас.

Першы адказаў яму:

— Вось, на экране паглядзі. Фіфачкі, адразу тры!

— Адкрывай, няхай уваходзяць.

— Але ж па інструкцыі…

— Гэта ў тваім жыцці ўсё добра: і інструкцыі правільныя, і жонка маладая, а ў мяне ўжо два месяцы бабы не было! Адкрывай, кажу!

Дамафон пікнуў, падаючы знак, што можна ўваходзіць. Дзяўчаты ўпырхнулі ў службовае памяшканне.

— Залятайце, матылёчкі. Хто вас так напужаў? — вусаты мужчына, якому на выгляд было каля сарака гадоў, захрумсцеў суставамі, размінаючы рукі.

Аліна схапілася за галаву:

— За намі гналася дзевяць чалавек, усе з нажамі, кніжкамі і п’яныя! Добра, што вы нам адчынілі, а то яны крычалі: «Стойце, дагонім вас і будзем вершы Хадановіча чытаць да раніцы!» Прыхільнікі творчасці паэта. Напэўна, хацелі нас у фан-клуб запісаць. А я, шчыра кажучы, увогуле вершы не люблю.

— А што ты любіш? — мужчына падкруціў вус і ўзяў Аліну за стан.

— Я люблю… вусатых мужчын! — Аліна пагладзіла яго па жываце.

— Ох-хо-хо! Гэй, ты, маладажон, пакліч там нашых, скажы, што забеглі тры коткі, няхай мужыкі ідуць сюды! — закрычаў мужчына.

— Вы не падганяйце работнікаў кілбаснага цэха, — усміхнулася Ганна. — Тыя, з кнігамі, сказалі, што ўсё роўна нас дачакаюцца, хоць да світанку будуць вакол будынка хадзіць.

— Так-так, — падтакнула Таня. — Вельмі ваяўніча настроеныя. Змагары за беларускае адраджэнне — яны такія! Каб толькі палатачны лагер не разбілі ў вас пад вокнамі, каб асадай узяць.

Мужчына ўважліва паглядзеў на Аліну:

— Дзе я мог бачыць твой твар?

— У мяне вельмі тыповы твар, усе кажуць, што недзе мяне бачылі. Але я цябе не памятаю: не абслугоўвала.

— Ну дык самы час пачынаць!

— Пакажы мне, дзе тут у вас прыбіральня, — прашаптала Аліна ў вуха ахоўніку і ўкусіла яго за мочку.

У канцы калідора з шэрымі сценамі мужчына спыніўся каля прыбіральні, прапусціў Аліну наперад, замкнуў памяшканне і падышоў да дзяўчыны:

— Хадзі сюды!

Тая адкрыла сумачку:

— Пачакай, у цябе ж няма, напэўна, ты непадрыхтаваны, я ў сябе знайду такую штучку, каб у мяне потым не нарадзіліся вусатыя дзеткі… Адвярніся, мне трэба нешта па-жаночы зрабіць!

Вусаты ахоўнік адвярнуўся і адразу атрымаў моцны электрычны разрад.

Аліна ўцягнула мужчыну ў адну з кабінак, паваліла на ўнітаз, зачыніла кабінку знутры, а потым ускараскалася на ахоўніка і перабралася ў суседнюю кабінку, адкуль і выйшла, абцягваючы спадніўчку.

Вярнуўшыся, яна заспела Ганначку і Таню за вясёлай размовай з пяццю здаровымі мужчынамі. Яны «травілі» анекдоты і гучна смяяліся.

Аліна дастала з сумачкі бутэльку гарэлкі:

— А давайце за знаёмства, па маленькай?

— Не, нам па інструкцыі няможна! — прабубнеў адзін з мужчын, які падаваўся самым маладым.

— На ўсе выпадкі інструкцый не набярэшся, давай-давай!

Аліна разліла гарэлку па пластыкоўках.

Мужчыны абвясцілі тост за мілых дам і закінулі галовы. Аліна паліла сваёй гарэлкай кактус, што стаяў ля камп’ютара. Ганначка з Таняй зрабілі тое ж самае.

Праз пяць хвілін пяцёра ахоўнікаў спалі, як суркі.

— Клафелін? — спыталася Ганначка.

Аліна кіўнула і папрасіла, забіраючы ў ахоўнікаў пісталеты ды рассоўваючы іх за пояс і ў панчошкі:

— Ганначка, адключы сігналізацыю і відэаназіранне. Дзе тут яны ключы захоўваюць?

Праз хвіліну Ганна абвясціла:

— Усё, цяпер па іхніх калідорах можа хадзіць маршам духавы аркестр: ніхто і не заўважыць.

За дзвярыма нехта адкашляўся і сказаў, уваходзячы:

— Мужыкі, а што ў нас з тэхнікай, чаму ўсё выключылася?

Таня ўдарыла мужчыну, што ўвайшоў, бутэлькай па галаве. Ён упаў. Дзяўчына паставіла бутэльку і сказала:

— Нам на чацвёрты паверх. Мяне вадзілі туды.

— Ганна, спускайся ў падвал, нашыя мужчыны, напэўна, цяпер там.

Таня спынілася каля вялікага шклянога стэнда і паказала на дзверы побач з ім:

— Вось тут.

— Аліна ўставіла ключ у адтуліну. Замок не паддаваўся. Яна са злосцю націснула на ручку, ручка адразу ж адвалілася і балюча ўдарыла Аліну па ступаку. Аліна штурхнула дзверы нагой, і яны расчыніліся.

Пасярод кабінета стаяў велізарны стол, а на ім ляжаў Міхал, шчыльна прывязаны вяроўкамі да стальніцы, з кляпам у роце.

Аліна падбегла да Міхала:

— Міхал Барысавіч! Страшная штука гэтая жаночая інтуіцыя. Даражэнькі ты мой лоерчык, дай я цябе развяжу!

— Алінка, што са мной было, ты нават не ўяўляеш! — Міхал скінуў з сябе апошнія вяроўкі і зваліўся са стала, зачапіўшы нагою фотаздымак у чорнай рамцы.

Аліна падняла фота і падышла бліжэй да акна, за якім гарэў адзінокі ліхтар. На здымку ззяла прыгажосцю і стразамі на ашыйніку трагічна загінулая дварнячка Жуля.

— Жуля. Жульета. Вось гэта нумар!

— Ты і праўда ведаеш кожнага сабаку, — сказаў Міхал.

— Так. І гаспадара таксама ведаю. Калі гэта той, пра каго я думаю, то мы дажываем апошнія гадзіны. Ён бывае вельмі жорсткі з людзьмі. Трымай пісталет, і пабеглі адсюль!

Унізе іх ужо чакалі астатнія ўдзельнікі місіі. Дзіма здымаў з твару павуту, Антон абтрасаў пыл з адзення, Косця чысціў чаравікі агромністай насоўкай. Ганначка адрапартавала:

— Пры абыходзе давераных нам тэрыторый жывых аб’ектаў не выяўлена!

— Акрамя вось гэтага, — Косця зняў з карка вялікага пацука, што спакойна сядзеў у праграміста за каўняром.

Дзяўчаты завішчалі і зрабілі скачок, па выніковасці параўнальны са скокамі алімпійскіх чэмпіёнаў.

— Гэта самка. Яе завуць Матрыца! — Косця паказытаў пацучысе мызачку.

— Яна сама табе сказала? — спыталася Аліна.

Матрыца грызанула Косцю за палец, упала на халодную падлогу і знікла ў вентыляцыі. Ганна і Таня зноў заверашчалі ды скокнулі на рукі сваіх мужчын, згубіў-

шы парыкі. Міхал тужліва паглядзеў на Ганначку, што павісла на Антоне, і сказаў Аліне:

— Можаш кінуцца мне на рукі.

— Не ўтрымаеш, Міхал. У цябе быў шанец, — адказала Аліна, зняла парык і пашпацыравала да аўтамабіляў.

Мікіта памкнуўся да ўвахода і дужа здзівіўся такому пампезнаму з'яўленню дырэктаркі.

— Нічога сабе! Аліна Мікалаеўна, вы вяртаецеся з выкрадання як са свята: з песнямі, танцамі і цэлым натоўпам народу! Вас што, скралі ўсіх разам?

— Можа і так! — какетліва прамовіла Аліна, хаваючы адну руку за спінай, каб абаперціся на гітару, якую трымала для раўнавагі, але ўсё роўна хісталася, бо была на абцасах.

Мікіта абвёў вачамі вясёлую кампанію, ад якой патыхала алкаголем, і выдаў:

— Бандыты вас самі адпусцілі, так? Ну і правільна, я б на іх месцы таксама не вытрываў. А мы, між іншым, тут трымаем кругавую абарону. Твае музыкі пачалі сведчыць супраць саміх сябе.

— Ды ну іх! Лепш паглядзі: я табе падаруначак прывезла! — сказала Аліна і працягнула Мікіту газовачку, ледзьве не ўпусціўшы яе.

Мікіта падхапіў лямпу. Аліна закінула гітару на плячо, маючы намер рушыць наперад:

— Дарэчы, знаёмся, Мікіта: гэта — Дзіма Мо… мой жаніх. Гэта Таня — ягоная каханка. Гэта Ганна… дзяўчаткі, чаго вы там корпаецеся?

Ганначка і Таня ніяк не маглі выбрацца з машыны. Калі нарэшце ў іх гэта атрымалася і дзяўчаты прамямлілі: «Здрасьце!», Мікіта гаркнуў у мегафон:

— Ася, рыхтуй грымёраў і пляцоўку, будзем здымаць, вакалістка прыехала!

Калі ўся кампанія ўвайшла ў павільён, там стаяла мёртвая цішыня. Усе гадалі, што будзе рабіць дырэктарка: пачне кідацца посудам ці пазбавіць усіх прэміі за тое, што матэрыял яшчэ не гатовы. У цішыні басіст неасцярожна крануў струну, тая загула, як чмель. Аліна павярнулася на гук, ударыла па струнах гітары і зацягнула:

— Ту-ман я-арам… ту-ман да-лі-но-о-ю-у-у…

Ганначка і Таня пачалі падпяваць.

Мікіта шапнуў Наташы:

— Хутчэй апранай Таню ў касцюм анёла, а то яна ўпадзе і засне, а следам зваліцца нашая Аліна Мікалаеўна!

Аліна ўхапілася за Мікіту:

— Двоечнік, хутчэй заканчвай здымкі, у нас яшчэ ёсць адна тэрміновая справа недалёка ад Брэста.

— Табе трэба выспацца!

— У машыне выспімся. Усе. Дарэчы, дзе той самы чамаданчык?! Хачу паглядзець на яго і на грошы, — Аліна азірнулася і заўважыла сем чамаданаў, што стаялі роўным шэрагам каля сцяны. — О, чамаданы прывезлі!

— Дарэчы, тут калектыў цікавіцца, навошта нам столькі чамаданаў? — спытаў Мікіта.

— А-а! Дык гэта я ў гонар заканчэння работы над праектам прэмірую вас паездкай у Намібію і дару кожнаму па чамадане! З кракадзілавай скуры, заўважце, бо я не жмот. Заўсёды марыла пра чамадан з кракадзілавай скуры… А ў нас жа сацыялізм у

цэнтры: пра што мару я, пра тое мусіце марыць і вы! А вы іх адкрывалі? Можа, там таксама грошы і мы цяпер мульцімільянеры?

Мікіта прыкрыў Аліне рот далонню і пацягнуў яе ў касцюмерную. За імі накіравалася і ўся падпітая кампанія. На лесвіцы яны сустрэлі Яначку, што некалькі гадзін сядзела над дакументамі і правярала пераклады. Яна ўвесь час пацягвала гарбату, у якую Наташа клапатліва дабаўляла бальзам. Шчокі Яны ўжо былі ярка-чырвоныя, а вочы — надзвычай гарэзлівыя. Яначка абняла Аліну:

— У паперах усё правільна. Каня мне варанога і лук са стрэламі, я прымыкаю да вашага войска!

Антон адкрыў чамадан. Усе ахнулі:

— Ого!

— Не такая ўжо і вялікая сума. Значна цікавей, чаму налікам і ў чамадане, — сказаў Косця.

— Хабар прасцей даць наяўнымі, чым перавесці на рахунак: усе пераводы пільна адсочваюцца і фіксуюцца, — патлумачыў Антон.

— А чамадан які шыкоўны! — Ганна правяла па ўнутранай абіўцы накрыўкі і войкнула, зачапіўшыся за тканіну залатой бранзалеткай.

Абіўка адарвалася, і з-за яе вывалілася кружэлка без апазнавальных знакаў.

— О, дыск! Глядзіце! Цікава, што на ім — музыка альбо кіно «тры іксы»? — спыталася Аліна, якая чэпка трымалася за Мікіту, каб не ўпасці.

— Трэба праверыць. Там можа быць усё што заўгодна. Ёсць свабодны камп'ютар? — Антон узяў кружэлку.

— Камп'ютар ёсць — часу няма. Пакідаць тут грошы небяспечна, за намі ў любы момант могуць прыехаць.

Аліна рассмяялася, успомніўшы, што з каляднага часу ў касцюмернай мусіў захавацца дужа цікавы рэквізіт. Потым яна папрасіла Мікіту патрымаць драбіну, ускараскалася на верхатуру ды сцягнула з паліцы чырвоны дзедмарозаўскі мех. Перавярнуўшы яго, яна высыпала на падлогу цэлы стос пачак еўра і загадала:

— Фальшыўкі — у чамадан, грошы — у мех. Мех — у «Тэхноладжы прайм», чамадан — у бункер. Мікіта, скажы Асі, каб збірала тэхніку: хай возьме з сабою камеру і святло. Мы выязджаем.

— Куды?

— Канцавая мэта — бункер пад Брэстам.

— А камера нашто?

— Будзем здымаць дакументальнае кіно.

— А як жа кліп? — занерваваўся Мікіта. — У мяне музыкі ў павільёне і коні на двары…

Аліна схапілася за сэрца:

— Якія коні?

— Ну, як… будучыя адзінарогі. Я выпісаў коней для здымак. Белых. Ледзьве знайшоў!

— Дзе яны?

— У гаражы.

— Мікіта! Ты загоніш мяне ў дамавіну! Завязвай са сваімі барабанамі, адбарабаніў сабе апошні розум! Гэта ж трэба — ператварыць прадзюсарскі цэнтр у стайню! Ты б яшчэ тут свінаферму арганізаваў ці аўчарню! — Аліна звярнулася да Наташы. — Наташа, пакажы мне каштарыс гэтага роліка.

Наташа выцягнула з чырвонай папкі, якую паўсюль насіла з сабой, каштарыс на дванаццаці аркушах. Аліна прагартала паперы:

— Так… так… дэкарацыі, бутафорыя, касцюм Анёла… кава, цукар. Авёс. Авёс?

— Авёс, — кіўнуў Мікіта. — Коням трэба харчавацца.

— А гэта што? Гунькі — восем штук?

— Гунькі, — зноў пацвердзіў Мікіта пункт у каштарысе. — Той, хто працуе як конь, мае права на порцыю аўса і цёплую гуньку!

— Я на цябе самога гуньку нацягну! Гэта ж трэба — адвярнулася на пару тыдняў, ажно каштарыс вырас утрая! Як гэта ты коней у гатэлі не пасяліў, га?

Аліна кінула каштарыс Наташы.

— Едзем. У нас няма часу разбірацца ў гэтай блытаніне з коней і гунек. Застанемся жывыя — заўтра пагаворым.

Ад цэнтра ад’ехалі пяць аўтамабіляў. Аліна забрала з сабою ўсіх ахоўнікаў, пакінуўшы будынак пад нагляд вахцёршы-пенсіянеркі Клаўдзіі Сцяпанаўны ды папярэдзіўшы тую, каб яна ні ў якім выпадку не выпускала з замкнёнага павільёна музыкаў.

Клаўдзія Сцяпанаўна прайшлася па апусцелых калідорах, праверыла, ці зачыненыя вокны ў кабінетах: уначы ізноў абяцалі дождж. Пасля жанчына вярнулася на пост, заварыла сабе гарбату з чаборам, які сама збірала ўлетку, начапіла акуляры ў чорнай аправе і пачала вывучаць часопіс «Зёлкі Беларусі».

Праз некалькі хвілін у дзверы загрукаталі. Клаўдзія Сцяпанаўна вызірнула ў дзяжурнае акенца. Мужчына спытаўся:

— Дзе дырэктар?

— Малады чалавек, вас, напэўна, дзікі ў лесе расцілі, што вы не ўмееце вітацца? — адказала Клаўдзія Сцяпанаўна — яна да сыходу на пенсію працавала настаўніцай у пачатковых класах.

— Прабачце. Вітаю. Дык дзе дырэктар?

— А нікога няма! Усе з’ехалі.

— Куды?

— Не ведаю.

— Чамадан з сабой неслі?

— Неслі, ды не адзін, а восем. Дырэктар сказала, што ўвесь калектыў цэнтра трымае шлях у Намібію, што вернуцца яны не хутчэй як праз месяц і каб іх ніхто не шукаў па тэлефонах.

Мужчына сеў у аўтамабіль і з’ехаў.

— Нявыхаваны, дзікі тып! — Клаўдзія Сцяпанаўна зачыніла акенца і вярнулася да «Зёлак Беларусі», каб дачытаць старажытнаславянскі рэцэпт пазбаўлення ад завусенцаў.

— Перадайце вашай дырэктарцы, што яна — жмурык! — пачуў Мікіта ў трубцы.

— Амаль што так яно і ёсць, — адказаў той і паглядзеў на Аліну, якая пад шоргат колаў спала на ягоным плячы, абхапіўшы рукамі чамадан з фальшыўкамі.

— Я сур’ёзна! Дабяромся да вас — перастраляем усіх!

— Ой, перастраляйце, мы хоць адпачнём! — сказаў Мікіта і адключыў тэлефон.

Аліна сніла нешта такое, ад чаго паміж яе броваў прарэзалася зморшчынка. Мікіта даўно заўважыў: яна пачала з’яўляцца на твары Аліны, калі ёй споўнілася дваццаць пяць гадоў.

Мікіта ведаў Аліну з самага дзяцінства — і ведаў не такой, якой звыклі бачыць астатнія. Проста Мікіта быў яе сябрам. Для прыяцеляў і першых сустрэчных у Аліны заўсёды меўся ў запасе міні-спектакль альбо максі-падарунак. Да Мікіты яна прыходзіла іншай.

Сціскала вушак так, што костачкі пальцаў бялелі. Моўчкі пераступала парог. Павольна апускалася на пуфік у вітальні, марудна здымала абутак, расцірала ступакі — яны ўвесь час гарэлі ад пастаяннай мітусні. Размотвала бясконцую шаль. Выключала мабільны. Вінавата ўсміхалася і гаварыла: «Завары мне гарбату… я так стамілася!» Глытала пігулкі. Тахікардыя, дыстанія, высокая тэмпература — заўсёды. Сядала за стол каля акна. Выключалася, нібы нехта нябачны павярнуў тумблер, які адказвае за энергічнасць. Маўчала. Пасля цяжка ўздыхала: «Мікіта, давай яшчэ разок з табой праверым, ці не ўпусціла я чаго?»

Яны ўспаміналі разам. Пілі гарбату. Аліна — з малаком. Мікіта вымаў з лядоўні шакаладку «Алёнка». Аліна чакала, пакуль ён, не развярнуўшы фольгу, паламае плітку і пасуне да яе. Тады яна адкрывала ласунак і пачынала боўтаць пад сталом правай нагой.

Ёй заўсёды было дзесяць гадоў. Яна вельмі баялася холаду, цемры і жабак. Яна любіла сядзець у цішыні і рабіць папяровыя караблікі. Яна хавала блізарукасць пад кантактнымі лінзамі. Асцерагалася мужчын, бо верыла, што яны прыносяць толькі боль, і таму навучылася забіваць адносіны — з аднаго слова.

Аліна не ўмела плаваць і ніколі не бачыла мора.

Мікіта заўсёды быў яе сябрам.

Аліна пачасала за вушкам і ўтыкнулася носам у Мікітава плячо. Ёй сніліся брыганціны пад белымі ветразямі. Дзяўчына спала вельмі моцна: не чула, як па дарозе да бункера завязалася перастрэлка і хлопцы нечакана для сябе пусцілі ў кювет тры джыпы, пад завязку запоўненыя ўзброенымі да зубоў мужчынамі.

— Тут трэба звярнуць! — сказаў Дзіма вадзіцелю. Ён ехаў у галоўнай машыне і паказваў дарогу. Досвед падарожжаў аўтастопам не знік бясследна: Дзіма навучыўся дакладна запамінаць арыенціры на мясцовасці, нават калі гэтымі арыенцірамі былі самыя простыя, нічым не адметныя кусты. — Цяпер тут, па каляіне, прама, прама, да палянкі… Усё, прыехалі! Прачынайцеся, суркі!

Таня і Косця, якія спалі на заднім сядзенні, неахвотна расплюшчылі вочы.

Аліна таксама прачнулася — ад таго, што аўтамабіль спыніўся. Яна паглядзела на Мікіту і спыталася:

— Дабраліся? Усё ціха?

— Як быццам, — адказаў ён і паправіў Аліціну прычоску.

— Тады бярыце ліхтары, камеру, акумулятары, што там яшчэ… — Аліна пазяхнула і выбралася з салона, хутаючыся ў шырокі чорны плашч, пазычаны ў касцюмернай: нічога больш прыстойнага і цёплага там не знайшлося. Сама яна не выпускала з рук чамадан з фальшывымі грашыма.

— Вадзіцелі ўсе ўзброеныя? Аўтамабілі пакінем тут, ахова пойдзе з намі, — сказаў Антон.

— Пачакайце крыху! — Ганначка выцягнула з-пад палатак і гітары паходную аптэчку. — У гэтай ролевай гульні я буду санітаркай!

Маладыя людзі адзін за адным падышлі да люка, з якога днём Аліна, Дзіма і Таня выбраліся на палянку. Каля люка мірна драмалі ў спальных мяшках двое: адзін, падобны да зайца, і другі — падобны да прапаршчыка.

Ася ўзяла на плячо камеру і ўключыла яе.

— Мы вядзём наш рэпартаж… ад уваходу ў Той Свет… — прашаптала Аліна.

Ахоўнікі дакладнымі моцнымі ўдарамі «выключылі» дваіх у спальніках і звязалі іх, адцягнуўшы глыбей у лес.

Мужчыны адкрылі люк. Дзіма пайшоў першы. За ім падалася Ася з камерай, потым — Аліна, тэатральна махнуўшы плашчом, а за імі — астатнія ўдзельнікі мерапрыемства. Кампанія з дваццаці напаўцвярозых людзей увалілася ў бункер, дзе панавала цемра і цішыня.

— Гэта мінус першы паверх, а ўсяго іх — мінус тры, і нам трэба патрапіць на самы ніжні, — прагаварыў Дзіма і пачаў праціскацца паміж мэбляй да праходу, што вёў на лесвіцу.

Ася спатыкнулася аб спінку ложка з балдахінам.

— Якая раскоша! — захапілася яна, калі прамень ліхтара выхапіў з цемры ўвесь ложак. — Пачакайце, пачакайце, а давайце я вас усіх здыму на гэтым ложку, такі шыкоўны выйдзе кадр! А ну, скучыліся хуценька!

Аліна павaліла на матрац Ганначку, тая пацягнула за сабой Антона, Антон зачапіўся за загрыміраваную ў Анёла Таню, Таня ўхапілася за Яну. Яна засмяялася і штурхнула Мікіту. Косця, Міхал і Наташа ўпалі зверху. Усе куляліся, як кацяняты, і смяяліся. Ахоўнікі трымалі ліхтары, шчаслівая Ася бегала з камерай вакол ложка: ёй рэдка даводзілася здымаць такія рухавыя сцэны, а для карпаратыўнага архіва гэта былі бясцэнныя кадры.

— Ну, хопіць вам ужо! — крыкнуў Дзіма, якому карцела хутчэй даведацца, што за інфармацыя знаходзіцца на вінчэсцеры.

Кампанія прамінула мінус другі паверх з галерэяй дзвярэй і спынілася каля люка, што вёў у памяшканне на паверх мінус тры.

— Адтуль, знізу, гэтая крышка адкрываецца пасьянсам. А вось адсюль — не ведаю, — прамовіў Дзіма.

— Будзем ламаць? — прапанаваў Мікіта і падштурхнуў да крышкі самага рослага ахоўніка.

— Не-не, раптам тут сігналізацыя альбо ўсё замініравана? — Антон пасунуў ахоўніка і прысеў, каб лепш разгледзець лічбавую панэль злева ад крышкі. — А-а, ну ўсё не так страшна! Косця, глядзі!

Косця прысеў побач з Антонам, яны крыху параіліся на праграмісцкім дыялекце. Косця папрасіў у Яны нэтбук, які тая не выпускала з рук. Ён выняў з кішэняў цэлы скрутак рознакаляровых кабеляў, якія Аліна адразу ж ахрысціла «шнуркамі», і падключыў нэтбук да панэлі. Хлопцы крыху пакалупаліся. Крышка люка бясшумна ад’ехала ўбок.

Косця і Антон, абганяючы адзін аднаго, кінуліся да камп’ютараў.

— Нашыя машынкі, нашыя! Памятаю іх! — паўтараў Антон.

— Трэба паглядзець, для чаго яны былі патрэбныя! — Косця прыкруціў вінчэсцер, уключыў камп’ютар і запусціў дыск, знойдзены ў чамадане.

Некалькі напружаных хвілін чакання — і праграма ўсталявалася.

— Тут недзе ёсць серверная. Можа, нават за сцяной. Вялікі аб’ём інфармацыі. Усё вельмі сур’ёзна. Ды яшчэ па-англійску. Я ўмываю рукі, — Косця адышоў ад камп’ютара.

Яначка села перад маніторам і заявіла:

— Аб’ём матэрыялу агромністы, але вы не хвалюйцеся, нам не давядзецца вывучаць яго ўвесь. Таму што нас вельмі хутка заб’юць. Тут базы дадзеных, кампрамат на чыноўнікаў, сакрэтныя дакументы…

— «Вікілікс»? — спыталася Аліна.

— Не-е, «Вікілікс» — гэта так, збор баек і фантасмагорый. Я так мяркую, тут усё значна сур'ёзней. Глядзі: план перадзелу свету. Прыйшла бяда, адкуль не чакалі! Альбо гэта жарт, альбо хутка пачнецца Трэцяя сусветная вайна. План размеркавання ядзернай і псіхалагічнай зброі… О, яшчэ, глядзі як цікава: яны называюць насельніцтва краін, то бок, нас з вамі — lausers, гэта нешта сярэдняе паміж looser — няўдаліца і lause — блыха. Мы з вамі блохі, якім не пашанцуе пажыць у новым свеце. А асабліва не пашчасціць індусам і кітайцам: па задуме, іх застанецца не больш як па мільёне асобін.

— Ну, яны не вымруць: у адных ёсць Кама-Сутра, у другіх — танныя няякасныя прэзерватывы, — сказала Аліна. — Што там яшчэ, у двух словах?

— Вось, самае цікавае… Афрыку плануецца зноў каланізаваць. «Яны ўсё роўна не ўмеюць працаваць і карыстацца рэсурсамі». Еўропа аб'ядноўваецца ў Федэратыўную Англа-Гішпанскую Франка-Германію. Легалізуюцца наркотыкі. Антарктыда ператвараецца ў беларускую калонію.

— А Ізраіль? — пацікавіўся Міхал.

— Ізраіль тут нават не згадваецца.

— Не, тады я гэты план не падтрымліваю!

— Затое тут згадваюцца прозвішчы дужа важных асоб.

— Што яны курылі? Я хачу тым жа зацягнуцца! — сказала Ганначка.

— Паважаныя знаўцы, увага, пытанне: што будзем рабіць? — прамовіла Аліна.

Усе прымоўклі. Стала чутно гудзенне тэхнікі і скрыгат Наташыных пазногцяў: пакуль усе разбіраліся з сакрэтным планам перадзелу свету, яна спакойна прыводзіла ў парадак кіпцюрыкі.

— А што? Жанчына пры любой уладзе павінна выглядаць як багіня, а не як кентаўр! — паціснула яна плячамі, заўважыўшы перакошаныя твары сваіх калег.

— Наташа, пачакай крыху з касметычнымі працэдурамі. Значыць, так. Прапаную пазваніць у КДБ і запрасіць іх сюды! — сказаў Мікіта.

— У які КДБ? — спытала Аліна. — Давайце лепш выдалім усю інфармацыю з сервера. Гэта проста небяспечна — пакідаць яе тут. Хоць гэта і падобна да трызнення душэўнахворага тушкана, але ж забіць нас хочуць па-сапраўднаму. Хто за тое, каб знішчыць дадзеныя?

Мікіта падняў руку ўгару:

— Я! Я і праўда баюся глабальных змен ва ўладкаванні свету. Мяне задавальняе так, як ёсць, а ў новым свеце ці знойдзецца месца для мяне? Не ведаю. І я не хачу жыць у Антарктыдзе. Там холадна.

Следам за Мікітам усе, акрамя Косці, узнялі рукі. Косця павольна правёў далонню па валасах, выхапіў у ахоўніка пісталет, прыцягнуў да сябе Наташу і прыставіў дула да яе скроні:

— Не дам! Усе назад! Да сцяны!

Прысутныя настолькі здзівіліся, што нават не знайшлі што сказаць і моўчкі выканалі загад ціхага праграміста.

— Я біўся над гэтай праграмай два гады. Абслугоўваў сервер. Удакладняў базу дадзеных, атрымліваў новыя звесткі. Канешне, я быў не адзін. Мы ўсе працавалі на агульную ідэю, і нам за гэта плацілі вялікія грошы. Але ж я магу мець у мільёны разоў больш! Вы думалі — я няўдачнік, батанік, шызік без дзяўчыны і перспектыў? Думалі, што я вечна буду працаваць на вашай дохленькай фірмачцы? Ды хутка ўсе жанчыны свету будуць змагацца за права правесці ноч са мной, а я, калі пажадаю, буду іх пасля забіваць!

— Ды вы, дарагі сэр, паводзіце сябе натуральна як Клеапатра! — сказаў Мікіта. — Толькі тая была, па-першае, царыцай, па-другое, прыгожай, а па-трэцяе, тое, што яна забівала сваіх палюбоўнікаў, усё роўна не выратавала яе ад змей у будуары.

Антон рушыў наперад, каб паспрабаваць утаймаваць Косцю. Той сціснуў пісталет:

— Назад, або я застрэлю яе!

— Пусці мяне, псіх ненармальны! — Наташа завішчала, як някормленае парася, зажмурылася і з усяе сілы ўдарыла Косцю тонкай «шпількай» боціка па ступні. Косця скрывіўся ад болю, аслабіўшы хватку. Наташа вывернулася і, не адплюшчыўшы вачэй, махнула пілкай для кіпцяў у прастору — туды, дзе, па яе разуменні, мусіў знаходзіцца захопнік свету. Пілка пратыкнула наскрозь Косцеву шчаку. Наташа прыадкрыла левае вока, убачыла сваю пілку, якая тырчала са шчакі, прашаптала: «Мама родная…» — і захісталася, маючы цвёрды намер страціць прытомнасць. Косця прашыпеў:

— Ах ты, котка драная!

— Што-о? — Наташа адразу ж апрытомнела. — Сам ты кот! Падвальны!

Дзяўчына схапіла клавіятуру і ўдарыла Косцю па галаве. Той упаў, у палёце выцяўся скроняй аб рог століка ды сціх на падлозе.

— Зараза такая, абцас аб яго зламала!

Наташа спакойна прысела на стульчык і пад апладысменты ўсіх прысутных пачала вывучаць свой боцік.

— Антон, ты ведаеш, што рабіць. Выдаляй усё, каб ані слоўца не засталося! — загадала Аліна.

Пакуль Антон калупаўся з серверам, усе напружана чакалі. Але хутка кожны знайшоў сабе занятак па сэрцы. Аліна мітусілася па бункеры, як ільвіца па клетцы, і паглынала супакаяльныя прэпараты з аптэчкі. Ася бегала з камерай і здымала ўсё, што траплялася ёй на вочы: павуту, Косцю без прытомнасці, Антона за працай, тэхніку, разутую Наташу, Мікіту, які запісваў у нататнічак пранікнёны запавет, ужываючы шмат складана-дапасаваных сказаў. Ганначка і Яна гутарылі пра перадвясельныя клопаты і пацягвалі з пляшачак каньячок, таму што іх пачало «адпускаць». Міхал сядзеў у дальнім куточку ды прыкідваў, каго са сваіх знаёмых адвакатаў ён возьме сабе ў абаронцы, каб кампенсаваць маральную шкоду, калі гэтая заварушка скончыцца найлепшым чынам для адважнай кампаніі і ўсе застануцца жывыя.

Таня падышла да Дзімы:

— Я хачу з табой пагаварыць. Толькі не тут, бо занадта многа людзей.

— А дзе?

— Там, наверсе, — яна ўзяла Дзіму за руку і павяла за сабой.

Аліна ўхапіла Асю за крысо, і яны на дыбачках пайшлі за Таняй з Дзімам.

— Даруй мне, Дзіма, — прамовіла Таня і села на вялікі ложак з балдахінам. — Трэба ж было мне гэтыя чамаданы паблытаць! Я табе ўсё сказала б, калі б не твая дзелавая Аліначка. Ты ж не будзеш з ёй жаніцца?

Таніны пальцы забегалі па Дзімавай шыі, а вочы загарэліся жывёльным бляскам. Таня, як і большасць жанчын, здымала ўнутранае напружанне ў ложку, дзе можна было некалькі разоў загнаць мужчыну, як бегавога скакуна, выгаварыцца ў ягоныя вушы, а пасля заснуць, перакінуўшы свае непрыемнасці на мужчынскія плечы. І ад раніцы яе турботы рабіліся праблемамі партнёра, а сама Таня ўжо пра

іх нават не згадвала, кідаючыся ў новыя прыгоды, ды здзіўлялася: чаго яе мужчына «такі заклапочаны».

— Не буду, — адказаў Дзіма, адчуўшы, што ягоны арганізм аптымістычна рэагуе на Танін заклік «павырашаць праблемы». — Шчыра кажучы, я баюся, што такі рытм жыцця, як у Аліны, я проста не вытрымаю.

— Ты яе не кахаеш. Ты ж любіш толькі мяне, праўда? — Таня пацалавала Дзіму ў жывот.

— Так. Я цябе кахаю.

— І мы заўсёды будзем разам?

— Так!

— А чым дакажаш? — спыталася Таня і расплікнула гузік на Дзімавых штанах. Рука дзяўчыны намацала ў кішэні хлопца нешта цвёрдае. Таня ўсміхнулася, выцягнула адтуль пісталет і паклала яго пад матрас.

— Я прапаную табе… руку. Пойдзеш за мяне? — сказаў Дзіма, адшпіліўшы бутафорскія анёльскія крылцы, што недарэчна тырчэлі ў Тані за спінай. Пасля ён пусціў свае рукі звычным шляхам: адну — да Таніных грудзей, а другую — туды, дзе пачынаюцца жаночыя ногі і ўсе праблемы.

Таня салодка застагнала і зашаптала:

— Не бойся, Дзімка… я яму скажу і ён цябе не кране… ён пераб'е ўсіх тых ідыётаў, што нішчаць плён працы ягонага жыцця… а ты будзеш жывы, таму што я яму загадаю цябе не чапаць!

Дзяўчына штурхнула Дзіму, сама апынулася зверху, і раптам раздаўся стрэл. Таня збялела, асунулася ды ўпала на Дзіму.

— Дык вось з кім ты круціла шашні, даражэнькая мая нявеста! — прамовіў да болю знаёмы Аліне голас.

З цемры выйшаў Джэром у суправаджэнні цыганоў і цыганак. Ён тужліва пагля-дзеў спярша на пісталет, пасля — на Таню, затым — на Дзіму, што ляжаў пад ёй і баяўся паварушыцца.

— Якую ты руку ёй прапанаваў? Вось гэтую, правую? — спытаўся Джэром.

Дзіма кіўнуў.

— Ну, усё. У мяне няма нявесты — у цябе няма рукі!

Джэром перадзёрнуў ствол і стрэліў Дзіму ў правае плячо. Хлопец ускрыкнуў.

Цыганы перапалохана кінуліся да выхада, але Джэром перавёў пісталет на іх і сказаў:

— Куды? Стаяць! Я вам за ўвесь вечар заплаціў! Спявайце!

Цыганы спыніліся, павярнуліся ды зацягнулі сумны раманс пра каханне, больш падобны да рэквіема.

— Чаго ты так пасьпяшаўся з заляцанкамі, хлопча? — спытаў Джэром. — Я ўсё роўна не жылец. Мой цыроз мяне заб'е праз якія пару-тройку месяцаў. Пачакалі б крыху — і любіліся сабе… а Таня, можа, зацяжарала б ад мяне ды дзіця нарадзіла. Крыўдна сыходзіць вось так, не працягнуўшы свой род у нашчадках… Ты сабе яшчэ народзіш, я цябе забіваць не буду, я ж не звер які… Я ж мужчына. А жанчыны — звяры. Звяркі. Сучкі.

Аліна падштурхнула Асю. Дзяўчаты, як дзве партызанкі, бясшумна папаўзлі да выхада. Джэром іх не заўважыў: ён прысеў на ложак і спавядаўся перад параненым Дзімам пад тужлівыя акорды старажытнай цыганскай песні.

— Шухер, даражэнькае спадарства, Джэром тут, з пушкай ды цыганамі! — закрычала Аліна, спускаючыся па лесвіцы на мінус трэці паверх следам за Асяй. — Антош, у цябе работа на якой стадыі?

— На перадапошняй.

— Трэба, каб на апошняй! Дзе мой чамадан?

— Вось ён, — Наташа падцягнула чамадан да сваёй дырэктаркі.

Усе схапіліся за зброю.

З адтуліны ў столі пачулася музыка і самотныя гукі цыганскага раманса. Цыгане адзін за адным павольна спусціліся па лесвіцы ўніз і выстраіліся паўкругам. Апошняй узнікла постаць Джэрома. Ён таксама нікуды не спяшаўся і трымаў цыганоў пад прыцэлам.

— Прывітанне, Джэром! — гучна прамовіла Аліна.

— Андатра, гэта ты! Вітаю цябе, — прагаварыў Джэром.

— Вось твае грошы, Джэром. Мы іх знайшлі. Бачыш: усім светам шукалі! — Аліна паставіла чамадан на падлогу і адкрыла яго.

— Усе? — спытаўся Джэром.

— Усе.

— А ты мяне не падманваеш, Андатра?

— Не, Джэром. Калі я цябе падманвала?

— Тады, калі сказала, што з цыганамі будзе весела. Ажно яны такое спяваюць, што хочацца памерці. Але ж я не памру раней, чым заб'ю вас.

— За што? — спыталася Аліна.

— Вы цяпер ведаеце мой галоўны сакрэт і патапталіся сваімі нажышчамі па маёй утульнай схованцы, — Джэром прамовіў гэта настолькі трагічна, што Наташа заплакала.

— Няма ў цябе больш сакрэта. Мы з сябрамі параіліся і большасцю галасоў пастанавілі, што не хочам жыць у свеце, які ты нам прапануеш, бо гэта нешта недарэчнае. Інфармацыю мы знішчылі.

Джэром пацiснуў плячыма:

— Тады мне ўсё роўна давядзецца вас забіць, бо вы мяне смяротна пакрыўдзілі: праз вас я страціў мару… Ты будзеш першая!

Джэром сумна перавёў зброю на Аліну, два разы міргнуў — і ўпаў, скошаны стрэлам.

З адтуліны ў столі зваліўся на падлогу Дзіма з пісталетам у руцэ.

Аліна і Ганначка сядзелі ў любімай піцэрыі. Вакол віліся ветлівыя афіцыянты. На стале дыміліся гарачыя італьянскія пончыкі. У вокны шкрэблася завіруха: пасля бясконцых восеньскіх дажджоў выпаў нарэшцэ першы снег, і горад, пабелены завеяй, дыхаў прадчуваннем хуткай рамантычнай сустрэчы са снегаўборачнай тэхнікай, якая з красавіка прастойвала ў гаражах. Дзе-нідзе ў вітрынах пачалі з'яўляцца папяровыя сняжынкі і рознакаляровыя гірлянды.

Дзяўчаты пілі гарбату і вялі гутарку.

— А мне Дзіма ліст даслаў, — сказала Аліна, якая перамешвала цукар у кубку. — Ад рукі, на аркушы. Почырк у яго, канешне… як курыца лапай!

— Ну, што ты, якая курыца — арол! — засмяялася Ганначка ды адкусіла кавалак пончыка, праверанага на кашэрнасць.

— Арол. І праўда.

— А чаго на аркушы? Рамантыкай накрыла?

— Не. Дактары забараняюць карыстацца ноўтбукам.

— І што ён піша?

— Піша, што ягоныя бацькі ачмурэлі. Двойчы. Першы раз — калі ўбачылі яго ў выпуску навін на шпітальным ложку. Нічога сабе: адпусцілі сына ў рэстаран! Затое,

піша, бацька вельмі шчаслівы. «Малайчына, сын, атрымаў баявое хрышчэнне ды сапраўднае раненне, герой, так і далей трымаць!»

— А другі раз чаго ачмурэлі?

— Калі ўбачылі ў яго на пальцы заручальны пярсцёнак ды з нявесткай пазнаёміліся. Якая ў суседняй палаце ляжыць.

— З кім гэта? — здзівілася Ганна.

— З кім! З Таняй. Я даставіла ў шпіталь работніцу ЗАГСу, тая правяла цырымонію. Нашыя Дон Кіхот і Дульсінея павінны трымацца разам, паасобку яны толькі нашкодзяць і адно аднаму, і ўсяму свету.

— І Дзіма дараваў ёй здраду?

— Я яму патлумачыла, што гэта не здрада. Таня шчыра хацела адхапіць Джэромавы грошы, каб бязбедна жыць з Дзімам. Яна ж ведала, што Джэром памірае.

— Не дужа высакародна!

— У кожнага сваё разуменне высакароднасці.

— А як жа твой шлюб і прыгожы мужчынскі твар побач?

— Не, я тут падумала… Прыгажосць — вельмі ненадзейны спадарожнік. Мужа трэба шукаць разумнага. А пакуль… я лепш сабе ў Намібіі пабудую яшчэ адзін «MoST», каб не было часу нават думаць пра мужчын. Дарэчы, у нас калі вылет?

— А трэцяй гадзіне.

— Ну дык дапівайма-даядайма — і ў «буцэфала»! Хачу найхутчэй абнавіць свой чамаданчык!

— Даўно карцела даведацца: што за мара такая — чамадан з кракадзілавай скуры? — спыталася Ганначка і адкусіла пончык.

Аліна ўсміхнулася:

— З лагера яшчэ. Там такі дух спаборніцтва… ва ўсім і заўсёды. Ён пачынаецца ўжо тады, калі ты забіраешся ў аўтобус. З сумкай альбо чамаданам. Чамадан адразу вызначае твой сацыяльны статус. Бачна, з якой ты сям'і. У мяне была падрапаная старая спартыўная сумка, і мне заўсёды хацелася прыйсці на збор, трымаючы ў руках чамадан — абавязкова з кракадзілавай скуры, каб усе памерлі ад зайздрасці! І вось ён ёсць, чамадан… а лагера ўжо няма.

Раптам Аліне падалося, што за акном мільгнула постаць сівой цыганкі з дзіцём на руках. Аліна пасунулася да шкла, каб лепей разгледзець вуліцу, але ніякай цыганкі там не ўбачыла.

— Прымроілася! — Аліна нахілілася, выцягнула з-пад стала чамадан, адкрыла яго, каб праверыць, ці на месцы дакументы, і войкнула.

Замест адзення і папер у чамадане на чорным аксаміце ляжала пяць вялікіх ружовых дыяментаў.

Анатоль ТРАФІМЧЫК

# ЯКУБ КОЛАС У РАСІІ

Спраўляючы сёлетнія юбілеі класікаў, культурная грамадскасць звяртае ўвагу не на ўсе вехі біяграфій апошніх. У прыватнасці, рэдка гаворыцца пра побыт Якуба Коласа ў Расіі: у канцы верасня 1917 года малады беларускі паэт прыязджае з фронту хворы да сям'і, якая з-за ваеннай віхуры падалася ў эвакуацыю і асела ў Курскай губерні. Ва ўмовах паслярэвалюцыйнай разрухі давялося наладжваць жыццё. Першасным было імкненне пракарміцца. Бо на руках — двое дзяцей: трохгадовы Данік і немаўлятка Юрка.

Тым не менш Якуб Колас выкройвае гадзіны для творчасці. «За часы вайны і прабывання ў Расіі пісаў мала, урыўкамі. У Куршчыне скончыў "Сымона-музыку" і напісаў адзін ці два раздзелы "Новай зямлі". Сувязь з Беларуссю была выпадковая з прычыны падзей ваенна-палітычнага характару. Моцна смуціўся па Беларусі», — успамінаў ён у 1926 годзе ў аўтабіяграфіі. Вымушаная эміграцыя каталізавала настальгію, падобную да пачуццяў турэмнага перыяду. І хоць напісалася адносна няшмат, нам важная не колькасць, а якасць (дый пяць створаных раздзелаў на дзве паэмы — таксама важкі творчы здабытак). Што кепска для чалавека, тое добра для творцы, — Якуб Колас пацвердзіў гэты тэзіс.

Па творах таго часу можна прасачыць адносіны аўтара да свайго становішча, а таксама да сацыяльнага кантэксту — Куршчыны і тамтэйшага людскога асяродка. Якуб Колас пакінуў нямала таму сведчанняў — як адкрытых, так і завуаліраваных выказванняў, інтанацый, мадальнасць якіх неабходна герменеўтычна расчытваць.

Адзначым, што лёс і да прыезду на Куршчыну не песціў паэта. Першая сусветная вайна спрычынілася да чарговага перапынку ў вольнай працы на карысць Айчыны. Пакінуўшы Беларусь, мабілізаваны ў расійскую армію Якуб Колас праходзіць падрыхтоўку на прапаршчыка ў Расіі і затым трапляе на Румынскі фронт. Цяжкія хваробы становяцца прычынай вяртання афіцэра Міцкевіча з арміі ў тыл. Ён едзе да сям'і, якая асела ў горадзе Абаянь Курскай губерні. Ваенны і курскі перыяд Якуб Колас праз колькі гадоў назаве «паднявольным блуканнем», напісаўшы ў апошнім раздзеле «Новай зямлі»:

…А там дарога, зноў дарога,
Разлука з краем і трывога
І паднявольнае блуканне
І гэта нуднае змаганне
За інтарэсы жывата
Ды зноў варожая пята…
[Т. 8, с. 281—282]

Паэт аднаўляе працу над «Сымонам-музыкам» у лістападзе 1917-га. Прычым менавіта з гэтых пранікнёных і шчымлівых радкоў:

О, край родны, край прыгожы!
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей ёсць ў свеце Божым
Гэтых светлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе лясы-бары гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць? [Т. 9, с. 268]

Амаль, усе даследчыкі адзначаюць: аўтар прыведзеных радкоў перапоўнены *каласальнай* настальгіяй, якая выплеснулася ў высокамастацкую паэзію. Была заўважана і сацыяльна-палітычная эвалюцыя беларуса Канстанціна Міцкевіча. Антон Адамовіч, напрыклад, убачыў «раптоўны на той час выбух нацыяналізму ў Якуба Коласа, у дарэвалюцыйнай паэзіі якога поўнасцю адсутнічала нацыянальная ідэалогія». На гэты конт можна дадаць меркаванне прафесара Міхася Мушынскага: «…Сутнасць мастац-

кага наватарства ў тым, што сваімі творамі — паэмамі “Новая зямля”, “Сымон-музыка”, многімі вершамі і апавяданнямі <і> — Колас здолеў узняць тэму *жыцця* беларускага працоўнага *селяніна* на ўзровень *нацыянальнага быцця*, і яго герой выступае як паўнапраўны прадстаўнік народа, духоўна багатая асоба, якая ў сваіх памкненнях выказвае агульначалавечыя ідэалы — прагу свабоды, волі, незалежнасці, пратэст супраць уціску, сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, жаданне жыць на ўласнай зямлі, быць яе сапраўдным гаспадаром. <…> У пераканальнай мастацкай распрацоўцы, непаўторна-адметным вобразным увасабленні канцэпцыі нацыянальнага быцця і трэба бачыць вялізную заслугу Коласа перад беларускім прыгожым пісьменствам і ўсёй айчыннай культурай».

Верагодна, на светапогляд сялянскага паэта (так часцей за ўсё ўспрымаўся Якуб Колас) паўплывала менавіта вымушаная эміграцыя. У Курскай губерні яго адольваюць глыбокія настальгічныя перажыванні. Але імі не абмяжоўваецца Пясняр. У творах таго часу вельмі выразна гучыць матыў адчужанасці ад сацыяльнага кантэксту, ад акаляючай людской масы. Да Коласа прыходзіць яснае ўсведамленне, што ментальнай роднаснасці з расійскім народам у яго няма. Вось што піша ён сябру Янку Купалу (арыгінал ліста на беларускай мове не выяўлены):

«С позиций пришел в Обоянь, где жила моя семья, больным человеком. Брат[о]к мой милый! Случалось тебе когда-нибудь застрять где-нибудь на железнодорожной станции, ждать поезда? Вот в таком положении чувствую я себя теперь, где бы я не находился. *Все жду, когда же наступит возможность оставить эту Московщину и вновь очутиться среди своих людей. Скажу тебе, друже, татарский здесь народ.*

**Антон Адамовіч убачыў «раптоўны на той час выбух нацыяналізму ў Якуба Коласа, у дарэвалюцыйнай паэзіі якога поўнасцю адсутнічала нацыянальная ідэалогія»**

**Што кепска для чалавека, тое добра для творцы, — Якуб Колас пацвердзіў гэты тэзіс**

*(Тут і далей курсіў наш —* **А. Т.***)* Болит моя душа по Белоруссии. Чувствуешь ли, братец, как тяжко жить на чужбине? … Чувствую я, однако, одно: бедный, бедный наш народ! Как несправедлива его доля! И когда только дождется он просветления? Много встречал я наших виленцев, минчан, которые склоняются от востока к западу, ждут избавления ныне от Германии. Я, однако, остаюсь при своем мнении до гроба: немцы не дадут нам счастья. Немцы знают, что делают: им нужно утопить великий народ в братской крови, обессилить и обездолить его. Что же нам делать? Пробуждать в народе самосознание, ориентация должна быть на самого себя».

Гэтыя перажыванні трохі пазней, у 1919 годзе, Якуб Колас занатоўвае ў XVIII раздзеле «Новай зямлі» «Зіма ў Парэччы»:

Далёка я ад межаў родных
*Сярод людзей, душой халодных*
*І сэрцам чэрствых*. Я гадаю,
Я родны край успамінаю,
Я ім жыву, я ў ім душою
І сэрцам кожнаю парою,
Як той нявольнік прагне волі,
Так прагну я ступіць на ролі
Сваіх палеткаў, ніў благенькіх,
Дарог і сцежачак крывенькіх,
Што гожа ўюцца спомеж жыта
Або срэдзь лесу самавіта.
І ўстануць з’явы, як жывыя,
Малюнкі сэрцу дарагія,
І моцна душу парываюць.
«Ідзі да нас! ідзі», — гукаюць.
Благаслвёны час той будзе,
Калі я ў родным сваім людзе
Куточак бацькаў прывітаю
І радасць жыцця там пазнаю.

О родны край! О край пакуты,
Нягодай цяжкаю прыгнуты!
Калі ж ты збудзеш тое гора,
Што і цяпер там, як і ўчора,
Як і даўней, цябе знішчае
І горкім смуткам аввае?
<…>
О край мой мілы! Ўсёй душою
Хачу злучыцца я з табою…
[Т. 8, с. 159—160]

Радкі, цытаванне якіх у сувязі з абазначаным аспектам можна працягваць, даволі паказальныя, каб зразумець, наколькі разлука з Беларуссю паўплывала на мастацкі твор. Але ў іх бачна яшчэ і адчуванне адстароненасці ад людзей, «душой халодных і сэрцам чэрствых». Дзіўна, нечакана чытаць пра такое стаўленне беларускага класіка да расійскага народа, бо гэту тэму заўжды інтэрпрэтавалі ў цалкам процілеглым ключы.

Антон Адамовіч слушна заўважае, што пачатак гэтага раздзела дае нам «паэтаву ацэну самое перажыванае ім *(Якубам Коласам* — **А. Т.**) тады савецка-польскае акупацыі Беларусі як «нягоды цяжкае», «гора, што і сягоння, як і ўчора, як і даўней яе знішчае», «часу вялікага разбурэння», «здзеку, што чалавек — звер чалавеку так чыніць злосна, неўспагадна» — без якоганебудзь вырознення ўва ўсім гэтым акупантаў польскіх ад савецкіх».

Менавіта тады, у 1918—1919 гадах (трохі пазней за Янку Купалу, верагодна пад яго ўздзеяннем) у паэтычнай лексіцы Якуба Коласа з'яўляецца онім «чужынец» — перадусім адносна «маскалёў». Ён кажа пра «ярэм'і», «што ім *(«нашаму люду», «дабрэйшаму ў свеце»* — **А. Т.**) чужынцы з сваякамі / Уздзець маніліся даўно, / І засланялі ім вякамі / Ад свету белага вакно…» («Я кожан год свой дзень радзінаў…», 22.10.1918) [Т. 2, с. 82]; разважае пра тое, што «час праходзіць, жыццё гіне / Ў талачэчы на чужыне / За кавалак хлеба…» («На чужыне», 22.10.1919) [Т. 2, с. 84]; задаецца пытаннем, «ці мы будзем ці не будзем / Пад чужынцам шыі гнуць» (У імгле», 1919) [Т. 2, с. 86]. Роўна праз год у роздумах на тыя ж тэмы (традыцыйна для таго дня — завяршыўся яшчэ адзін год зямнога шляху чалавека) паэт працягвае метадычна прамаўляць, шчыра да слёз выражаючы найвастрэйшую тугу па абяздоленай (тым больш!) радзіме:

### Верагодна, на светапогляд сялянскага паэта паўплывала менавіта вымушаная эміграцыя

### Дзіўна, нечакана чытаць пра такое стаўленне беларускага класіка да расійскага народа, бо гэту тэму заўжды інтэрпрэтавалі ў цалкам процілеглым ключы

*Бо сярод чужаніц,*
*Неўспагадных дурніц,*
Сілу марне трачу,

І аб родных кутках,
Хай ацаліць іх Бог,
Часта ў думках плачу.
(«Ну, якіх жа прыгод…»,
22.10.1920) [Т. 2, с. 87]

У кантэксце такіх перажыванняў, такога ўспрымання рэчаіснасці ўзмацненне грамадзянскіх, нават яскрава палітычных матываў у творчасці Якуба Коласа выглядае арганічным. Найбольш экспрэсіўна яны выплеснуліся ва ўступе да III раздзела паэмы «Сымон-музыка» (канец 1917-га). Пачынае паэт з экскурсу ў мінулае:

З двух бакоў айцы дубінай
Заганялі нас у рай.
Кроў лілася ручаямі,
Здрада чорная расла,
Што папамі і ксяндзамі
Ў сэрцы кінута была.

І адразу пераходзіць да паралелей з сучаснасцю:

І цяпер над вамі, брацце,
Яшчэ ў сіле той раздор:
І папоўскае закляцце
І ксяндзоўскі нагавор. [Т. 9, с. 269]

Напамінаючы, што «тут схадзіліся ўсе плямёны / спорку сілаю канчаць», згадваючы шведа, які «набытак наш паліў», прайшоўшыся па панска-каталіцкай польскай экспансіі, паэт галоўныя эмоцыі адрасуе ў бок усходняга суседа: «маскаль тут самачынна / гвалт над намі ўтварыў, / і без жалю капытамі / конь казацкі тут ступаў». Ад імя народа паэт заяўляе:

Толькі ж, брацце, край не згінуў,
Не пагнуўся яго стан.
І із нас душы не вынуў
Ні маскаль, ні польскі пан.
[Т. 9, с. 270]

## Мусім аспрэчыць меркаванне крытыка, што быццам для нацыянальна-адраджэнскага пасажу Якуба Коласа не было матывацыі

Прычым аўтар з самасцвярджэннем народа звяртаецца да канкрэтных аб'ектаў:

«Гэй, суседзі, нашы брацце!» *(NB. на той час гэта адзін з рэдкіх выпадкаў для падобных Коласавых кантэкстаў, калі суседзі называюцца не чужакамі ці чужынцамі, а брацця́мі — **А. Т.**)*

Не згубілі мы свой шлях,
Не ўламала нас няшчасце,
Не сагнуў нас жыцця гмах.
Дык хіба ж мы праў не маем,
Сілы — шлях свой адзначаць?
І сваім уласным краем
Родны край свой называць?..
[Т. 9, с. 270]

Такім рытарычным пытаннем, звернутым ужо да свайго народа, яго нацыянальнай годнасці, заканчвае паэт уступ да трэцяй часткі, яшчэ раз падкрэсліваючы нязгоду з існым становішчам Беларусі. Міхась Мушынскі лічыць, што «погляды Сымона-музыкі — гэта суб'ектывізаванае выяўленне поглядаў, светаўспрамання асабіста Якуба Коласа, адбіццё ягонай грамадзянскай, мастакоўскай пазіцыі».

«Увесь гэты згустак квінтэсенцыі нацыянальнага адраджэнства, пададзены на працягу няпоўнае сотні вершаваных радкоў (уступу да III раздзела паэмы *"Сымон-музыка"* — **А. Т.**), у высокім і моцным тоне небывалага лірычнага пафасу сапраўды ўнікальны ў Коласа, дый наогул няшмат роўнага сабе мае ў цэлай адраджэнскай паэзіі». Згаджаючыся з гэтай думкай Антона Адамовіча, мусім аспрэчыць меркаванне крытыка, што быццам для нацыянальна-адраджэнскага пасажу Якуба Коласа не было матывацыі, бо, як адзначалася вышэй, папярэднія перажыванні паэта, адкрыццё Расіі як чужыны, а расіян як татараў, маскалёў (але ніяк не братоў-славян), а ў сувязі з гэтым таксама надзвычайнай моцы настальгія, сум па родных краях (гл. вершы «Гусі» (22.09.1916), «Палессе» (1916), «Ой, скажы мне, вецер вольны…» (1917), «Год за годам уцякае…» (22.10.1919) [Т. 2, с. 67, 73—74, 77, 82, 85] і інш.) спрычыніліся да выспявання Коласа-нацыяналіста, зварот якога да мінулага ў той час не мог не азначаць і надзённай пазіцыі паэта, пазіцыі, што была скіравана супраць гаспадарання суседзяў, чужынцаў на Беларусі. Радзіму хацеў паэт бачыць вольнай. Савецкая цэнзура сталінскіх, сацыялагізатарскіх часоў мела тоеснае разуменне яго творчых і грамадзянскіх інтэнцый, таму, як паведамляецца ў каментарыях сучаснага Збору твораў народнага паэта да большасці з названых тут Коласавых вершаў, яны, як правіла, былі апублікаваны ў нацыянальнай, небальшавіцкай прэсе, а таксама ў зборніку «Водгулле» (1922), за рэдкім выключэннем у прыжыццёвыя выданні не ўваходзілі і зноў пачалі друкавацца толькі падчас «хрушчоўскай адлігі» [Т. 2, с. 370—374].

Такім чынам, жыццё ў Расіі не толькі паглыбіла настальгію, сум па родным куточку паэта, але і развіла яго грамадзянскую свядомасць у нацыянальны (часам нацыяналістычны) бок, што ў значнай ступені адбілася на творчасці ў цэлым і на знакавых творах у прыватнасці.

*Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ*

# БІЯГРАФІЯ КЛАСІКАЎ У ДАКУМЕНТАХ І ФАКТАХ

***З часу, калі задумваўся зборнік «Купала і Колас, вы нас гадавалі», шмат што змянілася. Не дачакаўся і першага тома рэцэнзент выдання, мэтр нашага літаратуразнаўства і архівістыкі, Генадзь Кісялёў. Да болю нечакана, у самым росквіце сваіх здольнасцей і набытых ведаў сышоў і адзін з укладальнікаў, Віталь Скалабан. Сёлета, калі выйшла трэцяя кніга, можна гаварыць пра завершанае выданне, пра тое, чым яно вартае і важкае.***

Такім чынам выйшлі тры кнігі. Напачатку меркавалася, што другая частка матэрыялаў змесціцца ў адзін том, але паступова выяўляліся ўсё новыя і новыя дакументы, таму вырашана было рабіць другую кнігу ў дзвюх частках. Трэба адзначыць, што і гэта не надало вычарпальнасці. Бо ў апошнім, нядаўна выдадзеным томіку, у дадатку былі апублікаваны матэрыялы, адшуканыя падчас працы над кнігай. Часавым рамкам тома яны не адпавядалі, з гэтай прычыны трапілі ў дадатак, а не ў асноўны тэкст. Ужо адзін гэты факт можа сведчыць пра тое, што далёка не ўсё мы пра Купалу і Коласа ведаем, як гэта некаторым падаецца, бо нават вучоныя-архівісты не могуць паставіць кропку ў сваіх росшуках — аб'ём інфармацыі пра класікаў пастаянна павялічваецца; у агульную карціну ўносяцца ўдакладненні, новыя паясненні.

Першая кніга, выдадзеная ў 2010 годзе, была найбольш цікавай для пакупнікоў, вабіла акрэсленымі крайнімі датамі дакументаў — 1909—1939 гады. Трэба адзначыць, праўда, што частка матэрыялаў была да таго фрагментарна апублікавана ў навуковых і папулярных артыкулах даследчыкаў (у газетах «СБ» і «Звязда»). Тым не менш большасць дакументаў уводзілася ўпершыню. Нават разасобленыя, цяжкадаступныя публікацыі, якія раней у сотнях коласазнаўчых і купалазнаўчых артыкулах было нялёгка адшукаць, тут сышліся ў адно. Кніга працягвае традыцыю выданняў пад кіраўніцтвам Генадзя Кісялёва — дакументы публікуюцца ў выглядзе своеасаблівых частак-сюжэтаў. Такі «сюжэт» можа займаць дзве старонкі, а можа разрастацца на дзясяткі. З усіх трох кніжак менавіта першая, хоць і танчэйшая за астатнія, з'яўляецца найбольш раздробленай, тут 44 сюжэты.

Не ўсе дакументы, зразумела, змяшчаюць аўтографы Песняроў. Аднак ёсць і такія каштоўныя рэчы. Яны істотна дапаўняюць Поўны збор твораў Янкі Купалы, які пасля выдання трохтомніка «Купала і Колас, вы нас гадавалі» фактычна ўжо нельга называць Поўным, а 20-томнік Якуба Коласа, трэба думаць, пашырыцца за кошт матэрыялаў, апублікаваных Вячаславам Селяменевым і Віталем Скалабанам.

Акрамя аўтографаў класікаў (лістоў, тэлеграм, анкет) і іх малавядомых публікацый (арыгінальных версій артыкулаў, калектыўных лістоў), найбольшую частку дакументаў складаюць матэрыялы службовых устаноў, у першую чаргу — апарата КП(б)Б, які пастаянна цікавіўся настроямі ў сферы літаратуры і жыццём Купалы і Коласа, як найбольш яркіх, а таму і найбольш небяспечных пісьменнікаў. Вялікую частку першага тома займаюць дакументы па справе Юркі Лістапада, справе «Саюза вызвалення Беларусі», разгляду выпадку Міхася Клімковіча: да гэтых гучных спраў Купала і Колас прыцягваліся як сведкі, не раз іх жыцці віселі на валаску і пазней, у 1938 годзе, калі сакратар ЦК КП(б)Б Панцеляймон Панамарэнка даслаў Сталіну свой вядомы ліст пра варо-

**Далёка не ўсё мы пра Купалу і Коласа ведаем, як гэта некаторым падаецца**

жыя настроі ў сферы інтэлігенцыі (раздзел «Ардэнаносцы»). Вялікі масіў сведчанняў такога парадку захоўваецца ў вядомым партыйным фондзе № 4п Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь. Але нельга казаць, што кожны сюжэт абмяжоўваецца матэрыяламі аднаго архіва. Наадварот, тут нярэдка спалучаюцца і паперы літаратурных музеяў, некалькіх архіваў — НАРБ, архіва КДБ, выкарыстоўваюцца і найноўшыя рускія публікацыі (у РФ выйшаў цэлы шэраг зборнікаў дакументаў з архіва вядомых дзеячаў кампартыі, у тым ліку прысвечаных і беларускаму пытанню). З зусім невядомых тэкстаў зборніка трэба адзначыць матэрыялы рускіх архіваў, балазе Федэральнае архіўнае агенцтва Расіі і Расійскі дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва вынесены ў грыф трохтомніка. Для гісторыка літаратуры (бо ўсё ж такі выданне больш арыентавана на «чыстых гісторыкаў») надзвычай цікава будзе прачытаць стэнаграмы творчых вечароў Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Маскве 1934 і 1936 гадоў. А некаторыя ацэнкі і аналіз творчасці Купалы, дадзеныя ў 1934 годзе Сяргеем Гарадзецкім, на мой погляд, не страцілі актуальнасці і сёння.

Другая кніга зборніка выйшла ў двух частках-тамах. Першы том яе з'явіўся летась, другі — напрыканцы лета 2012 года. Сюды, як вызначана на тытульнай старонцы, увайшлі дакументы 1939—2009 гадоў. Менавіта з 1939 года ў поўным сэнсе гэтага слова пачынаецца другі перыяд жыцця нашых першых народных паэтаў — Янкі Купалы і Якуба Коласа. Спад рэпрэсій, далучэнне Заходняй Беларусі да Усходняй, шанаванне жывых класікаў уладамі — усё гэта 1939 год. Час паміж спадам рэпрэсій і пачаткам Вялікай Айчыннай вайны дагэтуль вывучаецца вельмі слаба, гэтак жа слаба аналізуецца культурная сітуацыя 1939—1941 гадоў. Між тым было ў тыя гады шмат цікавага, што засведчана і ў друку, і засталося на пажоўклых архіўных аркушах. Так, надзвычай важнай з'яўляецца публікацыя ў ч. 1, кн. 2 зборніка «Купала і Колас, вы нас гадавалі» матэрыялаў пра спробу рэформы беларускага правапісу ў 1939—1941 гады, інспіраванай Інстытутам мовы і літаратуры БАН, а можа, і самімі вышэйшымі партыйнымі коламі (для набыцця інфармацыі пра настроі беларускай інтэлігенцыі пасля рэпрэсій). Трэба адзначыць мужнасць і шматступенную кемлівасць беларускіх дзеячаў, якія здолелі ўратаваць і без таго русіфікаваны правапіс ад далейшай і поўнай асіміляцыі з рускім аналагам.

**Трэба адзначыць мужнасць і шматступенную кемлівасць беларускіх дзеячаў, якія здолелі ўратаваць і без таго русіфікаваны правапіс ад далейшай і поўнай асіміляцыі з рускім аналагам**

Большая частка кнігі аддадзена дакументам часоў Вялікай Айчыннай. Тут жа друкуюцца і сведчанні пра смерць Янкі Купалы: быў гэта трагічны выпадак ці зладжанае забойства — да сёння не вядома. Аўтографаў Купалы ў гэтым томе, зразумела, зусім мала. Аднак ускосных меркаванняў, малавядомых дакументаў, у якіх адлюстравана стаўленне да паэта, хапае і тут.

Тэматычна і паводле аб'ёму «сюжэты» (іх значна менш, чым у першым томе — толькі 28) ў гэтай кнізе размеркаваны паміж Якубам Коласам і Янкам Купалам пароўну. Ладную частку займае ў кнізе перапіска па ўшанаванні памяці Купалы і арганізацыі Літаратурнага музея Купалы, вяртанні рукапісаў, перадачы купалаўскіх матэрыялаў у музейныя фонды, афіцыйныя праграмы святкавання юбілеяў Песняра. Уласна ж біяграфічныя матэрыялы ўтрымліваюць «сюжэты» пра Якуба Коласа: змешчаны тут і ўласныя яго тэксты: выступленні ў час вайны, даклады. На жаль, не адлюстравана ў поўным аб'ёме палеміка па літаратуразнаўчай дысертацыі М. Дабрыніна (што, зрэшты, было невыканальна з-за аб'ёму), аднак удзел і годная абарона Якубам Коласам у 1944 годзе нацыянальна арыентаванай дысертацыі ў «сюжэце» прапісаны дастаткова.

Яшчэ адзін стрыжань кнігі — першапублікацыя матэрыялаў па стварэнні гімна БССР. З тэксту стэнаграмы бачна напружаная праца камісіі па адборы лепшых варыянтаў. Трэба ўлічыць, што імёны аўтараў былі невядомыя, варыянты былі цалкам ананімныя, таму журы, старшынёй якога быў Якуб Колас, аднагалосна правалiла варыянт самога Якуба Коласа. Матэрыялы па выбару

гімна займаюць каля 60 старонак і гэтыя старонкі, як і абмеркаванне рэформы правапісу 1939—1940 гадоў, бадай, адны з самых эмацыянальных у кнізе.

Некалькі слоў пра свежае выданне: «Купала і Колас, вы нас гадавалі. Частка другая. Кніга другая». Нагадаем, што папярэдні зборнік меў пазнаку «1939—2009», але ўласна пасляваенных дакументаў амаль не змяшчаў. У апошняй кнізе зроблены акцэнт на пасляваенных матэрыялах. Зразумела, што новых аўтографаў Янкі Купалы ў асноўнай частцы кнігі няма — большасць зборніка аддадзена на пасляваенныя дакументы Якуба Коласа. Перш-наперш уводзіцца ва ўжытак сур'ёзны пласт раней не вядомых лістоў і тэлеграм Якуба Коласа расійскім пісьменнікам, выдаўцам, грамадскім дзеячам. Адшуканню іх, бясспрэчна, паспрыялі рускія архівы: Расійскі дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва, Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі. З беларускіх архіваў, акрамя «невычэрпнага» Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, «прагучаў» Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, да якога ўвішныя гісторыкі не заўсёды дабіраюцца. Такім жа паўзакрытым з'яўляецца і архіў НАН Беларусі, які, на шчасце, пачаў актыўна выкарыстоўвацца ў апошнія гады (перш за ўсё дзякуючы В. Скалабану і М. Токараву).

Што да купалаўскіх матэрыялаў, то іх нямала змешчана ў дадатку да апошняй кнігі. Гэта тыя дакументы, якія былі выяўлены пасля заканчэння ўкладання зборніка. Тут і калектыўны ліст З. Жылуновіча, М. Чарота, Я. Купалы і Я. Коласа ў прэзідыум ЦВК БССР ад 27.07.1928 пра ўшанаванне магіл А. Бурбіса і С. Булата (якія знаходзіліся на Старажоўскіх могілках, сёння знішчаных), і асабовая картка Купалы-дэпутата, запоўненая ўласнаруч; лісты, якія накіроўвалі жонкі арыштаваных Аляксандра Уласава і Уладзіміра Дубоўкі да Янкі Купалы і Якуба Коласа; выяўлены і некаторыя раней не вядомыя публікацыі за подпісам Песняроў у друку (яны папоўняць раздзелы публіцыстыкі ў зборах твораў); найбольш аб'ёмным матэрыялам дадатку з'яўляецца фрагмент стэнаграмы пасяджэння пленума Нацыянальнай камісіі Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР 10—11 студзеня 1939 года, а менавіта даклад А. Суркова пра паездку ў Беларусь. Выступленне Суркова вельмі трапна, хоць і аднабока (як і кожнае

## "Неужели вы не понимаете, что когда эти старики редактировали «Нашу Ниву», они не ходили с Карлом Марксом под мышкой"

тагачаснае слова на публіку) адлюстроўвае сітуацыю ў літаратуры Беларусі пасля крывавых рэпрэсій, выяўляе боязь пісьменнікаў займацца сваёй справай, бо за гэта можна сур'ёзна паплаціцца, паказвае адносіны да Народных паэтаў у той час: «Что касается двух стариков — народных поэтов, то им нечем особенно похвалиться. Уже в течение нескольких лет они пишут "визитные карточки" ко всем праздничным дням, хотя творческий потенциал, даже по этим стихотворениям, чувствуется большой, особенно у Янки Купалы.

Надо сказать, что с Купалой не совсем аккуратно обошлись этой весной. Когда встал вопрос о кандидатурах в Верховный Совет Белоруссии, то в это время до Пономаренко был секретарем Волков. Кто-то его надоумил и, когда намечали кандидатуру Купалы, он сказал Лынькову: опять ты мне этих фашистов подсовываешь.

Такая политика не могла дать плодотворных результатов, ибо сейчас эти люди безусловно, советские, они как следует встали на ноги. И при мне секретарь ЦИК очень хорошо сказал о белорусских писателях: "Неужели вы не понимаете, что когда эти старики редактировали «Нашу Ниву», они не ходили с Карлом Марксом под мышкой".

Эти старики — самые талантливые белорусские писатели, у них очень большой авторитет на Западе».

З гэтага ўрыўка відаць, як насамрэч ставіліся да Купалы і Коласа нават у больш-менш спакойным для іх 1939 годзе. Іх вобраз быў далёкі ад той атмасферы ўсеагульнай пашаны, якую яны маюць сёння. І менавіта дзеля таго, каб адчуць кантраст паміж уяўнай гісторыяй і мовай фактаў, варта ўдумліва прачытаць усе тры тамы зборніка «Купала і Колас, вы нас гадавалі». Гожа выдадзеныя, яны ўпрыгожаць паліцу кожнага, хто цікавіцца рэальнай гісторыяй Беларусі і рэальнай біяграфіяй Янкі Купалы і Якуба Коласа, 130-годдзе са дня нараджэння якіх мы сёлета ўспамінаем.

*Уладзя* СОДАЛЬ-САДЭЛЬСКІ

# СКУЛЬ ТЫ?

***Як я спазнаваў Палессе!***

Лета 1950 года. Яшчэ адчуваліся вынікі апошняй вайны. Мне няпоўныя трынаццаць, сястрычцы маёй дзевяць. Яна з сорак першага.

Менавіта гэтай парою моцна занядужала наша матуля: з вайны ёй адгукнуліся тыф, малярыя і розныя ліхаманкі. Лекары паклалі яе ў далёкую ад нас гомельскую лякарню, і мы, зняможаныя вайною, паўасірацелыя (тата наш не вярнуўся з вайны), засталіся адны. Пра гэта неяк даведалася наша цётачка Дуня, татава сястра. Яна жыла той парой у палескай вёсцы Смалянка. Настаўнічала. І жыла ў Смалянскай школцы. Была цётка бяздзетная. Яна забрала мяне ў сваю палескую вёсачку, і я тым летам жыў у школцы, гаспадарыў у ёй, балазе, у дзяцей былі канікулы і мне ўсё было даступна: і парты, і дошка з крэйдаю. І невялічкая бібліятэчная шафа з кнігамі, у якой трапіла на вока аповесць Якуба Коласа «У палескай глушы».

З першых радкоў яна заінтрыгавала мяне. Падалося, што гэтая кніга пра мяне. Я ж, як настаўнік Лабановіч, упершыню ў смалянскай школцы спазнаваў Палессе. Смалянку, у якую я трапіў, з усіх бакоў атуляў сасновы лес. Побач са школкай была і балоцістая лугавая нізовінка. Ля яе тулілася гаспадарчая забудова: хлеўчык для кароўкі і цяляці. Катушок для парасяці.

Але найбольш мяне, няспелага падлетка, уразілі тады развагі маладога настаўніка, яго гаворка пра сэнс чалавечага жыцця са школьнай старожкай. Вось пачатак тае гаворкі:

*— А, гэта ты, бабка! Ну, прысядзь, пагаворым трохі!*

*— А я пастаю, панічык… У вас так ціха, я думала, што вы ўжо спіцё, а вы ўсё з гэтай кніжкай, — сказала, прысаджваючыся, бабка, — прабачце, панічык, я прыйшла запытацца — ці баліць у вас яшчэ галава, ці перастала?*

*— Перастала, бабка, перастала! — сказаў малады настаўнік. — Я забыўся нават, што яна і балела.*

*— Ну, панічык мой родны, як сабе хочаце: хочаце верце, хочаце не верце, а я вам, далібог, шаптала!*

Такі даверлівы дыялог маладога настаўніка са школьнай старожкай заінтрыгаваў мяне з першай старонкі, і я Коласаву аповесць прачытаў на адным дыханні.

Неўзабаве і я, як коласаўскі Лабановіч, пазнаёміўся са школьнай старожкай. На падворак яна прыйшла не адна, а са сваім гадавалым сынам. Той з цікаўнасцю пачаў разглядаць мяне і нечакана спытаў: «Скуль ты?» Я не зразумеў і паглядзеў на ягоную матулю: маўляў, пра што ён пытаецца, пра якія скулы, а тая мне патлумачыла, што яе сын пацікавіўся, адкуль я, з якіх мясцін родам. Гэта была першая мая гаворка з палескім абарыгенам. У нас жа, на Жлобіншчыне, звычайна пыталіся: «Адкуль ты?» Гэта запомнілася на ўсё жыццё.

А коласаўскі Лабановіч жыў ува мне заўсёды і ўсюды. Я праз усё сваё жыццё трымаўся яго ідэалаў. І тады, калі сам працаваў настаўнікам, і калі даводзілася разважаць пра сэнс чалавечага жыцця.

***P. S. Мне даўно карцела распавесці, як я праз непасрэднае жыццё на Палессі, праз Якуба Коласа і ягоную трылогію «На ростанях», спазнаваў гэты загадкавы і таямнічы край. І вось добрая нагода, 130-годдзе са дня нараджэння нашага славутага літаратара, каб згадаць гэты момант.***

# MEMENTO MORI

*Лабановіч стараўся заснуць. Але яму штосьці не спалася. Як толькі заплюшчыў вочы, перад ім, як жывы, усплыў малюнак дарогі, якою ён ехаў да станцыі: нясканчоныя балоты і цэлыя статкі стажкоў на іх, грэблі, брады. Старыя хвоі, што горда ўзвышалі свае макушы над лесам, і наогул увесь гэты краявід, поўны свайго асаблівага хараства і невыразнай цікавасці… «Калі хворы чалавек пачынае думаць, аб вялікай дарозе, то гэта ёсць прымета таго, што гэты чалавек не ачуняе», — прыпомнілася невядома калі і дзе і кім выказаная думка.*

*«Усё гэта — глупства», — падумаў настаўнік і павярнуўся на другі бок.*

Якуб Колас. «На ростанях»

**Пастаянныя чытачы «Дыялогаў» памятаюць, як у «Купальскай містэрыі» (№ 6) звязаліся дзень нараджэння Янкі Купалы і свята Купалле. А напярэдадні юбілею Якуба Коласа ўбачылася яшчэ адно супадзенне — гэты паэт нарадзіўся амаль што на Дзяды. Для парасткаў, што не маюць карэньчыкаў, скажам інакш — Хэлоўін. Што сутнасці, увогуле, не мяняе…**

**Папярэджваць, што гэты матэрыял ствараўся для «падрыхтаваных», мы, рэдактар часопіса Святлана Дзянісава і астрапсіхолаг Аляксей Селянінаў, палічылі лішнім.**

**С. Д.** — Вы папярэдзілі мяне пра тое, што ў нас павінна адбыцца вельмі глыбокая і сур'ёзная размова, але «законы жанру» няўмольныя: памер часопіснай рубрыкі абмежаваны. А таму прапаную не закранаць аспекты этнаграфіі і фальклярыстыкі: паходжанне свята Дзяды, яго сувязь з такімі датамі як Дзень усіх святых ці Хэлоўін, адпаведныя народныя традыцыі і гэтак далей — урэшце, чытач без цяжкасцей знойдзе гэты матэрыял у шматлікіх крыніцах. Мне хочацца надаць увагу больш канцэптуальным для нашай рубрыкі пытанням: філасофскім, псіхалагічным, астралагічным. Вы згодны?

**А. С.** — Безумоўна, згодзен. А таму, ахвяруючы культуралагічнымі момантамі, пяройдзем адразу in medias res. Я ўжо казаў, што ў астралогіі вялікую ролю адыгрывае прынцып палярнасці, а таму, разглядаючы нейкую дату, мы абавязкова павінны разгледзець і супрацьлеглую. Што мы бачым насупраць Дзядоў і хэлоўіна? Ноч з 31 кастрычніка на 1 лістапада стаіць у апазіцыі да ночы на 1 мая, знакамітай Вальпургіевай ночы, так яскрава апісанай Гётэ ў яго бессмяротным «Фаўсце». Гэта галоўны шабаш. У славянскай традыцыі Вальпургіевай ночы ў некаторай ступені адпавядае ноч на Лысай гары, месцы збору нячысцікаў. Лічылася, што ў гэты час адбываецца кантакт паміж Светам жывых і Светам памерлых — адчыняюцца вароты: у рай ці ў пекла. Калі мы працягнем разглядаць астралагічныя паралелі, то заўважым, што гэтым датам (1 мая і 1 лістапада) адпавядаюць знакі Цяльца і Скарпіёна.

У астралогіі ўсё сімвалічна — і мы ў гэтым яшчэ не раз пераканаемся. Цялец і Скарпіён, другі і восьмы знакі Задыяка, адпавядаюць Другому і Восьмаму дамам гараскопа. Згодна з астралагічнай традыцыяй, Другі дом называецца Porta inferna — «Ніжнія вароты», а Восьмы дом — Porta superna, «Верхнія вароты». Такім чынам, менавіта гэтыя знакі і прадугледжваюць кантакт паміж Светам жывых і Светам памерлых.

Цялец — самы матэрыяльны знак Задыяка, ён адказвае за камфорт і фарміруе сістэму каштоўнасцей. Пакланяючыся

> **У славянскай традыцыі Вальпургіевай ночы ў некаторай ступені адпавядае ноч на Лысай гары, месцы збору нячысцікаў**

залатому Цяльцу, мы рызыкуем трапіць у «Ніжнія вароты». Скарпіён жа прымушае нас узгадаць Біблейскі прынцып: не збірай скарбы на Зямлі, але збірай іх на небе.

**С. Д.** — А гэта праўда, што Скарпіёнам як нікому іншаму дадзена бачыць увесь бруд свету? Ну вось навошта, скажыце, яны нават звычайныя памкненні блізкага чалавека літаральна скануюць, каб потым, прапусціўшы праз свае меркаванні, вывесці, мякка кажучы, на чыстую ваду? Хаця я, канешне, разумею, што гэта дадзена ім з нейкай мэтай.

### СЦЁКАВАЯ КАНАВА. ФІЛАСОФСКІ КАМЕНЬ

**А. С.** — Слушнае назіранне. Сапраўды, Скарпіён ад прыроды адзін з самых празорлівых знакаў, нездарма пад ім, згодна статыстыцы, нараджаецца шмат крыміналістаў і псіхааналітыкаў. Гэта той досыць рэдкі выпадак, калі чалавек валодае адначасова і магутным аналітычным розумам, і развітай інтуіцыяй. Скарпіёнам кіруе Плутон — самая далёкая планета, якая мае самы вялікі перыяд абарачэння вакол Сонца і адпаведна ўплывае на самыя глыбокія, найбольш архаічныя слаі псіхікі. Таму Скарпіёны і маюць здольнасць прасякаць такія нетры, якія іншыя людзі заўважаць наогул не хочуць. Выцясняючы тое, пра што няёмка думаць, у падсвядомае, большасць лічыць, што гэтага быццам не існуе. А Скарпіён, зазірнуўшы ў глыбіні чалавечай душы, здольны ўлавіць любыя вібрацыі і ўказаць на тое, што было выціснута. Скарпіён і адпаведны яму Восьмы дом гараскопа — гэта, у пэўным сэнсе, сцёкавая канава гараскопа. Усе адходы, увесь псіхалагічны бруд збіраецца менавіта ў гэтай зоне. Але пад уздзеяннем Скарпіёна адбываецца згаранне ўсіх гэтых нечыстот, іх пазітыўная трансфармацыя. Менавіта так у алхіміі з бруду нараджаецца філасофскі камень. Скарпіён, такім чынам, у вышэйшай сваёй іпастасі і ёсць знакамітая птушка Фенікс.

Скарпіён гаворыць нам пра тое, што за стабільнасцю заўсёды ідзе крызіс, што страты — не менш заканамерная рэч, чым набыткі. Гэты знак нагадвае нам пра хуткаплыннасць і тленнасць нашага зямнога існавання, пра тое, што ўсё — часовае, а таму толькі духоўныя каштоўнасці маюць сапраўднае значэнне. Менавіта дзякуючы Скарпіёну мы можам адкрыць «Верхнія вароты», і трапіць у духоўную — райскую прастору. Праз гэты, здавалася б, самы цяжкі і самы, як прынята лічыць, ядавіты знак. Бо ён адначасова самы глыбокі і самы высокі.

**С. Д.** — Ёсць думкі, якія можна было б назваць вертыкальнымі, — яны заводзяць так глыбока, што патрабуецца немалы час для таго, каб вярнуцца на зямлю. Я ніколі не магла зразумець, пра які напрамак гаворыцца ў гэтых радках: глыбока ўверх ці глыбока ўніз. Цяпер разумею, што гэта не тое, пра што трэба было думаць…

**А. С.** — У псіхіцы ўсё ўзаемазвязана… А чаму яшчэ Скарпіён уяўляецца людзям такім дыскамфортным? Яго тонкія і глыбокія вібрацыі прымушаюць людзей задумвацца пра тыя рэчы, якіх яны баяцца. Тэма смерці і адраджэння — адна з ключавых у гэтым сэнсе. Таму і невыпадкова, што восеньскія Дзяды трапляюць менавіта на «тэрыторыю» Скарпіёна: калі мы памінаем продкаў, наведваем іх магілы, то міжволі задумваемся пра смерць як натуральнае абмежаванне жыцця. І ўзгадваем знакамітае Memento mori.

### КАНЦА НЯМА. ПАЧАТАК

**С. Д.** — Так, мы абавязкова пойдзем з гэтага свету, як пайшлі з яго нашы продкі. Толькі ж, як сказана ў Кнізе кніг, ніхто не ведае свайго часу. Дзякуй Богу, што гэта забяспечана не для таго, каб мы «расслабіліся». Не з той мэтай, каб прамаўляць «на мой век хопіць» і «бяры ад жыцця ўсё». Якраз наадварот: не ведаючы, які дзень апошні, трэба каб кожны чалавек быў падрыхтаваны да яго ўвесь час. Я добра памятаю

словы ігуменні Аляксандры з манастыра, які размешчаны ў Валынскім форце Брэсцкай крэпасці: «Калі адчуваеш, што прабачэння недастаткова, трэба пакаяцца. І зрабіць гэта пажадана раней, чым сонца сядзе за гарызонт. Таму што ніхто не можа ведаць, ці ўстане яно заўтра для цябе».

**А. С.** — Каб наша размова не падалася камусьці «занадта ўзнёслай», давайце наблізімся да зямнога і ўзгадаем мудрую народную прымаўку: «Паміраць збірайся, але жыта сей». Смерць прыйдзе тады, калі прыйдзе — але гэта не вызваляе нас ад неабходнасці жыць тут і цяпер, выконваючы паўсядзённыя справы.

На першы погляд можа падацца, што непазбежнасць смерці абясцэньвае жыццё, пазбаўляе яго сэнсу. На самай жа справе, наадварот: менавіта абмежаванасць, канечнасць зямнога існавання надае яму непаўторны сэнс. Калі б мы жылі вечна, то маглі б да бясконцасці адкладваць свае справы, у тым ліку і духоўны рост: мы маглі б дазволіць сабе ўвогуле пра гэта не думаць. Мы маглі б рабіць якія заўгодна памылкі ў надзеі паправіць іх калі заўгодна: мы не былі б нічым абмежаваны. І ў нас не было б ніякага стымулу для росту і развіцця.

**С. Д.** — І гэта ўвогуле ліквідавала б сэнс жыцця. А калі некаму падаецца бессэнсоўным процілеглае — навошта, маўляў, жыць, калі ўсё роўна паміраць, — то гэта, трэба адзначыць, ніжэйшая ступень разумення разглядаемай тэмы. У мяне такое адчуванне — што смерць не канец, а толькі пачатак, — узнікла даўно, калі памерла мая бабуля. Тады я адчула не толькі горыч страты, але і ўрачыстасць моманту. Я зразумела, што смерць трэба разглядаць не як канец жыцця, а як неад’емную яго частку.

**А. С.** — Як гавораць фізікі, фазавы пераход.

## УНІКАЛЬНАЕ СПАЛУЧЭННЕ ЎНІВЕРСАЛЬНЫХ ФАКТАРАЎ

**А. С.** — Нездарма ў многіх рэлігійных традыцыях, у прыватнасці, у будызме, пахаванне не з’яўляецца трызнай па памерлым. Смерць разглядаецца як выратаванне, вызваленне душы ад зямных путаў: накапіўшы патэнцыял, яна выходзіць на шлях да лепшага. Там, дзе пануюць уяўленні пра карму і рэінкарнацыю, на такія пытанні ўвогуле глядзяць пад іншым, больш пазітыўным вуглом. Калі лічыць, што мы жывём не аднойчы і адпрацоўваем з кожнай новай інкарнацыяй нейкія свае даўгі перад мінулым, то ўсё робіцца зразумелым. Наяўнасць такой перспектывы ўсяляе ў чалавека вялікі аптымізм. І ў гэтым, што ні кажы, ёсць свая праўда. Бо пры адсутнасці ўяўлення пра множнасць жыццяў, гэткім «кругавароце душ у прыродзе», чалавека пераследуе адчуванне несправядлівасці і бэссэнсоўнасці самой ідэі пабудовы гэтага свету: чаму ён такі бязлітасны? Чаму адзін нараджаецца прынцам, а другі — жабраком? Чаму аднаму пакуты, а другому сусветнае прызнанне? Калі не разглядаць пытанне пра множнасць нашых жыццяў, то сацыяльная, маёмасная і нават інтэлектуальная няроўнасць паміж людзьмі робіцца апафеозам несправядлівасці. А множнасць жыццяў гаворыць пра тое, што ў кожным з вяртанняў чалавек адпрацоўвае той ці іншы аспект, «разблытвае пэўны кармічны вузел». Мы, такім чынам, усе праходзім тут, на Зямлі нейкі ўрок. У кожнага ён свой. Астрапсіхалогія ў гэтых адносінах сыходзіць з уяўленняў Усходу: гараскоп чалавека разглядаецца як індывідуальная карта, якая акрэслівае жыццёвы шлях і місію ў дадзеным увасабленні. І дазваляе меркаваць пра нейкі патэнцыял, накоплены раней.

Увогуле, гаворачы пра жыццё і смерць, мы не можам не закрануць пытанне сэнсу жыцця. Тут мы трапляем у межы так званай экзістэнцыяльнай псіхалогіі. Само слова «экзістэнцыя», ад якога яна бярэ пачатак, азначае «існаванне», «існасць». Гэта асаблівы накірунак гуманістычнай псіхалогіі, які сыходзіць з унікальнасці канкрэтнага жыцця чалавека, немагчымасці яго звядзення да агульных схем і класіфікацый, а значыць, разглядае чалавечы лёс як унікальнае спалучэнне ўніверсальных фактараў. Дазволю сабе нагадаць вам, што ў адным з «Дыялогаў» вы назвалі нашы размовы своеасаблівым лікбезам. Я хачу цяпер сказаць больш: яны, на мой погляд, нясуць асветніцкую функцыю. Натуральна, што ў межах адной размовы мы

не можам раскрыць усе аспекты тых ці іншых псіхалагічных напрамкаў, але чытач, які разважае, рэфлексуе, імкнецца пазнаваць новае, атрымлівае пэўную ежу для роздуму…

Дык вось, псіхолаг Віктар Франкл, якога мы ўспаміналі ў папярэдняй размове, назіраў у канцлагеры цікавую рэч: трапіўшы ў нечалавечыя ўмовы, адны людзі скараліся лёсу і ператвараліся ў паслухмяную масу ў руках сваіх прыгнятальнікаў, а іншыя, супраціўляючыся абставінам, выпрацоўвалі асаблівую стойкасць, знаходзілі ў сабе духоўны стрыжань: «Я павінен выжыць, каб расказаць свету, як гэта жудасна, бо гэта не павінна больш паўтарыцца». Тут да месца будзе цытата з Ніцшэ, якую Франкл прыводзіць у сваёй кнізе «Чалавек у пошуках сэнсу». Ніцшэ гаварыў: «Калі ў чалавека ёсць ДЛЯ ЧАГО жыць, то ён без цяжкасцей вытрывае якое заўгодна ЯК». Мы так створаны, прадстаўнікі чалавечага роду, што нам іманентна ўласціва імкненне да паслядоўнасці, упарадкаванасці, нейкай лагічнай стройнасці жыццёвых з'яў. Мы незаўважна імкнёмся да сэнсу — гэта адна з галоўных матывацыйных сіл чалавека. Мы можам цярпець любыя ўмовы, вынесці якія заўгодна складанасці, лічачы іх часовымі, калі бачым у гэтым сэнс. Успомнім, як хутка і з якім энтузіязмам адбудоўваўся Савецкі Саюз пасля вайны.

**С. Д.** — Людзі верылі ў светлую будучыню!

**А. С.** — Людзі ведалі: вось-вось усе цяжкасці скончацца — і прыйдзе камуністычны рай. Так, гэта была ўтопія, так, ілюзія. Але гэта ілюзія аб'ядноўвала і натхняла. Надавала жыццю мільёнаў глыбокі сэнс. Таму, нягледзячы на вельмі цяжкія ўмовы жыцця, не было ні масавых дэпрэсій, ні суіцыдаў, ні нейкіх іншых негатыўных праяў.

**С. Д.** — Гэта калі аналізаваць не людзей паасобку, а чалавецтва ці яго частку ў цэлым. Калі ж пачаць разглядаць кожнага, то ў такі ідэальны фармат не ўсе ўпісваліся і тады. Успомніць хаця б, што і ў пасляваенным Мінску існаваў варыянт банды «Чорная котка».

Не ўсе людзі разважаюць пра сэнсы і не ўсе бачаць мэты, не ўсе мэты светлыя, ды і сэнсы — не заўсёды глыбокія. Вось што тут: норма і паталогія ці звышнорма і норма?

**А. С.** — На самай справе, пра сэнсы задумваюцца ўсе. Пытанне ў іншым: чаму людзі гоняць ад сябе гэтыя думкі? Апатыя, падзенне нораваў, інтэлектуальнае і культурнае выраджэнне з'яўляюцца наступствам таго, што псіхолагі гуманістычнага напрамку называюць экзістэнцыяльным вакуумам. Адсутнасць матывацыі: звышзадачы, нейкай самай важнай, ключавой цэннасці — вось што робіць жыццё пустым і бессэнсоўным.

**С. Д.** — Тут я павінна спытаць: чаму так адбываецца?

## «ВУЗКІ ТОЙ ШЛЯХ»

**А. С.** — Урбанізацыя, глабалізацыя, адрыў ад прыродных цыклаў, паскарэнне тэмпу жыцця… Страта рэлігійных каштоўнасцей і ідэалаў — на іх месца, як бачым, не прыйшло нічога значнага. А без гэтага чалавек жыве проста таму, што жыве. Адсюль — неадчэпнае спажыванне і неўтаймоўнае імкненне да ўсё большых задавальненняў. Так чалавек апынаецца пад уладай ніжэйшых вібрацый знака Цяльца — і трапляе ў «Ніжнія вароты», што вядуць да прасторы пекла.

**С. Д.** — «Уваходзьце праз вароты цесныя, бо вароты шырокія і шлях прасторны вядуць да пагібелі, і многія ідуць праз іх; таму што цесныя тыя вароты і вузкі той шлях, што вядзе да жыцця, і многія не знаходзяць іх». Евангелле ад Матфея.

Значыць, нам, прадстаўнікам роду чалавечага, біясацыяльным істотам, ад нараджэння ўласціва патрэба ў нейкай сістэме каштоўнасцей і арыенціраў.

**А. С.** — А яшчэ — патрэба ў аб'екце пакланення. Але калі гэта ніша не будзе запоўнена нечым светлым, яе абавязкова запоўніць нешта цёмнае.

**С. Д.** — Напэўна, і запаўняць не трэба будзе, паколькі цемра ўжо ёсць там, дзе няма святла.

**А. С.** — Вось чаму кожны чалавек пра сэнс жыцця раней ці пазней усё ж задумваецца. Гуманістычныя псіхолагі, у прыватнасці экзістэнцыяльныя, лічаць, што абсалютна ўсе страхі чалавека ў канчатковым выніку зводзяцца да аднаго — страху смерці. Прычым не толькі як антытэзе інстынкту самазахавання, не толькі смерці ў біялагічным сэнсе, а і як страху перад асабістым сумленнем, яго брудам. А яно бывае нячыстым не толькі тады, калі мы робім нешта не тое, калі награшылі і адчуваем віну. Нячыстае сумленне — следства нерэалізаваных магчымасцей. Гэта калі мы не дасягнулі нечага, чаго маглі б дасягнуць. Не напоўнілі жыццё тым сэнсам, якім павінны былі напоўніць.

**С. Д.** — І таму, калі жыццё складаецца з рэалізацый сэнсаў, смерць нельга лічыць адыходам у нябыт. Гэта і не смерць у агульным разуменні — гэта новае нараджэнне.

**А. С.** — Падвядзенне вынікаў. Мы ўжо гаварылі пра тое, што чалавек падсвядома баіцца быць асуджаным Вышэйшым судом згодна з артыкулам «Злачынная бяздзейнасць». Ёсць і такі тэрмін — экзістэнцыяльная фрустрацыя: адчуванне ўнутранай пустэчы, усведамленне бэссэнсоўнасці, марнасці ўсіх намаганняў, іх бесперспектыўнасці. Крушэнне надзей і ідэалаў. Гэта даволі цяжкі стан, які вядзе да дэпрэсіі, псіхапаталогіі і нават нейкіх негатыўных праяў на сацыяльным узроўні. Але жыццё вельмі складанае і вельмі цікавае. І безліч прыватных выпадкаў вучыць: калі сёння ваша жыццё здаецца вам бессэнсоўным і нікчэмным, не трэба складаць рукі. Магчыма, ужо заўтра нейкая падзея цалкам напоўніць сэнсам усё ваша папярэдняе існаванне. Калі мала каму вядомы навуковец раптам атрымлівае Нобелеўскую прэмію за зробленае ледзь не паўстагоддзя таму — гэта якраз тая самая гісторыя.

**С. Д.** — Гэта той шчаслівы выпадак, які заўжды выпадае на долю таго, хто яго заслугоўвае больш за іншых.

**А. С.** — Менавіта так — прапаную ўзгадаць прыклад з класічнай літаратуры: успомніце ліст Таццяны да Анегіна! *Вся жизнь моя была залогом свиданья верного с тобой.* Здавалася б, якія глыбокія думкі могуць змяшчацца ў лісце рамантычнай правінцыяльнай паненкі пачатку ХІХ стагоддзя? Але ж гэта фраза належыць Пушкіну, геніяльнаму паэту-прароку. Пра якое спатканне — і з кім! — тут на самай справе ідзе гаворка? На гэты момант рэдка хто звяртае ўвагу…

## ЛЁС У ШЫРОКІМ ЯГО РАЗУМЕННІ

**С. Д.** — …Калі гаварыць пра Таццяну, то і яна атрымала ўзнагароду за пакуты!

**А. С.** — Тады, калі ў гэтым ужо не было патрэбы?!

**С. Д.** — Самалюбства жанчыны, якая прызналася ў каханні і была адвергнута, павінна быць усцешана! Раней гэта адбудзецца, ці пазней — не так важна: тут яна гатова чакаць вечнасць.

**А. С.** — Гэта пытанне лёсу…

Хаця Шапэнгаўэр з уласцівым яму яхідствам гаварыў, што лёсам людзі схільны называць сукупнасць учыненых імі глупстваў. Але я хачу разглядаць лёс у больш высокім, надіндывідуальным, калі заўгодна, касмічным плане. У гэтым сэнсе экзістэнцыяльная псіхалогія — радня астрапсіхалогіі: абедзве гавораць пра назначэнне кожнага чалавека, яго місію, а таксама тыя патэнцыі, якія ў ім закладзены, і тыя рысы, якія ён лягчэй за ўсё можа рэалізаваць. Да некаторай ступені гараскоп — гэта шлях найменшага супраціўлення: калі мы будзем жыць ў адпаведнасці з ім, то дасягнем поспехаў хутчэй, чым калі будзем дзейнічаць насуперак.

Лёсам, як і пытаннямі жыцця і смерці, кіруе знак Скарпіёна. Чаму людзі баяцца прыблізіцца да варотаў смерці? Таму што гэта мяжа, з-за якой яшчэ ніхто не вяртаўся. Мы не ведаем, што будзе потым, за гэтай мяжой. І тым не менш нават хрысціянскія

Ніцшэ гаварыў: «Калі ў чалавека ёсць ДЛЯ ЧАГО жыць, то ён без цяжкасцей вытрывае якое заўгодна ЯК»

**Нячыстае сумленне — следства нерэалізаваных магчымасцей. Гэта калі мы не дасягнулі нечага, чаго маглі б дасягнуць**

тэолагі, у тым ліку і праваслаўныя, пішуць пра феномен смерці не з жахам, а з глыбокай пашанай. Як пра нейкае падвядзенне вынікаў жыцця. І калі чалавеку сапраўды ёсць што ўспомніць, калі ў яго ёсць падстава сказаць: «Я жыў не дарэмна, маё існаванне было напоўнена сэнсам» — яго жыццё сапраўды не было марным.

**С. Д.** — І смерць у такім выпадку ніяк не можа разглядацца як жудасная і катастрафічная падзея. Смерць не страшыць чалавека, калі ён ведае, што яна наблізіць яго да Стваральніка — таго, каго ён любіць пры жыцці, з кім знаходзіцца ў пастаянным кантакце. Для чалавека, які настроены на вышэйшыя каштоўнасці, не паграз у мірскім, мітуслівым, тленным, праблема жыцця і смерці не можа стаяць востра. Калі чалавек не звяртае асаблівай увагі на бачнае фізічна і бачыць тое, чаго вачыма бачыць не атрымліваецца, ён ужо душой у вечнасці…

А што азначае страх позняй восені? З чым звязана пакутлівае чаканне пачатку зімы і першых сняжынак — як збавення?

**А. С.** — Пасля ўладарання змрочнага Скарпіёна надыходзіць час Стральца, самага аптымістычнага знака!

**С. Д.** — Але гэта нармальна — калі чалавек пакутуе ўвосень?

**А. С.** — У глухую восень, перадзімак? Цалкам нармальна — гэта агульначалавечая ўласцівасць.

**С. Д.** — Тады я рызыкну выказаць думку, што лячыць восеньскую дэпрэсію (будзем называць рэчы сваімі імёнамі) — злачынства. Звяртацца па дапамогу да псіхатэрапеўтаў і гамеапатаў — няправільна. Тое, ад чаго некаторыя лечацца, трэба выкарыстаць на патрэбу душы: прайсці праз гэта, мэтанакіравана кінуцца ў самы цэнтр — плакаць, успамінаць, каяцца... Адным словам, душы гэта трэба — пакутаваць. Гэта як новае нараджэнне. Калі Алег Міцяеў называе лета маленькім жыццём, то восень няхай будзе малюсенькай смерцю — перад новым нараджэннем у снежні.

**А. С.** — *И часто плачем мы невольно, когда дожди стучат в окно, не потому, что сердцу больно, а потому, что есть оно*. Восеньская дэпрэсія з'яўляецца лекавым сродкам сама па сабе. Яна аказвае адраджальнае дзеянне, загойвае раны душы. Гэта рэгенерацыя. І гэтаму нас таксама вучыць Скарпіён: не баяцца страхаў, а працаваць з імі, у іх паглыбляючыся. Не трэба баяцца застацца сам-насам з праблемамі. Перыяд, які часам здаецца невыносным, пасылаецца звыш для закалкі душы. Нібыта асенняя інфекцыя, якая спрыяе ўмацаванню імунітэту.

* * *

***А. С.*** *— Я ніколі не разумеў, навошта адзначаць дзень нараджэння чалавека, які ўжо памёр? Гэта традыцыя заўсёды падавалася мне даволі дзіўнай. Калі мы мяняем пашпарт, то новы адмяняе дзеянне старога, ці не так? Прывілея ёсць толькі ў фігур эпахальнага значэння: паэтаў, пісьменнікаў, навукоўцаў. Вось і ў нашых знакамітых народных паэтаў, Янкі Купалы і Якуба Коласа, дні нараджэння выпадаюць на вельмі важныя даты календара.*

***С. Д.*** *— Тут нешта ёсць, як гаварыла мая бабуля. Можна гэта неяк патлумачыць? Чаму гэтыя двое нараджаюцца ў адзін год, абодва — на вялікія народныя святы, абодва бяруць псеўданімы, якія акранімічна ўтвараюць пытанне або перадумову: «ЯК»? Дзіўныя супадзенні…*

### МЯЖА

**С. Д.** — Андрэй Федарэнка ў аповесці «Мяжа» піша, што нават проста дажыць, фізічна даіснаваць да 45 гадоў — гэта ўжо само па сабе вялікае дасягненне. Пра душу ён тут не гаворыць. Але гэта б не быў Андрэй Федарэнка, калі б было ўсё так проста.

**А. С.** — З пункта гледжання астрапсіхалогіі размова тут ідзе пра так званы крызіс сярэдзіны жыцця, які адпавядае апазіцыі Урана, а таксама квадратуры Нептуна (а для цяперашняга пакалення — і Плутона) да іх натальных становішчаў. Так заўсёды адбываецца ў 42—43 гады. Гэта перыяд трансфармацыі, пераасэнсавання. Паваротны пункт. Уран і Плутон, зноў жа, маюць непасрэднае дачыненнне да знака Скарпіёна. Чалавек, пераадолеўшы крызіс сярэдзіны жыцця, быццам атрымлівае пасвячэнне: выходзіць на новы ўзровень, канчаткова фарміруецца як асоба. Гэта можна назваць другім нараджэннем на зямлі. Не ўсім удаецца да гэтага дайсці. Па статыстыцы ўзрост 42—45 гадоў — адзін з пікаў смяротнасці, асабліва сярод мужчын. Гэта сапраўды мяжа. Яна паказвае, наколькі чалавек выконвае сваю місію. Успомнім Дантэ: «Жыццёвы шлях прайшоўшы да паловы, я апынуўся ў цёмным гушчары». У 45 чалавек ужо павінен разумець, для чаго ён прыйшоў на гэты свет і ў чым яго прызначэнне. У гэты перыяд людзі часта мяняюць прафесію, род занятказў, нават сям'ю.

**С. Д.** — Калі студэнт першыя два курсы працуе на залікоўку, то апошнія два курсы залікоўка працуе на студэнта. Тут тое самае: калі да 45-і папрацаваў, то потым пачынаеш пажынаць плады сваіх намаганняў.

**А. С.** — Размова, вядома, пра тое, што ствараецца ўнутры, а не ў знешнім свеце. Накоплены патэнцыял, дасягнутыя вышыні зрэласці і глыбіні мудрасці даюць права ісці далей па жыцці ўзброеным, умацаваным. Вы як біёлаг добра ведаеце, што калі ракападобныя падрастаюць, яны мяняюць панцыр. І на нейкі час робяцца вельмі адчувальнымі, адкрытымі і таму безабароннымі. Рачкі тады імкнуцца недзе схавацца. Людзі таксама павінны разумець, што ў гэты перыяд трэба збавіць абароты. Перагледзець прыярытэты, не гнацца за праявамі поспеху, знізіць тэмп. Або яшчэ прыклад: чалавек едзе па дарозе на вялікай хуткасці і раптам — знак абмежавання. Наперадзе складаная дарога. Не звернеш увагі на знак — рызыкуеш не даехаць… «Мяжа» Федарэнкі — гэта вельмі сімвалічная назва, і мы ўжо гаварылі, што пісьменнікі наўпрост звязаны з калектыўным бессвядомым. Ідэі хоць і належаць усяму чалавецтву, але нехта павінен іх сфармуляваць і данесці да шырокага кола людзей у зразумелым выглядзе.

**С. Д.** — Місія пісьменнікаў, такім чынам, не зводзіцца да таго, каб трапіць у энцыклапедычны даведнік, стварыўшы нейкую колькасць тэкстаў. Як некаторыя лічаць…

* * *

**А. С.** — Ёсць, увогуле, цэлы шэраг пісьменнікаў філасофскага плана, у творах якіх сюжэт — другасны. Ён толькі шкілет, на які нарошчваюцца падзеі, што не маюць асаблівага значэння. Галоўнае хаваецца ў так званых лірычных і філасофскіх адступленнях аўтара. У якасці прыкладу я магу прывесці Маркеса ці Кундэру. Гэта і традыцыя Дастаеўскага. У пэўным сэнсе, і ў яго сюжэт таксама бывае просты, часам нават банальны. Але ён служыць канвой для раскрыцця псіхалагічных вобразаў і характараў, а таксама для таго, каб укліньваць свае разважанні і думкі. Дарэчы, значна больш цікавыя і важныя, чым сам тэкст…

Вось чаму некаторыя экранізацыі немагчыма глядзець.

**С. Д.** — Гэта тэст на адчувальнасць і інтэлект: за стварэнне такіх фільмаў бяруцца тыя, хто так і не зразумеў, пра што на самай справе ідзе размова. Што да простасці сюжэтаў, то часта менавіта яны адпавядаюць тым творам, якія хочацца перачытваць шматкроць. Я кожны месяц здымаю з паліцы Чэхава ці Булгакава, хоць выраз «не адарвацца» — не пра іх, а пра Барыса Акуніна. Я па некалькі разоў перачытваю Віктара Гардзея і асобныя кавалкі ў Навума Гальпяровіча, а вось «улётных», «залпам» некалі прачытаных Акуніна ці Дэна Браўна больш не хочацца.

**А. С.** — Забягаючы наперад, скажу, што да ліку пісьменнікаў філасофскага складу, на мой погляд, трэба аднесці і Якуба Коласа. Мне здаецца, што ён хоць і народны ды

вывучаны ўздоўж і ўпоперак, але ж яшчэ чакае свайго сапраўднага літаратуразнаўцу і крытыка. Пісьменнік-Скарпіён (як, напрыклад, Дастаеўскі ці Тургенеў) — гэта заўсёды глыбокі мысляр псіхааналітычнага складу.

### САНКЦЫЯНАВАНА ЗВЫШ

**А. С.** — Каб прыгожа завяршыць тэму сэнсаў і прызначэнняў, я дазволю сабе цытату з любімага філосафа, мысліцеля і псіхолага Карла Густава Юнга: «Чалавеку з усёй выразнасцю неабходны агульныя перакананні і ідэі, якія надаюць сэнс яго жыццю і дапамагаюць яму адшукваць сваё месца ў сусвеце. Чалавек здольны пераадолець немагчымыя цяжкасці, калі перакананы ў тым, што гэта мае сэнс. І ён церпіць крах, калі сярод іншых няшчасцяў вымушаны прызнаваць, што адыгрывае ролю ў казцы, расказанай вар'ятам».

Як і ў выпадку з Янкам Купалам, у Якуба Коласа я магу разглядаць толькі касмаграму, а не дакладны гараскоп. Відавочна, што нават нараджэнне гэтых людзей было асвечана, санкцыянавана звыш. Перш за ўсё, звяртае на сябе ўвагу становішча Сонца ў картах паэтаў. Янка Купала нарадзіўся ў другой дэкадзе Рака, а Якуб Колас — у другой дэкадзе Скарпіёна. Адна стыхія, вада — самая глыбокая, псіхалагічная. Паміж гэтымі становішчамі Сонца, а яно ўвасабляе дух, творчы пачатак, разумны складнік, існуе вельмі гарманічны аспект, трыгон — 120 градусаў. Гэта азначае гарманічнае, творчае супрацоўніцтва. Купала і Колас паважалі адзін аднаго і цудоўна узаемадзейнічалі. Гэта той рэдкі выпадак, калі паміж творчымі людзьмі не было ні ценю рэўнасці ці зайздрасці.

**С. Д.** — Некаторыя настойваюць на супрацьлеглым. Але пакінем гэта на сумленні даследчыкаў. Да таго ж добра вядома, што кожны схільны бачыць свет праз сваю суб'ектыўную прызму. Заяўляць, што паміж гэтымі людзьмі было нешта накшталт зайздрасці, — значыць, абвінавачваць іх у няшчырасці. А гэта вельмі сур'ёзнае абвінавачванне. У дадзеным выпадку гэта да некаторай ступені кашчунства.

**А. С.** — Я скажу больш. Як прадстаўнікі воднай стыхіі, яны абодва валодалі выдатнай інтуіцыяй і цудоўна разумелі, што ў параўнаннях не маюць ніякай патрэбы: у кожнага з іх — свая місія. А тое, што яны маглі без лішніх рэверансаў выказваць адзін аднаму ўсё, што лічылі патрэбным (і галоўнае — *калі* лічылі гэта патрэбным), азначае, што яны былі менавіта сябрамі. Калі ж разглядаць іх як народных паэтаў, звярнуцца не да чалавечага, а да творчага, то ў мяне напрошваецца аналогія з рускай літаратурай. Часам некаторыя, чытаючы вершы Купалы ці Коласа, блытаюць аднаго з другім. На мой погляд, цікавая аналогія ёсць у рускай літаратуры: Цютчаў і Фет. Я сам часам не магу сказаць, які верш каму з іх належыць. «Дыферэнцыйным крытэрыем» тут можна лічыць фразу, якую я некалі пачуў ў адным фільме: «Фет — гэта калі прыгожа, а Цютчаў — калі разумна». Гэту аналогію, мне здаецца, можна выкарыстаць і ў дачыненні да Купалы і Коласа: узвышана, вытанчана, прыгожа — першы; сур'ёзна, глыбока, па-філасофску — другі. Сапраўдны Скарпіён! Разглядаючы касмаграму, якая адпавядае даце нараджэння Канстанціна Міхайлавіча, адразу звяртаеш увагу на тое, што гэта чалавек няпростага лёсу і няпростай унутранай пабудовы. Вельмі няпростай. І нездарма ў яго карце даволі дакладна прачытваецца асаблівая місія, якую ён аддана выконваў усё жыццё. Але я мушу выказаць крамольную думку: атрымаўшы ўсе магчымыя рэгаліі пры жыцці, ён, тым не менш, свой вялізны патэнцыял рэалізаваў толькі часткова. Яму не далі раскрыць яго да канца ў прапанаваных лёсам абставінах. Неспазнаныя шляхі Гасподнія. Не дадзена нам судзіць, чаму здарылася менавіта так…

У карце Коласа звяртае на сябе ўвагу акцэнтаваны знак Скарпіёна, у які трапілі Сонца і Марс, суправіцель знака. Марс знаходзіцца ў злучэнні з Узыходзячым месячным вузлом, яго яшчэ называюць Галавой Дракона. Гэта вельмі важны кармічны паказчык. Яго аднаго дастаткова, каб ведаць: Якуб Колас быў першапраходцам, лідарам і байцом. Чалавекам, моцным духам: ад яго сыходзіла менавіта ўнутраная сіла. І часам даволі цяжкая энергія. Мяне заўсёды ўраж-

валі фотаздымкі і партрэты Якуба Коласа: нават рэпрадукцыі добра перадаюць эфект ад яго пагляду — накіраванага адначасова ўдалеч і ўнутр. Гэта позірк мудраца, філосафа, прарока. Знак Скарпіёна і планета Плутон здольны да прароцтваў. Трэба толькі памятаць, што прарок — гэта не прадракальнік, а чалавек, які паведамляе свету нейкі сусветны закон.

Акрамя таго, гарманічны аспект паміж Меркурыем і Венерай у касмаграме Коласа дакладна ўказвае на лёгкае, свабоднае валоданне словам, уменне прыгожа і паслядоўна выказваць свае думкі — і без перашкод даносіць да людзей. Адным словам, Канстанціну Міхайлавічу быў уласцівы не толькі пісьменніцкі дар, але і талент педагога, які ён таксама раскрыў ў поўнай меры. Даволі моцны і гарманічны Уран надзяляў яго магутным інтэлектам, празарлівасцю, а яскравая, вогненная Луна ў Ільве (няхай і ў напружаным аспекце з Сонцам!) надавала яго творчасці непаўторную эмацыянальнасць і драматызм. Дарэчы, у картах Купалы і Коласа не толькі Сонца, але і Луна, знаходзяцца ў знаках адной стыхіі — у дадзеным выпадку агню (яны сапраўды добра разумелі адзін аднаго — і на інтэлектуальным, і на эмацыянальным узроўні). У абодвух акцэнтаваны ўсе тры вышэйшыя планеты — Уран, Нептун і Плутон, а таксама Сатурн, які адказвае за ўвасабленне яркіх ідэй і багатых творчых задумак. Ужо адно гэта сведчыць пра харызматычнасць і надзвычайную адоранасць адобвух нашых народных паэтаў.

Тым не менш Марс у касмаграме Коласа знаходзіцца ў апазіцыі з Сатурнам і Нептунам. Гэта сведчыць пра тое, што жыццёвы шлях паэта ўжо першапачаткова не павінен быць усыпан ружамі: ён народжаны для таго, каб пераадольваць, спасцігаць, перамагаць. З такой картай мог нарадзіцца военачальнік або таленавіты навуковец, асабліва ў такіх галінах, як медыцына, атамная энергетыка, цяжкае машынабудаванне. Але лёсу было заўгодна гэтага чалавека накіраваць на шлях літаратуры… Я ўсё ж настойваю на тым, што Коласа мы добра ведаем як паэта і пісьменніка, але вельмі мала надаём яму ўвагі як філосафу. Нельга зацыклівацца на бытавой і апісальнай старане. Чаму я і кажу, што творчасць Коласа прааналізавана не да канца. На жаль, мы ўжо ніколі не даведаемся, пра што ён думаў. Але нават яго позірк сведчыць, што гэты чалавек не мог выказаць усё, што было ў яго на душы.

**Калі чалавек не звяртае асаблівай увагі на бачнае фізічна і бачыць тое, чаго вачыма бачыць не атрымліваецца, ён ужо душой у вечнасці…**

**С. Д.** — Ён так часта хварэў, так шмат перанёс нягод і выпрабаванняў, але працягваў тварыць. Нават памёр за пісьмовым сталом. Чалавек гэты, Скарпіён, сапраўды быў здольны адраджацца з попелу. Як птушка Фенікс.

## ЦАРСТВА НЯБЕСНАЕ

**С. Д.** — Аддаючы павагу памяці памерлых, мы пакланяемся помнікам і магілам, якія хаваюць толькі прах. Многія цалуюць помнікі і расказваюць магілам пра свае праблемы і радасці. У выніку звяртаюцца не да той субстанцыі, да якой, можа быць, і варта было б звярнуцца. Тое, што ў зямлі, не з'яўляецца тым, каго мы помнім: памерлыя жывуць у нябёсах і нашай памяці.

**А. С.** — З майго асабістага пункта гледжання, гэта дакладны перажытак язычніцтва, паганства. Чалавеку для памяці патрабуюцца нейкія матэрыяльныя рэчы: помнік, магілка як месца супакаення памерлага — і своеасаблівы аб'ект пакланення. Але калі душа пакідае цела, то, зразумела, што яно перастае што-небудзь значыць.

**С. Д.** — «Гора таму, хто бачыць толькі целы і формы! Смерць адбярэ ў яго ўсё. Старайцеся любіць душы — і вы адшукаеце іх зноў». Вось цікава, чаму некаторыя святары забараняюць цытаваць Гюго…

**А. С.** — Я зноў скажу крамольную рэч. Пакланяцца, на мой погляд, смешна не толькі магілам, але і мошчам. Можна аб'яўляць

іх нятленнымі і цудадзейнымі, але ж душа пайшла з іх, а значыць, сышла і тая энергія, да якой, пакланяючыся, звяртаюцца. І нідзе, ні ў Новым, ні ў Ветхім Запавеце не сказана: пакланяйцеся целам усопшых вашых. «Няхай мёртвыя хаваюць сваіх мерцвякоў», — вось што кажа Біблія.

**С. Д.** — Вы закранулі цікавы момант. Мне таксама заўсёды здавалася, што тут нешта няправільна. Прабач, Божа, за такія словы, але мне здаецца дзіўным, што апошнім часам святыя нават… пускаюцца ў гастролі.

…Нам анафему не абвесцяць?

**А. С.** — Мне прасцей. Мая сфера дзейнасці і без таго не ўпісваецца ў царкоўныя каноны. Працягваю думку. Культ нябожчыкаў, пакланенне магілам — гэта даніна памяці, сувязь з мінулым, родавыя карані. Так, гэта важна. Але думаць трэба заўжды пра будучае — і пра жыццё. І ўспамінаць лепшае. Добра, калі на памінках гавораць пра дасягненні чалавека, узгадваюць нейкія цікавыя, прыемныя і смешныя моманты з яго жыцця. Не слёзы і рыданні, а глыбокая пашана і любоў — вось што сапраўды дапамагае душы. І малітва. Шчырая малітва. Псіхолагі і святары ў адзін голас гавораць: адпусціце, не перашкаджайце душы, дайцё ёй зрабіць гэты пераход лёгка. Калі мы плачам, нават кідаемся ў істэрыку на пахаванні, мы ж аплакваем не чалавека, які памёр, а сябе. Мы шкадуем менавіта сябе! Гэты чалавек быў для мяне значным, з ім пайшла пэўная частка майго свету — вось пра што нашы слёзы. Мы губляем частку сябе, хаваючы блізкага нам чалавека. І шкадуем — сябе. А павінны адчуваць благагавенне перад тым, што адбылося: дарагая нам душа пайшла ў лепшы свет. А пакланенні, дарагія помнікі, прыгожыя надмагіллі — гэта ўсё праяўленне чалавечай дэманстратыўнасці. Нічога болей. Гэта мы таксама робім для сябе. Аддавайце належнае пры жыцці. Каму патрэбны кветкі пасля смерці? Не патрэбны і бронзавыя манументы: вы пры жыцці акажыце чалавеку гонар і павагу.

**С. Д.** — Як казаў Малыш з казкі пра Карлсана: «Калі я такі дарагі, ці можна мне атрымаць хоць трошкі наяўнымі?»

**А. С.** — Аплакванне пакойнікаў, частае наведванне могілак, бясконцае сядзенне ля магілы — гэта, з пункта гледжання псіхолага, спроба выкуплення віны. Гэта адчуванне таго самага страху перад артыкулам «Злачыннае бяздзеянне». Нечага не дадаўшы чалавеку пры яго жыцці, мы імкнёмся выкупіць гэта пасля яго смерці. Але гэта ўжо марная трата часу. Вось і нагадвае нам Скарпіён: спяшайцеся, жыццё хуткае, тленнае, не марудзьце, людзі, рабіць дабро. Не забывайце пры жыцці паказаць блізкім, што вы іх любіце. Зрабіце гэта сёння, бо заўтра можаце не паспець. Не тое што паказаць, а нават сказаць. Калі чалавек адчувае, што пры жыцці ён аддаваў свайму блізкаму ўсё, што мог — душу і час, то ў яго няма адчування пустаты — і не будзе цяжару віны. Калі ўсё адбывалася добра, правільна, то пры смерці блізкага ўзнікне адчуванне лагічнага завяршэння. Мы ж цудоўна разумеем, што ўсе людзі паміраюць, рана ці позна.

**С. Д.** — Даволі страшна гучыць на пахаванні «народны выраз»: «Быў чалавек — і няма чалавека». Гэта, мне здаецца, б'е па душы таго, пра каго гаворыцца. Ну як жа няма?! Гэтым жа бяздумна сцвярджаецца, што жыццё чалавека нічога не значыць, што не гаварыў ён ніколі добрых слоў, не глядзеў пяшчотна і спагадліва, не суцяшаў, не клапаціўся, не дапамагаў, не думаў, не перажываў, не любіў, не… шмат перакрэсліваецца гэтымі бязглуздымі словамі. Быццам са смерцю ўсё скончылася і больш нічога няма. А няўжо не ўспомняцца вам яго парады і жарты?.. Мы жадаем, каб зямля была пухам. Пры чым тут зямля? Мы ж душу памятаем, а не цела. Зноў трэба ўспомніць Гюго: любіце душы — і яны вернуцца да вас, зноў і зноў.

**А. С.** — На жаль, гэта вынік сямі дзясяткаў гадоў ваяўнічага атэізму. Усё сказа-



Калі студэнт першыя два курсы працуе на залікоўку, то апошнія два курсы залікоўка працуе на студэнта

на ў Біbліі. Толькі чытаць трэба ўважліва. Напрыклад, я вельмі часта раю чытаць кнігу Эклезіяста.

**С. Д.** — Астролаг, які цытуе Біблію…

**А. С.** — Натуральная з'ява, якая лішні раз сведчыць, што ўсе вартыя ўвагі ідэі сыходзяць з адзінай крыніцы — і ўрэшце вяртаюцца да яе… Астрапсіхалогія — гэта сучаснае, перспектыўнае вучэнне пра чалавека і яго душу, якое не абвяргае ніякі вопыт, у тым ліку і рэлігійны.

**С. Д.** — Гэта адзіная сістэма ведаў, якая працуе, прабачце мяне за такое спрашчэнне, па прынцыпе: «Все включено».

**А. С.** — Так, астралогія вывучае час і яго цыклы. Тая ж кніга Эклезіяста, калі яе ўдумліва чытаць, падаецца глыбока астралагічнай. Менавіта ў ёй і хаваецца сутнасць астралогіі і астрапсіхалогіі. Няма нічога новага пад Месяцам. Скажуць: гэта новае, а яно ўжо было. *Что было, то и теперь есть, и что будет, то уже было...*

## СКАРПІЁН. АДКАЗ НА КРЫЎДУ

**С. Д.** — Я не магу не ўтрымацца ад каментарыя, што вы таксама Скарпіён.

**А. С.** — Гэта вельмі важная і адказная місія. Указваючы чалавеку на яго слабасці, ты дапамагаеш яму расці над сабой. За гэта трэба гаварыць «дзякуй». Чалавека, увогуле, немагчыма пакрыўдзіць, абвінавачваючы ў тым, што яму не ўласціва. Калі ты пакрыўдзіўся, значыць…

**С. Д.** — Крыўда — гэта ад слова «крывы». Пакрыўдзіцца — значыць, заўважыць сваю крывізну. Для чаго гэта трэба? Каб выпрастацца. А гэта ўжо значыць, зрабіцца простым. Як Божы дзень. Вось такой дзіцячай прастасці людзям і не хапае. Таму на свеце так шмат крыўды.

**А. С.** — Іншая справа, што Скарпіён часам указвае на памылкі і недахопы бязлітасна і жорстка. Але калі да цябе прыцягнула

**Скарпіён часам указвае на памылкі і недахопы бязлітасна і жорстка. Але калі да цябе прыцягнула такога «стыхійнага кансультанта», значыць, табе, менавіта табе патрэбны такі моцнадзейсны сродак**

такога «стыхійнага кансультанта», значыць, табе, менавіта табе патрэбны такі моцнадзейсны сродак. Скарпіён здольны прабіць любую, нават самую моцную псіхалагічную абарону, настолькі яго аўра магутная. І няхай часам і супраць жадання чалавека — давесці да яго ведама тую інфармацыю, якая патрэбна яму ў дадзены час і ў дадзеным месцы. Таму крыўдаваць на Скарпіёна — не канструктыўна. Як і ўвогуле крыўдаваць. Урэшце, чалавек заўсёды сам нясе адказнасць за тое, што з ім адбываецца.

**С. Д.** — Значыцца, так. Тыя, каму даводзіцца цярпець крыўды ад Скарпіёна, — абранцы Божыя: хаця б таму, што ў іх нашмат больш шанцаў на самаўдасканаленне.

**А. С.** — Наша сённяшняя размова падаецца мне асабліва важнай і сімвалічнай яшчэ і таму, што ў пачатку менавіта гэтага месяца, кастрычніка, у знак Скарпіёна ўвайшоў Сатурн, уладар кармы і галоўны Настаўнік чалавецтва. Касмічны суддзя будзе «гасцяваць» у самым складаным знаку Задыяка амаль тры гады, а значыць, у гэты няпросты перыяд усе закранутыя намі пытанні паўстануць надзвычайна востра і актуальна.

**С. Д.** — Я не перастаю здзіўляцца таму, як тэмы нашых дыялогаў лагічна звязваюцца паміж сабой і нават выцякаюць адна з адной. Мне падаецца, што гэты праект сапраўды санкцыянаваны звыш, і я нікольکі не здзіўлюся, калі нам за яго вырашаць прысудзіць прэмію. За духоўнае адраджэнне нацыі.

***Запісала Святлана ДЗЯНІСАВА***

Святлана ДЗЯНІСАВА

# ЖАНЧЫНЫ КОЛАСА

***Чытачу, які пазнаёміўся ўжо з загалоўкам артыкула, але не паспеў яшчэ прабегчы вачыма хаця б першы абзац, можа падацца, што гэта спроба наблізіць публіцыстыку часопіса да фармату якога-небудзь звышпапулярнага выдання. Нічога падобнага! Гэта не выкрыццё з разлікам на сенсацыю. Гэта трактат пра вернасць.***



— Жанчыны Коласа? Іх шмат.

Васіліна Міцкевіч, праўнучка Якуба Коласа, ведае, што гаворыць: калі б не гэтыя словы, невядома, ці з'явіўся б гэты артыкул. Чатыры словы — і мэта працы, не вельмі бачная напачатку, паўстае настойлівай ідэяй.

**М.Д.М.**

«Прозвішча яе было Каменская». Так сказаў Якуб Колас Максіму Лужаніну, калі дзяліўся сваімі ўспамінамі пра «маладую настаўніцу пінскай чыгуначнай школы». Такая просценькая згадка мужа пра жонку. Нават не пачутая, а прачытаная з паперы, яна, канстатуючы сабой факт з біяграфіі Марыі Дзмітрыеўны, малюе пачуццё Якуба Коласа — сталае, ператворанае ва ўспамін, — даволі яркімі фарбамі. Не трэба піць decoctum з мандрагоры, каб чуць у гэтых словах гімн кахання.

Дзень нараджэння Марыі Каменскай у сям'і святкавалі па новым стылі 8 лютага, хоць правільна было б рабіць гэта 7-га. Паводле метрычнай кнігі «Литовской духовной консистории Ошмянской церкви Ошмянского благочиния» дзяўчынка Марыя ў псаломшчыка Дзмітрыя Каменскага нарадзілася 26 студзеня 1891 года. Дадаваць да дня старога стылю трынаццаць дзён — такі парадак прыняты ў дачыненні да XX стагоддзя. Народжаных у XIX, такім чынам патрэбна лічыць на дзень старэйшымі. Правіла гэта, дарэчы, ці то не было агульнавядомым, ці то ігнаравалася, таму што і ў спадчыне самога паэта, творчай і эпісталярнай, некаторыя згадкі пра асабісты дзень нараджэння прыпадаюць на 4-ы дзень лістапада замест 3-га.

Цешча Коласа Марыя Цімафееўна была дачкой немкі-лютэранкі. Як Генрыета Карлаўна Гагенлоэ апынулася на віленскай зямлі, дакладна не вядома. Але вось што цікава. Першы муж Генрыеты Карлаўны, дзед Марыі Каменскай, зваўся Цімафеем, а другі меў «аднайменнае» прозвішча — Цімафееў. Унук апошняга Пётр Мікалаевіч — легендарная для сям'і Міцкевічаў асоба. Нарадзіўшыся ў 1895-м (маладзейшы за Марыю на чатыры гады), ён памёр зусім нядаўна, ужо ў нашым стагоддзі. Дом у Майшаголе пад Вільняй належыць яго сям'і і сёння.

«Прозвішча яе было Каменская». А як быць з сімпатыямі, якія гэтаму пачуццю папярэднічалі?

Аляксандра Зотава. Пазнаёміліся ў Вільні, у рэдакцыі «Нашай нівы», потым разам ездзілі ў калядны Пецярбург. Глядзелі оперу, любаваліся на заход сонца, замаўлялі дарагі нішчымны боршч, ён ёй сваю лепшую картачку падарыў… Кажуць, дарыць каханым фотакарткі — прыкмета на расстанне. Глупства, яны б і так рассталіся. Чытаючы ўспаміны — пра тыя калядныя вакацыі і пазнейшыя, Аляксандры Зотавай і пра Аляксандру Зотаву, — я не расчытала ў іх кахання хаця б з аднаго боку. Сімпатыя, цікавасць — так, але — не болей. І што як не адсутнасць вышэйшага пачуцця надае Аляксандры Георгіеўне смеласці знайсці Якуба Коласа ў яго працоўным кабінеце ў акадэміі амаль праз паўстагоддзя?

Першай была Ядвіся. Цёзка-прататып каханай дзяўчыны настаўніка Лабановіча, сапраўдная дачка пана падлоўчага Ядвіга Ігнатаўна Баранкевіч (Баранцэвіч, Бараноўская — розныя крыніцы даюць розныя прозвішчы, а пошукі ісціны дагэтуль не далі нічога дакладнага) з'ехала ў Польшчу. Успамінаў пра яе ў Якуба Коласа няма. «І ці гэта не доказ пачуцця?» — так і хочацца тут напісаць…

**М.Д.М.**

Тут, па сутнасці, магло б значыцца С. або А. А. К.-Я. — Свет-Лана, друг Былінка — Святлана Сомава ці Аляксандра Кетлер. Асобным загалоўкам можна вылучыць і Зосю Лук'яновіч, закаханую ў паэта настаўніцу, і Ніну Загурскую, пацалаваную паэтам вучаніцу, і…

— Вы пытаецеся, чаму ён піша жонцы Кулакоўскага «Мілая, дарагая, незабываная»… — унучка паэта Вера Данілаўна ні на хвіліну не задумваецца — для сям'і Міцкевічаў гэта тэма не з'яўляецца пытаннем іміджу.

— Нават не так. Чаму ён дорыць ёй залаты пярсцёнак з рубінам? «Жменька чарніц для дзяцей», «вялізны кош крамяных баравікоў», «новыя выданні твораў» зразумець — і дазволіць паэту такія «захады» — можна. Але пярсцёнак!..

Чалавеку ўласціва ставіць сябе на месца іншага чалавека. Вось я і паставіла сябе на месца Ніны Ульянаўны, а на месца Аляксея Кулакоўскага — свайго мужа. Якубам Коласам мне таксама знайшлося каго ўявіць. У выніку ніякая фантазія не дала мне магчымасці прыняць такі падарунак. Можа, і Ніна Ульянаўна не прыняла? Але ж Колас!..

— А як вы паглядзіце на такую гісторыю? — унучка Якуба Коласа Вера Данілаўна адсылае маю фантазію ў ГУМ шасцідзесяцігадовай даўніны. — Уявіце сабе, ён толькі адчыніўся. Дзве маладзенькія студэнтачкі стаяць у аддзеле тканіны. Вочы разбягаюцца, так прыгожа. А купіць — дарага. І яны стаяць, абмяркоўваюць. Мараць. Побач — грузны мужчына ў капелюшы. Ён кажа: «Выбірайце, што вам падабаецца». — «У нас няма грошай». — «Я вам падару». І толькі тады дзяўчаткі скемілі, што гэта быў Якуб Колас, калі на выхадзе ім сказалі: «Забірайце вашы скруткі з матэрыяламі, яны аплочаны».

Даволі хутка ўсвядоміла, што бессэнсоўна задаваць пытанні пра тое, якія жанчыны падабаліся Коласу, чаму ён пісаў ім, чаму пісаў так, а не інакш, што, калі, каму з іх было падорана і з якой нагоды. Адказ усё роўна адзін, на ўсіх агульны: усе яго жанчыны сыходзяцца ў адной.

З ліста Якуба Коласа да Льва Клейнбарта ад 18 чэрвеня 1927 года: «В раннем детстве я влюбился, и предметом моего увлечения была какая-то девочка, которую я увидел во сне. Была ли это любовь, я не знаю, но образ этой девочки долго жил во мне и трогал меня своей красотой, овеянной прекрасными грёзами».

Ён шукаў яе, гэту дзяўчынку. Шукаў, знайшоў, потым згубіў — заўчасна страціў — і… і зноў шукаў. Ён шукаў яе ў воб-

**Бессэнсоўна задаваць пытанні пра тое, якія жанчыны падабаліся Коласу, чаму ён пісаў ім, чаму пісаў так, а не інакш, што, калі, каму з іх было падорана і з якой нагоды. Адказ усё роўна адзін**



разах дзяўчатак-вучаніц, сярод калег і жонак сяброў-пісьменнікаў. Шукаў, але не было ў гэтым мэты. Яны не маглі перарастаць у нешта большае. Хаця некаторым з гэтых жанчын большага, відаць па ўсім, хацелася. Не толькі пасля смерці Марыі Дзмітрыеўны, а нават і да яе (і калі гэта не чытаецца ў радках лістоў і вершаў Коласа, то чытаецца паміж).

З ліста Якуба Коласа да Ніны Загурскай-Паддубнай ад 8 снежня 1952 года: «Марыя Дзмітрыеўна, мая нябожчыца-жонка, была самым лепшым другам маім. Такія жанчыны, як яна, пападаюцца не часцей, як адна на 10 000 жанчын. На маёй дарозе траплялася многа прыгожых дзяўчат і маладзіц. Шмат кім з іх я глыбока захапляўся, але перад Марыяй Дзмітрыеўнай я быў чысты. Скажу болей (а Ваша справа паверыць ці не паверыць): і да жаніцьбы, і пасля жаніцьбы я ніколі не здрадзіў сваёй жонцы».

«Чаму?» — вельмі лагічнае пытанне, калі ўлічыць сімпатыю з абодвух бакоў, паэтычны склад душы нашага героя, некаторыя асабістыя абставіны адрасатак яго прысвячэнняў і — асабліва — норавы XX стагоддзя. Ён імі захапляўся — яны былі не супраць яго ўвагі. Дык чаму ж…

«А што калі б я не быў тым, чым зрабілі мы ўсе патроху разам мяне такім…?» Гэта не адказ Зосі Лук'яновіч, гэта адказ усім ім, жанчынам Коласа, акрамя адной.

«Я рыба, выкінутая на пясок. Калі б хто захацеў рыбу пакінуць жывою, то ён дагадаўся б зараз жа кінуць у вядро з чыстаю, халоднай вадой гэту рыбу. Такіх добрых душ няма». А гэта больш чым адказ. Гэта канстатацыя факта.

Чыстая і халодная…

Сцвярджаць, што ўсе жанчыны розныя — гэта яшчэ не значыць гаварыць, што яны неаднолькавыя.

— Калі прааналізаваць партрэт кожнай сімпатыі Коласа, параўнаць іх паміж сабой, можна лёгка прыйсці да высновы, што гэта былі жанчыны аднаго тыпу, — гаворыць Вера Данілаўна. — Па вобліку яны ўсе падобныя — круглатварыя, з пухленькімі шчочкамі, па-дзіцячы пяшчотныя…

Вершы-прысвячэнні «чужым» жанчынам — гэта ў канчатковым выніку вельмі добрая лірыка.

**М.Д.М.**

Узяць тры шклянкі вяршкоў, паўшклянкі цукру, палову чайнай лыжачкі ванілі і шэсць дзясяткаў грамаў жэлаціну. Жэлацін развесці ў вадзе, вяршкі павінны быць гарачымі, цукар — дробным.

Вось вы думаеце, што галоўнае — змест, а на самай справе, у дадзеным выпадку, — форма! «Часам пасля салодкага стала гасцям прыносілі ў прыгожым посудзе ачышчаныя вараныя яйкі. Людзі былі здзіўлены — хто ж гэта будзе есці пасля багатага застолля і смачных салодкіх страў? А гэта быў сюрпрыз».

Пра тое, што ў яйках праколваліся дзіркі, бялок і жаўток выдзімаліся, а на іх месца ўлівалася салодкая жэлацінавая маса, пасля застывання якой «шкарлупінне абдзіралася», не трэба расказваць тым, хто чытаў «Успаміны пра маму» Данілы Міцкевіча. Ну, або старую рускую кнігу рэцэптаў Алены Малахавец. Дэсерт пад назвай бланманжэ ў доме Якуба Коласа гатаваўся, відаць, па

гэтай кнізе. Як, напэўна, і цыганскі мазурок, і бок баранчыка, сялянскія каўбаскі, паляндвіца, булён з грыбнымі вушкамі і асаблівы святочны торт пад назвай баумкухен.

Баумкухен — гэта ўсё ж нямецкіх каранёў, ад бабулі Генрыеты Карлаўны. «Баум» — дрэва, елка. Як выглядаў гэты торт у выкананні Марыі Дзмітрыеўны — нагадваў літоўскі шакоціс ці роўненькае паленца з гадавымі кольцамі?

— Бацька расказваў, што ў бабулі быў спецыяльны конус для выпечкі. Конус гэты абкручвалі вяроўкай, каб потым, выцягнуўшы яе, утварыць зазор. Вяровачка распускалася — і торт лёгка знімаўся з конуса. Гэта было падобна да літоўскага шакоціса: з цеста вылепліваліся голачкі.

— А цеста якое?

— Хто б ведаў… Апошні раз, паводле ўспамінаў бацькі, Марыя Дзмітрыеўна гатавала яго ў 1925-м — на 20-годдзе літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы. Па тым часе рабіць такое было раскошай. Як, дарэчы, і бланманжэ.

Жонка вядомага пісьменніка, яна магла быць высакароднай «мадамай» — і замаўляць абед гасцям у «рэстарацыі». Маці траіх дзяцей, яна магла стварыць сабе імідж суцэльна занятай «мамкі», а гасцей, калі часам і прымаць, то з «выбачэннем». Ні адзін з гэтых вобразаў і сцэнарных планаў не падыходзіць жанчыне, якая выхоўвалася ў сям'і святара і «прайшла вельмі суровую школу ў жорсткай, але справядлівай ігуменні», прымала «непротивление злу насилием» Льва Талстога і была, руская з дамешкам крыві немкі, духам сваім беларускаю. «Цалкам адданая сям'і, яна амаль штодня хадзіла на рынак, прыносіла цяжкія кошыкі правіянту», «Яна, жонка паэта, была для мяне асаблівым чалавекам, які народжаны толькі для яго», «Мне ж прыходзіцца і ў банк, і ва ўсякія другія ўстановы», «Аб спрыяльных умовах для творчай работы бацькі клапацілася маці», «Такія людзі, як ты, у жыцці вельмі патрэбны, як жыватворчыя сокі гэтага жыцця, бо жывеш ты не для сябе», «Але ж ты трохі часам дурненькая бываеш. Ну, як прыеду, то пойдзем з табою ў лес на рэвізію баравікоў».

**Жонка вядомага пісьменніка, яна магла быць высакароднай «мадамай» — і замаўляць абед гасцям у «рэстарацыі». Маці траіх дзяцей, яна магла стварыць сабе імідж суцэльна занятай «мамкі», а гасцей, калі часам і прымаць, то з «выбачэннем»**

Сапраўдная жонка вядомага пісьменніка, сапраўдная маці траіх дзяцей.

**М.Д.М.**

Колькі ў Коласа вершаў з назвай-прысвячэннем «М.Д.М.»? Я не лічыла. Навошта? Калі сам паэт не чытаў ёй, любай жонцы, вершы-прысвячэнні: не лічыў патрэбным… Калі ў друк нічога не даваў: шкада, мяўляў, няёмка — адбіраць у чытача і газеты час і месца «на сваё»… Памятаеце, як Пушкіну шкада было сваёй Наталлі? Ён не падымаўся з пасцелі, каб запісаць верш, які «прыйшоў»: сны жончыны трывожыць на світанні — ці не занадта дарагая плата за чарговы твор? Чарговы — шараговы. Варты — вернецца. Аднак не пра тое.

«Каб не такая жонка брату надарылася, то, можа, ён і такім вялікім не стаў бы». Гэта сястра Якуба Коласа Алена Лойка. Словы залвіцы найдаражэйшы кошт маюць.

* * *

***Ідэя стварэння артыкула належыць Антаніне Гарон, нядаўняй галоўнай захавальніцы фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа. Рэалізацыя ідэі была б немагчымай без дапамогі цяперашняй галоўнай захавальніцы, праўнучкі паэта Васіліны Міцкевіч, унучкі паэта Веры Міцкевіч, а таксама вядучага навуковага супрацоўніка аддзела фондаў Наталлі Шувагінай-Адамовіч. Аўтар выказвае асобную падзяку дырэктару музея Зінаідзе Камароўскай — за давер і падтрымку.***

*Уладзімір ДАМАШЭВІЧ*

# ДЗЁННІКАВЫЯ НАТАТКІ*

**1987 год**

**1 кастрычніка, чацвер**

Дзень быў доўгі і цяжкі. Зранку з Галяй сабраліся ў ЗАГС, паколькі мелі ўжо тыя даведкі, якія патрэбны для іншага кроку: ёй пасведчанне пра смерць мужа, а мне пра развод. Дабраліся ў 11 гадзін, напісалі заяву, заплацілі нейкую пошліну. Галі яшчэ выпісалі талоны ў магазін «Шчасце», які прадае там нешта для маладых.

Прыехалі дадому, перакусілі — і я паехаў у Наргас, ужо даўно Яўген Радкевіч агітаваў мяне сустрэцца з журналістамі-выкладчыкамі кафедраў журфака (цяпер яны арандуюць чацвёрты паверх у старым корпусе Наргаса). Са знаёмых былі Цікоцкі, Булацкі, Слука, Каваленка, Бондарава, Наркевіч, Стральцоў, Яўген Радкевіч, Сачанка. У твар ведаю яшчэ шмат каго, а па прозвішчы — не, бо канчалі вучобу шмат пазней за мяне. Гутарка была нейкая шумная, яны мяне слухалі адным вухам, гаварылі і нават спрачаліся між сабою. У такой атмасферы цяжка арыентавацца, але я, відаць, сам вінаваты, не змог зацікавіць. Расказаў трохі пра «Маладосць», пра планы, пра маладыя імёны, пасля гаварыў пра жнівеньскія настаўніцкія канферэнцыі, пра сваё выступленне ў Нясвіжы, працытаваў некалькі мясцін. Пасля былі пытанні — пра нашы праблемы, калі дадуць наш дадатак (каламбур!), які гэтулькі шмат абяцаюць, пра «Крыніцу», пра перабудову ў «Маладосці». Пра нашу школу, пра мову — ці выйдзем мы з гэтага тупіка, ці вернем страчаныя пазіцыі, пра двухмоўе, яшчэ шмат пра што.

Яшчэ зайшоў на працу, атрымаў зарплату. Быў Янка Сіпакоў, прыходзіў Міклашэўскі, гаварылі пра яго артыкул, які ён прынёс Янку, бо ў «ЛіМе» не ўзялі — пра Сідарэвіча і яго крытыку. Дарэчы, сёння і я гаварыў пра яго артыкул у «Літгазеце».

Вечарам глядзелі і слухалі выступленне Гарбачова ў Мурманску. Гаварыў ён добра, мо нават лепш, чым учора ў Манчагорску, сёння быў нейкі раскуты і больш ажыўлены.

Чытаў Дудзінцава. Учытваюся — і падабаецца ўсё больш і больш. Глыбокі ён пісьменнік, цікавы.

**2 кастрычніка, пятніца**

Дачытаў другі нумар «Нявы» з раманам Дудзінцава. Штораз бярэ глыбей.

Пазваніла Іра Крэнь і адразу сказала навіну, ад якой у мяне пахаладзела ў грудзях — памерла Вера Маеўская-Дэбалтоўская, некалі разам канчалі ўніверсітэт, яна хімфак, працавала ў «Народнай асвеце» загадчыкам рэдакцыі хіміі і біялогіі. Пахварэла з паўгода, ляжала ў Бараўлянах — і вось аддала Богу душу. Пахаванне будзе ў 14.30.

Перакусіўшы, паехаў на працу, а адтуль на метро на плошчу Якуба Коласа, да таго дома, дзе сёння паніхіда. Людзей сабралася шмат, і старэйшыя работнікі выдавецтва, яшчэ калі я там працаваў, і цяперашнія, якіх я менш ведаю. Са старэйшых бачыў Каліноўскую, Бурак, Клару Кобызеву, Хаткевіч, Крэнь, Камар (іх ужо таксама можна назваць старэйшымі), Тамару Белую, Дайнекаву Зіну, шмат мужчын. Як былы работнік «Народнай асветы», быў і Валеры Санько.

А Веру Маеўскую было не пазнаць: белая, матавая скура на твары, моцна нацягнутая аж, здаецца, гатова парвацца. А з твару зусім не худая. З дзяцей быў сын, дарослы мужчына, ужо маёр. Адзін сын у яе загінуў у дарожнай аварыі. Павезлі Маеўскую на яе радзіму, у Дзяржынск, мы праводзілі яе ў апошні шлях да машыны.

* Працяг. Пачатак у № 1—6 за 2008 г., № 7, 8, 9 г. г.

Жанчыны пад гукі аркестра плакалі, нават мужчыны выціралі слёзы.

Пасля мы з Ірай Крэнь разам ішлі да метро, спаткалі Жоржа Шаўчака, старога журналіста, разам канчалі вучобу. Пагаварылі хвілін пяць і разышліся хто куды. Я паехаў на працу, быў адзін Янка Сіпакоў. Усе пайшлі на партвучобу. Я зноў паехаў у Дом літаратара, узяў заказ, сёння вялікі, на 16 р. Бачыў Брыля, разам потым дайшлі да плошчы Якуба Коласа, да аптэкі. Гаварылі пра свае балячкі, пра свой мяккі характар, пра здольнасць лёгка асімілявацца.

На рабоце быў ужо адзін. Было некалькі званкоў. Я сам пазваніў аднаму супрацоўніку МУС, з якім дамовіліся пагаварыць пра гісторыю Аўрамчыка Івана Фядосавіча, пра яго дачку — на наступным тыдні.

**3 кастрычніка, субота**

Зранку схадзіў у магазін, купіў газет. У «ЛіМе» ўрэшце даецца кароткая стэнаграма нашага «круглага стала» па пытаннях мовы і асветы, які быў на пачатку верасня. Сёе-тое засталося, але шмат вострага выкінулі. Нп., Масарэнка расказваў, як яму ў Стаўбцоўскім раёне не далі выступіць, а тут пра гэта ні слова. Шмат пачысцілі Садоўскага, Лойку, Клышку, Вітку. Некаторых зусім не далі, толькі назвалі. Добра працытавалі Міколу Татура: «На думку настаўнікаў, пераважная большасць школ у раёнах рэспублікі, у гарадах і сталіцы павінна быць з беларускай мовай навучання. Нельга аддаваць дзяржаўную справу — вывучаць ці не вывучаць родную мову — у прыватныя рукі бацькоў. Калі існуе рэспубліка, то павінна абавязкова вывучацца і мова народа ў школах і ВНУ».

Працытавалі і мяне пра выкладанне гісторыі БССР — каб вялося выкладанне толькі на беларускай мове ва ўсіх школах рэспублікі. І пра цяперашні падручнік — што не вытрымлівае ніякай крытыкі. А тое, што перагібы — перавод беларускіх школ на рускую мову — павінны быць ліквідаваны, апусцілі, нібы я гэтага і не гаварыў у сваіх прапановах.

У «ЛіМе» яшчэ цікавы артыкул Сідарэвіча «Азірнуцца і ўбачыць» — пра тое, што мы баімся гаварыць на ўвесь голас пра свае справы, што шмат хто і шмат чаго яшчэ не кранута. Пра адносіны да спадчыны — што мы ўсё азіраемся, баімся сказаць усю праўду, ацаніць аб'ектыўна сваіх дзеячаў.

У такім жа плане напісаны і артыкул Ніла Гілевіча пра ўшанаванне памяці нашага нацыянальнага генія Янкі Купалы на Лагойшчыне — пра нашу абыякавасць.

Прачытаў апавяданне Адама Глобуса «Заказ» і здзівіўся, што малады Адамчык можа пісаць цікава. Бо ўсё, што я чытаў яго раней, мне не падабалася — бо не бачыў я душы аўтара. А тут сапраўдная проза, якая зацікавіць кожнага, хто ўмее чытаць літаратуру.

**5 кастрычніка, нядзеля**

Пачытаў Ягоўдзіка, потым у 12 павёў Крыстыну, а пасля яшчэ трохі чытаў.

На працы быў вялікі наплыў аўтараў — на ўсе сталы.

Па прозе быў Юркевіч — прынёс дапрацаванае апавяданне.

Дубінка гаварыў са мною пра аповесць, якую мы яму вярнулі — «Сіндыкат Мані Дулі». Дамовіліся, што ён верне яе нам — дамо чытаць членам рэдкалегіі, калі яны скажуць, што аповесць слабая, то хай будзе так. А мо і ўхваляць.

Заходзіў Дзюба, гаварылі пра яго паэму пра Судзілоўскага — доктара Руселя. Праўдзін прынёс новае апавяданне і дапрацаванае.

Званіў Ягоўдзік, прасіў пачытаць аповесць, званіў Дзялендзік, пытаўся пра п'есу. Тое ж пытаўся Марозаў — калі я прачытаю яго аповесць.

Ланеўскі пытаўся пра свае гістарычныя апавяданні — пра Скарыну і пра Рамейку-Гурко, генерала-фельдмаршала. Тармола заходзіў да Янішчыц, але пасля мы з ім пагаварылі — абяцае прынесці раманчык пад назвай «Аблава».

Грахоўскі заходзіў да Янкі Сіпакова, прынёс цікавы артыкул пра свой арышт і следства. Пасля сказаў, што варта было б надрукаваць антыфашысцкую п'есу Шашалевіча, якая не ўбачыла свету, за якую яго арыштавалі.

Званіў Гардзіцкі, сказаў, што мяне хочуць выбраць старшынёй камісіі па творчай спадчыне Міхася Яроша. Урэшце, калі так хоча большасць, то я не супраць. Быў яшчэ Капыловіч, трохі пагуляў з Дайнекам у шахматы, выйграваў.

**Успамінае Віктар ПРАЎДЗІН**

***ЦУКЕРКІ АД «БАЦЬКІ»***

***Мае сябры Віктар Альшэўскі і Фелікс Янушкевіч, мастакі, працамі якіх часцяком аздаблялася «Маладосць», калі даведаліся, што я раблю літаратурныя замалёўкі і нікому не паказваю, «пішу ў стол», ледзь не сілком прывялі мяне, капітана міліцыі, у рэдакцыю.***

***Мы доўга ішлі па заблытаных, месцамі ўцемненых, закратаваных калідорах Дома друку, пераходзілі з паверха на паверх і, нарэшце, апынуліся ў невялікім пакойчыку. З-за аднаго з пяці сталоў, што туліліся ўздоўж сцен, устаў, зрабіў крок насустрач сіваваты, невысокі, хударлявы чалавек. Павіталіся.***

***«У Дамашэвіча моцная рука і гэта добры знак», — падумаў я тады і не памыліўся.***

***Раз на тыдзень я прыносіў настаўніку два-тры апавяданні, а прачытаныя забіраў. І гэта доўжылася столькі, што мяне ўжо ў «Маладосці» ніхто як літаратара сур'ёзна не ўспрымаў. Але Дамашэвіч не адступаў. Ды і мне новая, дагэтуль далёкая ад прафесіі справа прыносіла асалоду. І вось аднойчы Уладзімір Максімавіч апавяданні не вярнуў.***

***— Будзем рыхтаваць да друку «Цукеркі ад бацькі». Толькі вам трэба ўзяць псеўданім.***

***Упершыню я не мог зразумець настаўніка: чым яму не дагадзіў Віктар Праўдзін? Уладзімір Максімавіч прычыны не тлумачыў. Ягонае «так трэба, вы мяне зразумееце потым» пасеяла ў душы яшчэ большае неразуменне. Я быў катэгарычна супраць псеўданіма.***

***І ўсё ж адно апавяданне Дамашэвіч угаварыў надрукаваць пад псеўданімам «Віктар Дубінчык» і нават сам паклапаціўся, каб гэты твор пабачыў свет у славутай газеце «Звязда». Пасля публікацыі ў «Звяздзе» размова адбылася «ўльтыматыўная»: «Маладосць» друкуе мяне пад сапраўдным прозвішчам ці не друкуе зусім.***

***Мінулі гады. Да мяне, ужо галоўнага рэдактара выдавецтва «Мастацкая літаратура», завітаў Дамашэвіч. Гаварылі доўга: пра літаратуру, пра выданне кніг, пра жыццё… Пра тое, чаму мне напачатку літаратурнай працы спатрэбіўся псеўданім, я не запытаўся. А вельмі карцела…***

***На развітанне настаўнік хітравата паглядзеў мне ў вочы і высыпаў на стол жменю цукерак…***

Было шмат паэтаў: браты Дэбішы, Сыс, Куртаніч, нешта доўга гаварылі з Янішчыц.

На прыпынку бачыў Сталіка Шастова, дамовіліся сустрэцца пад канец месяца.

**6 кастрычніка, аўторак**

Зранку чытаў Ягоўдзіка. Не скажу, што ў захапленні, але аповесць неблагая. Няма нечаканых сюжэтных хадоў, але жыццё паказана — цяжкае, сірочае. Ёсць трохі заходнебеларуская, кэпээзбаўская тэма, і яна мне здаецца цікавай.

На працы сёння была лятучка, спланавалі апошні нумар, без драматургіі, яшчэ невядома, ці ўлезе ўсё, што запланавалі з прозы: апавяданні Шалкевіча і Калкоўскага з маладых, а са старэйшых — Масарэнкі і Цішчанкі. Каб не надта тоўстыя «урыўкі» з рамана Далідовіча — ажно на 360 старонак! — то, безумоўна, усё ўлезла б.

Сёння здзівіў мяне Кацюшэнка. Я ведаў, што ён нахабны чалавек, але не думаў, што да такой ступені. Я ўжо гаварыў з ім — праўдзівей, ён са мною, што ў яго ёсць новая аповесць — пра футбалістаў, якую ён хоча прынесці нам. А яшчэ не паспеў скончыць друкаваць свой раман «Урок маўчання». Я сказаў яму, што хай нясе сваю аповесць куды хоча, бо ў нас ужо ёсць аповесць пра футбалістаў, аўтар — Алесь Камароўскі, і яна ўжо ўхвалена. Па-другое, мы друкуем яго раман, не можам жа бясконца друкаваць аднаго Кацюшэнку. Ён нібыта згадзіўся з маімі довадамі. Але прайшоў які месяц пасля той гутаркі — і сёння звоніць Дайнеку, што ён збіраецца прынесці нам аповесць, не ведаю, ці гаварыў ён з галоўным. Прайшла якая гадзіна, прыходзіць пасыльны — высокі чарнявы хлопец і перадае Дайнеку чорную папку са словамі — «як было дамоўлена, вы ў курсе...» Дайнека здзівіўся: што дамоўлена? Пакуль ён агледзеўся, хлопец ужо выскачыў з пакоя. Я сказаў Дайнеку, што ні за што не прыму гэты рукапіс, пайшоў да начальства і ім таксама сказаў пра гэта. Галоўны прамаўчаў, а Далідовіч сказаў, што мо не варта так катэгарычна, што трэба паглядзець і г.д.

Але я не стаў слухаць і пайшоў.

Яшчэ прачытаў сёння адказ Бягуну і Боўшу ў «Савецкай культуры» ад нашых мінскіх літаратараў. Адкрывае парад Алексіевіч,

за ёю — Быкаў, Дракахруст, Кіслік, Тарас, Тарасаў, Разанаў, Казько. Здаецца, усе. Заступаюцца за беднага Адамовіча, што яго не зразумелі, і за беднага Шагала — яго таксама не зразумеў цёмны Бягун, ён нават не ведае, што такое мастацкая літаратура і зусім не разбіраецца ў складанай палітры «вялікага» яўрэя! Апраўдваюць Шагала, як могуць, што ён ніякі не сіяніст, але што ён паслаў Ізраілю 15 млн. долараў, то пра гэта маўчаць. А што Віцебску не падарыў і капейкі, таксама маўчаць. Відаць, яны радаваліся б, каб Віцебск быў перайменаваны ў «Шагал», як прапануе Вазнясенскі.

Пад канец дня заходзіла Казлова Іна, гаварыла пра сваю п’есу, якую мы, відаць, у гэтым годзе не зможам надрукаваць. Угаворваў яе, каб пісала ліст у вярхі, што няма часопіса «Тэатр», як у іншых рэспубліках.

Званіла Ніна Маеўская, пыталася пра сваю аповесць. Пагаварыў з Лялько пра апавяданне Міхно. Хоць яно і даўгаватае, але можна друкаваць, нават я дам кароткую даведку пра аўтара і яго прозу.

Заходзіў Алесь Шлег, прасіўся, каб яго аповесць я прачытаў як мага хутчэй, бо яму трэба мае заўвагі звесці з рэдактарскімі ў выдавецтве. Як учора Дзюба — таксама заўвагі Вялюгіна хоча звесці з маімі.

Пасля работы завёз раман Бялова «Все еще впереди» Рапановічу, абяцаў яму даўно. Па дарозе завёз і лекі Клімянкову.

Вечарам глядзелі «Роднае слова» — пра Буднага, пра Нясвіж. Пра Буднага гаварылі добра, а пра роднае слова ў Нясвіжы нехта Барадзін сказаў пяць слоў — і ўсё. Добра паказалі Янку Брыля. А ўсё тое, што здымаў Содаль, пакінулі без увагі.

**9 кастрычніка, пятніца**

Перад працай паехаў у Дом літаратара, думаў, што ўбачу Гілевіча. Але ён абяцаўся прыйсці ў 16 гадзін. Бачыў Ягоўдзіка, аддаў яму рукапіс, каб дапрацаваў.

Бачыў яшчэ Вільтоўскага, пагаварылі трохі пра кватэры. Але сітуацыя ў мяне цьмяная, варыянтаў шмат — і на якім лепш спыніцца, то і цяжка сказаць.

На рабоце быў Капыловіч, пагуляў трохі ў шахматы з Пенязем і Дайнекам. Заходзіў Ярохін, узяў рэкламу дзясятага нумара для «Савецкай Беларусі».

Заходзіў паэт Барковіч да Янішчыц, але прызнаўся, што піша раман. Я сказаў, што вельмі рызыкоўна адразу брацца за раман, трэба пачынаць з малых форм, а пасля ўжо брацца за вялікае. Але ён даказваў нам, што можна, калі чалавек адчувае ў сабе сілу. Ну добра, пабачым, якая ў цябе сіла, браце.

Званілі яшчэ — Праўдзін, не церпіцца ведаць пра свае апавяданні, і Рублеўскі з Віцебска, таксама пра апавяданні. Сказаў яму, што трэба дадаць да гэтых «дзіцячых» яшчэ пару «дарослых».

Жэня Янішчыц і Ларыса Кунько ідуць у адпачынак.

Вечарам пачаў чытаць аповесць Іны Зуб, называецца «Пакутнікі». Занадта шмат калек.

**10 кастрычніка, субота**

У «ЛіМе» нічога асаблівага няма, мо хіба гістарычнае апавяданне Кастуся Матусевіча (Тарасава) пра сям’ю Русіноўскіх недзе з-пад Ашмян, пра цікавыя натуры людзей мінулага.

Яшчэ — матэрыял Пятра Васілеўскага пра Шагала, дзе ён дае даволі аб’ектыўны малюнак усёй дзейнасці Шагала на радзіме. «У 1918 годзе Марк Шагал з’яўляецца ў родным горадзе ў якасці ўпаўнаважанага калегіі па справах мастацтва і мастацкай прамысловасці пры Камісарыяце народнай асветы. Ягоны мандат быў падпісаны А. Луначарскім. Тут адыграла сваю ролю прыхільнасць А. Луначарскага да “левых” эксперыментаў у мастацтве, да праваднікоў “пралетарскай культуры”».

...Лагічны ланцуг: Пралеткульт-Луначарскі-Шагал...

Захапленне Луначарскага «левым» эксперыментам не ўхваляў Ленін. Старшыня Саўнаркама і наркам асветы па-рознаму ставіліся да Пралеткульта. У накідзе рэзалюцый аб пралетарскай культуры для I з’езда Пралеткульта ў кастрычніку 1920 г. Ул. І. Ленін падкрэсліваў:

«1. Не асаблівыя ідэі, а марксізм.

2. Не выдумка новай пралеткультуры, а развіццё лепшых узораў, традыцый існуючай культуры з пункту погляду светасузірання марксізму і ўмоў жыцця і барацьбы пралетарыяту ў эпоху яго дыктатуры».

Так што Шагал нам не саюзнік, ён «прашагаў» міма радзімы, і няма нам чаго за яго чапляцца. Хай бяруць французы.

Вечарам ездзіў да Карпекі, ён быў адзін, прагаварылі за сталом гадзіны тры. Ён хоча, каб я хутчэй рэдагаваў яго рукапіс.

**12 кастрычніка, панядзелак**

Зранку дачытаў аповесць Іны Зуб. Аснова для аповесці ёсць, але ўсё яшчэ нясмела, інфантыльна, цененькім штрыхам, аўсяным штыхам. Вельмі шмат заўваг па мове. Увогуле ў другой палове ўжо амаль што проза, ёсць нейкі пульс жыцця, хоць усё яшчэ недасканала. Шмат нарабіў заўваг на палях, мо нават лішніх. Але гэта ёй дапаможа разабрацца ў тым, чаго я ад яе хачу, праўдзівей, ад яе аповесці: каб яна была цікавай.

Сталік Шастоў пазваніў і прасіў дастаць на дзве ночы «Дзяцей Арбата». Дайнека яшчэ не прачытаў, а трэба яшчэ аддаць Шупеньку.

Званіла Шарашэўская, але не мне, а Грачанікаву, скардзілася на лёс. Гаварылі пра Сіняўскага, але ён не вярнуў рукапіс пасля дапрацоўкі.

Пазваніла Шаўчук Валянціна, дамовіліся сустрэцца, пагаварыць пра Савелія.

Грахоўскі шукаў Сіпакова, пагаварылі пра яго матэрыял (пра Шашалевіча).

**13 кастрычніка, аўторак**

На працы мала пабыў, паехаў на секцыю прозы, а пасля прыйшлі нашы хлопцы. Было шмат людзей. Адамчык вёў, у яго добра гэта выходзіць. Уступнае слова зрабіў, а потым даў выступіць Станюце, для таго, каб выклікаць спрэчкі. Гаварыў Станюта пра тых, хто яшчэ не мае кніжкі. Пахваліў аповесць Алеся Наварыча, апавяданні Адама Глобуса. Як ні дзіўна, поўныя процілегласці.

Затым выступалі: Карпюк — таксама хваліў Наварыча, Глобуса, як ні дзіўна (нібыта прачытаў адно апавяданне, гэты хітры Карпюк). Л. Арабей добра сказала пра Вячаслава Дубінку — што гэта вельмі арыгінальны і цікавы празаік, і ён ужо склаўся як пісьменнік. Так дадала пра яго і Ніна Маеўская. Я не стаў нічога дадаваць, хоць і хацелася сказаць трохі пра гэтага цікавага хлопца.

П. Місько — зачытаў думку Кацюшэнкі пра Пенезя, пасля дадаў сваё — трохі пакрытыкаваў за «нізкую» тэмпературу.

Хомчанка Васіль павінен быў ахарактарызаваць цэлы зборнік маладых, але гаварыў толькі пра Дабрынеўскага. Яшчэ выступалі: Сіўчыкаў, Глушакоў, Капыловіч, Жыжэнка, Папоў, Цітоў, Тычына. У канцы яшчэ гаварыў Янка Брыль.

Нагаварыліся шмат. Пасля я заходзіў яшчэ да Міклашэўскага, таксама гаварылі пра ўсякія надзённыя пытанні — што такое цікавасць у літаратуры. Чаму адных чытаюць, другіх не.

Вечарам трохі чытаў Дудзінцава, узяў у бібліятэцы два нумара «Нявы» з заканчэннем.

**14 кастрычніка, серада**

Зранку пайшоў на дзяжурства. І Саламаха таксама прыйшоў, у іх свой спіс, а ў нас свой. І я на сераду, і ён у сваім на сераду. Але паміріліся, застаўся я.

Дубінка прынёс зноў сваю аповесць, ён яе дапрацаваў па заўвагах.

Пазваніў Зайцаў Мар'ян, вельмі турбуецца пра сваю гістарычную аповесць.

Заходзіў Адамчык, усё шукаў Гігевіча, а пасля Дайнеку. Пагаварылі пра ўчарашнюю секцыю, што шмат было гутаркі, і нават Адамчык паспрачаўся з Брылём: што цікавей — вось такая творчая гутарка ці чытанне ўласных кароткіх твораў?

Заходзіў Санько, таксама прасіў прачытаць яго датэрмінова. І з гэтых датэрміновых утвараецца чарга з дзесяці чалавек. А тут яшчэ апавяданні — амаль кожны дзень трэба некага чытаць. Вось Дзедзіча, цяпер Праўдзіна.

Пазваніў Калкоўскі, як ведаў, што яго апавяданні злятаюць. Думаў, што затрымаецца ў 12-м нумары, ажно не ўлазяць, усё выцесніў Далідовіч сваімі «ўрыўкамі» з рамана. Прасіў яго даць на два нумары 300 стар., а ён «уласнаю рукой» даў 360, вось і выпалі з 11 і 12-га Калкоўскі, Масарэнка і Цішчанка. Добра, што яшчэ неяк уціснуўся Шалкевіч з Гродна, ён таксама злятаў з трох нумароў.

Заходзіў Ермаловіч, хацеў бачыць Дайнеку.

Ездзіў у Дом літаратара, заходзіў да Гілевіча, пагаварылі пра опус Залескага, мо хай афіцыйна прышле на СП БССР. Якраз пачыналася партбюро, Гілевіч быў увесь у

клопатах. Бачыў Шамякіна, Матукоўскага. Заходзіў да Міклашэўскага. Зноў у іх пачынаецца (ці канчаецца) рамонт.

Сёння дазваніўся да Нікіфаровіча, ён урэшце прачытаў п'есу Асташкевіча, але нічога пэўнага не сказаў, прасіў пачакаць, пакуль прачытаюць яшчэ некалькі чалавек.

**15 кастрычніка, чацвер**

Навіна нумар адзін — Барташэвіч на новай рабоце, яго месца заняў Ігруноў. А ўсе чакалі, што будзе Пячэннікаў, а замест Пячэннікава — Саўка Паўлаў. Нешта не выйшла. А ў Брэсце, кажуць, Саўка проста трыумфаваў.

Званіла мне Шаўчук і казала, што ў яе ёсць нейкія свае думкі наконт Саўкі, што яго быццам правяраюць па нейкай там лініі. Абяцала пазваніць яшчэ.

На дварэ дожджык. Дарэчы, учора былі Пакровы, па іх мяркуюць, якая будзе зіма. Учора ўвесь дзень церусіў дробны дожджык. Значыць, зіма можа быць снежная і гнілая — будзе ісці снег і тут жа раставаць. Але пачакаем...

На працы было сёння шумна. Заходзіў Цішчанка, расказваў пра акадэмікаў — што іх вельмі шмат развялося і няма дзе дзявацца. Што надта шмат іх з нярускімі прозвішчамі — пачынаючы яшчэ з часоў Ламаносава.

Заходзіў Зайцаў, быў Няхай — прынёс фота. Званіў Каршукоў, прасіў прачытаць нейкі рукапіс. Быў Дайліда, пайшоў сумны — я яго яшчэ не прачытаў. Пазваніў Ліпскі — таксама нічым яго не суцешыў.

Пазваніў Праўдзін, спытаўся пра апавяданні. Быў Капыловіч, абяцаў хутка прынесці новую аповесць.

Заходзіў Крукоўскі з новымі плакатамі, прапанаваў нам. Не ведаю, ці што ўзялі. Былі звязаныя з Каліноўскім і роднаю мовай.

Пасля работы хадзіў на сустрэчу з Залескім, аддаў яму рукапіс яго артыкула. Ён яго пашле на СП, а там будзе відаць.

Вечарам званіў Каваленку, пагаварылі пра сёе-тое. Пра Прысоўскага ён яшчэ нічога не чуў.

Трохі пачытаў Дудзінцава.

**16 кастрычніка, пятніца**

Заходзіў Міклашэўскі, даў мне пачытаць свой артыкул, які ён прынёс у «Маладосць» — пра крытыка Сідарэвіча.

Дзедзіч прыходзіў спытаць пра апавяданні, я аддаў яму ўсе тры на лёгкую стылістычную дапрацоўку, а па сюжэце нічога правіць не трэба, усё гладка.

Званіў Змітро Марозаў, Нічыпаровіч — ці прачытаў іх Далідовіч.

Заходзіў яшчэ Суслаў, карэспандэнт газеты «Савецкая культура» ці якой яшчэ, яго накіраваў да мяне Каршукоў, каб я прачытаў невялікую аповесць на рускай мове яго, Суслава. Ён удзельнік вайны, мае 65 год, напісаў вялікую рэч, а потым па парадзе Быкава разбіў на тры самастойныя рэчы, вось адну і прынёс мне — мо я што яшчэ параю.

Дазваніўся да Лойкі, пагаварылі пра сёетое. Ад Прысоўскага ён атрымаў рукапіс і зробіць на яго водгук — для абароны дысертацыі.

Пасля работы з Пякарскім ездзілі на бульвар Шаўчэнкі, купілі піва, трохі пасядзелі ў яго, пагаманілі. Я расказаў яму пра Залескага і яго метамарфозу з Саўкам. Пякарскі заходзіўся ад смеху, ён любіць пасмяяцца.

**17 кастрычніка, субота**

Пазваніў Гаўрылкін, пытаўся пра Дудзінцава, ён стаіць у чарзе ў бібліятэцы за мною. Прагледзеў «ЛіМ», нічога асаблівага, добрыя два вершы Генадзя Дзмітрыева. Адзін называецца «Сумленне»:

Сярод рэліктаў і рэліквій
Прымаю веру. Прызнаю.
З усіх прыдуманых рэлігій
Я выспаведваю сваю.
Не праз маленні — праз сумненні
Уцяміць я нарэшце змог,
Што ёсць адзіны бог — Сумленне —
Найсправядлівы, вечны бог.
Ён быў і ёсць спрадвеку існы,
Ён — уладар галактык душ.
Нядбалым словам атэіста
Яго ў душы маёй не руш.
Ён ёсць. Мой бог — маё Сумленне.
Цвіль раўнадушша не кране.
Пакуль і светлыя імкненні
І боль Чарнобыля ўва мне.
Судзі, мой бог, высокай мерай.
Я рады: ў тлумнай мітусні
Не страціў я ў сумленне веры
Пад чорнай магіяй хлусні.
Я — схімнік твой. І твой заступнік.
Табой жыву. На тым стаю —
Учора, сёння і ў наступным.
Я веру — значыць, існую.

Яшчэ добрыя нататкі Жэні Янішчыц пра Мележа. Чытаў Дудзінцава. Усё лепш і лепш. Проста геніяльна зроблена. Пасашкоў, яго подзвіг, яго лісты — да акадэмікаў! Якая сіла! Гэта ніколі не памрэ! Гэта трэба золатам напісаць у кожнай акадэміі, у інстытуце!

**18 кастрычніка, нядзеля**

Зранку пасля снядання паехалі ўсёй кампаніяй на Козыраўскія могілкі — там пахаваны ў 1953 годзе Галін бацька Пятрусь Іванавіч Пілецкі, клецкі настаўнік. Мы ездзім да яго ў год раз, часам два, а часам і ў два гады раз. Сёння ўзялі з сабой Крыстыну, праўнучку Пілецкага. Яна паклала на яго магілу кветкі. Хай ведае, што яго лінія не звялася, што яна жыве і ў яго ўжо праўнучка, хоць з прозвішчам Мендзялеева. Шкада, але што зробіш? У нашым родзе адны дзеўкі, прозвішча Дамашэвічаў прападае. Але затое яно ёсць у другіх. Дык значыць — не звядзецца.

Сёння дзень быў цудоўны, і мы добра правялі пару гадзін на могілках, у дарозе. Пасля прыехалі, папалуднавалі, я трохі пачытаў. А пасля пазваніў мне Карпека, мой ветэран. Сказаў нешта загадкавае — што яму мяне трэба бачыць, ёсць прычына. І я паехаў на Серабранку. Ён дастаў бутэльку шампанскага, пачаў здалёк. У «Маладой гвардыі» ў яго ляжаў рукапіс, патрабавалі дапрацоўкі, патрабавалі літрэдактара. Вось ён знайшоў — Сузіна, з «Вожыка», але нешта той сарваў усе графікі. І вось Карпека стаў упрошваць мяне, каб я ўзяўся за апрацоўку. Часу ў мяне няма, але я згадзіўся памагчы старому. Ён расказаў сон, які я тут жа разгадаў: пра парсючка і бычка, пра тое, што ён збіраўся недзе выязджаць на машыне з дома. Прабыў у яго гадзіны дзве, трохі мой ветэран акрыяў, мо мы з ім і скранём гэты камень, які ляжыць цяпер без руху.

Вечарам яшчэ чытаў Дудзінцава, ужо эпілог, хоць ён і надта доўгі.

**19 кастрычніка, панядзелак**

На працы было шмат аўтараў і званкоў. Пазваніў з Гомеля Бароўскі, спытаўся пра нас, я спытаўся пра яго, гаварылі і пра апавесць. Званіў яшчэ Праўдзін, дамовіліся сустрэцца заўтра.

Заходзіў Бельскі, я яго першы раз бачыў, сімпатычны малады мужчына. Але апавяданні я яму вярнуў, нейкія вельмі ардынарныя, нічога ў іх новага.

Мартыненка прынёс невялічкае апавяданне, пабачым, што гэта такое.

Быў Зайцаў, але заходзіў да Дайнекі. Дзюба таксама толькі павярнуўся, відаць, хацеў бачыць Далідовіча, а яго ўжо не было.

Прачытаў артыкул Міклашэўскага, пра Сідарэвіча і маладую крытыку. Мо надта шмат гаворыць пра мяне — відаць, трэба апусціць, тым больш, што пойдзе ў нашай «Маладосці».

Калі ішоў з працы, у новым Доме друку спаткаў Карпеку — ён забіраў рукапіс у Сузіна. Трохі пагаварылі, дайшлі да прыпынку ля Акадэміі.

Вечарам пазваніў Кастусь Цвірка, абяцаў прынесці апавяданні.

**20 кастрычніка, аўторак**

Зранку чытаў Санько, як-быццам ідзе няблага, пабачым далей. Выкрэсліваю толькі паўторы і саматужныя развагі, якія часам проста смешныя.

Пасля прабег аповесць Васіля Ткачова, каб ведаць, што ён нам прынёс. «Чалавек перад дзвярыма», 88 старонак. Сюжэт добры, востры, мо выкананне не на патрэбным узроўні. У яго ўжо выйшла некалькі кніжак і сёння яго павінны разглядаць на прыёмнай камісіі. Я мо што скажу ў яго абарону, так мяне папрасіў Міклашэўскі, бо асноўнага дакладчыка — Матукоўскага сёння не будзе.

На рабоце Грачанікаў правёў лятучку, было мала людзей. Сказаў, што ў снежні нас будуць слухаць у аддзеле культуры ЦК па пытаннях гістарычнага, нацыянальнага і інтэрнацыянальнага выхавання, па контрпрапагандзе. Каб кожны аддзел падрыхтаваў кароткую даведку — што было ў гэтым кірунку і што ёсць на будучае.

Праз два тыдні трэба падрыхтаваць на паперы, а пасля Дайнека звядзе ў адно.

Затым паехаў у СП, за мною Янка Сіпакоў — на прыёмную камісію. Павінны былі абмеркаваць Гапаву, Мархеля, Жарнасек, Ткачова, Хвалея, Бутрамеева. Абмяркоўвалі прыдзірліва і строга. Ткачова і Хвалея адклалі на далей, каб не праваліць.

А з чацвярых, што ўвайшлі ў спісы для галасавання — Гапава, Мархель, Жарнасек і Бутрамееў — прайшлі толькі двое: Жарнасек — 1 голас супраць, і Бутрамееў — тры галасы супраць.

Усе засталіся задаволены вынікамі, што ні кажы — прайшлі перспектыўныя людзі. Шкада, што Мархель не набраў патрэбную колькасць. За яго было дзесяць, супраць сем. А «прахадны бал» — чатырнаццаць. Гапава набрала супраць дзесяць. Шкада і яе, будзе перажываць. Высока ацанілі Жарнасек — выступалі Янка Скрыган, Юрэвіч і я сказаў пару слоў. Добра «падаў» Папоў Бутрамеева. Мы сваіх звычайна топчам, футболім, а трэба вучыцца нам цаніць самі сваіх, а калі мы іх не падрыхтуем, то прыйдуць чужыя.

**22 кастрычніка, чацвер**

Чытаў Праўдзіна, адно, потым другое апавяданне. Заўвагі толькі па мове, а сюжэт нармальны, адчувае, што трэба. І валодае сатырай, гумарам. Мо яшчэ не на ўсю сілу, але адчуванне ёсць. Пасля трохі пачытаў Санько і паехаў у горад, на сустрэчу з капітанам Славінскім. Першы раз заходзіў у Міністэрства ўнутранных спраў, што на Урыцкага. Расказаў Славінскаму гісторыю з Аўрамчыкавай дачкой. Паразважалі, з чаго пачынаць, за што ўхапіцца, каб зноў раскруціць справу, каб зрушыць з месца. У суботу будзе прамая лінія сувязі з Мін. унутр. спраў, трэба, каб Аўрамчык падключыўся да гэтай лініі, выказаў сваю нязгоду з тым рашэннем, якое тры гады таму, прыняў суд — пра спыненне судовай справы з-за адсутнасці складу злачынства. Гэта будзе пачатак. Яшчэ дамовіліся, што трэба звязацца з Аўрамчыкам.

У 14 паехаў на працу. Было некалькі званкоў — ад Пасынкавай, Макоўскага, Валі Шаўчук.

Заходзіў Дубінка, але на хвіліну, пытаўся пра тое, як афармляюць прыём у Саюз пісьменнікаў. У яго, аказваецца, усё было гатова ўжо чатыры гады таму і ляжала, бо не меў рэкамендацыі секцыі прозы. Цяпер гэтая рэкамендацыя ёсць. Значыць, поўны парадак.

Шаўчук едзе ў Маскву па нейкіх важных справах, казала, што будзе гутарка пра Саўку. За яго ўзяліся сур'ёзна, і мо дакапаюцца. Замешаны ў гандлі кнігамі, прытым на вялікую суму — на мільёны. Калі яго расколюць, гэта будзе гісторыя, вартая пяра Шэкспіра: як артадокс-чыноўнік аказаўся закончаным злодзеем і гандляром-ашуканцам.

Быў у Доме літаратара на пасяджэнні праўлення Літфонду. Вільтоўскі расказваў пра прэзідыум, на якім ён быў у Маскве і сам выступаў. Гаварыў пра кватэрнае пытанне — што ў нас 46 чалавек мае вострую патрэбу ў жыллі. А кабінетаў не маюць больш за сто чалавек. Трэба пісаць заяву наверх. Сёння я напісаў заяву самому Сакалову.

**23 кастрычніка, пятніца**

Нічога зранку не рабіў. Паехаў у горад, завёз у будынак ЦК ліст, адрасаваны Сакалову. Наконт кватэры. Хоць і я лічу кватэрнае пытанне дробным, але калі ім не займаюцца тыя, каму трэба па службе, то хай займаюцца вярхі — раз яны любяць рабіць чужую работу.

Яшчэ зайшоў у нашу пісьменніцкую кнігарню, але нічога не купіў, выпісаў толькі «Літгазету» і «ЛіМ». Бачыў Яўгена Лецку, трохі пагаварылі. Бачыў яшчэ Віктара Супрунчука, які таксама выпісваў газеты.

Затым паехаў на працу, чытаць нічога не чытаў — не лезла ў галаву.

Пазваніў мне Мартыненка, спытаўся пра апавяданне. Заходзіла Ларыса Кунько, узяла часопіс «Нашага сучасніка» з раманам Рыбакова, № 4. Астатнія яшчэ не прынёс Дайнека, у яго чытаюць сыны-курсанты ці іх камандзіры. На чарзе стаіць Шупенька.

Заходзіў Юркевіч, пытаўся пра сваё апавяданне — пасля дапрацоўкі. Як-быццам усё ідзе добра, не дачытаў другой паловы, на працы чытаць цяжка.

**24 кастрычніка, субота**

Устаў рана, чакала паездка ў Полацк, на выставу Аляксея Марачкіна і скульптара Алеся Шатэрніка. У 8 гадзін ад Палаца мастацтва выехалі аўтобусам, плюс яшчэ некалькі легкавых машын. Ад нашага Саюза былі Ніл Гілевіч, былы дырэктар выдавецтва Міхась Дубянецкі, Ул. Конан. Ад Саюза мастакоў было шмат, як старэйшых, такіх як Уладзімір Стальмашонак, Гаўрыла Вашчанка, так і маладзейшых, як Алесь Мацievіч з «Нямігі-17». Разам потым ехалі дадому і ён шмат расказваў пра сябе і творчасць увогуле, пра гісторыю беларускага мастацтва.

Калі прыехалі ў Полацк, то адразу агледзелі Сафійку, прайшліся як экскурсанты, пасля пабылі ў Спаса-Праабражэнскай царкве. Была польская здымачная група, здымалі на плёнку старажытнасці нашага Полацка. А вось нашай тэлевізійнай групы нават блізка не было. Марачкін казаў, што Бураўкін выдзеліў людзей, але ў апошні час намеснік Чанін некуды іх забраў ці не дазволіў ехаць.

Выстава Марачкіна і Шатэрніка была надзвычай цікаваю. Хлопцы паказалі сябе з лепшага боку. У Марачкіна гэтулькі выдатных палотнаў, што проста любата. Гордасць распірае грудзі, калі глядзіш на карціны з нашымі гістарычнымі асобамі — Рагнедай, Скарынам, Сімяонам Полацкім, Еўфрасінняй Полацкай, Гусоўскім, Кірылам Тураўскім, Цёткай, Багдановічам, Каліноўскім, Драздовічам, Іванам Луцкевічам... А колькі ўсяго цікавага, што характарызуе Марачкіна як шукальніка і разам з тым прадаўжальніка традыцый! Якое багацце!

Пасля было абмеркаванне, хлопцаў добра і шчыра хвалілі, захапляліся іх работай. Цікава выступіў марак з Паўночнага флоту, які прыехаў у родныя мясціны на пабыўку. У многіх былі слёзы на вачах. А ўсіх, хто выступаў, было чалавек дзесяць, а мо і болей. Падводзіў вынікі Гілевіч, гаварыў добра і шмат.

Ужо вечарам ездзілі ў Наваполацак, да аднаго мастака, у якога арганізавалі вячэру. «Нацюрморт» быў багаты, і нас вакол яго сабралася чалавек трыццаць. Яшчэ трохі пагаварылі пра «юбіляраў», пашумелі і раз'ехаліся.

У Мінску былі а 12-й гадзіне.

Адчуваў сябе страшэнна стомленым, але на душы светла. У машыне кампанія была добрая: вадзіцель Валодзя, Галіна Прыма, Дубянецкі і Маціевіч. Шмат было гарачых спрэчак і размоў, Дубянецкі цікава расказваў пра свае выдавецкія справы.

**25 кастрычніка, нядзеля**

Зранку суха, хоць і пахмурна, а недзе за полудзень пачаўся дожджык. Настрой нейкі такі — адпаведны надвор'ю. Зранку пазваніла Галіна сястра Людміла, што ў Клецку захварэла іх маці, што сёння яны з Віктарам адпраўляюцца ў Клецк на машыне, мо прывязуць у Мінск, бо маці збіралася на зіму пераязджаць да іх. Невядома, як гэта ўсё рэалізуецца.

Я ўвесь дзень быў заняты абы чым — ніякіх важных спраў. Схадзіў у магазін, купіў сяго-таго, прыдбаў газет («ЛіМ», «Звязду»). У «ЛіМе» ёсць некалькі матэрыялаў, вартых увагі. Па-першае, Пятро Васілеўскі разглядае выставу Шатэрніка і Марачкіна ў Полацку і гаворыць шмат глупства. Яшчэ ўчора я чуў пра гэта, гаварылі хлопцы і дзяўчаты. Ён піша, такі знаўца, з прафесарскай глыбакадумнасцю: «Нельга аднесці да творчых удач партрэты Сімяона Полацкага (1986), Вітаўта Вялікага (1986), Еўфрасінні Полацкай (1984)». Якраз пра гэтыя партрэты трэба гаварыць як пра творчыя дасягненні Марачкіна, а не называць іх няўдачай.

А Шатэрніка ён чамусьці хваліць больш. Адной з лепшых работ называе кампазіцыю «Якуб Колас — настаўнік».

Цікавы ліст ветэрана Савецкай Арміі С. Фянько, які кажа ў адным месцы: «Можна толькі пашкадаваць, што са спазненнем у 15—20 год у нашай рэспубліцы прымаюцца захады для пашырэння ўжывання беларускай мовы, паляпшэння яе выкладання ў школах, вышэйшых і сярэдніх навучальных установах. Але гэтага будзе мала, калі шырокая грамадскасць не задумаецца над значэннем і роллю роднай мовы як адной з галоўных частак нацыянальнай культуры. Да чаго заклікаў лаўрэат Ленінскай прэміі Васіль Быкаў у сваім нядаўнім выступленні па цэнтральным тэлебачанні».

Не спадабалася мне палеміка Каваленкі з Бегуном і Боўшам, дзе ён ужо занадта запальчыва абараняе Адамовіча. Не бедны Адамовіч, хай бы абараняўся сам. Ён вунь колькіх пабіў, і ніхто тых пабітых ніколі не абараняў, бараніліся самі.

Сёння атрымаў ліст з СП БССР. Паведамляецца, што на сакратарыяце зацвердзілі камісію па творчай спадчыне Міхася Яроша. Мяне прызначылі старшынёй. Яшчэ адзін нялёгкі абавязак. Я ўжо член камісіі па спадчыне Якуба Ермаловіча.

**26 кастрычніка, панядзелак**

Сёння ў СП быў прэзідыум, прымалі ў Саюз некалькі чалавек, Янка Сіпакоў рабіў справаздачу пра работу з маладымі. Міклашэўскі запрашаў і мяне, тым больш,

што прымалі сёння Жарнасек. Дайнека тэрмінова даваў ёй рэкамендацыю, бо Міськова ці прапала, ці была напісана не ёй, а некаму іншаму, толькі пасля агледзелі. Але мяне не пусцілі аўтары, ды і наш мастак загаварыў мяне з афармленнем: здаў яму апавяданне Караткевіча, прозу Сачанкі, пасля падрыхтаваў для чыткі карэктару першыя экзэмпляры таго ж Сачанкі, Караткевіча, Масарэнкі.

У канцы работы пагаварыў з Грахоўскім, павіншаваў яго з публікацыяй у «Звяздзе». Добры атрымаўся артыкул, не горшы чым на радыё.

«Дзяцей Арбата» Дайнека і сёння не прынёс, цягне ўжо больш за два тыдні, казаў, што чытаюць недзе ў вучылішчы. Каб толькі не зачыталі зусім.

Вечарам глядзеў дакументальны фільм «Рызыка» (чаму ён і мастацкі, не зразумеў) мо ўзята што і з мастацкіх фільмаў — мо пра Розенберга? Пачатку я не бачыў. Проста выдатны фільм у параўнанні з нашымі ранейшымі абразанкамі. Вось што значыць, калі краінай кіруе разумная галава! Тады і ўсе людзі робяцца разумнымі. Смешнымі і дурнымі здаюцца ўсякія забароны. Добра, што можна ўсё сказаць пра Сталіна, Молатава, Хрушчова, Тухачэўскага, Каралёва, Дзевятаева ды іншых. Пра нашы промахі, памылкі — пра ўсё!

**27 кастрычніка, аўторак**

Узяўся за Янеца, за яго трэцюю кнігу. Ідзе добра, у тым сэнсе, што змест ёсць, падзеі развіваюцца. Відаць, варта будзе Арлову ўзяцца за гэтую рэч і давесці яе да ладу.

На працы нешта нічога не зрабіў, нават не дачытаў кароткага апавядання Мартыненкі.

Пазваніў Салавей, пытаўся пра сваю аповесць. Таксама зацягваю, чытаю на рабоце па некалькі старонак — больш не даюць званкі і размовы.

Заходзіў Юркевіч, таксама апавяданне яшчэ не дачытаў да канца.

Недзе ў гадзіны чатыры зайшоў Асташкевіч, нарэшце прыехаў у Мінск.

Быў у «Настаўніцкай газеце», дамовіліся даць некалькі артыкулаў пра школу. Быў у тэатры, гаварыў з Нікіфаровічам. Прывёз і мне пачытаць новую п’есу. Расказаў вясковыя гісторыі, нп., як яны, партарганізацыя, заступіліся за старшыню, якога хацелі ўжо здымаць — за тое, што раздаў людзям жыта на працадні. Былі прадстаўнікі з раёна, яны іх патрабаванне не прынялі да ведама, а прынялі сваё — ухваліць дзеянні старшыні. І тут пачалося — Асташкевіча выклікаюць у райкам. Ён не паехаў, тады прыслалі па яго машыну. І адразу на бюро. А ён сказаў ім некалькі рэзкіх слоў, завярнуўся і пайшоў...

**29 кастрычніка, чацвер**

Амаль дачытаў Янеца, засталося мала. Увогуле цікава, хоць і ўхіл трохі мне не імпануе. Мне больш імпануе Касцюшка, чым Сувораў, а аўтару трылогіі — наадварот.

На працы было шмат аўтараў і званкоў. Марчук сёння быў не ў сваёй ролі — прынёс не сваё, а чужое. Прынёс п’есу-аднаактоўку Мысліўца, недзе яна ў Мін. культуры атрымала першую прэмію — «Конскія размовы» — як коні разважаюць пра людзей, сваіх гаспадароў. Кажа, што вельмі цікава, што трэба як мага хутчэй надрукаваць. Другі рукапіс — аповесць Іскрыка, нешта пра беларускіх ёгаў. Што гэта — Бог яго ведае, паглядзім.

Заходзіла Ганка Паравік, прынесла два новыя апавяданні, забрала тры старыя. Яшчэ заходзіў мой знаёмы аўтар Дрозд, ён былы загадчык рэдакцыі ў выдавецтве «Беларусь», цяпер ужо на пенсіі. Даваў мне калісьці пачытаць аповесць, я яму зрабіў заўвагі, яшчэ нехта — і ён доўга над імі працаваў, даводзіў да кандыцыі. Усяго атрымалася 200 старонак. Пабачым, што ён намаляваў. Але трохі турбуе, што я абрастаю рукапісамі і мяне ўжо хутка не будзе відаць з-за іх. Дзе набрацца часу на чытку, рэдагаванне? Ці катэгарычна адмаўляцца? Неяк не дазваляе сумленне. Вось учора Асташкевіч пакінуў прачытаць новую п’есу, на сто старонак. Хіба можна адмовіцца?

Заходзіў Санько, здзівіўся, што яго аповесці я яшчэ не прачытаў.

Быў Васіль Ткачоў, сумны, што яго не прынялі ў члены СП, калі засядала прыёмная камісія. Пагаварылі пра яго аповесць, што вострая тэма, канфліктная сітуацыя. Мо ў другім паўгоддзі і надрукуем. Расказваў, як цяжка прабіваць п’есы ў тэатры. Хутчэй за ўсё таму, што патрабуецца суаўтар. А аднаму цяжка, хоць трэсні — не пралезеш.

Ездзіў у Дом літаратара, узяў заказ. Бачыў Гілевіча. Казаў, што ліста Залескі яшчэ не даслаў. А тады абяцаў, што адразу прышле. Сёння яму званіў — не дазваніўся.

Бачыў Міколу Татура. Сказаў мне дзве сумныя навіны. Першая — гэтым летам на Поўдні загінуў у аварыі мой цёзка па прозвішчы — Дамашэвіч з-пад Капыля, наш агульны з Татурам знаёмы. Другая: памёр Аляксей Зарыцкі, паэт.

**30 кастрычніка, пятніца**

На працы аўтары прыходзілі і званілі. Забягаў Камароўскі, пытаўся пра аповесць, ужо ў наступным годзе ён яе выдае асобнай кніжкай, каб мы не спазніліся... Як людзі так паспяваюць, не ведаю. Не паспееў напісаць, а тут ужо і выдаецца. Але гэта добра, ды трэба, каб так выдавалі ўсіх.

Заходзіла жонка Ул. Арлова Валянціна, забрала на чытку для яго кнігу Янеца «Крушні», трэцюю і апошнюю.

Заходзіў Нічыпаровіч, пытаўся, ці прачытаў яго Далідовіч. Не, не прачытаў. Юркевіч узяў сваё апавяданне на дапрацоўку, у яго, аказваецца, ёсць рукапіс на старонак 200, ён хоча здаваць яго ў выдавецтва, ды баіцца, што з-за мовы могуць зарэзаць.

Званіла Пасынкава, пагаварылі пра яе пошукі герояў часу вайны, калі яна была ў нямецкім дзетдоме ў час нямецкай акупацыі. Я ёй параіў звярнуцца да былога вязня Калдычэўскага лагера смерці Новіка-Пеюна, ён усё добра ведае, што там рабілася.

Яшчэ заходзіў Лецка, але да Янкі Сіпакова. Я сказаў яму, што мне званіў Алесь Шлег, каб я параіў каго з крытыкаў для майго «творчага партрэта», і я назваў яму Лецку, калі ён не будзе супраць. Лецка згадзіўся.

Званіла Ларыса Пятроўна Кунько, пыталася пра «Дзяцей Арбата», якіх надта доўга трымае Дайнека. Пагаварылі пра сёе-тое, нп., яна расказала, як ужо год сядзяць на чамаданах, іх дом увесь выселіўся, а яны (і Лецкі ў тым доме) сядзяць, бо не згодны мяняць добрае на кепскае. Райсавет падаў на Кунькоў у суд, што не хочуць высяляцца. Хто выйграе — невядома.

Заходзіў Пякарскі, але потым нечакана знік, не дачакаўся мяне — я заняўся аўтарамі. Відаць, пакрыўдзіўся, ён увогуле вельмі лёгка крыўдзіцца. Хоць тут я не быў вінаваты.

**31 кастрычніка, субота**

Учора вечарам была перадача пра школу, пра перабудовы. Быў і ўсім вядомы нам Круглей. З твару робіць уражанне разумнага, культурнага чалавека. А ў адказах — спрытны чыноўнік і дэмагог, які ўмее абысці вострае пытанне і гаварыць з вучоным выглядам вакол пустога, якое не варта выедзенага яйка. І як знарок гаварыў па-руску. Ці ён не можа гаварыць на роднай мове, ці ігнаруе яе зусім: а што вы мне зробіце? Гаварыў і буду гаварыць на той мове, на якой мне выгадна! Тое ж самае можна сказаць і пра Гапановіча. Думаю, што пытанні былі і вострыя, але іх прытрымалі, не далі ходу, каб не сапсаваць параднасці. І яны лічаць, што ўжо даўно перабудаваліся, што зрабілі ўсё. Калі групы падоўжанага дня будуць ва ўсіх школах, то ўжо і ўсё.

Выходзіў у магазін, у кіёск, купіў газеты. У «ЛіМе» вялікі артыкул Гілевіча, ёсць шмат цікавых думак. Нешта толькі мала пра мову — ці мо не далі, ці знарок сам не захацеў дражніць гусей? Але на яго гэта не падобна.

Сёння дзень нараджэння Юльяна Сяргеевіча Пшыркова, прафесара, выкладчыка ўніверсітэта, майго настаўніка. Яму споўнілася 75 год, мог яшчэ жыць. А ўжо даўно памёр! Не выбіраем мы свае нормы...

У «ЛіМе» малая нататка былога настаўніка Цыхуна. Нядаўна Лойка казаў мне, што збіраліся напісаць для «ЛіМа» што большае, але ўжо ляжала нататка Цыхуна, так і засталося. На сёння збіралася нейкая сустрэча былых аспірантаў Пшыркова, але мне ніхто не сказаў канкрэтна, дзе і што — і вось я застаўся адзін. Мо хлопцы і ездзілі на могілкі, мо ездзілі да ўдавы Ю. Пшыркова?

Цікавыя ў «ЛіМе» лісты Цішкі Гартнага да М. Мароза з беларускага прадстаўніцтва ў Маскве. Цішка Гартны тады ў Берліне прабіваў беларускі друк. Добра ён піша пра нашу інертнасць, непаваротлівасць, абыякавасць. «Адабраю тваю рашучую тактыку: без яе санлівы Мінск нічога не зрабіў бы. Братка, і далей не глядзі на Мінск: там вельмі асцярожныя людзі, і калі што трэба зрабіць — дык паўгода думаюць. Толькі на другіх нагаворваць любяць».

Вечарам ездзіў да Карпекі Пятра Фёдаравіча. Пасядзелі за круглым сталом. Узяў першы экзэмпляр яго рукапісу.

*(Працяг у наступным нумары)*

# З ДЗЁННІКАЎ ЕЎДАКІІ ЛОСЬ*

## *Глыбоцкае педвучылішча*
## *1947 год*

**27 чэрвеня 1947 года**

Жывём зноў! Добра жывём! Як бы ні было цяжка, але я заўсёды верыла, што ўсё ў жыцці — да лепшага сродак!..

...У пакоі 6 ложкаў нашых важатых і нашы з Маняй. Усе засцелены блакітненькімі коўдрамі, столік, кветкі, падушачкі... Выйдзеш на двор — возера, быццам мора... Убяжыш у ваду — і не вылазіць бы з яе ніколі! У мяне ў атрадзе самыя маленькія — 37 дзяцей. Сёння дзяжурыла, змарылася. Здала рапарт на лінейцы, нашуся з горнам і барабанам усюды. Атрымліваю прадукты, строю дзяцей, кірую прыгатаваннем абедаў...

**Сочы. 24 жніўня 1947 года**

Дзень дужа перагружаны, але ён пакінуў на ўсё жыццё шмат уражанняў...

Тут, на Каўказе, я знаходжуся па пуцёўцы вучылішча... Ля ўвахода ў, здавалася б, звычайную дачу вісіць мемарыяльная дошка: «Дзяржаўны літаратурны музей М. Астроўскага».

З якім трапятаннем ступаю па дарожцы да дому, баючыся гучна гаварыць, рыпець брамкай. Сядзім на лавачцы, чакаючы, калі экскурсавод атрымае дазвол наведаць музей у яго дырэктара, сястры вялікага пісьменніка. Уваходзім. Безумоўна, жыццё вялікае, і яшчэ (а ў гэтым я ўпэўнена) давядзецца шмат дзе пабываць — у розных гарадах, музеях, — але заўсёды самае вялікае і даўгапамятнае ўражанне пакідае першае, убачанае першы раз. У гэтым я ўжо даўно ўпэўнілася.

Першы кабінет знаёміць з біяграфіяй пісьменніка разам з творчасцю. Колькі тут я пазнала нябачанага і нячутага дагэтуль! З заміраючым сэрцам абыходжу экспанаты, разглядваю іх, слухаю экскурсавода. У самым цэнтры — бюст пісьменніка, на фоне пунсовага палотнішча. Пасярэдзіне — ордэн Леніна. Злева і справа — цытаты са славутай кнігі, якія тут жа запамінаю назаўсёды: «Только вперёд, тольке на линию огня, только через трудности к победе и только к победе — и никуда иначе!..», «Впереди нас ждёт большее яркое будущее. Это будущее столь пленительное, что никто не может нас остановить в борьбе за него»... Шмат даведалася. Як усё гэта спатрэбіцца ў вучобе, жыцці!.. Побач са мною стаіць ля вітрыны сталая жанчына з хлопчыкам гадоў дзесяці.

— Глядзі і вучыся, сынок, быць такім жа вялікім!.. — кажа яна яму.

І не раз паўтарала сабе я, праходзячы па ўсіх пакоях, знаёмячыся з дэталямі жыцця і барацьбы магутнага чалавека: «Вучыся, дзяўчына, як трэба жыць, тварыць, змагацца, перамагаць!»

У 14 гадоў Астроўскаму захацелася стаць пісьменнікам (ён чытаў кнігу маці і тут жа сам замяняў напісанае аўтарам на жадаемы адказ слугі гаспадару, пабіўшаму яго). Вялікі ўплыў на яго аказала настаўніца Ражаноўская. І, сапраўды, пачаў пісаць па парадзе сяброў, калі ён, страціўшы нагу, седзячы ў крэсле, расказваў ім усё перажытае ў грамадзянскую вайну... Ён быў выключнага дару расказчык, так што матэрыял для кнігі «Как закалялась сталь» заставалася толькі запісаць. Любімыя кнігі яго: «Кобзарь», «Спартак», «Овод», «Тарас Бульба» (гэтыя кнігі, якія трымаў у руках пісьменнік, я і бачыла ў вітрыне).

«…Самое дорогое у человека — это жизнь. Она даётся ему один раз, и прожить её надо так, чтобы не было мучительно больно за бесцельно прожитые годы, чтобы не жёг позор за подленькое и мелочное прошлое

* Працяг. Пачатак у № 7, 8, 9 г. г.

и чтобы, умирая, смог сказать: вся жизнь и все силы были отданы самому прекрасному в мире — борьбе за освобождение человечества. И надо спешить жить. Ведь нелепая болезнь или какая-либо трагическая случайность могут прервать её…»

У 17 гадоў у яго былі раненні ў сцягно, у галаву, у жывот і кантузія. У 22 гады ён ужо не мог памыцца самастойна. З ім верныя сябры — маці, сястра і жонка. Ён гаварыў: «У каждого из нас есть существо, перед которым мы во многом и всегда обязаны, — это мать…» У мяне мароз па скуры прайшоў, калі вымаўляліся гэтыя словы. Шмат думак прамільгнула ў галаве ў адно імгненне... Мама, мама, колькі я павінна табе!..

У кутку стаіць шафа з кнігай «Как закалялась сталь», выпушчанай на 18 мовах свету. Здавалася б, як можа рухацца чалавек, пазбаўлены самага неабходнага ў працы пісьменніка — зроку, усё ж быць пісьменнікам, пісаць самастойна, ствараць, вучыцца?! А Астроўскі — прыклад гэтага, прыклад непахіснага характару, нязломнай нічым энергіі і волі, прыклад таго, як жыць і тады, «когда жить невозможно»... Я бачу кардонныя дошкі з палоскамі, пад якія падкладваў паперу і пісаў, каб не налазіць на радкі. Тут жа вялікая карціна, адлюстроўвае пісьменніка за гэтым заняткам. Ляжаць старонкі, напісаныя іншымі людзьмі. Побач фотаздымкі людзей, прататыпаў герояў кнігі «Как закалялась сталь»: Ліннік — Даліннік; брат Дзмітрый (у гады Вялікай Айчыннай вайны ён быў капітанам) — Арцём; Фёдар Перадрайчук — Жухрай; Іван Жаркоў — Іван Жаркі; любімая пісьменнікам дзяўчына Люба Барысовіч, мяшчанка Тоня Туманава (і як падобна да Тоні ў кінафільме!).

Слухаю ўспаміны маці пісьменніка (яна была пазаштатным супрацоўнікам музея, у гады вайны — агітатарам у поўным сэнсе гэтага слова, да таго ж яшчэ — выхоўвала сваю праўнучку), сястры, жонкі (яна цяпер дырэктар музея Астроўскага ў Маскве). Я бачу карціны: да пісьменніка прыходзяць сябры, знатныя людзі краіны, ён ляжыць, нерухомы і сляпы, але з усмешкай на твары, у ложку. А вось і асабісты пакой вялікага чалавека. Усе прадметы і рэчы, якія акружалі яго, якімі ён карыстаўся. У шафе — шынель, мундзір з зорачкамі, шлем. Канапы, столікі з прыборамі для пісьма, пішучая машынка, званкі, якімі ён падтрымліваў сувязь з маці, сястрой, жонкай, сакратаром. Ложак, дзе ён ляжаў, прымаў гасцей і пісаў. У цёплае надвор’е ён перасоўваўся да акна або на веранду.

— Гэта быў абсалютна здаровы чалавек. Ён ніколі не жадаў і слухаць пра сябе як пра хворага. І ўсе настолькі прывыклі да гэтага, што гаварылі: «Мікалай хворы» толькі тады, калі пачыналіся рэзкія прыступы, — расказвае экскурсавод.

Маленькі стэнд «Творчасць Астроўскага ў гады Айчыннай вайны», без якога экскурсія была б няпоўнай... Водгукі салдат, афіцэраў пра сілу слова кнігі «Как закалялась сталь», партрэты іх, тыражы выдання... Нам расказваюць пра наведванні музея ў вайну байцамі, якія расказвалі пра пісьменніка і пра яго памяць на фронце...

Усяго не прыпомніш, каб узнавіць на паперы ўбачанае. Але ў памяці яно не памеркне ніколі.

**26 жніўня 1947 года**

Колькі хваляванняў, мітусні давялося перанесці, пакуль, нарэшце (і зусім нечакана) не трымаю ў руках тры білеты да Полацка і нашы дзяўчаты ледзь не раскалыхваюць мяне ад радасці! Эх, едзем! Едзем дамоў, у сваю Беларусь родную... Едзем суткі, другія... Арол — горад рускі. Чакаць поезда да Полацка — двое сутак. Пайшлі ў горад (са спадарожніцай). Ён амаль увесь разбураны. Галоўная — Маскоўская вуліца — груды цэглы і камення. Але ўжо бачна праца жыхароў: дрэўцы пасаджаны, убіраецца вуліца і горад, людзі працуюць на заводах і фабрыках...

Жарты без канца, што ўсю Расію-матухну аб’ехалі, дабраліся і да Арла... Добры горад быў і будзе... Не ведаю, ці ў цэнтры працякае Ака з даволі мутнай свінцовай вадой. Тут усё напамінае пра родныя мясціны. Восень, гразь, вецер, дождж... Не тое, што ў Сочы, дзе маліліся падкінуць крыху халадку...

Спіць Марыя, варочаецца Кацька (ёй, пэўна, сніцца сабака Лялька). Раніцой едзем на базар. Цэны ў Арле сходныя, пражыць лягчэй, чым на поўдні, хлеб у тры разы дзешавей.

Праходзім праз парк (да вакзала). Я хапаюся за скроні, прыпыняюся ля помніка воінам... Яшчэ і яшчэ раз шкадую, што едзем не на Кіеў, не праз Фастаў... Сяргейка, мілы браточак, ты ў думках маіх на кожным кроку, усё напамінае пра цябе, пра маё гора...

Ура! Апошні пункт затрымкі! Полацк ужо бачны, здаецца, бінокль бы ў рукі і крылы на плечы — і шчаслівы чалавек!.. Елі з апошнім хлебам купленае нейкае гразнае малако (аж цяпер страшна!). Цяжкавата будзе дабрацца да свайго дому, хоць бы да бульбы, калі яна ёсць у мамы... Ну нічога! Мы бадзёрыя, вясёлыя, смяёмся і нават... спяваем! А то ў Сочы і рот не раскрылі, толькі пра Красную Паляну ўспамінаем, як пра нейкую краіну песень, створаную самімі ж...

Успамінаем свой выезд з Глыбокага, сваё «геройства». Ну і праўда ж: спужаліся далёкага шляху такія «мужы» нашы як Г., Ю., К. і іншыя. А мы, трое дзяўчат, не збаяліся нічога, уцерлі ім насы ў поўным сэнсе слова! Мы ганарымся, што змаглі ўбачыць столькі новага, цудоўнага!

Вагон № 8, поезд Арол—Дзвінск... Праязджаем спрадвечную, старажытную, шматпакутную рускую зямлю. Мінавалі стэпы Краснадарскага краю і Украіны, пайшла зямля Белгарадская, Курская, Арлоўская, нарэшце, Бранская, Смаленская... Бедныя вёсачкі, гразь, гарады разбураны, страшна глядзець на ўсё гэта. Не верыцца, што народ наш знойдзе сілы, каб зрабіць усё хоць бы крыху падобным да даваеннага, а не тое, каб яшчэ лепшым. Вось і Днепр мнагаводны... Бранск пакінуў уражанне лепшае з лепшых... Выйшла з вагона, дожджык, клічу дзяўчат — не ідуць, ім холадна...

Пад'язджаем да зямлі Віцебскай... Родны Полацк, доўгачаканы...

«Дапамагай людзям — табе дапамогуць» — гэта цудоўная ісціна. Уладкоўваюся на машыну, еду дадому, ва Ушачы! Здаецца, кожная елачка і бярозка вітаюць мяне сумна пры выглядзе беднасці. Радзіма, радзіма... Мама і Маруська... Колькі новага дома!.. Пра гэта напісаць трэба абавязкова... А цяпер другая мэта — у Глыбокае, вучыцца. Ужо ўсё расказала, успамінаю Каўказ, напісала верш, задуманы яшчэ ў Краснай Паляне.

**12 верасня 1947 года**

12 дзён вучобы. Вучуся, уступіўшы «у далёкае плаванне». Закінула свае запіскі, але, прачытаўшы мінулыя, зноў узялася, хоць па слову запішу пра перажытае.

Першы дзень не пайшла на ўрокі, а прама — да Мані. Яна дужа прасіла, каб мяне накіравалі на працу адразу ж да яе. Ды і самой мне вельмі хацелася да яе, мілай, роднай, добрай...

Адшукала вёску Кавалі, сямігадовую школу, дзе пасля сканчэння Глыбоцкага педвучылішча першы год працавала мая старэйшая сястра Маня (выкладала рускую мову і літаратуру). Радасна сустрэліся... Была ў настаўніцкай, у яе на ўроку. Шмат гутарылі і не нагаварыліся ўволю... Але ж я буду да яе хадзіць часта... І яна — да мяне...

…Цэлы клас, 3 «Г», новыя, дзесяцікласнікі. Сярод іх людзі 25—27 гадоў, афіцэры, раненыя разы па тры, дэмабілізаваныя. Якія ўсе незвычайныя, сур'ёзныя, прывабныя! Іх забаялася адразу (ого, 10-ы клас!), з'явілася «група Інтарэсава», спадабаўся ст. л-т Падалякін і іншыя. Цяжка ім «падганяць» за тры гады многія прадметы...

**28 кастрычніка 1947 года**

Увесь дзень правялі на волі, у лесе, куды хадзілі ўсім класам нарыхтоўваць дровы (рэзалі, секлі, насілі, грузілі). Добрыя лясы ў Беларусі: асіны роўненькія, статныя, гаі беластвольных бярозак... На ўсім гэтым ляжыць адбітак восені. Яе праца была сарваць усе да адзінага лісточкі з гэтых асін, бярозак, дубоў і клёнаў. Толькі елкі па-ранейшаму грубыя ў сваёй зеляніне.

Варта мне толькі задумацца, ці прысесці, ці глядзець на ўсё — на дрэвы, на полымя кастра, ці ўзяць у рукі жоўтае апалае лісце — як мае аднакласнікі ўжо знаходзяць паэтычныя задумы ва ўсім...

Але чаму я не пішу?.. Рыфмы і тэмы блукаюць у галаве, «дар зоркай назіральнасці» быццам таксама праяўляецца… Сумна, нішто не весяліць па-сапраўднаму...

Заўтра — «дзень чытання», г.зн., педпрактыка. Паэзія, роздум...

— Вось каму трэба вучыцца на раялі іграць, — сказала настаўніца музыкі.

— Чаму гэта?

— Голас у вас цудоўны.

— Трэба, — безумоўна, — адказваю. — Некалі ўсюды паспець...

А выкладчык малявання кажа:

— Вы абавязкова займайцеся ў гуртку маім.

— Няма часу, — кажу.

— Не, вучыцеся маляваць, у вас здольнасці ёсць... Вы ж пішаце, будзеце маляваць з натуры і верш складзеце...

— Так, Лермантаў быў добрым мастаком, — адказваю.

Але што гэта? Я стала абыякава і да пахвалы, і да лаянкі, і да ганьбавання... Не, так нельга!..

**4 лістапада 1947 года**

Прыйшла ад Мані. Колькі добрых уражанняў ад сустрэчы з ёю! Колькі цікавага!.. Але вёска цёмная, бедная, хутары ў асноўным... Прайшло вялікае свята — 30 год Кастрычніка. Чым яго ўспомню на будучы год і далей, калі траплю вось у такія Кавалі ці ў іншую глухамань? Плакаць хочацца...

Быў у нас вечар, канцэрт падрыхтавалі да свята. Я кіравала хорам, запявала «Ехал я из Берлина», танцавала матроскі танец, чытала... Але ж дырэктар... Іван Пракопавіч... маральна «забіў»... Горыч, крыўда... Ды нічога, Іван Пракопавіч... Неяк пражывём...

**12 лістапада 1947 года**

Упівалася чытаннем «Повести о настоящем человеке» (не хочацца ў двукоссе браць!). Вось як пішуць! Вось якія людзі — сапраўдныя!

Смяялася над сабой са сваёй кульгавасці (баліць нага), уявіўшы танцуючага, бегаючага, кіруючага «Ла-5» хлопца, лётчыка, чалавека... Вось майстэрства, вось мастак слова! Уся кніга — пра лётчыкаў, а спецыяльных тэхнічных слоў і тэрмінаў амаль няма... І ўсё ясна! Чытаю, вучуся, як трэба пісаць. Ці гэтым цікавіцца кожны чытаючы?

Прыемная падзея: мама прыслала крышку грошай (Таняй, сястрой стрыечнай). Удзячна таму, што пішуць незнаёмыя былыя франтавікі, яны ж дапамагалі нам (прысылалі сціплыя салдацкія пасылачкі, замест брата).

Ну і Чарлі Чаплін! Ай «растоўскі хлопец»! «У танцы» ўваходзіць, урываецца, хістаючы плячыма, заклаўшы рукі глыбока ў кішэні штаноў, у светлай вязанай целагрэйцы, невысокага росту, з палісквочымі чорнымі вачыма... «Які прыгожы!» — ледзь не вырвалася ў мяне, калі падышоў бліжэй. «Марыя Якаўлеўна, Марыя Якаўлеўна!» — пачула я голас хлопца (гэта да Мані). Любавалася я сястрой сваёй, заўважаючы, як глядзяць прысутныя ў зале педвучылішча (Маня прыйшла да мяне з вёскі, са сваёй школы)... Няхай будзе шчаслівай!.. Я хачу...

**18 лістапада 1947 года**

Дырэктар... Іван Пракопавіч... Што ж мне рабіць пасля гэтага?!. Чаму ж ты не разабраўся ў справе, хто вінаваты ва ўсім?! Не я ж!.. Мір, людзі, неба, жывыя душы, — хто мне дапаможа?!.

Урокі. Слухаеш столькі карыснага: пра правых і левых эсэраў, пра работу сэрца, пра перыядычныя дробы або цудоўнае тлумачэнне З. І. пра выхаванне дзіцей у сям'і...

Не магу нават сказаць, як мяне пакрыўдзіў чалавек ні за што!.. Пайсці прасіць, маліць на каленях, даказваць праўду — не магу, хоць загіну, а не буду!.. Хлеба ў таварыша папрашу ў сталовай, а тут — ні за што!.. Пачаць са слоў: «За што вы нішчыце мяне?» Не!.. Вось такая «справа» мая: хтосьці пажывіўся за мой кошт, а мне — адказваць... Не ўмею я быць у начальніках, няма жыццёвай практыкі... Шкадую, што напісала запіску Мані ў такім прыгнечаным тоне... Вось Галя П. напісала пісьмо, кліча ў інстытут, у самае шчаслівае месца. Як жа, буду там...

Прымаю дзяжурства па вучылішчы, снег падае, вецер шуміць, гарыць перад уваходам свет. Камсорг групы задала да 21-га на памяць «Камсамольскі білет», да 5-га, на лермантаўскі вечар, — «Дэмона». І, нарэшце, на нашай сцэне выступае Мінскі дзяржтэатр мініяцюр. Пасля такіх ведовішчаў чамусьці становіцца балюча за сябе, што ўсё праходзіць так непрыгожа або яно прыгожае, але ў гразі і нястачы не бачнае, або нічога падобнага не бывае...

**20 лістапада 1947 года**

Мы выступаем у ДСК, самі даём платны канцэрт (для жыхароў гарадка).

— Выступае хор Глыбоцкага педвучылішча. Мастацкі кіраўнік Уладзімір Аўгуставіч Блум. «Да здравствует наша держава» муз.

Б. Аляксандрава, — аб’яўляю я, калі раскрыўся занавес і гледачы «ахаюць» ад нашага хору.

Вялікі, малады, прыгожы наш хор, хлопцы і дзяўчаты...

Былі і з Кавалёў хлопцы, раскажуць, безумоўна, Мані.

А дзядзька-скрыпач успомніў, як я чытала “Сябры дарагія” на выпускным вечары 3-га курса. «А я думал, что “сябры” в речке плавают», — гаворыць. Смешна як!

З прыемнасцю глядзелі на нас людзі, зайздросцілі, асабліва гэтыя «зношаныя», змазаныя фарбай і «перакручаныя» паненкі (гледачы нават прыходзілі да нас за кулісы).

Потым з Ларысай блукалі па бліскучай дарожцы каля вучылішча, гаварылі пра самыя запаветныя мары... Нашы густы аднолькавыя, і я кіну ўсё, каб пабыць на яе вяселлі!..

**24 лістапада 1947 года**

Магу хваліцца: сёння абамлела... Пасля ўколу. Падбадзёрвала дзяўчат, а потым сама — грукнулася галавой аб цэмент ды хвілін пяць без памяці праляжала. Быццам я штосьці бачу ў сне, твар мамы... Потым нейкая прадаўгаватая галава без валасоў... Адчыняю вочы... А, гэта наш урач схіліўся нада мной. Сама ж ляжу, выцягнуўшыся на падлозе, як была, без блузкі. Нашы дзяўчаты са слязьмі на вачах кругом...

Учора пабыла ў Мані. Прыходжу ў 6 гадзін вечара, а Інтарэсаў уручае выклік для размовы па тэлефоне на 11 гадзін раніцы. Мамачка з Маруськай званілі, чакалі, а я, мокрая, цягалася па вушы ў снезе, па завеяных дарожках... Прабач, мамачка, я вінаватая перад табою... Я кіну ўсё тут, але прыеду да цябе на канікулах!..

**27 лістапада 1947 года**

Так, я зусім забываю ў сабе «паэта»! А гэта — дарэмна. Мне пра гэта нагадваюць людзі.

Набліжаецца Новы год, і мяне перасцерагла настаўніца па маляванні, каб не бралася маляваць кампазіцыю для елкі школе горада, толькі — вучылішчу...

Ужо ў думках выспела столькі — толькі пішы!.. Трэба ўзяцца... Толькі мову шырэй, трапней слова, ды навучыцца вызначаць усё сваімі словамі, выразамі, дакладнымі, характэрнымі. Адчуваць у сабе паэта і глядзець на ўсё такімі вачыма! Вось Горкі... Авалодаць бы хоць сотай доляй такога таленту! Ён чытаў шмат, хадзіў, вывучаў... «Девушка и смерть», «Старуха Изергиль», «Жизнь Клима Самгина», чым цяпер упіваюся, — усё гэта прымушае пакланяцца таленту мастака...

...Поўны клас студэнтаў. Вось за сталом сядзяць двое, жанатыя хлопцы: чарнабровы, чарнавокі і чорнавалосы, у снежнай сарочцы пад чорным пінжаком Афанасій Падалякін, сапраўдны беларус. Ён старанна вучыць урывак з «Сымона-музыкі», нахіляючыся і перасмейваючыся са сваім суседам Парфенам Азарковым, таксама тыповым беларусам — высокім, хударлявым, з правільнымі прыемнымі рысамі — светлым чалавекам. Вось яны ўжо разам, сур’ёзна, нахмурыўшыся, жэстыкулюючы, спрачаюцца пра адасабленні акалічнасці.

Зусім сур’ёзны Віктар Інтарэсаў, весялун з заўжды смяшлівымі вачыма. Піша і піша штосьці... Толькі ўставіў у размову, як адна баба кляла другую век есці чорны хлеб, а тая яе — век белы, — хто каму горшага пажадаў? Мы ўсе згадзіліся, што горш той, што век белы будзе есці...

Задумліва ўглядаючыся ў далечыню, стаіць ля печкі з прамовай Бышынскага ў руках нервовы, жартаўнік і «свістун», у сваім шэрым пінжачку Васіль Уласаў.

Побач са мною спісвае верш з кнігі грозны з выгляду і заўсёды востраязыкі, забаўны Іван Надзежка. Уперадзе — ён проста Герасім Андросенка, маленькі брунет, у акулярах сёння. Я не вытрымала, каб не рассмяяцца, а Іван Юргель заўважыў і зразумеў, з чаго...

— Колькі часу? — пытаецца сонны Уласаў.

— Без пяці восем, — звычайным тонам адказвае Падалякін (у сапраўднасці ж — дванаццатая гадзіна — 24-я).

Соня Філістовіч, адна з маіх «сужыцелек», добрая дзяўчына з фізічным дэфектам, сядзіць у самым кутку. Часам мы з ёю пераглядваемся і смяемся з усялякіх выхадак.

«Чаруе» над сшыткамі Пётр Шчарбакоў з завітым светлым чубам, да крайнасці «зубасты» і ганарысты па-свойму.

Рыгор Уласенка, нечым нагадваючы

Сярожу — брата майго, прыемны, добры і спакойны, але парой — запальчывы, такі ж статны, магутны.

На двух лаўках паміж гэтымі сядзяць 6 дзяўчат: думаюць, пішуць, чытаюць, усе прыгожыя, статныя, жартаўлівыя і сур'ёзныя. Кнігі, канспекты, чарніла, ручкі і алоўкі. Кожны ведае, дзе пажартаваць, а дзе памаўчаць, быццам у адной сям'і раслі ўсе гэтыя гады.

Пішу... Для чаго — не ведаю. Можа, для таго, каб, прачытаўшы дзе-небудзь у адзіноце, у вёсцы, засумаваць, успомніць да драбязы ўсе гэтыя абставіны, студэнцтва, усе гэтыя мілыя твары...

**5 снежня 1947 года**

Ці ж не сорамна? Падумаць, так выдаць сваю слабасць!.. Хворая, ну хворая — і ўсё тут, дык навошта было ўрачу гаварыць пра сваю беднату, эканомію?.. Не патрэбны мне іхнія спачуванні... Не, гэта апошні раз! Хоць да паўсмерці дайду, але нікому не паскарджуся!..

Наведала Марыю Іванаўну. Сустрэліся на дарозе, па-роднаму... Жыве яна разам з другой дзяўчынай у вялікім пакоі вясковай хаты, з невялікімі вокнамі. Печка, падлога фарбаваная, стол са стуламі пасярэдзіне, дзве койкі ля сцяны з дыванамі над імі, з гітарай, этажэрка з кнігамі... Яна цудоўная, статная, добра апранутая. Жыве добра. А мне зноў дрэнна было... Думала, што не дайду назад і... не данясу яе пісьмо Віктару... Цяжкае пачуццё ахапіла мяне ў дарозе. Былая Польшча, панская... Крыжы пачарнелыя, падгнілыя ад старасці, з распяццямі Хрыста на кожным. Школа ў хатцы і абавязкова каля касцёла ці царквы... Званок на ўрок — звон у храме або арганаў гукі...

А гора, а бяда праклятая не даюць жыць, цямняць сонечныя дні, даводзяць да слёз... Каго паклікаць на дапамогу?!. Бога?! Я ўжо і ўспамінаю яго ледзь не заўсёды.... Мамачка, любая, дапамажы!..

Манечка, родная, няўжо ты не прыйдзеш сёння? Няма радней роднага, асабліва ў гадзіны тугі сардэчнай, балючай...

**9 снежня 1947 года**

Аднаўляю сваё добрае імя... Добрая і карысная была лекцыя па філасофіі пра развіццё жыцця і свету. Прысутнічалі ўсе выкладчыкі і мы — трэці курс як людзі, якія ўжо ўсё разумеюць. Усе чакалі, пра што спытаю я... А я запыталася-такі: у тыя старажытныя часы было даказана, што першакрыніцай усяго з'яўляецца агонь, потым вада і іншае. Мы ж даказваем, што ў аснове ўсяго ляжыць матэрыя... Але ці можна меркаваць, што там, пры камунізме і далей, узнікне на аснове гэтага ж закона матэрыялістычнага развіцця (усё ж ідзе наперад, рухаецца, развіваецца) новае сцвярджэнне, і пра матэрыю ўжо будуць гаварыць як пра першакрыніцу ўсяго (гэта маё пытанне літаральнае)?

Доўга і сур'ёзна лектар тлумачыў маё пытанне і... сцвярджальна! Думаю, значыць, крыху.

**10 снежня 1947 года**

Чаму ж я не напішу, як рада была прыходу Мані, як у той жа вечар сустрэліся з Пецем, як добра прайшоў час? Мы з Маняй натанцаваліся, яна вядзе сябе цудоўна, ганаруся ёю!.. Даўшы практычны ўрок па пазакласнай рабоце, прыйшла да вываду, што маю здольнасць да педагагічнай дзейнасці. Паставілі «5». Але выкрыла сябе на думцы, што абыякава адношуся да вывучэння методык. Ды што ўсё гэта ў параўнанні з вялікай надзеяй: прыехаў, як у прошлым годзе, П. У. Броўка! Цяпер у яго прамове адчуваўся больш дзяржаўны дзеяч (ён даведаўся, пэўна, што арыштавалі многіх, не той давер). Чытаў па-майстэрску вершы. Шкада, што гэтак нечакана прыехаў... Але мяне пазнаў, прывітаўся асабіста і шчыра...

Цудоўным, мусіць, з боку гледзячы, быў наш «салон»!.. Пасярэдзіне доўгага стала ў класе гарыць маленькая капцілачка, кругом стала сядзім мы: Лёня, я і 7 хлопцаў — «генаўцаў». Пахаджвае з канспектам Н., выкідваючы свае трапныя слоўцы. Мы вучым, яны пішуць методыку мовы. Нечакана цішыню парушае рогат... Мы з Лёняй пераглядваемся, я забіраю капцілку, каб пайсці. Не даюць! Пагутарылі пра літаратуру, пра пісьменнікаў, крыўдзіліся на беларускіх, што ні аднаго добрага рамана не напісалі... Уласаў знаходзіць, што Чэхаў вельмі коратка піша.

— Але ж коратка пісаць цяжэй, чым пашырана, — кажу я. — Тут кожнае слова страляе.

— Так, — сваім узрушаным голасам з цемнаты адклікаецца Падалякін.

— Асабліва ён вось пра жанчын шмат, — нахіліўшыся да стала ззаду яго гаворыць кудравы Пётр Шчарбакоў.

— Гэта вось вам бы прыдалося ў вашай дзейнасці канферанс'е, — знаходжуся я, што прымушае ўсіх дружна засмяяцца і загаварыць пра няўдалы дэбют Шчарбакова-канферанс'е з маналогам пра жанчын.

— Нічога, сябры, калі-небудзь будзем з дзецьмі вывучаць біяграфію пісьменніцы, з якой разам вучыліся, — заключаюць усе...

Ну што тут скажаш? Адказваю нейкім жартам.

Адыходзім па пакоях.

Сапраўды, каб мог, напісаў бы вялікую, добрую кнігу пра усё гэта, пра усіх іх!..

**11—14 снежня 1947 года**

Як гэта нечакана, узвышана — проста не верыцца!.. Я, такая непрыкметная, неапранутая, у падраных бацінёшках і змагла аказаць такое ўздзеянне на душу хлопца, што ён, гэтакі нясмелы і спакойны, вымушаны быў прызнацца… Дзіўна!..

Што ж рабіць у адносінах эканомікі? Ні капейкі. Абуць нечага. Дарэмна запэўніла маму... А які знайсці выхад?..

Вось табе і рэформа!.. А колькі новага будзе і ёсць! На рынку хлеб — 1 000 руб. пуд, газы літр — 100 руб. (замест 40), алоўкаў каробак — 120 руб. (!) Бабы павымалі цэлыя мяшэчкі новенькіх сторублёвак і не ведаюць, на што іх аддаваць.

Картак не будзе. Страшна неяк чакаць гэтага!.. Няўжо яшчэ горш стане?... Як жа дадому трапіць?...

Эх, у якую эпоху жыць прыходзіцца! Кожны дзень нясе новае, нечаканае… Гістарычныя дні… Калі-небудзь давядзецца вывучаць з вучнямі сваімі ўсё, што перажываем самі ў гэтыя дні. Па радыё перадалі ўказ пра грашовую рэформу і адмену картачнай сістэмы. Грошы даражэюць у 10 разоў, стыпендыі і зарплата застаюцца тымі ж!.. Падумаць толькі, у краіне 30 гадоў хадзілі адны грошы, а то вось з 16-га дадуць нам стыпендыю нейкімі новымі грашыма выпуску 1947 года... Хлеб танней на 12 %, усё ў магазінах — без картак... Мамачка, можа і табе лягчэй стане там? Мілая, гаротная... Дровы... Хата разбіта снарадамі...

А фільм «Сельская учительница» — гэта надзея на ўсё жыццё... Я плакала. Гэта чакае нас, будучых у хуткім часе вясковых настаўніц. Вось гімн настаўніцкай працы! Што можа быць высакародней, чым гэтая праца! Мы выйшлі з кінатэатра, а сярдзіты вецер і снежная завіруха закружылі і ледзь не валяць з ног... Свету божага не бачна, холадна... Я амаль босая ў гэтых гурбах. Усе, зачапіўшыся адзін за другога, панесліся дадому, а я адна, з нейкай страшэннай упартасцю, кінуўшы выклік завеі і ўсім нягодам, павярнулася і зрабіла трохкіламетровы круг да настаўніцы Тамары Антонаўны. Ішла да яе, каб узяць тэмы для практычных урокаў, і мне нішто не страшна было, таму што гэта быў шлях да настаўніцкай працы, вясковай настаўніцы, — Варвары Васільеўны, або (ці ж вялікая розніца!) Еўдакіі Якаўлеўны...

Увесь той вечар наш «суседскі» круг абмяркоўваў карціну.

**18 снежня 1947 года**

Здаецца, змагу быць... Метады самі знаходзяцца, веды ёсць, мова, пісьмо, голас, маляванне — усё, усё! У гэтым — грэх крыўдзіцца на лёс... Як не сорамна, «Тэзісы» не прачытала, а потым хлусі, сто-

ячы!.. Босая, ногі адмерзнуць... Бяру ў доўг рублі... Чаму ж гэта Маня не адклікаецца? Вось ужо зарастае ў вёсцы-хутары глухім!.. Ну, пайду на дыспут па «Подвигу разведчика», потым — хор...

...Што значыць атрымаць пахвалу за выступленне ад самога дырэктара!.. Гэта рэдкае шчасце, мала каму даводзіцца чуць яе (пахвалу) ад яго... Зусім збянтэжана была сустрэчай дырэктара:

— Паслухаем, што ж скажа наша Дуся... Праўда, яна ў незвычайнай форме (хаджу з белай павязкай на галаве: зубы баляць)...

— Што-небудзь скажу, — адказваю, усміхаючыся.

Я не паўтарала сказанага, абурылася тым, што Л-аў сказаў: «Мы б захапляліся патрыятызмам немцаў», заўважыла па выступленні К-вай, Ф-ва, папрасіла адказаць, якім чынам Фядотаў (герой кнігі) засняў форму ключоў, як перадаваў звесткі, як звязаўся з дзяўчынай... Перада мною Герасім абурыўся і зазначыў, што не ўспамінаюць другарадных герояў (пра дзяўчыну), а я — пра хлопца (ён жа быў такі малады, і калі ляцеў у самалёце, не мог, хоць і ўтойваў, стрымаць сваё хваляванне, скокнуў… Яго злавілі, збілі, мучылі, але нічога не даведаліся ад яго. Ён загінуў, невядомы, ніхто не сказаў над ім слова, без славы, як зорка, памёр так, як паміралі тысячы патрыётаў у Айчынную вайну, аддаўшы жыццё за Радзіму). Дзіўна, на самай справе: няўжо было столькі нашых дзяўчат, здрадніц?.. А можа гэта немкі?..

Так, хлеб атрымліваем без картак, па 1 кг у рукі. Хлеб ёсць, толькі грошай — пазыкі і пазыкі...

На ўроку рускай літаратуры Акушка кажа:

— Дуся, сёння раніцай па радыё пра цябе гаварылі.

— Што? — здзіўляюся ўсёй сваёй істотай.

— Тваё выступленне на мітынгу ў сувязі з адменай картачнай сістэмы перадавалі. Кажуць: «Слова ўзяла студэнтка 3-га курса Лось Еўдакія» — і ўсё, што ты гаварыла.

Дзіўна… Тады, на хаду дырэктар сказаў, каб выступіла.

Маня прывітанне перадала... Ваенрук сказаў трэніравацца да спаборніцтваў у студзені. Вялікі перапынак. Чацвер. Мароз і сонца, дзень цудоўны.

**21 снежня 1947 года**

Учора чытаў лектар ЦК партыі. Ён паўтарыў страшны лозунг ЗША: «Усё для вайны супраць СССР». Жахліва думаць пра гэта!

Заснула з кнігай, яна звалілася на падлогу і пагасіла, пэўна, капцілку... Як абышліся дзяўчаты?.. «Калі б мне цяпер далі пісаць сачыненне пра дружбу і таварыства, я б ведала, што пісаць…», — толькі і сказала я, задыхаючыся, паўголая прабегшы за імі кіламетры два, каб аддаць запіску Мані (яны не пачакалі хвіліны дзве, пакуль дапішу...) Але што іх судзіць? Можа, я сама вінаватая, што вось непаважліва да мяне аднесліся; але цяпер ніколі не буду складаць ніякіх меркаванняў пра людзей, калі так загінулі мае добрыя думкі пра Клямяціч і Саўчыц...

Канспект урока настаўніца адобрыла.

Зжываюцца людзі з аднолькавымі характарамі, сяброўюць... Вось ісціна... У астатнім жывём, на кожным кроку цытуючы Чэхава: «Усе сур’ёзныя, ва ўсіх строгія твары», «усюды клапы, смурод, сырасць...» І добрае ўспамінаецца часта...

**22 снежня 1947 года**

Нечакана абрадавала Маня: прыйшла, прынесла фотаздымкі мамы і Марускі, пісямка ад іх... Божа мой, Маруська сядзіць (мая малодшая сястрыца), такая дарослая, такая мілая і цудоўная, уюцца яе кудзеркі, усмешка на вуснах, прыжмураны вочкі — жывая, добрая!.. Ад радасці гатова была ўсяму свету аб’явіць!.. Як піша, як піша! Усе коскі, працяжнікі, двукоссі на месцах, стыль — увесь мой... Ох, як дамоў хочацца!..

Праглядзела «Фронтовые подруги» разам з П. і Э. Сябры сустракаюцца зноў... Нясмеласць — тая ж... Чаму іншы раз здаешся сам сабе такім цудоўным, добрым, высакародным, гатовы зрабіць столькі дабра, столькі ў цябе імкненняў, што на крылах паляцеў бы!?. Прыйдзеш у гэтыя сцены, у копаць, сутыкнёшся з такім злом, дрэнню, — і ўсё знікае...

**Чэрвень, 1947 год...**

Першы выпуск пасля вайны. Хлопцы і дзяўчаты пакідаюць сцены педвучылішча, дзе прайшло іх трохгадовае жыццё... Сярод іх і мая сястра Маня... Дужа цяжка ёй прый-

шлося ў гэтым годзе. Пасля страшэннай хваробы — сыпнога тыфу, калі яна доўгі час была ў непрытомнасці, але на вялікае маё шчасце — выздаравела, ачуняла, вярнулася зноў у вучылішча, каб яго закончыць, — Маня разам з усімі здавала экзамены і вытрымала іх паспяхова. Праўда, хадзіла на кожны экзамен, трымаючыся за сцены калідора (калі не было мяне ці каго іншага, каб давесці яе да аўдыторыі, дзе павінен быў адбыцца чарговы экзамен). Маню накіравалі ў вясковую школу, што ў 10 кіламетрах ад Глыбокага, выкладаць рускую мову і літаратуру (у яе атэстаце па гэтаму прадмету — «пяцёркі»).

Я скончыла другі курс. Трэба неяк жыць далей. Уладкавалася ў Глыбоцкі абласны піянерскі лагер (на летнія канікулы), піянерважатай. Працую, а Маня здае экзамены, хоць час ад часу і я прыходжу ў педвучылішча, дапамагаю сястры пасля хваробы. Дзіўна, ды і толькі! Разам з ёю жылі, разам елі, разам спалі на дашчатым «ложку» — і я не захварэла тыфам. Дактары ж сказалі, што тыф — заразная хвароба. Значыць, «магутны» мой арганізм, хаця столькі прыходзіцца пераносіць нястач і мук...

Мяне запрасілі на выпускны вечар. Папрасілі сказаць прывітальнае слова ад імя студэнтаў першага і другога курсаў. Думала-думала я, пра што сказаць і якім чынам. Вырашыла: напішу верш-прывітанне, як магу. І вось мае дзеці-лагернікі спяць, а я «сочиняю»... Шкада мне хлопцаў і дзяўчат, трэццякурснікаў, з якімі я моцна дружыла, вельмі паважала іх... Шкада і тых, каго няма сярод іх, каго арыштавалі невядома за што... Адно толькі і памятаю: былі ворагамі, нешта рабілі недазволенае... А што?... Хоць бы хто калі-небудзь сказаў!.. У аднаго з іх было і маё фота...

…Вечар. Я прыйшла з піянерлагера. Маня мяне чакала. Усе такія прыгожыя, вясёлыя. Дзесьці заўважаю і хмурыя твары — асабліва ў тых хлопцаў і дзяўчат, якія кахалі адзін другога... Трэба ж расставацца... А там — хто ведае, як будзе?.. Мяне сустракаюць добра, запрашаюць у прэзідыум, пытаюцца (настаўнікі) пра маё цяперашняе жыццё, прапануюць нешта ў дапамогу...

А калі дайшла чарга да майго выступлення, я нават заплакала, шукаючы вачыма Маню, якая сядзела ў зале... Бачыла, што і яна выцірае вочы... Схамянулася я, выйшла з-за стала на сярэдзіну сцэны і прачытала на памяць свой немудроны верш-прывітанне: «НА РАЗВІТАННЕ», прысвечаны дарагім выпускнікам 1947-га года з Глыбоцкага педвучылішча.

У добры шлях, мае слаўныя сябры!

Радасці вам у жыцці і педагагічнай працы!

А сабе хачу пажадаць, каб здзейсніліся ўсе мае добрыя мары, з якімі я жыву кожны дзень.

Трымайся, Еўдакія Лось!

Вера ГУДЗЕЙ-КАШТАЛЬЯН

# НА РОСТАНЯХ ЯЕ АДКРЫЦЦЯЎ



*«Шкада, што Вердзі, Чайкоўскі, Пучыні жылі ў іншы час, магчыма, мы б з імі супалі».*
Фота Ігара Кузняцова, 2007 год.

***Пісаць пра чалавека, для якога слова не толькі інструмент прафесійнай дзейнасці, але і сродак самавыяўлення, здаецца справай больш складанай, чым пісаць пра мастака, кампазітара, рэжысёра ці артыста. Тым больш, калі гаворка ідзе пра разнастайнасць інтарэсаў і захапленняў, якія ў адной асобе то перакрыжоўваюцца, то паслядоўна змяняюцца і дапаўняюцца: журналістыка і балетная крытыка, паэзія і проза, музыка і тэатр. І ў кожным з гэтых абсягаў выяўляецца сваё ўнутранае мноства тэм, персаналій і персанажаў, рэальнае і прыдуманае, гісторыя і сучаснасць. Таму хочацца знайсці нефармальнае вызначэнне менавіта той шматграннасці, якую нясе ў сабе канкрэтная асоба.***

## НЕЗНАЁМАЯ ЗНАЁМКА

Прызнаюся, што веру ў невыпадковасць знаёмстваў і расстанняў. Пазнанне ці пазнаванне людзей, з якімі давялося сустрэцца на жыццёвым шляху, прыводзіць, урэшце, да разумення самога сябе. Магчыма таму такімі блізкімі мне падаліся паэтычныя вобразы Таццяны Мушынскай, і радкі, дзе я знайшла сугучныя думкі:

Я пытаюсь понять себя
И мир вокруг.
Я смотрюсь в зеркало неба.
В зеркало солнца.
В зеркало дождя и метели.
И каждое отражение
Добавляет что-то
К пониманию и себя, и мира.

Некалі нас звязала іншае, агульнае ў інтарэсах — балет, пра які Таццяна ведала на той час значна больш як аўтар артыкулаў і кніг пра балетных артыстаў. Для мяне яна была перш за ўсё журналісткай, рэдактарам аддзела музыкі ў часопісе «Мастацтва». Мінула шмат гадоў, і ў аб'ектыў нечакана зноў трапіла Таццяна Мушынская, цяпер у іншым амплуа.

Яе творчыя праекты 2008 года — музычна-паэтычны вечар «Исповедь женщины» з удзелам салістаў Нацыянальнай оперы, зборнік вершаў «Души ожиданье», кніга вершаў, аповесцей і казак для дзяцей «Вожыкі ў футбол гуляюць», філарманічныя прэм'еры твораў беларускіх аўтараў «Репетиция хора» Алега Хадоскі, «Егіпет. Клеапатра» Алены Атрашкевіч, «Міражы Венецыі» Аліны Безенсон, створаныя на тэксты Мушынскай, з'явіліся для мяне не проста адкрыццём, але прыцягнулі ўвагу да чалавека, якога, аказваецца, зусім не ведала.

Пра свае творчыя захапленні яна заявіла яшчэ ў 1998-м, які зрабіўся знакавым. Напярэдадні, як стыпендыят Інстытута польскай культуры ў Парыжы, Таццяна прайшла стажыроўку ў Варшаве і Кракаве ў якасці балетнага крытыка і лібрэтыста. У выніку з'явілася цудоўнае лібрэта «Чорная дама Нясвіжа», якое было надрукавана ў часопісе «Тэатральная

творчасць». У ім паўстае ўзвышаны і трагічны вобраз Барбары Радзівіл, лёс якой, нягледзячы на гістарычную даўнасць, не можа не цікавіць сучаснікаў. У каментарыях да лібрэта аўтар звяртае ўвагу на тое, што ідэя балетнага спектакля на такі сюжэт не магла ўзнікнуць раней, і застаецца здзіўляцца, чаму такі спектакль не з'явіўся дагэтуль.

*— Якім незвычайным і рамантычным мог атрымацца гэты балетны спектакль! Пра жанчыну, якой захапляліся сучаснікі, каму прысвячалі музычныя творы, з якой пісалі партрэты, чыё каханне стала легендай... Яна зведала бліскучыя вяршыні шчасця і чорную бездань гора, у яе былі багацце, слава, каханне, каралеўская карона, і ўсё гэта яна страціла ў трыццаць адзін год, таму што памерла.*

Стажыроўка ў Польшчы дала магчымасць не толькі адшукаць матэрыял для лібрэта, але і пазнаёміцца з музычна-тэатральным жыццём Варшавы і Кракава. «Рамэа і Джульета» ў пастаноўцы галоўнага балетмайстра Варшаўскага тэатра оперы і балета Эміля Весялоўскага, вечар аднаактовых балетаў нямецкай трупы і шмат іншых спектакляў. Зрэшты, не абышлося і без прыгод. Складанасці зносін без ведання польскай мовы, побытавыя праблемы, да таго ж пашпарт ukралі... Свой філасофска-песімістычны настрой у гэтай сувязі Таццяна выказала ў вершы «Варшава. Кастрычнік» («У незнаёмым згубілася горадзе...»), а найбольш яркія ўражанні — у двух артыкулах «Варшаўскі дзённік».

*— Уражанні патрабуюць выхаду, каб эмоцыі не разарвалі цябе з сярэдзіны. Свет эмоцый — радасці і смутку, іншым разам адчаю — ад іх празмернасці трэба пазбаўляцца. І ў той жа час чалавеку патрэбны магутныя ўражанні, якія могуць спатрэбіцца потым, праз шмат гадоў.*

*Для мяне такімі ўражаннямі ў 1998 годзе былі Варшава і Кракаў, а годам раней — Рым і Венецыя. Убачанае ўзрушыла! Адчуванне, быццам нешта змяніла мяне. І гэта — на ўсё жыццё... У выніку з'явіліся вершы «Міражы Венецыі», «Вечны горад», «На прыступках Калізея», якія пазней зрабіліся асновай музычных сцэн, створаных Алінай Безенсон.*

У тым жа годзе выйшаў першы зборнік вершаў Мушынскай «Я вандрую ў стагоддзях», а ў наступным яшчэ адзін — «Рабро Адама». Годам раней «Бібліятэка часопіса "Маладосць"» апублікавала першую аповесць маладой пісьменніцы — «Доўгае развітанне», за якой з'явіліся «Апошняе каханне Дон Жуана», «Джульета і экстрасэнс». Адначасова яна прапанавала выдавецтву «Мастацкая літаратура» кнігу прозы, якая пакуль не дачакалася свайго часу, таксама, як і незапатрабаваны некаторыя лібрэта, п'есы, у тым ліку і для дзяцей.

Лібрэта балета «Чорная дама Нясвіжа», як лічыць Таццяна Мушынская, было напісана ў свой час, але сёння, магчыма, страціла актуальнасць. Гэта падштурхнула да новых досведаў у дадзеным жанры.

*— Частка музыкі на лібрэта «Барбары Радзівіл» была напісана адным з беларускіх кампазітараў. Але паколькі мы не знайшлі балетмайстра, які б захапіўся тэмай, партытура, на жаль, засталася незавершанай. Лібрэта балета «Апошні кароль», прысвечанае падзеям XVIII стагоддзя, засталося пакуль толькі ідэяй і старонкамі тэксту. Гістарычны балет — заўсёды маштабны спектакль, ён патрабуе размаху, багатай сцэнаграфіі і касцюмаў, вялікіх фінансавых укладанняў. А гатовае лібрэта гістарычнага балета «Саламея» пра прыгоды навагрудскай лекаркі Саламеі Пільштынавай ляжыць у шуфлядзе. Шкада, што Вердзі, Чайкоўскі, Пучыні жылі ў іншы час, магчыма, мы б з імі супалі.*

Насамрэч лібрэта Мушынскай, — не лібрэта, калі разумець гэты літаратурны жанр як кароткі змест балета ці оперы. Яны змяшчаюць падрабязнае апісанне сцэнічнага дзеяння і музыкі, прапановы да выкарыстання танцавальных форм, апісанні сцэнічнага афармлення (касцюмы, дэкарацыі, бутафорыя). Цяпер такія дэталёвыя распрацоўкі да музычна-тэатральных жанраў не ствараюць. Часцей аўтарамі балетнага сцэнарыя з'яўляюцца балетмайстрыпастаноўшчыкі, а ў оперы — кампазітары. Між іншым вядома, што чым вышэй літаратура ў оперы, тым яна больш паспяховая. (Напрыклад, лібрэта Святланы Клімковіч па аповесці Уладзіміра Караткевіча «Дзікае палаванне караля Стаха», пакладзенае ў аснову аднайменнай оперы Уладзіміра Солтана.)




*З сынамі каля сабора*
*Нотр-Дам, Парыж, 2007 год.*

Магія тэатра не паддаецца тлумачэнню. Але яго прыцягальная моц вядомая. Разумеючы, што тэатральныя або музычна-тэатральныя праекты здзейсніць дастаткова складана (яны павінны «знайсці» свайго рэжысёра-пастаноўшчыка, мастака, грошы і... свой час), Таццяна Мушынская па-ранейшаму стварае лібрэта і п’есы на сюжэты, цікавыя перш за ўсё ёй самой, і лічыць, што спрабаваць свае сілы і магчымасці ў гэтых жанрах неймаверна цікава. У 2001 годзе яна напісала п’есу, прысвечаную гісторыі кахання Янкі Купалы і Паўліны Мядзёлкі «На крыжавых пуцінах». Потым з’явілася інсцэніроўка ўласнай аповесці «Моя дорогая Джульетта» і фантасмагарычная камедыя «Чалавек, які купляе час», апублікаваная ў перакладзе на рускую мову ў часопісе «Немига литературная» ў 2004 годзе, а праз тры гады ў арыгінале яе надрукавала газета «Культура». Потым былі створаны п’есы для дзіцячага тэатра — фантастычная казка ў 2-х дзеях «Калі прыляцелі іншапланецяне» і экалагічная казка «Прыгоды парсючка Лычыка».

— *Што тычыцца драматургіі, то, відаць, гэта самы складаны жанр літаратуры. Не трэба думаць, што сёння напісаў, а заўтра п’есу паставяць. Тэатр іншым разам не хоча, і нават баіцца сучаснага аўтара. Часам ствараецца ўражанне, што і рэжысёры — людзі інертныя: іх трэба ўгаворваць прачытаць пяцьдзясят старонак тэксту, што можна зрабіць за адну ці дзве гадзіны.*

Асаблівыя надзеі Таццяна Міхайлаўна ўскладае на завершаную п’есу «Чайкоўскі. Версія», працу над якой пачала яшчэ ў 2000 годзе. І калі тэатральныя рэжысёры пакуль не спяшаюцца адкрываць Мушынскую як драматурга, то ў плане рэалізацыі музычна-тэатральных задумак пазітыўныя зрухі вызначыліся: Валерый Карэтнікаў стварыў музыку дзіцячага балета «Дзюймовачка», Андрэй Мдывані напісаў оперу «Пярэпалах» на лібрэта «Дырэктар тэатра».

## ПЫТАННЕ ДЛЯ САРАКАНОЖКІ

Шмат з таго, што было здзейснена Таццянай Мушынскай у розных жанрах і атрымала прызнанне ў выканаўцаў, слухачоў і чытачоў, як і тое, што яшчэ чакае свайго часу, не прагназавалася і не планавалася. Напрыклад, стаць празаікам, паэткай, драматургам, лібрэтысткай... тым больш, што ўсе гэтыя іпастасі мірна ўжываюцца і суіснуюць паралельна. А на маё пытанне, як так адбылося, Таццяна Міхайлаўна нагадала гісторыю сараканожкі, у якой запыталі: якая ножка ідзе за якой?

— *Чым больш сараканожка думала, тым з большым жахам разумела, што не можа рухацца далей — не памятае... А калі не задумвалася — рухалася... Усе жанры не могуць суіснаваць у творчасці адначасова. Ад адных перыходзіш да другіх. У маім жыцці жанры заўсёды злучаліся і спалучаліся. Балетная крытыка і творчасць для дзяцей, проза і музычная журналістыка. Вядомы тэатральны крытык, іранічна-*

*ўсмешлівы Барыс Бур'ян аднойчы пацікавіўся: «Вы не раскідваецеся?» Думаю, што не. Як сказаў калісьці Цютчаў: «Нам не дано предугадать, как наше слово отзовется...»*

Нараджэнне і выхаванне сыноў Дзяніса і Ягора стала тым самым пабуджальным матывам, які падштурхнуў Таццяну Мушынскую да стварэння прозы для дзяцей.

*— Складала апавяданні і казкі для сваіх дзяцей, для іх задавальнення. Дзецям падабалася быць героямі прыгод і розных неверагодных гісторый. Гэта была гульня! Шмат вызначала жыццёвая сітуацыя. Напрыклад, калі дзіця хварэе або не хоча спаць, мыцца, есці суп. У казцы заўсёды шчаслівы канец. Андэрсена перачытвала шмат разоў. Люблю апавяданні Паўстоўскага. З'явілася думка, а чаму б не прапанаваць свае выпадковыя кароткія апавяданні і казкі выдавецтвам?*

Нечакана высветлілася, што ў перыядычных выданнях — часопісах «Вясёлка», «Бярозка», «Работніца і сялянка», газеце «Дзеці і мы», і нават на радыё — яны аказаліся запатрабаванымі. Прызнаюся, з задавальненнем прачытала адну з апошніх — «Вожыкі ў футбол гуляюць» (2008). Упэўнена, што для многіх, чые бацькі набылі цудоўна ілюстраваны зборнік вершаў, аповесцей і казак Таццяны Мушынскай і мастачкі Галіны Хінкі-Янушкевіч, ён стане ўлюбёнай дзіцячай кніжкай на доўгія гады. Таксама як і іншыя яе зборнікі: «Віця Неслух у краіне мурашоў» (1995), «Свята печанай бульбы» (2003).

З часам у дзіцячай пісьменніцы-дэбютанткі ўзнікла жаданне звярнуцца і да аўдыторыі дарослых. Назапашаны матэрыял падштурхнуў Таццяну да напісання аповесцей і апавяданняў, прысвечаных творчай інтэлігенцыі: «Доўгае развітанне» — музыкантам, «Апошняе каханне Дон Жуана» — мастакам, «Джульета і экстрасэнс» — драматычнаму тэатру. І ў цэнтры кожнай — вобраз жанчыны.

*— Лічу, што жаночага погляду на жыццё ў беларускай літаратуры не стае. Сучасная літаратура адлюстроўвае пераважна мужчынскі погляд. Не стае ў літаратуры і сучасных жаночых вобразаў. Мужчына не заўсёды ведае ці здагадваецца пра што яна думае ці адчувае, пра што марыць, якія пачуцці вірують у яе душы. Як яна спалучае творчасць і каханне, творчасць і сям'ю.*

Здаецца, Мушынскай з лёгкасцю ўдаюцца ўсе магчымыя спалучэнні, хоць яна і прызнаецца, што жанчына, маці і творца іншы раз у ёй спрачаюцца, а іншы раз прыходзяць да згоды: *«Землю попашет, попишет стихи»*.

## ВЕРШЫ, ЯКІЯ ПРЫХОДЗЯЦЬ… СВОЕЧАСОВА

У зборніку вершаў пра каханне «Души ожиданье», дзе прадстаўлены паэтычныя опусы Таццяны Мушынскай на рускай мове, я знайшла наступныя радкі:

Стихи всегда не вовремя приходят —
Когда устал, иль занят, иль уныл,
Когда тебе весь белый свет не мил,
Они тебя в унынии находят.

Але ж яе паэзія — гэта не толькі вершы пра каханне, гэта не проста жаночыя вершы, гэта пранізліва тонкі і глыбокі, філасофскі погляд на тое, што вакол нас. Гэта прызнанне ў любові слову, паэзіі, жыццю… Усё гэта можна знайсці ў першым раздзеле «Свет несказанный». Пасля — «Эскизы», дзе раскрываецца душа чалавека, яго лёс, жыццё паэта, мастака, балерыны, дзе шмат пытанняў, разважанняў і пачуццяў. Нарэшце, «Любви обряд», у які гучыць музыка кахання, песня пра каханне і вечная музыка.

У юнацтве вершы пішуць многія, але паэтамі становяцца не ўсе. Нярэдка паэтычны талент у некаторых нечакана выяўляецца ў сталым узросце. Тым больш хацелася даведацца, які быў шлях у паэзію Таццяны Мушынскай. Якім было першае слова, калі з'явілася, у які час?

*— Пісала вершы і ў школьныя гады, і ў студэнцкія, і калі працавала ў «ЛіМе». Пісала для сябе як дзённік, дзе выплюхваеш эмоцыі, якія ідуць ад жыцця. Але вынік мне не падабаўся. Ніколі не пісала вершы да падзей. Публіцыстыка ў вершах неўзабаве старэе. Асноўныя тэмы ў маёй паэзіі — каханне, жыццёвыя антытэзы, сэнс існавання, стан прыроды, якая адлюстроўвае стан чалавека. Акрамя таго, у юнацтве мяне бянтэжылі паэты, якіх я асабіста ведала, — або залішне нервовыя, або экзальтаваныя, яны кожны раз не супадалі з рэальнасцю. Вось*

*празаікі — іншая справа! Сур'езныя, ураўнаважаныя, яны выклікалі давер.*

Пасля выхаду першых паэтычных зборнікаў «Я вандрую ў стагоддзях» і «Рабро Адама», якія выйшлі пры канцы апошняга лета мінулага стагоддзя, з'явіўся зборнік дзіцячых вершаў «Калі тата — дзед Мароз» (2000). Потым быў доўгі перапынак. І яшчэ два паэтычныя выданні — «Сны кахання» і «Души ожиданье» з'явіліся ў 2006 годзе.

Вядома, Таццяну хвалявала пытанне — як успрымуць. Былі і нядобразычлівыя водгукі, заўвагі, у зборніку дзіцячых вершаў, напрыклад, сёе-тое прыйшлося перапрацаваць. Але галоўнае — вынік, які пераўзышоў чаканні: яе вершы перкладзены на рускую, украінскую, англійскую, іспанскую мовы. Сёння на яе паэтычныя тэксты напісана больш за дзвесце музычных твораў у розных жанрах — рамансы, песні, вакальныя цыклы, кантаты. Творчасць Мушынскай натхняе кампазітараў да стварэння незвычайных жанравых форм: музычная сцэна, музычная фрэска, перформанс, харавы экзерсіс. Песні на яе вершы выконваюць не толькі акадэмічныя выканаўцы, але і папулярныя спевакі.

*— У злучэнні з музыкай слова набывае асаблівую моц, робіцца зрокавым, вобразным. Для любога аўтара — вялікае шчасце, калі яго слова ў музыцы. Мне было цікава назіраць як, напрыклад, Ніна Ламановіч працуе са словам на харавой рэпетыцыі. Калі Андрэй Мдывані з азартам у вачах і з каментарыямі прайграваў для мяне клавір камічнай оперы «Дырэктар тэатра», ад душы смяялася. А слухаючы музыку Аліны Безенсон на мае вершы «Вечны горад», была гатовая плакаць.*

У вершах Таццяны, безумоўна, ёсць музыка! Але галоўнае, як лічыць кампазітар Марына Марозава, — яе пачуць: *«Важна не самавыяўленне кампазітара з дапамогай вершаў, а здабыванне музычнай інтанацыі, якая ў іх закладзена».* Між іншым, супрацоўніцтва з кампазітарамі і выканаўцамі адбылося зноў жа нечакана, хоць і заканамерна.

## МУЗЫЧНЫЯ ВАНДРОЎКІ

*— Музыка заўсёды прысутнічала ў маім жыцці. Штосьці сама напявала, шмат чытала пра кампазітараў, збірала ноты. Было цікава прайграваць музычныя ўрыўкі з манаграфій. Асабліва ўзгадваецца манаграфія пра Чайкоўскага, якую прынёс тата з акадэмічнай бібліятэкі. Бацькі купілі піяніна «Беларусь» у крэдыт, хоць у новай кватэры, куды мы пераехалі ў той час, не ставала неабходнай мэблі.*

Былі і іншыя творчыя захапленні, якія перайшлі потым у сферу журналісцкіх інтарэсаў Таццяны.

*— Шмат хто прасіў: «Пазнаёмце з сучасным беларускім аўтарам. Патрэбны вершы!» Але паэты часта ставяцца да кампазітараў насцярожана, баючыся, што вытанчанасць і філасафічнасць пераўтварацца ў банальнасць і «папсу». Я ж паказала свае вершы. Але не адразу на іх звярнулі ўвагу.*

*Калі Нацыянальны канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга выканаў песню «Мама — наше солнце», створаную Аленай Атрашкевіч на мой тэкст, прэм'ера падаравала мне дзве з паловай хвіліны абсалютнага шчасця.*

Да творчасці Мушынскай пачалі звяртацца іншыя кампазітары. У 2003 годзе ў сталічнай філармоніі адбыўся першы музычна-паэтычны вечар пад назвай «Твой самы кароткі шлях — да мяне», дзе прагучалі харавыя творы і вакальныя цыклы. Дарэчы цыкл Марыны Марозавай «Исповедь женщины», выкананы ў канцэрце, атрымаў пасля таго розныя інтэрпрэтацыі, якія стварылі цудоўныя спявачкі Таццяна Траццяк, Наталля Руднева, Марына Філіпава.

Таццяна асабліва ганарыцца і шчаслівая магчымасцю прадстаўляць сваю творчасць у філармоніі, на самай прэстыжнай канцэртнай сцэне страны. З той пары адбыліся восем канцэртных праграм (апошні канцэрт ладзіўся ў Магілёве ў сакавіку 2010 года), дзе як правіла гучалі новыя сачыненні беларускіх кампазітараў і новыя вершы паэтэсы.

Вакальна-сімфанічная паэма Алены Атрашкевіч «Кахаю...» дала назву праекту 2004 года і з'явілася асновай для тэлеперадачы з цыкла «Плошча мастацтваў» тэлеканала «ЛАД». Наступны музычна-паэтычны вечар «Свет несказанный» быў цікавы прэм'ерай перформанса Ганны Кароткінай «Море» на тэксты Мушынскай. Тут прагучала сачыненне Аліны Безенсон — музычная сцэна «На

прыступках Калізея». Яго суровае, жорсткае вобразна-тэматычнае вырашэнне выклікала моцныя ўражанні ў слухачоў, адкрыўшы ў паэзіі псіхалагічна завостраны драматызм.

Адным з самых маштабных, лічыць Таццяна, атрымаўся праект «Сны кахання».

— *Арганізацыя канцэртаў заўсёды звязана з рознымі цяжкасцямі — тэхнічнымі, творчымі... Сітуацыя вымушае знайсці ў сабе рысы менеджара, прадзюсара. Дзякуючы такім праектам я адкрыла для сябе шмат таленавітых людзей і, акрамя таго, перазнаёміла шмат выканаўцаў і кампазітараў. Падчас рэканструкцыі Вялікага тэатра, такія вечары давалі магчымасць оперным салістам абнаўляць рэпертуар.*

Яшчэ два канцэрты — «Калі пачуцці — як полымя» і «Споведзь жанчыны» былі падрыхтаваны і праведзены сумесна з салістамі Нацыянальнай оперы. У апошнім браў удзел аркестр ансамбля «Харошкі» пад кіраўніцтвам Марыны Марозавай. І тут не абышлося без прэм’ер. У праекце прагучалі «А скрыпка спявала...», «Город — один на двоих», «Кто любил, тот поймет», «Ты — моя хрустальная мечта» А. Атрашкевіч, «Где ты, прежняя очарованность» У. Саўчыка, створаныя на вершы паэтэсы.

У лютым 2009-га ў Вялікай зале філармоніі была прадстаўлена праграма да 20-годдзя творчай дейнасці Таццяны Мушынскай. Назва творчага праекта «Я вандрую ў стагоддзях» метафарычная і глыбока сімвалічная. Менавіта такую назву мае яе першы паэтычны зборнік. Пра гэта гаворыць і ўся творчасць аўтаркі, таксама як і прэм’ерныя творы беларускіх кампазітараў на яе тэксты, выкананыя Акадэмічным хорам Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі пад кіраўніцтвам Вольгі Янум.



*«Цяпер разумею, што заняткі танцам — гэта не толькі прыгожая асанка, а пошук гармоніі з вялікай жыццёвай прасторай», 1975 год.*

## РАСКІДАЦЬ І ЗБІРАЦЬ КАМЯНІ

А пачалося гэта яшчэ ў школьныя гады, калі ўсё было цікава і здавалася патрэбным, важным.

— *У гадоў дзевяць ці дзесяць убачыла ўпершыню «Лебядзінае возера» ў нашым тэатры і зацікавілася балетам. Вывучала ўсё, што было з ім звязана. Вакацыі праводзіла ў тэатры, не толькі оперы і балета, але наведвала Купалаўскі і Рускі драматычны, Тэатр музкамедыі. Зносіны з Чайкоўскім і Барадзіным здаваліся важнейшымі за зносіны з аднакласнікамі, і тэлевізійная праграма Святланы Дабрахотавай «По страницам опер и балетов» была самая любімая. Была і музычная школа, дзе я вучылася іграць на фартэпіяна, вывучала музычную літаратуру, сальфеджыа. Пласцінкі, якія куплялі бацькі, слухала шмат разоў, пакуль не запамінала арыі, дуэты, ансамблі. Так завучвала на слых «Травіяту», «Аіду» Вердзі.*

Артысткай, сапраўды, давялося стаць, толькі ў танцы. У сёмым класе Таццяна запісалася адразу ў драматычны гурток і ў балетную студыю, якой кіравала народная артыстка А. Нікалаева.

— *Памятаю першы выхад на сцэну ў беларускім народным танцы «Дубочак»,*



*Віншаванне ад народных артыстаў пасля творчай вечарыны: танцоўшчыка Уладзіміра Іванова і балетмайстра Валянціна Елізар'ева. Фота Андрэя Спрынчана, 2003 год.*

*адчуванне «священного ужаса» перад глядзельнай залай, незабыўную атмасферу рэпетыцый і канцэртаў. Цяпер разумею, што заняткі танцам — не толькі фарміраванне постаці, пластычнасці рухаў, прыгожай паставы, але і фарміраванне тваіх адносін з вялікай жыццёвай прасторай.*

Было яшчэ адно захапленне — маляванне і мастацкая студыя. Так з'явіліся алоўкавыя партрэты брата, аўтапартрэты, копіі карцін. Спрабавала пісаць акварэллю. Цікава, што дзед (матчын бацька) і мама Таццяны таксама добра малявалі.

## ФРАГМЕНТЫ ШЧАСЦЯ

*— Дзяцінства ўспамінаецца як шматлікія фрагменты шчасця. Гарманічнае светаадчуванне стварала жыццё ў вясковым доме ў Грушаўцы, дзе на той час жылі бацькі. Суіснаванне вясковага і гарадскога ўкладаў, блізкасць да прыроды, побач бабуля і дзядуля — матчыны бацькі. Бабуля была знанай швачкай, дзед — цясляр, сталяр-чырвонадрэўшчык, рабіў выдатную мэблю. Ім я прысвяціла аповесць — «Чалавек не адзін на зямлі». На Быхаўшчыне жылі родныя майго бацькі. Там Дняпро, лес, куды мы хадзілі ў грыбы, гаспадарка — трусяняты, каза...*

*У нашым доме панавала творчая атмасфера. Адчуванне, а пазней і асэнсаванне, што мама і тата — абсалютна незвычайныя людзі, было заўсёды. Мама — Тамара Фёдараўна, больш як 25 гадоў выкладала ў школе рускую мову і літаратуру. Сёння яна — аўтар праграм і хрэстаматый, падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў па рускай літаратуры для сярэдняй школы. Тата — Міхаіл Іосіфавіч, вядомы беларускі вучоны, аўтарытэтны даследчык айчыннай літаратуры.*

Таццяна гаворыць пра бацькоў з захапленнем. Яны — ідэал, узор для пераймання, добрыя чарадзеі, побач з якімі цёпла, светла, утульна, надзейна...

*— Існуе велізарная, бязмежная, сапраўды касмічная прастора творчасці. За мяжой яе, ці паралельна, ці побач існуе ўсё астатняе... І галоўная мэта таго, хто хоча, каб яго жыццё было яскравым, цікавым і захапляльным, арганізаваць свой час так, каб месца для творчасці было як мага болей. А для дробных побытавых праблем, бессэнсоўных спраў і размоў — як мага менш.*

Школьныя гады праходзілі пад знакам літаратуры. Багатая хатняя бібліятэка, кнігі з некалькіх гарадскіх.

*— Тэлевізары, у той час чорна-белыя, былі рэдкасцю і мелі толькі адну праграму. Тым больш было неверагодным і дзіўным тое, што бацька набыў кінакамеру і праекцыйны апарат, калі ў кватэры не ставала неабходнага. Ён здымаў не толькі эпізоды з жыцця сям'і, але і значныя літаратурныя падзеі, пісьменніцкія з'езды, сходы. Так былі захаваны на аматарскай, 8-міліметровай стужцы Васіль Быкаў і Пімен Панчанка.*

## «ЛЮБЛЮ БЯЗДОННЫХ ЛЮДЗЕЙ»

Пасля школы Таццяна доўга выбірала, вагалася — факультэт журналістыкі ці гістарычны, БДУ ці Тэатральна-мастацкі інстытут? І ўсё ж паступіла на журфак.

*— Ларыса Нікіфараўна Гусева выкладала старажытную рускую літаратуру. Аляксандр Аляксандравіч Станюта — рускую літаратуру XIX стагоддзя. Ірына Вікенцьеўна Шаблоўская — выкладчык замежнай літаратуры XX стагоддзя. І, вядома ж, Таццяна Дзмітрыеўна Арлова — вядомы тэатральны крытык, куратар маіх вытворчых практык і кіраўнік дыпломнай работы, прысвечанай беларускаму балету і яго асвятленню ў беларускім друку.*

Потым была праца ў газеце «Літаратура і мастацтва», вялікая ўдача для маладой журналісткі. Па калідорах рэдакцыі хадзілі класікі беларускай літаратуры — Пімен Панчанка, Васіль Быкаў, Янка Сіпакоў, знакамітыя рэжысёры, акцёры, мастакі, скульптары. Гэта быў неверагодна яркі перыяд далучэння да беларускай культуры, у той самы час, калі ступень русіфікацыі набыла неверагодныя маштабы.

*— «Палескую хроніку» Івана Мележа шмат хто з маіх аднакласнікаў, а потым і сакурснікі чыталі ў рускім перакладзе, таму што прачытаць па-беларуску не здолелі. Мяне ж захапляла тое, напрыклад, як Алесь Пісьмянкоў з Уладзімірам Маруком або Уладзімірам Ягоўдзікам доўга і з усіх бакоў абмяркоўвалі дакладнасць скарыстанага слова — у вершах ці прозе.*

Праца ў рэдакцыі вядомай рэспубліканскай газеты была працягам таго, чаму навучыў журфак — творчай актыўнасці. На старонках выдання магчыма было выказваць свае думкі, шукаць і выяўляць таленты. Харэаграфічнае мастацтва стала галоўнай тэмай на доўгія гады. Творчасць таленавітых беларускіх балерын і танцоўшчыкаў, вядомых і маладых, шматлікія ўражанні, думкі, назіранні зрабіліся асновай для першых кніг «Гармонія дуэта» і «Гаркавы смак ісціны», а потым дапамаглі ў працы над альбомам, прысвечаным 50-гадоваму юбілею знакамітага беларускага харэографа Валянціна Елізар'ева. На рэспубліканскім конкурсе кніг ў 1998 годзе ён быў адзначаны дыпломам, а ў 2003 годзе выйшла яго другое, дапоўненае выданне.

*— Цікавасць да спектакляў Елізар'ева пачалася ў 1974 годзе, з прэм'еры балета «Кармэн-сюіта». Але я не спяшалася знаёміцца асабіста. У 1978 годзе напісала артыкул пра «Стварэнне свету», апублікаваны ў «Знамени юности», а ў 1982 годзе творчы партрэт балетмайстра надрукавалі ў «Маладосці». Калі працавала над альбомам, не было ніякіх абмежаванняў. Поўная прастора для фантазіі і вялікае задавальненне..*

*Валянцін Мікалаевіч — абаяльны, харызматычны чалавек, умелы кіраўнік. Ён ніколі не адкрываў свае творчыя сакрэты, не расказваў, як нараджаюцца яго задумкі. Але ў яго можна было навучыцца іншаму — як будаваць адносіны з артыстамі, уменню знаходзіць і «прасоўваць» таленавітых людзей. Мяркую, стасункі з Елізар'евым паўплывалі, я змагла арганізаваць уласныя творчыя вечары. Ён цікавы як буйная асоба ў еўрапейскім і сусветным балетным мастацтве. Ён — з катэгорыі бяздонных людзей...*

## «НЕВЫМОЎНАЕ»

Прафесійная і творчая дзейнасць Таццяны Мушынскай таксама пераконвае, што і яна сама — невычарпальная крыніца натхнення, фантазіі, пошуку, чалавек разнапланавы, захоплены і мэтанакіраваны, да таго ж, любіцель экстрыму. Пабываць у Рыме і ўзняцца на дахі Ватыкана. У Салігорску спусціцца ў шахту і даведацца, як здабываюць калійную соль. Наведаць Прагу і прайсціся (у метафарычным сэнсе) па слядах Скарыны і Моцарта. Гэтыя і іншыя перажытыя падзеі і народжаныя імі эмоцыі — вялікая каштоўнасць для Таццяны.

Аўтар сцэнарыя кароткаметражнага дакументальнага фільма «А если я не вырасту?», які ў 2007 годзе стаў адным з пераможцаў Міжнароднага фестывалю фільмаў-казак «Расскажи мне, облако…», яна марыць пра засваенне іншых жанраў экраннага мастацтва.

Некаторыя ўласныя творы бачацца ёй як мультфільмы і серыялы. Цяжка здагадацца, што ж яшчэ не сказана, не зроблена, не адкрыта ў сабе, не рэалізавана... Можа быць гэта нешта важнае, галоўнае, што застаецца пакуль незразумелым для самой Таццяны Мушынскай, і пра што яна не здагадваецца? І гэта нешта — невыказнае і непрамоўленае ўтойвае няяснае прадчуванне і чаканне. Чаго? Магчыма чарговага творчага адкрыцця?

А галоўнае намі не сказана — / Летуценнае і невыказнае.

І пужлівае, зманліва-мройнае. / І вясновае, нова-зялёнае.

А галоўнае — не! — не прамоўлена — / І пяшчотнае, і невымоўнае.

Усё чароўнае, вабнае, чулае, / Усё чулівае, сэрцам пачутае.



Людміла КАНДРАТАВА

# САМОТНАСЦЬ МІХАЛА КЛЕАФАСА

***Ён нарадзіўся ў маёнтку Гузаў каля Варшавы 7 кастрычніка 1765 года, калі самотнае Сонца (⨀) знаходзілася ў Шалях (♎). Гэта было незвычайнае дзіця і жыццё яно павінна было пражыць яскравае: з сямі бліжніх планет ягонай касмаграмы пяць знаходзіліся ў асаблівых становішчах. І хаця Шалі — знак раўнавагі і гармоніі, у лёсе Агінскага далёка не ўсё было ўраўнаважана.***

Пачнём з кіраўніка Шаляў — Венеры (♀). Нас цікавіць, у якім знаку яна апынулася. Як бачым, знаходзіцца ў Скарпіёне (♏), а такое становішча асабліва крытычнае для Венеры: яно надзяляе чалавека вельмі вялікай жарсцю, вастрынёй і рэзкасцю пачуццяў. А таксама забяспечвае задавальненне ад рызыкі — чым мацней небяспека, тым больш чалавек квітнее. Сімволіка знака Скарпіёна — абнаўленне альбо смерць. Самотная Венера Агінскага ахінала ўсё яго жыццё атмасферай смерці і страт.

Вось ён бежанец пасля ўдзелу ў паўстанні пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. З Італіі ён з сябрамі прабіраецца пешшу ў Аўстрыю без грошай. Навокал лютуе чума, і кожны дзень можа стаць апошнім. Іншы малюнак: ён багаты, займае высокія дзяржаўныя пасады, яго многія ведаюць. Сустракаючыся з людзьмі, часта ловіць на сабе расчараваныя позіркі: «Яшчэ жывы…» Бо вакол Агінскага буйна квітнелі чуткі пра яго заўчасную смерць ці пра чарговае самазабойства. Такую атмасферу пастаянна стварала Венера ў Скарпіёне. Яна ж была вінаватая і ў разбурэнні абодвух ягоных шлюбаў.

Мы ведаем Міхала Клеафаса, як актыўнага нястомнага дзяржаўнага і палітычнага дзеяча. А гэта ж быў чалавек вельмі эмацыйны, з абвостранай успрымальнасцю, зменлівай у межах нормы псіхікай. Проста ў Агінскага планета Месяц (☽) знаходзіцца ў вельмі моцным становішчы — у знаку Рака (♋), а гэта — псіхалагічны дар, багатая фантазія. Для такіх людзей вельмі важную ролю адыгрываюць разуменне, душэўная цеплыня, пяшчота, ім, як паветра, патрэбна сямейная ўтульнасць. Да таго ж, у іх абвостранае пачуццё Радзімы. Дарэчы, дакладна такое ж становішча Месяца ў знаку Рака меў Адам Міцкевіч. І хаця Агінскі не складаў вершы, як Міцкевіч, затое цудоўна граў на скрыпцы і фартэпіяна, ствараў музыку (працаваў у камерным жанры: маршы, песні, паланэзы). Самы вядомы яго паланэз ля мінор «Развітанне з Радзімай» незвычайны тым, што менавіта паланэза — бліскучага гордага танца з пружыністым рытмам — па сутнасці і няма, ёсць толькі маленькі эпізод яго ў сярэдзіне твора. Затое дзівосная мяккая мінорная мелодыя складае аснову, і гэта не танец, а песня — выяўленне душы аўтара.

Нарадзіцца мужчынам з такой чуллівай натурай ды яшчэ ў пераломны момант гісторыі — барані Бог. Гэты цяжкі груз пакладзём на адну чашу Шаляў. Вельмі добра, што ён ураўнаважваўся, як і ў Міцкевіча, моцным рацыянальным пачаткам. Дарэчы, Агінскі, як і Міцкевіч, любіў гуляць у шахматы, і яны згулялі разам не адну партыю. У Агінскага была разважлівасць, яго практычны розум спалучаўся з працалюбствам і пачуццём абавязку — усё гэта належыць да характарыстыкі знака Панны (♍), які ў касмаграме Міхала Клеафаса аказаўся самым запоўненым планетамі. Тут зна-

ходзяцца Марс (♂), Нептун (♆), Заходзячы Вузел (☋) і вельмі моцны Меркурый (☿), які сам кіруе знакам Панны і дае ўладальніку здаровы цвярозы розум.

Міхалу было зусім няшмат гадоў, калі бацька адрэкамендаваў яго каралю. Станіслаў Аўгуст паставіў маленькага разумніка на стол, і той смела і з гонарам мовіў, што будзе служыць свайму каралю, бо гэта яго прызначэнне. Ён і сам мог бы стаць каралём, але не хацеў (нібы адчуваючы свой самотны Юпітэр — ♃ у знаку Льва — ♌), бо людзі кажуць, што кароль — нешчаслівы чалавек.

Гараскоп Агінскага выяўляе моцную кармічную сувязь з продкамі і традыцыямі. Агінскія — вельмі старадаўні і багаты род, які быў набліжаны да самых вяршыняў улады. Міхал Клеафас атрымаў не толькі бліскучую ўсебаковую адукацыю, але і адпаведнае выхаванне. Яго з маленства прывучылі да дысцыпліны і дапамаглі выбудаваць правільную сістэму каштоўнасцей, што было вельмі важна менавіта для яго, маючага Сатурн (♄) першай з бліжніх планет у касмаграме. Міхала рыхтавалі да дзяржаўнай службы самага вышэйшага рангу. Да васямнаццаці гадоў ён авалодаў поўным комплексам ведаў, пачаў прымаць удзел у пасяджэннях сойму, якварты прадстаўнік свайго хворага бацькі. Потым — пасольства ў Галандыі, місія ў Лондане. Ён адстойвае, абараняе інтарэсы сваёй дзяржавы. Паралельна з гэтым вядзе матэрыяльныя справы дзядзькі Міхала Казіміра, гаспадара сядзібы ў Слоніме, а таксама яшчэ аднаго дзядзькі, які падараваў яму маёнтак у Залессі пад Смаргонню. У Залессі Агінскі жыў са сваёй другой сям'ёй пасля вяртання з выгнання і з цягам часу ператварыў сядзібу ў прытулак муз. Яе называлі Паўночнымі Афінамі. Тут у 1811 годзе быў створаны праект аднаўлення ВКЛ у складзе Расіі з галоўным горадам Вільняй. Прапаноўвалася склікаць соймы пад кіраўніцтвам імператарскага намесніка, увесці канстытуцыю і паступова скасаваць прыгоннае права. Цяга да справядлівасці і законатворчасці звязана са знакам Шаляў. Агінскі ўклаў у гэты праект усе свае веды і вопыт, але Аляксандр I не зацвердзіў яго…

Апынуўшыся ўбаку ад палітычнай дзейнасці і не маючы ладу з жонкай Марыяй, Міхал Клеафас вырашае пакінуць сям'ю ў Залессі і жыць самотна ў Фларэнцыі. Там ён



*Касмаграма Міхала Клеафаса.*

і пойдзе з жыцця ў 1833 годзе. У Фларэнцыі на французскай мове ім створаны «Лісты пра музыку» і даволі папулярныя на той час «Мемуары пра Польшчу і палякаў» у 4-х тамах. Апошнія ахоплівалі перыяд з 1788-га па 1815-ы.

Сярод многіх талентаў Агінскага трэба адзначыць мастацкі і пісьменніцкі. Вышэйназваныя літаратурныя творы не вычэрпваюць пералік напісанага ім. Значна раней пабачылі свет ягоныя «Назіранні над музыкай». Ён таксама з'яўляецца аўтарам лібрэта сваёй адзінай оперы «Зеліс і Валькур, або Банапарт у Каіры» (1799). І гэта не дзіўна, бо планета Белы Месяц (♇) у знаку Блізняты (♊) спрыяе валоданню пяром і пэндзлем.

Агінскаму выпаў яскравы лёс, але і цяжкія выпрабаванні, звязаныя з самым дарагім — сям'ёй, родам, Радзімай. У знаку Рака акрамя Месяца знаходзіцца планета Чорны Месяц (⚸) — увасабленне падману і ліха. Так здарылася, што Міхал Клеафас не ўтрымаў першую сям'ю, не гадаваў абодвух сваіх сыноў. Пад прымусам ён быў удзельнікам Гродзенскага сойма 1793 года, на якім быў ратыфікаваны Другі падзел Рэчы Паспалітай. Нарэшце, у 1823 годзе Агінскі пакінуў Радзіму, бо з болем адчуваў сваю непатрэбнасць. Трэба прызнаць, што беларусы да гэтага часу не могуць прызнаць яго сваім яскравым і таленавітым дзяржаўным дзеячам. Застаецца незапатрабаванай у належнай меры і яго музычная і літаратурная спадчына. А самы цяжкі ўдар — пасля абодвух яго сыноў не засталося прамых нашчадкаў: няма Агінскіх «па мячы» — па бацькоўскай лініі…

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## СТАЎБЦОЎСКІ РАЁН

**Вёска Жыгалкі** Вішнявецкага сельсавета

**Мамонькі Міхаіла** (н. 13.1.1929), паэта, радзіма. Скончыў Баранавіцкі настаўніцкі інстытут. Працаваў настаўнікам ў Карэліцкім р-не Гродзенскай вобласці. Аўтар кніг «Далечыня» (1988), «Слёзы на каменні» (2007) і інш.

**Мархеля Уладзіміра** (н. 20.4. (па пашпарце 28.3). 1940), літаратуразнаўца, перакладчыка, радзіма. Скончыў БДУ (1964). Настаўнічаў. З 1969 г. — у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа, з 1971 г. — у Аддзеле навуковай інфармацыі па грамадскіх навуках, з 1978 — у Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН БССР. Аўтар кніг «Лірнік вясковы: Сыракомля ў беларуска-польскім літаратурным узаемадзеянні» (1983), «Вяшчун славы і волі: Уладзіслаў Сыракомля» (1989), «Крыніцы памяці: Старонкі беларуска-польскага літаратурнага сумежжа» (1990), «Прадвесце: Беларуска-польскае літаратурнае ўзаемадзеянне ў першай палавіне XIX ст.» (1991), «Прысутнасць былога» (1997), «Ты як здароўе...»: Адам Міцкевіч і тэндэнцыі адраджэння беларускай літаратуры» (1998), кнігі выбранай лірыкі «Але...» (2007). Укладальнік «Твораў» В. Каратынскага (1981, дапоўненае і перапрацаванае выданне, 1994), «Твораў» Я. Лучыны (1988), і «Санетаў» А. Міцкевіча, кнігі С. Манюшкі «Ліра мая для спеваў: Рамансы і песні на словы У. Сыракомлі» (з В. Скарабагатавым), зборніка «Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай: Беларуская польскамоўная паэзія XIX ст.» (усе 1998) і інш. Перакладае з польскай мовы. Лаўрэат прэміі Polcul і прэзідэнтаў акадэмій навук Украіны, Беларусі і Малдовы. Жыве ў Мінску.

**Вёска Залуча,** не існуе. Да 1993 г. — хутар у Аталезскім сельсавеце

**Сыракомля Уладзіслаў** (сапр. Кандратовіч Людвік), паэт, празаік, публіцыст, ураджэнец в. *Смольгава* Любанскага р-на, арандаваў тут зямлю пасля таго, як у 1844 г. ажаніўся з Паўлінай Мітрашэўскай. У Залучы Сыракомля напісаў свой першы, надрукаваны ў 1844 г., верш «Паштальён». У аснову пакладзена сапраўднае здарэнне недзе каля Міра. У «Вандроўках па маіх былых ваколіцах» пісьменнік прысвяціў гэтым мясцінам раздзелы «Фальварак Залуча», «Дарога ў Свержань», «Стоўбцы». У вёсцы Сыракомля пражыў 8 гадоў, арандуючы панскую зямлю. Тут памерлі двое яго дзяцей, якія пахаваны на Стаўбцоўскіх могілках.

У Залучы Сыракомля ў 1840 г. пазнаёміўся з **Плугам Адамам,** пісьменнікам і журналістам, ураджэнцам в. *Замосце* сучаснага Слуцкага р-на Мінскай вобласці. Маладыя людзі адразу адчулі ўзаемную прыхільнасць, памкнуліся адно да аднаго, а іх першыя спробы пяра выліліся ва ўзаемныя паэтычныя прысвячэнні («Гара Замчышча» Плуга і «Залом» Сыракомлі).

**Каратынскі Вінцэсь** (15.8.1831—7.2.1891), беларускі і польскі паэт, публіцыст, ураджэнец в. *Селішча* Карэліцкага р-на Гродзенскай вобласці, асабісты сакратар Сыракомлі, у

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г., № 1—11 за 2011 г., № 3, 4, 5, 6, 7, 8 за 2012 г.

сваім нарысе «Малюнкі з берагоў Нёмана» так апісвае вёску: «Залуча ляжыць на спадзе значнага, у некалькі сот футаў узвышша, нахіленага з поўначы на поўдзень, да рэчышча Нёмана, ад якога аддзяляе яго невялікі кавалак гразкага балота, зарослага старым алешнікам і лазою... Гэтае ўзвышша, што ўяўляе з сябе наслаенне чыстага пяску, у ніжэйшай сваёй частцы, дзе прытуліўся фальварак, людскім умельствам і цярплівасцю ператвораны ў грунт, прыдатны для вырошчвання бульбы, буракоў і капусты; сумняваюся, каб яшчэ для чаго-небудзь, хіба касачоў, сланечніку ды вяргінь, пасаджаных маладою жонкаю Кандратовіча. З усходу цячэ невялікая, але па-сапраўднаму працавітая і хлебадайная — бо прыводзіць ў рух два млынавыя камяні — рака Ячонка... На поўдні — сам Нёман, вузкі ў гэтым месцы і наўздзіў звілісты... З захаду ўпадае ў Нёман даволі значная рака Сула... Вось і ўвесь чатырохкутнік часовага Кандратовічавага Залуча: тры ракі, шмат пяску, трохі глею і незлічоная колькасць усякіх дзікіх раслін, за якія, паводле тэорыі Кандратовіча, развітай ім у “Хатцы ў лесе”, “неблагія грошы можна ўзяць у аптэцы...” мірскай — калі пажадаюць купіць». (Tygodnik Powszechny. — 1884. — № 18. — S. 283—284.)

Сам Кандратовіч зазначаў, што залучанская «ваколіца цудоўная для звыклага з ёю вока, але пустынная для чужынца, у якога няма ўспамінаў, звязаных з гэтай мясцінай, які не мае ніякага ўяўлення пра асаблівасці спеву тутэйшых салаўёў, пра пошум тутэйшага ветру». (Syrokomla W. Wędrywki po moich niegdych okolicach.—Wilno, 1853.—S. 2.)

**Вёска Засулле,** цэнтр сельсавета

**Каганца Каруся** (сапр. Кастравіцкі Казімір; 29.1(10.2).1868—20.5.1918), пісьменніка, ураджэнца г. Табольска (Расія), сям’я з 1874 г. жыла тут. Бацька неўзабаве памёр. Зямлі не было: яе канфіскавалі пры высылцы, і прыйшлося сям’і ісці ў наймы. З шасці да адзінаццаці гадоў будучы паэт быў пастухом. Калі маці выйшла другі раз замуж — за простага селяніна, сям’я пераехала ў Прымагілле (Яцкі) каля Койданава. Засульская тэма прысутнічае ў апавяданнях і абразках «Засульскае турэ», «Адкуль зязюля ўзялася?», «Бутрымава прыгода» і некаторых іншых.

**Вёска Ініца** Залужскага сельсавета

**Паўлюкоўскага Уладзіслава** (псеўданім ад роднай вёскі Улад.-Ініцкі; 1.5.1895—8.9 (паводле іншых звестак 8.11).1955), паэта, перакладчыка, этнографа, радзіма. Вучыўся ў Харкаўскім мастацкім вучылішчы. З сярэдзіны 1920-х гадоў жыў у Вільні. Супрацоўнічаў у газеце «Народная справа», часопісах «Авадзень», «Маланка». Як графік удзельнічаў у выданні календароў, падручнікаў, часопісаў. У 1926 г. зняволены ў турму «Лукішкі», у 1939 г. — у Бяроза-Картузскі канцлагер. Пад псеўданімам Улад.-Ініцкі друкаваў вершы. Аўтар зборнікаў «Сон Гаўрылы і розныя вершы» (Вільня, 1928), «Клім бабаю і іншыя жарты» (Вільня, 1929). Пісаў апавяданні («Апавяданні», Вільня, 1929). У 1934 г. у часопісе «Шлях моладзі» апублікаваў серыю этнаграфічных эцюдаў, прысвечаных беларускаму земляробчаму календару. Запісваў народныя песні і прыказкі. Пра зняволенне ў Бяроза-Картузскім канцлагеры пісаў ва ўспамінах «Арышты. Бяроза і воля» (1940). Перакладаў з рускай мовы. З 1945 г. — дырэктар Літаратурнага музея імя А. Пушкіна ў Вільнюсе. У 1948 г. арыштаваны. Вярнуўся з лагера ў 1953 г. невылечна хворы, спаралізаваны. Памёр у Вільнюсе, пахаваны на могілках Роса.

**Вёска Кляцішча** Налібоцкага сельсавета

Тут з 1919 г. жыў **Жылка Уладзімір,** паэт, ураджэнец в. *Макашы* Нясвіжскага р-на Мінскай вобласці.

**Вёска Кнотаўшчына** Мікалаеўшчынскага сельсавета

**Самахвала Сымона,** прататыпа Янкі Тукалы ў аповесці «На ростанях» Якуба Коласа, радзіма. Нарадзіўся ў 1883 г. Скончыў Нясвіжскую гімназію, працаваў настаўнікам,

удзельнічаў у нелегальным настаўніцкім з'ездзе, сябар Якуба Коласа. У 1930-я гады быў арыштаваны. Памёр у 1938 г.

**Вёска Куль** Цясноўскага сельсавета

**Барысевіча Валянціна** (н. 19.6.1953), пісьменніка, радзіма. Закончыў Навасёлкаўскую СШ, аддзяленне агранаміі Смілавіцкага сельгастэхнікума, факультэт журналістыкі БДУ. Працаваў у раённых газетах «Маяк Прыдняпроўя» (г. Быхаў), «Светлы шлях» (г. Смаргонь), газеце «Чырвоная змена», часопісе «Беларуская думка», прэс-сакратаром Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь і Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь, рэдактарам аддзела літаратурнай крытыкі часопіса «Нёман» (2005—2007). З 2008 г. — спецыяльны карэспандэнт штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Друкуецца з 1967 г. Аўтар кніг «Няверная душа» (1995), «І ўзімку лілеі цвітуць» (2007).

**Хутар Ласток** або **Сухоншчына** Мікалаеўшчынскага сельсавета

Сядзіба ў складзе філіяла Літаратурнага музея Якуба Коласа. На хутары ў 1885—1890 гады жыла сям'я Міцкевічаў. На драўляным доме, пабудаваным у 1885 г., у 1961-м устаноўлена мемарыяльная дошка. Апісаны ў «Аўтабіяграфіі» Коласам у 1926 г.: «Самыя раннія дзіцячыя гады мае прайшлі ў Сухоншчыне або Ластку. Гэта было глухое месца — поле, навокал лес ды адна толькі сяліба лесніка — хата, гумно, хлеў». Па інвентарнаму апісанню 1885 г. там былі дзве хаты, абора са стайняй і прыбудовай, гумно, прыгрэбнік, студня з жураўлём, сад. Пра сад і маленства Колас пісаў у вершы «Грушы-сапежанкі». Блізка быў засценак Сверынава. Ласток Міхал прыняў 1 лістапада 1885 г. Хутар апісаны ў раздзеле «На нашай гаспадарцы» з «Новай зямлі». Адсюль Міцкевічы пераехалі ў Альбуць у красавіку 1890 г. Пярэбары адлюстраваны ў V раздзеле паэмы «Новая зямля».

У 1997 г. у Ластку адкрыты два пакоі экспазіцыі па матывах паэмы «Сымон-музыка», у якіх экспануюцца копіі рукапісаў паэмы, яе выданні розных гадоў, лісты, дакументы, фотаздымкі, вырабы народных мастакоў. Устаноўлена мемарыяльная дошка.

**Вёска Малыя Навікі** Рубяжэвіцкага сельсавета

**Камейшы Казіміра** (н. 4.12.1943), пісьменніка, радзіма. З сялянскай сям'і. Скончыў БДУ (1970). Працаваў у раённых газетах, на Беларускім радыё, у часопісах «Полымя», «Вясёлка», «Маладосць». Друкуецца з 1959 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Восеньскія позвы» (1969), «Мембрана» (1972), «Нектар» (1974), «Тут мае вёсны прычалены» (1977), «Сябрына» (1978), «Плёс» (1982), «Галоўная вярста» (1985), «Пярэёмы дня» (1988), «Кубак блакіту» (1993), «Я з пушчы...» (1995), «Лінія лёсу» (1996), «Паміж кубкам і вуснамі» (2010) і інш.; кніжак для дзяцей «Гаёўка» (1975), «Буслянка» (1985), «Дзятлава кузня» (1987), «Дзень добры, шафёр» (1988), «Гарцунок» (1991), «Дожджжакава лічылка» (1998). Выступае з рэцэнзіямі, артыкуламі, нарысамі. Перакладае з рускай, украінскай, польскай моў. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1989).

*Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС*

*Працяг у наступным нумары*

# Бярозка

№ 10/2012(1013)









**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**



● **Верасок**

# Аблокі



— Ты калі-небудзь глядзеў на неба?

— Канечне, за каго ты мяне прымаеш?

— За сябра, — шчыра ўсміхнулася дзяўчынка.

— Я цябе таксама, — крыху разгубіўшыся амаль пра сябе прашаптаў хлопчык.

Дзеці ішлі па сцежцы праз поле дахаты. Дзесьці ззаду паўзлі змораныя спёкай бацькі, добрыя сябры, што прыехалі ў вёску адпачыць на летнія канікулы, а цяпер шкадавалі пра свой учынак.

На вуліцы было пад трыццаць градусаў, сонца ў гэты дзень нібыта вырашыла адпомсціць хмарам, што лёталі без перапынку па небе, а яшчэ ўчора сыпалі буйнымі і цяжкімі кроплямі дажджу.

Дзяўчынка нечакана спынілася, агледзелася: вакол было каласістае поле, якое крыху шумела, бо вецер пяшчотна пагладжваў каласкі. Далёка-далёка цягнулася сцежка між калосся, і дзяўчынка, зразумеўшы, колькі яшчэ трэба ісці, цяжка, бы дарослая, уздыхнула і, заплюшчыўшы васільковыя вочы, усміхнулася зусім ні пра што. Хлопчык чакаў, назіраў за ёй і любаваўся, не зводзячы вачэй. Такая маленькая, яркая ад невядомага, але блізкага і зразумелага для Федзі шчасця. Ніна была сабой і не сабой у гэты момант, бо амаль злівалася блакітнымі вачыма з небам, белай сукенкай — з аблокамі, ружовымі шчочкамі — са спелым яблыкам, што несла ў руцэ, доўгімі ручкамі і ножкамі — з высокім і стройным калоссем.

— Федзя, ты не глядзі на мяне так, — здзіўленая гэтай незвычайнай увагай, адвярнулася ад хлопчыка дзяўчынка.

— Прабач, Ніна, — збянтэжыўся хлопчык, ахоплены невядомымі яму раней пачуццямі. — Хадзем хутчэй.

Дзяўчынка павярнулася да хлопчыка, усё такая ж, з усмешкай і ружовымі шчочкамі, і яны разам працягнулі свой шлях.

Па блакітным небе цягнуліся белыя, чыстыя аблокі, у якіх кожны мог убачыць розныя карціны, у залежнасці ад светапогляду, шырыні душы, а то і проста настрою. Дрэннае ўбачыць дрэнны ў душы, добрае — добры, бо свет — гэта ўнутраная карціна нас.

— Глядзі, Федзя, кветачка! — нечакана і радасна ўскрыкнула Ніна, паказваючы танюсенькім, як каласок, крыху загарэлым пальчыкам у неба.

— Та-а-ак, — працягнуў здзіўлены хлопчык і нечакана перавёў свой погляд на яркія вочы-васількі Ніны і страпянуўся: яны іскрыліся шчасцем, радасцю, шчырасцю і чысцінёй. Гэтыя вочы адлюстроўвалі ўсё наваколле і Федзя бачыў яго выразна, проста, дасканала.

Хлопчык не мог зварухнуцца і стаяў, бы скамянелы яшчэ доўга, пакуль Ніна, адчуўшы яго погляд, не варухнулася сама. Дзяўчынка кінула ў сябра каласком і босыя ногі панесліся па сцежцы ўперад — уцякалі. Федзю раптам абудзіла гэта выхадка сяброўкі і ён, зразумеўшы весялосць дзяўчынкі, панёсся наўздагон.

Высока ў небе звонка спяваў маленькі жаваранак. Сонца пякло, вецер ганяў па небе аблокі. Яны несліся ўдаль, куды цягнуўся пакінуты самалётам след — дзве пёрыстыя і белыя палоскі, якія нагадвалі двух усходніх драконаў. Яны спляліся ў бітве так, што атрымаўся адзін доўгі, амаль бачны нябёсны змей, які праз пару хвілін знік назаўжды.

***Аліса ШЭРЭР, 17 гадоў, Мінск***

## Руны на бяросце

Што сказаці хочаш нам, Бяроза
На кары пісьмёнамі сваімі?
Можа, гэта — заклік ці пагроза?
Нейкі знак, што Продак нам пакінуў?..

Хто навучыць, дапаможа прачытаці
На бяросце Летапісы Лёсу?
Таямніцу хто падкажа, як спазнаці,
Цуду гэтага, пасланага з Нябёсаў?..

Калі дзе Бярозу ты пабачыш,
Прыпыніся і задумайся — ці зможаш
Ты спасцігнуць глыбіню
і ўсю шматзначнасць
Гэтых Вечных Запаветаў Божых?..



* * *

Краявіды роднае прыроды!
Незвычайныя яскравыя карціны!
Краявіды вечнасці і згоды!
Свету Божага чароўныя глыбіні!

Хто прыгожае шукае на чужыне,
Хай у нашым краі пабывае,
І прырода сотню доказаў абрыне,
Што няма мілей, чароўней краю!..
Пунсавеюць ягады рабіны,
Дрэўца задуменна паглядае,
Нібы сумная прыгожая дзяўчына
Лепшы танец свой успамінае...

А за рэчкай — сонечнай і хуткай —
Бы дыван, разлеглася травіца,
Дрэвы сваім коранем магутным
Абдымаюць родную зямліцу.

Дзве вярбы стаяць сярод тых дрэваў,
Быццам радуецца пара маладая,
Нібы жонцы муж на вуха шэпча,
І пяшчотна плечы абдымае...

Краявіды роднае прыроды!
Незабыўныя і вечныя дзівосы —
Краявіды радасці, свабоды —
Дзеці міласці і шчодрасці нябёсаў!

Вы са мной і ў хвоях, і ў рабіне,
Вы ў траве, што ўсюды зелянее —
Вы у незабыўных тых глыбінях,
Ад якіх душа мая квітнее!..

## Музыка сонца

Сонца, сонейка... Колькі нясе ў сабе гэтае слова! Для кожнага з нас гэта штосьці светлае, радаснае, натхняльнае... Як выгляне сонейка — дык навокал усё ажыве, і нават сцены самага шэрага будынка засвецяцца.

Я думаю, усе б мы хацелі, каб сонейка заўсёды нам спадарожнічала, але мы над прыродай улады не маем... Дык як шукаць яго сярод хмар, што шчыльна сышліся на небе чорнай сцяною? — Проста! Трэба знаходзіць падабенствы!

І, што асабіста я заўважыў, калі чалавек гаворыць на Беларускай Мове, сонейка заўсёды будзе з ім, бо Беларуская Мова сонечная. Пішучы гэтыя радкі, я адчуваў музыку... Бо гэта гучала, спявала, грала ў маім сэрцы і на паперы МУЗЫКА СОНЦА — родная мова. І хаця так склалася, што з намі часцей размаўляюць па-руску, родная мова заўжды разам з намі, яна жывая...

Мне б хацелася, каб больш людзей далі месца гэтай Музыцы ў сваім сэрцы... Бо гэта тая спрадвечная Музыка, якая ліецца гукамі старажытнасці яшчэ з пячор, зямлянак нашых продкаў, тая, якая свеціцца адусюль — з паданняў, легендаў і апавяданняў, з радкоў вершаў і песень, з тых казак, якія бацькі распавядаюць дзецям, з калыханак, якія маці спяваюць немаўляткам на ноч, з шыльдачак: «Кнігарня», «Крама», з афіцыйных папер, дый з простай гутаркі хлапцоў на вуліцы. Тая Музыка, якую перадавалі нашы продкі ад бацькі да сына, і якую мы перададзім нашым дзецям... НАША Музыка Сонца... НАША Мова...

Шмат хто наступаў Ёй на горла, імкнуўся знішчыць, але ці можна забіць... Музыку?

Толькі ад нас залежыць, ці захаваем мы гэты найдаражэйшы Скарб сусвету для нашых нашчадкаў!..

*Андрэй ЯСЮКЕВІЧ, 8 клас, гімназія № 42, Мінск*

# Як маешся,
# Тэатр юнага гледача?

***Тэатр юнага гледача ўсё яшчэ чакае завяршэння рэканструкцыі роднага будынка, але ж... з трыма сёлетнімі прэм'ерамі ў новым сезоне! «Беласнежка і сем гномаў» (п'еса Жаны Лашкевіч паводле аднайменнай казкі братоў Грым), «Выкраданне скарбаў» (бразільскі драматург Клара Марыя Машаду) і «Царэўна-жабка» (расійскі драматург Валеры Ткачук).***




## Прэм'еры!

Загадчыца літаратурна-драматургічнай часткі і тэатральны крытык Жана Лашкевіч на захапляльнай літаратурнай беларускай мове распавядае:

— «Беласнежка і сем гномаў» — музычны спектакль. Андрэй Цярэнцьеў, наш кампазітар, напісаў музыку, якая лёгка запамінаецца і надае спектаклю стылёвасці і казачнасці. Харэаграфіяй і пластыкай займаецца знакаміты балетмайстар, адметны прафесіянал Юры Лапша. Рэжысёр — Таццяна Вінаградава з Масквы, але з розных прычын спектакль да прэм'еры даводзіць наш мастацкі кіраўнік Уладзімір Савіцкі. Нашы гномы зусім не падобныя да звыклых персанажаў Дыснея і шматлікіх мультфільмаў. Аматарам гульняў ды казак яны, хутчэй, нагадаюць пра Толкіена ды Клайва Льюіса, дый наша Беласнежка — прынцэса асаблівага выхавання. Мяркую, што з такімі персанажамі будзе цікава пазнаёміцца і дзецям, і бацькам.

Услед за «Беласнежкай...» на сцэну Дома літаратара, дзе мы часова асталяваліся, выйдзе... перапрашаю, выскачыць «Царэўна-жабка» з п'есы расійскага драматурга Валерыя Ткачука паводле рускіх народных казак. І будзе гэтая казка рэжысёрскім дэбютам нашай актрысы Ганны Казловай. Цуд? Але Ганна, маці двух малых дзетак, усё ж мае адукацыю рэжысёра. Літаральна праз два месяцы пасля нараджэння малодшай дачкі яна вярнулася на сцэну і распачала спектакль «Царэўна-жабка». Відаць, займалася дзецьмі, назапашвала досвед, вывучала «мэтавую аўдыторыю» — і рашылася. Прэм'ера «Царэўны-жабкі» прыпадае на 31 кастрычніка.



*Ігар Сідорчык у ролі пана міністра.*



*Таццяна Гуляева ў ролі Беласнежкі.*

Рэжысёр Ягор Лёгкін, які хораша разумеецца з дзіцячай і моладзевай аўдыторыяй (дарэчы, аўтар вельмі ўдалых спектакляў «Брык і Шуся шукаюць лета» па п’есе Таццяны Сівец і «Казкі чароўнага лесу»), працуе над спектаклем паводле п’есы бразільскага драматурга Дасіса Жаакіна Машаду «Выкраданне скарбаў», альбо «Выкраданне цыбулін» — мы, зразумела, выбралі скарбы. Дарэчы, працуе разам з Леанідам Паўлёнкам, вядомым музыкам, лідарам групы «Нагуаль» і стваральнікам «Маланкі-аркестра». Скарбы разам з нашымі акцёрамі можна будзе шукаць акурат на Новы год.

## Не новае, ды не менш цікавае

— 19 верасня мы адкрыем сезон спектаклем «Майго юнацтва крылы...» паводле Аркадзя Куляшова — вартым узорам паэтычнага тэатра. Сваю драматычную паэму «Хамуціус» Аркадзь Куляшоў для сцэны не прызначаў, таму наш мастацкі кіраўнік і рэжысёр спектакля Уладзімір Савіцкі мусіў перастварыць, пераасэнсаваць гэты твор для сцэны. Але ж глядач, які не ведае альбо не памятае, хто такі Канстанцін Каліноўскі, галоўны герой нашага твора, і што там у яго за барацьба такая была і з кім, трапляе ў залу і нічога не разумее... А гледачоў такіх, на жаль, не так і мала. Таму, калі на спектакль збіраюцца школьнікі, адказны за наведванне тэатра можа нам патэлефанаваць і папрасіць дапамогі: нашы педагогі і акцёры наведаюцца ў школу і распавядуць пра спектакль.

Набывае папулярнасці адметны драматург Францішак Аляхновіч, ягоны «Пан міністар» — адзін з нашых аншлагавых спектакляў.



*Спектакль «Сказка чароўнага лесу».*

Зазнала сцэну «Новая зямля» Якуба Коласа, — да 130-годдзя паэта Уладзімір Савіцкі прапанаваў спектакль «Міхалава зямля». У ім заняты толькі два акцёры — Іван Шрубейка і Мікалай Лявончык, адпаведна ў ролях Антося і Міхала, і працуюць яны бліскуча! Мы паказалі спектакль у школе — і жахнуліся: крэслы рыпяць, паперкі шамацяць, а гледачы глядзяць у тэлефоны. Праўда, некаторыя ўсё-ткі ад тэлефонаў адцягнуліся... Потым яны нас пераконвалі, што такі спектакль варта паказваць, бо, па-першае, Коласа вывучаюць паводле школьнай праграмы, па-другое, ёсць школы з хораша абсталяванымі сцэнамі, і, па-трэцяе, глядацкія паводзіны мяняюцца ў залежнасці ад запатрабаванняў і попыту. Ці ёсць попыт на Коласа? Будзем высвятляць... Аднак рыхтуем падобнага кшталту спектакль, прысвечаны Янку Купалу.

## Ёсць гледачы, ёсць водгукі

На сёння ў трупе тэатра 38 чалавек. Гэта зусім няшмат, і некаторым акцёрам даводзіцца ахвяраваць кожны дзень свайго жыцця сцэне. Працуюць аддана, але ж і інтарэс з боку гледача ёсць. Зайдзіце на прыгожы сайт тэатра — beltuz.by — і зразумееце, што справы ў яго зусім не благія! Гледачы актыўныя і пішуць водгукі.

...Уважліва выслухаўшы спадарыню Жанну, павандраваўшы па сайце з блогам і стылёвымі афішамі, я адчула: хачу ў тэатр! А вы?

***Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ,***
***фота з сайта beltuz.blogspot.com***

# 21 спосаб быць шчаслівым сёння



***Мы ўсе шукаем шчасця. Часам нам падаецца, што калі ў нас будзе паболей дзясятак у дзённіку альбо калі скончым школу… Вось тады і будзем сапраўды шчаслівымі! Аднак слова «будзем» — гэта далёкая будучыня, а жывём мы ў Сённяшнім.***

⊙ **1.** Проста адчуйце ўдзячнасць. Гэта так проста! Дзякуйце за ўсё, што ёсць у вашым жыцці. За здароўе, сяброў, за раніцу, спакойны сон, за кубачак кавы і гарбаты. Развівайце чуллівасць і ўважлівасць да таго добрага, што ў вас ёсць.

⊙ 2. Скончыць даўно пачатую справу. Напрыклад, разабраць загрувашчаны пісьмовы стол  альбо зрабіць сур’ёзны тэлефонны званок. Як толькі ты гэта зробіш, адчуеш духоўны ўздым!

⊙ 3. Зрабіць нешта прыемнае чалавеку, які вам падабаецца. Кажуць, што адзін з галоўных матываў для добрай справы — павышэнне самаацэнкі.

⊙ 4. Схадзіць у госці. І не проста схадзіць, а прыйсці — і ўразіць усіх сваёй прыгажосцю!

⊙ 5. Занурыцца ў прыемныя ўспаміны. Праспяваць мелодыю першага школьнага вальса, адчуць, што праз пальцы сыплецца цёплы пясок курортнага узбярэжжа…



⊙ 6. Адкінуць ляноту і будзённыя справы, стварыць штонебудзь творчае. Напісаць верш і разаслаць сябрам на e-mail альбо намаляваць пейзаж шарыкавай ручкай!

⊙ 7. Завесці дзённік. У сшытку ці ў сеціве. Людзі, якія вядуць дзённікі, не так часта хварэюць, — навукова даказаны факт. Выкідаючы нешта на паперу, мы зніжаем узровень стрэсу.

⊙ 8. Сесці і мэтанакіравана пасмяяцца з анекдотаў альбо фотапрыколаў. Невыпадкова раздзелы гумару ёсць на самых сур'ёзных сеціўных сайтах.



⊙ 9. Пачаць пісаць аўтабіяграфію. Праз гады будзе прыемна вывучаць факты свайго жыцця, а не знакамітых людзей.

⊙ 10. Дакрануцца да блізкага чалавека: патрымаць за руку маці, абняць каханага, пагуляць з дзіцём. У заходніх клініках медперсанал спецыяльна вучаць час ад часу пагладжваць пацыентаў па плячы альбо па руцэ, каб зняць напружанне.

⊙ 11. Паглядзець свой фотаархіў. Фотаздымкі нясуць у сабе зарад цёплых эмоцый.

⊙ 12. Не шкадуйце энергіі на ўсмешкі. Усміхайцеся, кантактуючы з людзьмі вакол!

⊙ 13. Запрасіце ў госці сяброў. Няхай гэта будзе проста цёплая сустрэча. Не трэба вечарынак. Проста размова, якая падыме настрой.

⊙ 14. Няхай мара спраўдзіцца! Паехаць у іншы горад? А можа, проста сказаць «кахаю» таму, хто гэтага так доўга чакае?

⊙ 15. Прачытаць дзіцячую казку. Да сур'ёзнай літаратуры заўжды паспееш звярнуцца!

⊙ 16. Зрабіць бясплатную фотасесію для прыяцеля альбо сябра.

⊙ 17. Дапамагчы родным.

⊙ 19. Зачыніцца ў пакоі і паспяваць, патанцаваць.

⊙ 20. Сустрэць світанак.

⊙ 21. Выспацца.

***Кожная хвіліна ў гэтым жыцці каштоўная і непаўторная. Не лянуйцеся здзяйсняць маленькія творчыя ўчынкі! Вучыцеся жыць радасна!***

*Кацярына БЯДУЛІНА,*
*фота аўтара*



# Прастата і магутнасць рэалістычнай літаратуры

***Творы пісьменніка Андрэя Федарэнкі, якога не перастаюць ўзнагароджваць усё новымі літаратурнымі прэміямі, у чарговы раз трапілі ў школьную праграму. Кніжка з серыі «Школьная бібліятэка» выйшла тыражом у 23 500 асобнікаў!***




Андрэй Федарэнка піша якасную, рэалістычную літаратуру. Ён з тых, каго чытаць цікава. «Антона Васкевіча выганялі з інстытута ў канцы 1990 года, перад самай зімовай сесіяй», — інтрыгоўны першы абзац аповесці «Вёска».

Антона Васкевіча адлічылі за нацыянальныя ідэі: на дварэ — змястоўны пачатак дзевяностых. І надалей нашага героя, адукаванага студэнта-выдатніка, чакае асэнсаванне сябе і сваёй няпростай сітуацыі ў роднай вёсцы, куды давядзецца пераехаць са сталіцы. Чытаючы твор, парадавалася за падлеткаў. Той, хто адолее сто з лішкам старонак прозы Андрэя Федарэнкі, будзе ўзнагароджаны адчуваннем, што спазнаў досыць глыбокі і шматгранны свет. Тут і нацыянальнае пытанне, і праблема «вёска — горад», і, вядома ж, каханне! Ды нават спрадвечныя пытанні пра Бога і пра смерць. А галоўнае тое, што Федарэнка, з тонкасцю таленавітага празаіка-рэаліста, раскрывае перад намі духоўны свет чалавека — Антона Васкевіча.

Пісьменнік — прыхільнік добрай класічнай літаратуры. Яму не блізкі пакутлівы Дастаеўскі, ён захапляецца Чэхавым. Гармонія ў тэксце, прысутнасць гаючай цішыні — вось што для яго важна. І яе, гармонію, цішыню, можна знайсці ў аповесці «Вёска». Апісанні прыроды, простых дробязей жыцця здольны закалыхаць уважлівага, адданага чытача. «Лёгка, прыемна, радасна было ляжаць пад коўдрай аднаму ў хаце, глядзець у акно на раншні прыцемак, але і ўставаць было радасна, бо чакала праца, якую Васкевіч умеў і любіў рабіць. Галоўнае, сам сабе гаспадар, ніхто не будзе камандаваць: як зробіш, так і добра». Вось яна — моц грунтоўнай і якаснай рэалістычнай літаратуры.

Прачытаць «Вёску» варта хаця б таму, што гэта — сучасная беларуская літаратура. І сур’ёзная літаратура.

*Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ*

# Умець адпачываць — гэта важна!

***У падлеткавым узросце мы часта нервуемся, адчайна імкнёмся нешта даказаць — сабе і іншым. А расслабляцца часам забываем. Але ж калі мы будзем гэта рабіць, то ў нас будзе больш сіл і энергіі на новыя цікавыя справы і заняткі.***



І вось я пакорпалася ў сеціве, часопісах і кнігах ды знайшла спосабы рэлаксацыі (і, вядома ж, праверыла іх на сабе). Аказалася, што большасць з іх або дарагія, або занадта мудрагелістыя для падлетка. А некаторыя проста не дапамагаюць. Я не здалася, праявіла творчасць: злучыла знойдзеныя метады са сваімі ідэямі. Як вынік, вельмі нават дзейсныя метады рэлаксацыі!

Такім чынам сустракайце спосаб № 1: сядзьце ў фатэль або ляжце на спіну, можаце накрыцца пледам. Забудзьцеся пра свае планы, праблемы і справы — абсалютна пра ўсе! Дыхайце спакойна і ўраўнаважана. Вы паступова пачнёце расслабляцца. У гэты час будзе прыходзіць шмат розных «лёгкіх» думак, але яны вас не напружаць, а будуць прыходзіць і сыходзіць, як хвалі.

Наступны спосаб — марыць. Так, давайце памарым! Уявіце прыгожы вялікі дом, у якім вы, вашы блізкія, дарагія людзі. Грае прыемная музыка, усе весяляцца. І тут з'яўляецца прадмет вашых мар (хтосьці ці штосьці). Далей развівайце гэтую карціну самі, адчуйце сябе рэжысёрам кароткаметражнага фільма, сцэнарый якога ў вас у галаве.

Яшчэ адзін варыянт — гэта як след пацешыцца. Тут ужо спосабаў дастаткова. Але пацешыцца не значыць зладзіць грандыёзную вечарыну дома або пайсці рабіць якія-небудзь зусім дурныя рэчы — абы весела было! Ад гэтага наадварот праблем і клопату ў вас памножыцца. Я прапаную такую забаўку, якая б пасапраўднаму паглынула. Тую, што змагла б адцягнуць увагу ад усяго навокал.

Яркае, насычанае, поўнае пазітыўных момантаў жыццё немагчымае, калі чалавек сціснуты і скаваны, нервуецца і зрываецца на родных і сяброў. Пераключаць увагу на штосьці іншае, прыемнае, што не тычыцца паўсядзённых планаў — гэта мае лекавы эфект для нашай псіхікі, дае свежую энергію.

Таму давайце ўсвядомлена вучыцца расслабляцца! Бо гэта — навука. Свет вакол не зменіцца, але для вас ён стане больш светлым і прыемным.

*Алена БІРУКОВА, 16 гадоў, Мінск*

# Вялікі Ганненскі кірмаш у Зэльве






Напэўна, многія з вас чулі пра нямецкі горад Лейпцыг, які здавён славіцца сваім вялікім кірмашом. Але, відаць, не ўсе ведаюць, што ў XVIII стагоддзі на тэрыторыі Беларусі быў адзін з найбуйнейшых кірмашоў у Еўропе. «А ён вірыў, уласны Лейпцыг...», як трапна заўважыў сучасны беларускі паэт Юрка Голуб.

А ўсё пачалося з таго, што 20 мая 1720 года вялікі князь літоўскі і польскі кароль Аўгуст II Моцны выдаў князям Сапегам прывілей на правядзенне штогадовых кірмашоў. І невялікае па тым часе мястэчка Зэльва, што на Гродзеншчыне, пачало ператварацца ў буйны цэнтр міжнароднага гандлю.

Вы толькі ўявіце: у Зэльву з'язджаліся купцы з Расіі, Украіны, Польшчы, Францыі, Саксоніі, Баварыі, Нідэрландаў, Аўстрыі, Прусіі, Італіі, Даніі, Швецыі і іншых краін Еўропы. Тавары, прывезеныя на Зэльвенскі кірмаш, былі самыя разнастайныя. Напрыклад, футра, цукар, чай, мыла, баваўняныя тканіны, фаянсавы і фарфоравы посуд тут можна было набыць у расійскіх купцоў. Шоўкавае, ільняное палатно, швейцарскі сыр, напоі і бакалейныя вырабы прапаноўвалі гандляры з Еўропы.

Асноўным прадметам гандлю было сукно, якое пастаўлялася са слонімскай, ружанскай, косаўскай, заблудаўскай і кнышынскай фабрык. У беларускіх купцоў можна было набыць таксама цукар, чай, тытунь, мыла, галантарэйныя вырабы...

Тут ішоў гандаль буйной рагатай жывёлай і коньмі. Мясцовыя князі Сапегі нават мелі свой конны завод, дзе было каля паўтары тысячы галоў англійскай, дацкай і турэцкай парод.



На Ганненскі кірмаш у Зэльву, названы ў гонар святой Ганны, прыязджала каля пяці тысяч купцоў. Доўжыўся ён кожны год ажно цэлы месяц: з 25 ліпеня да 25 жніўня. На гэты час насельніцтва Зэльвы павялічвалася ў некалькі разоў.

Адбываўся кірмаш на вялікім гасціным двары недалёка ад ракі Зальвянкі, на якім месціліся каля двухсот лавак, крытых дахоўкай, два леднікі для прадуктаў, а таксама калодзеж, які быў проста неабходны спякотным летам, калі пачынаўся пажар.

Акрамя гандлю, тут заключаліся кантракты на дастаўку розных тавараў, на арэнду маёнткаў, фальваркаў, прамысловых прадпрыемстваў. Прыязджалі на кірмаш не толькі гандляры, але і рамеснікі — аптавікі, бакалейшчыкі, майстры гадзіннікаў, пазалотчыкі, пераплётчыкі, рэзчыкі па дрэве і косці, токары, шаўцы, якія тут жа прымалі і выконвалі заказы. Дваранства збіралася на свае саслоўныя з’езды. У Зэльве выступалі акрабаты, жанглёры, фокуснікі, цыганы з дрэсіраванымі мядзведзямі, тэатральныя калектывы. З Парыжа купцы прывезлі сюды гульню ў рулетку, якую мясцовыя жыхары празвалі «фартунай».



Зэльвенскі кірмаш меў вялікае міжнароднае значэнне, бо з’яўляўся сувязным звяном паміж Усходам і Захадам. Слава і веліч Ганненскага кірмашу доўжыліся больш як стагоддзе.

Да 750-гадовага юбілею Зэльвы ў цэнтральным гарадскім скверы адкрылі помнік каню. Менавіта гэта свойская жывёла адлюстравана на гербе раённага цэнтра Гродзенскай вобласці, як напамін пра славуты Ганненскі кірмаш.

*Уладзімір МАЗГО*

● **Дынамік**

# Ёсць памідоры есці!




***«Pomidor/Off» — «Пафас/Попс/ Прапаганда», Мінск, 2011, «БМAgroup»/«Vigma».***

Неардынарны творчы шлях Аляксандра Памідорава выявіў у ім універсальную асобу, здольную надзвычай адметна праявіцца і ў рок-плыні, і ў рэпе, і ў рэкламе, і ў кіно. Прычым ягоную рок-творчасць не назавеш надта актыўнай: усяго тры альбомы за апошнія 15 гадоў (дзіўныя «Пьяные гости», 1997; шэдэўральнае «Свята пакрадзенае», 2002; доўгачаканы «Пафас/Попс/ Прапаганда», 2011, што атрымаў прыз «Рок-Каранацыі» як лепшы альбом года), калі не лічыць складанкі.

Першы раз імя «Аляксандр Памідораў» я пачуў у пачатку 90-х ад першага менеджара легендарнай «Мроі» Юрася Мурашкі, калі яны разам вучыліся ў Мінскім інстытуце культуры. Потым — ягоны паспяховы ўдзел у супольных праектах («Народны альбом», 1997; «Святы вечар, 2000», 1999; «Я нарадзіўся тут», 2000). Аўтарскія альбомы чакаліся заўжды, яны адразу станавіліся рарытэтамі.

Намаляваўшы тут нейкі надта зорны лёс, не магу не згадаць і пра кур’ёзы на творчым шляху. Многія аматары рэпу памятаюць, напрыклад, злосныя нападкі на Памідорава ў творах яшчэ адной рэп-зоркі «ЧпБ» (песня «Агародніна/ off» у альбоме «Крывавы сакавік»).

Сёй-той чакаў ад мяне разгромных рэцэнзій на памідораўскую творчасць, але так і не дачакаўся. Бо трэці альбом «Пафас/Попс/Прапаганда» выявіў толькі рост творчага патэнцыялу, таму і выклікаў адны захапленні. І свежы альбом не банальны падмацунак здольнасцей прызнанага мэтра, а яшчэ адна нечуваная грань таленту, у якой ён здзіўляе слухача.

Ва ўсіх сваіх альбомах Памідораў розны. Быў і рэп (супер-бітавы), і блюз (якасны), і хард-рок (драйвовы)... Якім жа ён стане гэтым разам?

Памятаючы захапленне маёй дачкі панк-рокам (яна падсела і на класіку жанра, і на неа-панк новага стагоддзя), быў шчыра рады адчуць у музыцы сіньёра Памідора выразнае пільнаванне гэтай цягі сучаснасці. Во, цяпер

будзем сустракацца з дачкой і на канцэртах «Pomidor/off», а не толькі на «Глюках», Mauzer і Akute. І Памідораў зусім не знерваваў бояззю ўсёяднасці, як некалі мяне, фаната польскага рока 80-х, гурт «2+1», што сваімі патугамі на арт-рок і disco забіў колішняе адкрыццё ў плыні new wave. Памідораў адкрыццяў не забівае, а стала дорыць новыя.

З пятнаццаці трэкаў новага альбома вы ўжо памятаеце абкатаныя на складанках сінглы «Адзін», «Італьяна». Але нават яны ў альбоме здольны здзівіць. А навяк? Увогуле ўражвае!



*Аляксандр Памідораў.*

Калісьці зялёным юнцом (стаяў 1972 год) я настолькі трывала падсеў на Slade, што дагэтуль маю ў сваёй калекцыі пяток альбомаў іхняга хуліганістага хард-глэм-рока. Да росквіту пагалоскі пра панкаў тады заставалася цэлая пяцігодка... І вось цяпер, праз шмат гадоў слухаючы Памідорава — песню «Кола», узгадваю сваю юнацкую брытанскую любоў. Каб Ноды Холдэр ведаў, ува што яго фантазіі праз гады выльюцца, ён бы абавязкова паціснуў руку Памідораву за ягоны стабільны няўрымслівы панк-глэм (брудны дыхт), выяўлены таксама ў песнях «Прагны», «П.Г.П.», «Італьяна», «Хлусня» (радыёфармат для ЗША). Тут не толькі шарм ударнага акорда і жвавага рытму, але і тэкставая эквілібрыстыка як элемент гукавой фантасмагорыі. На ролю надзвычайных хітоў прэтэндуюць, бадай, «Хлусня» (нефарматная), «Ну і што», «Шабаны», «Дыска», бо гурту (сам Аляксандр Памідораў на гітары і вакале, Сяржук Канановіч на басе і гітары, Зміцер Харытановіч на бубнах ды пара памагатых з Gods Tower і «Крамбамбулі») ўдалося без усялякай палітызацыі застацца неабыякавымі да важкіх сацыяльных праблем.

А які вакальны распеў пакінуў Саша ў песні «Дым»!

Ведаючы, што пакуль альбом паступова запісваўся з 2005 па 2011 год у розных студыях Польшчы і Беларусі, Памідораў паспеў стаць мужам, бацькам ды яшчэ столькі энергіі ў музыку ўкласці, застаецца толькі дзівіцца тым жыццядайным крыніцам, якія даў яму Бог.

Дый сяброў яму Бог даў: то былы гітарыст Aquamorta Павел Ермачэнка дапаможа тройцы асноўнага складу гурта песню напісаць («Нічога»), то басіст Zet Улад Плюшчаў з тым жа прыйдзе («Ікона»), то дачка Соня калядку заспявае («Радыё (20.12.2010)»)... А я яшчэ памятаю выкананне той «Іконы» Памідоравым у мінскім клубе Jolly Roger разам з адроджанай Hasta La Fillsta і ейнай вакалісткай Вольгай Самусік (светлая памяць ёй, нябожчыцы).

Так што шмат эмоцый, думак, успамінаў і разважанняў падорыць слухачу альбом «Пафас/Попс/Прапаганда», а ў тым і галоўная задача музыкі.

Што да дзвюх версій песні «Хлусня», дык адна з іх крыху мякчэйшая лексічна. А вось сольны трэк бубнара напрыканцы чаму не пазначаны?

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА, музычны крытык***

● **Вялікі конкурс школьных сачыненняў**

# Надзея Дурава — гераіня вайны 1812 года



## Пра аўтара

*Сачыненне, прадстаўленае ў гэтым нумары, нас асабліва ўзрадвала. Бо Лізавеце Багадзяж усяго толькі дзесяць гадоў, але ж якая яна развітая! Ліза ўжо з'яўляецца ўладальніцай двух дыпломаў пераможцы ў літаратурных конкурсах. Першы дзяўчынка прывезла ў 2010 годзе з Віцебска. Яна выйграла ў сваёй ўзроставай катэгорыі конкурс «Казка для Караткевіча», абвешчаны Віцебскім тэатрам лялек у сувязі з юбілеем аднаго з самых любімых беларускіх пісьменнікаў. А сёлета, са сваім аўтарскім даследаваннем «Надзея Дурава — гераіня вайны 1812 года», Ліза перамагла ў Літаратурным конкурсе паэтаў і празаікаў Беларусі і Расіі «Далёкаму мужеству верность храня...», прымеркаваным да 200-годдзя Айчыннай вайны 1812 года. Дзяўчынка заняла першае месца сярод юных празаікаў ва ўзроставай групе да 14 гадоў. І свой дыплом пераможцы яна атрымлівала ва ўрачыстай абстаноўцы ў гістарычным месцы — на полі бітвы пад вёскай Салтанаўка, дзе ў ліпені 1812 года ў смяротным баі сышліся арміі рускага генерала Раеўскага і французскага маршала Даву. У гэтай бітве прымала ўдзел і гераіня кароткага эсэ Лізы Багадзяж — Надзея Дурава.*

*Ліза мае шмат захапленняў. Яна любіць фатаграфаваць і маляваць, вышывае пацеркамі і паеткамі. У яе ёсць калекцыі наклеек і паштовак, лялек Барбі ў касцюмах вядомых казачных гераінь. Але самая каштоўная яе калекцыя — жывая. Гэта калекцыя рэптылій!*

*Лізавета ўпэўнена, што мы сваімі справамі павінны рабіць славу не іншым краінам, а радзіме. Тады ў нас будзе хораша, утульна і багата жыць.*

Яшчэ зусім нядаўна пра вайну з Напалеонам я ведала толькі тое, што паказаў нам у фільме «Гусарская балада» Эльдар Разанаў. І гэта натуральна, бо я скончыла толькі чатыры класы. Гэты перыяд гісторыі мы яшчэ не праходзілі. Аднак калі мама і тата сказалі, што ў гэтым годзе мы будзем адзначаць юбілей Айчыннай вайны 1812 года, захацелася даведацца пра тыя часы больш. Я прачытала некалькі кніг, дзе было напісана пра тое, хто такія Напалеон і Кутузаў. Пра тое, як годна і самаўпэўнена непераможная французская армія ішла да Масквы, а потым заваёўнікі адступалі, галодныя, змёрзлыя, зганьбаваныя. Я даведалася шмат імёнаў вялікіх герояў той вайны. А яшчэ я даведалася, што Шурачка Азарава — галоўны персанаж фільма «Гусарская балада» — была на самай справе. Толькі звалі яе па-іншаму — Надзея Дурава. І паручніка Ржэўскага, на жаль, у яе жыцці не было.

І між іншым Надзею Дураву можна лічыць не толькі рускай гераіняй, але і гераіняй беларускай гісторыі, таму што самыя галоўныя свае подзвігі яна здзейсніла на беларускай зямлі ў складзе Гродзенскага ўланскага палка. Вось так!

Кажуць, што любіць па-сапраўднаму дзяцей могуць навучыць толькі бацькі. Мама і тата Надзі Дуравай, я думаю, не маглі паказаць ёй добры прыклад. Іх сямейныя справы не ладзіліся. Калі нарадзілася дачка, яны гатовы былі нават развесціся. Усе казалі, віной таму тое, што яны вянчаліся без блаславення, таемна, і дзядуля Надзі пракляў яе маму, пазбавіў спадчыны. У таты Надзеі Дуравай, гусарскага афіцэра Андрэя Васільевіча вялікіх багаццяў не было — толькі адна заняпалая вёсачка. Маме Надзі не хапала грошай на забавы і шыкоўныя сукенкі, да якіх яна прывыкла ў юнацтве. Мама думала, што ў яе народзіцца сын, яна назаве яго ў гонар строгага дзядулі і атрымае дараванне. А нарадзілася дзяўчынка. Непрыгожая і надта крыклівая. Стаміўшыся ад гэтых крыкаў, мама аднойчы ў дарозе проста выкінула дзіцёнка з акна карэты. Надзя не забілася, але моцна выцялася. Яе падабралі гусары — аднапалчане бацькі. Але вяртаць дзяўчынку такой нервовай матухне не сталі. Спачатку ёй знайшлі карміцельку, а пасля і няньку. Гэтай нянькай стаў татаў дзяншчык Астахаў. Ён быў вельмі добры чалавек і несямейны. Нічога, акрамя ваеннай службы, не ведаў. Ён палюбіў Надзю, як любіў бы родную дачку. І забаўляў малую як мог: катаў яе на кані, спяваў ёй ваенныя песні і расказваў вясёлыя салдацкія казкі.

Шэсць гадоў тата Надзі Дуравай ездзіў па розных гарнізонах, а за ім вазіў дачку верны дзяншчык. Надзя і да дзяўчынкі не была падобная — пастрыжаная і апранутая хлопчыкам. Потым Дураў выйшаў у адстаўку і пасяліўся ў горадзе Сарапуле, дзе стаў гараднічым. Пасля Надзі ў сям'і нарадзіліся яшчэ тры дачкі і сын. Мама, урэшце, утаймавалася і ёй вырашылі вярнуць Надзю. Але нічога добрага з гэтага не атрымалася. Дзяўчынка не слухалася, а маці за тое яе біла і зачыняла ў цёмную камору. Горш за ўсё было Надзі, калі яе прымушалі плесці карункі. Так было прынята ў тыя часы — паненкі вышываюць і плятуць карункі. Але Надзя ніяк не магла навучыцца гэтым дзявочым прамудрасцям. Карункі атрымліваліся непрыгожыя і няроўныя.

Надзю за гэта называлі «нікчэмнасцю». І ёй ад гэтага было вельмі балюча. Толькі бацька разумеў, што яго старэйшую дачку лаюць дарэмна. Калі дзяўчынцы споўнілася дванаццаць гадоў, ён падараваў ёй сапраўднага, вельмі дзікага каня. Гэтага жарабца каўказскай пароды Надзя назвала Алкід і сама аб'ездзіла — безумоўна, ёй дапамагалі парадамі Астахаў і бацька. Яны ж з радасцю назіралі за тым, як Надзя трапна страляе і фехтуе. Яна ж на самай справе не была нікчэмнасцю!

Але злосная маці хутка забрала ў Надзі каня і накіравала яе да бабулі на Украіну. Надзя ехала ў бабуліну вёску вельмі сумная, але там было не так ужо і дрэнна.

Бабуля аказалася душэўнай жанчынай. А яшчэ ў вёсцы жыў прыгожы хлопчык — сын бабуліных суседзяў. І Надзя закахалася ў яго. Толькі з гэтага нічога не атрымалася. Хлопчык аказаўся «мамчыным сынком». І калі яго мама папрасіла перастаць сустракацца з дзяўчом, у якой «гусарскія замашкі», ён гэтак і зрабіў.

З гора Надзея выйшла замуж за дарослага мужчыну — Васіля Чарнова. Ён не кахаў Надзю, але яму хацелася ажаніцца з дачкой гараднічага. Калі Надзея зразумела гэта, яна не захацела працягваць жыць з такім мярзотнікам. Яна завезла свайго маленькага сына Ваню да бацькі Дурава і збегла з дому. Гэта было ў верасні 1806 года Надзеі Дуравай было тады дваццаць тры гады.

Яна падумала, што нічога не ўмее рабіць гэтак жа добра, як ездзіць верхам, страляць і фехтаваць. Яшчэ падумала, што каб была мужчынам, то абавязкова стала б ваенным. І вырашыла «ператварыцца» ў мужчыну! Дапамог ёй у гэтым выпадковы знаёмы — казацкі есаул. Яна пакінула сваю сукенку на беразе ракі, як быццам бы купалася і патанула, а есаул даў ёй адзенне свайго збеглага дзеншчыка. І Надзея стала прыкідвацца дзеншчыкам. А імя сабе прыдумала Аляксандр Сакалоў. Разам з казакамі Надзея дабралася да Гродна, і там яны развіталіся. Дураву ўзялі юнкерам ва ўланскі полк.

Дома ўсе паверылі, што Надзея патанула. Толькі бацька пачаў штосьці падазраваць, бо разам з дачкой знік і конь Алкід. А тым часам пачалася вайна.

У энцыклапедыях напісана, што Надзея Дурава разам з гродзенскімі ўланамі прымала ўдзел у прускай кампаніі і вылучылася ў бітвах пры Гудштаце — пад Гельсбергам, ля Фрыланда. Яна была жанчынай, таму і вылучылася па-жаночы: у адным баі ўратавала параненага афіцэра, а ў другім — свайго таварыша, радавога ўлана. Надзеі Дуравай далі баявы ордэн. Толькі адразу ж пасля гэтага адклікалі ў Пецярбург.

Віноўнікам гэтага быў яе тата. Надзея не вытрымала і напісала яму ліст, у якім расказала, што жывая і дзе цяпер служыць. А бацька спалохаўся, што яе заб'юць на вайне, і папрасіў цара вярнуць дачку дамоў.

Цар Аляксандр I быў вельмі здзіўлены, бо калі спытаўся пра ўлана Сакалова ў яго камандзіраў, яны сказалі, што гэты ўлан вельмі смелы, сумленны і ўсе яго любяць. А яшчэ сказалі, што ён — герой. Цар зразумеў, што такога воіна нельга выганяць з арміі, нават калі гэта — жанчына. Аляксандр I узнагародзіў Надзею Дураву галоўнай узнагародай расійскай арміі таго часу — Георгіеўскім крыжам. І дазволіў ёй застацца ў арміі. А

каб уланы нічога не западозрылі, — ім жа ўжо сказалі, што іх таварыш Сакалоў аказаўся не тым, за каго сябе выдаваў, — абвесцілі, што Сакалоў на самай справе Аляксандраў. І што гэты хлопец без дазволу бацькоў збег на вайну, вось яго і шукалі. Пад імем Аляксандр Аляксандраў Надзея і служыла далей. Толькі ўжо ў Марыупальскім гусарскім палку. Там адбыўся смешны выпадак. У карнета Аляксандрава закахалася дачка палкоўніка. Яна бегала за Надзеяй Дуравай паўсюль, і ўжо палкоўнік рыхтаваўся да вяселля. Але карнет Аляксандраў папрасіў перавесці яго зноў да ўланаў у Гродна. Толькі патрапіў у іншы ўланскі полк — Літоўскі.

Падчас Айчыннай вайны 1812 года Надзея Дурава ўдзельнічала ў бітвах пад Мірам, Салтанаўкай, Смаленскам. У Барадзінскай бітве яна была паранена ў нагу. Сам Кутузаў захапляўся смеласцю карнета Аляксандрава. І пасля надання яму звання паручніка, узяў да сябе ардынарцам. У фільме «Гусарская балада» Кутузаў даведваецца пра тое, што адважны герой на самай справе Шурачка Азарава. Але сапраўды фельдмаршал, напэўна, так і не зразумеў, што яго ардынарац жанчына. Але гэта і нядзіўна. Надзея была побач з Кутузавым зусім нядоўга. Рана яе ніяк не зажывала, а потым стала гнаіцца. І яна накіравалася на лячэнне да бацькі. Вярнулася ў армію Дурава ўжо ў канцы вайны. Апошнімі яе бітвамі былі бітвы пры Моліне і Гамбургу. А ў 1816 годзе яна выйшла ў адстаўку. Баявыя таварышы Надзеі сталі штосьці падазраваць, бо ў яе зусім не раслі вусы.

Але калі Шурачка Азарава ў канцы фільма зноў пераапранулася ў сукенку, то Надзея Дурава гэтага не пажадала зрабіць. Яна не развіталася з ваенным мундзірам, на якім ззялі яе баявыя ўзнагароды, да смерці. У гэтым мундзіры яе і пахавалі з усімі вайсковымі ўшанаваннямі. Толькі адпявалі як рабу Божую Надзею. Хаця і была яе апошняя воля — адпяваць пад мужчынскім імем, святар спалохаўся гэтак зрабіць.

Некаторыя цяпер кажуць, што Надзея Дурава была вельмі няшчасным чалавекам: яе не кахалі, у яе не атрымалася жыць у сям'і, яна была самотная ў старасці. А я думаю, што рэдка хто быў такім шчаслівым, як Надзея Дурава. Яна сама выбрала свой лёс. Яна даведалася, што такое сапраўднае сяброўства: у яе ж было так шмат сяброў сярод уланаў і гусар. Яна здзейсніла подзвіг і стала гераіняй цэлага народа. Выжыла пасля цяжкага ранення і памерла толькі ў 83 гады — проста пазайздросціць можна! І яшчэ яна стала пісьменніцай. Па просьбе вялікага паэта Пушкіна, які таксама стаў яе сябрам, Надзея Дурава напісала кнігу пра свае ваенныя прыгоды. І гэтая кніга ўсім спадабалася: можна сказаць, яна стала ў XIX стагоддзі бестселерам. А тое, што Надзея Дурава жыла самотна ў старасці, то гэта толькі таму, што яна сама так хацела. Я думаю, яна проста адпачывала ў цішыні. Гэта ж так добра: пасляваенная цішыня, маленькае мястэчка, кніга на стале і ўратаваныя ад бадзяжніцтва каты-варкоты ля ног! Іх у Дуравай было больш за дзесяць.

*Лізавета БАГАДЗЯЖ, 5 клас СШ № 99, Мінск*

